# Маладосць

**Штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны ілюстраваны часопіс**

**(742) ВЕРАСЕНЬ, 2015**

**Выдаецца з 1953 года**

**9**



**www.maladost.lim.by**

**В ы д а в е ц — рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»**

**Дырэктар — галоўны рэдактар КАРЛЮКЕВІЧ Аляксандр Мікалаевіч**

## У НУМАРЫ:




***А** сапраўды ж меў рацыю Булгакаў, калі вуснамі аднаго з інфернальных герояў свайго легендарнага рамана выдаў сакраментальнае: «Рукапісы не гараць». І якім жа неверагодным, непрадказальным і нават містычным можа быць іх лёс, асабліва калі гэта рукапісы літаратара-пачаткоўца, захаваныя ў прыватным архіве або клапатліва зберажоныя калегамі-паплечнікамі.*




*«Прыпавесць пра блакітную дзяўчынку» Людка Сільнова, бадай самая касмічная з сучасных беларускіх паэтак, напісала і ўласнаручна праілюстравала ў 1973 годзе, будучы яшчэ дзесяцікласніцай, калі ёй толькі споўнілася 16 гадоў. Матывы космасу і жыццё на іншых планетах заўжды вабілі паэтку і працягваюць цікавіць надалей. Тоненькі школьны сшытак з малюнкамі аўтарка даслала ў маскоўскі часопіс «Юность», спадзеючыся на публікацыю. Але, відаць, не лёс: не кожная першая літаратурная спроба юнага аўтара трапляе ў друк. У лісце, які рэдакцыя даслала адоранай школьніцы, змяшчаўся кароткі вердыкт: мы не друкуем фантастыку.*

*І вось сёння, больш чым праз 40 гадоў, чытачы «М» маюць унікальную магчымасць зазірнуць у той сшытак Людкі Сільновай, якая ў 1973-м, мабыць, і не падазравала, што яе лёс назаўсёды будзе звязаны з прыгожым пісьменствам.*

*Арцём КАВАЛЕЎСКІ*

# НА МЯЖЫ ДЗВЮХ РЭАЛЬНАСЦЕЙ

*Пра раздваенне асобы размова не ідзе, але для навуковых колаў герой гэтага інтэрв'ю — Аляксандр Змушко, кандыдат біялагічных навук, навуковы супрацоўнік аддзела біятэхналогіі РУП «Інстытут пладаводства», а для літаратурных — Аляксандр Тэмлейн, аўтар фантастычных твораў. Пра навуку, літаратуру ды іх узаемаадносіны і пагаворым, але перш-наперш...*



**— Раскажыце пра свой псеўданім.**

— Я яго знайшоў выпадкова ў кнізе «Міфічныя істоты: энцыклапедыя». Мне проста спадабалася гучанне. І толькі потым даведаўся, кім быў Тэмлейн. Паводле стараанглійскай балады, гэта юнак, выхаваны эльфамі. З аднаго боку, можа падацца, што гэта зусім, так бы мовіць, «не беларускі» псеўданім, але нельга забывацца, што на тэрыторыі Беларусі ў спрадвечныя часы жылі кельты і памяць пра гэта захавалася ў некаторых тапонімах. Напрыклад, назва ракі Нёман па адной з версій — не магу сказаць, наколькі дакладнай — паходзіць ад імя кельцкай багіні.

**— Калі і з чаго пачалося ваша захапленне навукай?**

— Цікаўлюся ёю, колькі сябе памятаю. Маё дзяцінства праходзіла ў СССР, захапляцца навукай у часы яго існавання было модна. Да таго ж я шмат хварэў, таму сядзеў дома і чытаў кнігі. Перачытаў усю фантастыку ў бліжэйшай бібліятэцы. І гэта, нягледзячы на алергію на кніжны пыл! Выбар спецыяльнасці адбыўся сам па сабе. Біялогія мне падабалася заўсёды, таму тут усё было амаль відавочна.

**— А літаратурнай творчасцю?**

— Яшчэ ў дзіцячым садку я друкаванымі літарамі напісаў апавяданне пра жыхароў Юпіцера. Яно ў мяне, дарэчы, нават захавалася. Я сам яго ілюстраваў. А першы напісаны мной верш датуецца прыкладна 1—2 класам школы.

Заўсёды ведаў, што буду пісьменнікам, прычым дастаткова вядомым. Дома паўсюль валяліся нейкія запіскі. Я перапісаў ад рукі, ад коркі да коркі, этымалагічны слоўнік рускай мовы (тады лічбавыя тэхналогіі тыпу сканавання і пераносу ў камп'ютар былі яшчэ не асабліва развітымі). Пасля прачытання аднаго майго сачынення настаўніца сказала: Саша, маўляў, стане пісьменнікам. Не памылілася, як бачыце. Крыху пісаў вершы — нічога асаблівага.

## Мэты павінны быць недасяжнымі — толькі тады яны вымушаюць чалавека ўдасканальвацца

Я рыхтаваўся стаць пісьменнікам, але чагосьці не хапала, я і сам не мог зразумець, чаго дакладна. З аднаго боку, умення — я цярпліва напрацоўваў яго ў працэсе чытання; з іншага — нечага яшчэ. Чаго канкрэтна, я зразумеў, калі сустрэў сваю будучую, цяпер ужо былую, жонку: мне не хапала поўнага разумення сябе іншым чалавекам, усведамлення сваёй патрэбнасці і прыняцця сябе іншым без рэшты.

**— Чытаю назвы вашых навуковых прац — «Генетычная зменлівасць яблыні ў культуры invitro», «Какамікоз — грыбное захворванне вішні»… Па якіх крытэрыях вы выбіраеце тэмы?**

— Тэмы выбіраюцца ў залежнасці ад мэтазгоднасці працы ў канкрэтнай сітуацыі. Напрыклад, патрабуецца даведацца, наколькі вялікая зменлівасць раслін пры культываванні ў штучных лабараторных умовах, і адпаведна праводзіцца дадзеная праца.

Шчыра кажучы, у такіх вузкіх навуковых накірунках знайсці што-небудзь новае не надта складана. Навука ўвесь час развіваецца, удасканальваюцца яе метады, адкрываецца новая прастора для даследаванняў. Здзейсніць які-небудзь навуковы праект у нас, на мой погляд, даволі рэальна.

**— Як вы лічыце, навуковец павінен добра разбірацца ў нейкай адной сферы ці быць універсальным знаўцам?**

— Магчымыя абодва варыянты. У рэшце рэшт, слова «павінен» мімаволі выклікае пытанне «каму?». Але асабіста я — прыхільнік універсальнага развіцця. Нядаўна мяне назвалі «чалавекам Адраджэння». Як кажа адзін мой сябар-астрафізік, любая галіна ведаў цікавая. Але ўсё ж адну ці дзве з іх трэба ведаць дасканала.

**— Якія ўяўленні былі ў вас пра навуку і пра літаратуру? Як яны змяніліся?**

— Уяўленні пра навуку ў мяне былі, канешне, крыху ўтапічныя. Але на біяфаку БДУ арэол навукі ў маіх вачах не толькі не згас, а разгарэўся новым святлом. Магчыма, не ўсе ведаюць, але наш біяфак — гэта не толькі цудоўныя памяшканні і выдатны выкладчыцкі калектыў, але і заалагічны музей, і аматарскі «біятэатр», і шмат чаго іншага. Пра літаратуру мае ўяўленні не змяніліся. Яна павінна быць яскравай, цікавай і змяняць свет да лепшага. Усё астатняе другасна.

У навуцы я ўжо дасягнуў усяго, чаго хацеў — стаў кандыдатам навук. Зараз мая ўвага ў большай ступені скіравана ў бок літаратуры. Хачу дасягнуць сусветнай вядомасці, экранізацый у Галівудзе, гістарычнай значнасці. Мэты павінны быць недасяжнымі — толькі тады яны вымушаюць чалавека ўдасканальвацца. Дасягальныя мэты ставіць нецікава. Ды і, як кажа Дэн Браун, магчыма ўсё, на немагчымае проста патрабуецца больш часу.

**— Як вы знаходзіце магчымасці друкавацца?**

— Ніл Гейман неяк сказаў: «Азіраючыся назад, я бачу свой дзіўны шлях. Я не ўпэўнены, што яго можна назваць кар’ерай, бо слова «кар’ера» прадугледжвае наяўнасць плана. У мяне яго не было. Адзінае, што ў мяне было, — гэта спіс мэтаў, які я склаў у 15 год: напісаць сур’ёзны раман, дзіцячую кнігу, кнігу коміксаў, кінасцэнарый, запісаць аўдыякнігу, прыдумаць серыю для серыяла «Доктар Хто»… і гэтак далей. У мяне не было кар’еры. Я проста здзяйсняў наступны пункт у спісе». Прыкладна так і я. Паставіў сабе мэты — і выконваў чарговы пункт у спісе.

Мая першая публікацыя з’явілася амаль выпадкова. Я прымаў удзел у конкурсе апавяданняў жахаў на сайце прыхільнікаў Роберта Ірвіна Говарда і яго героя Конана.

**Адну кнігу хочацца пачытаць, калі едзеш у маршрутцы на дачу, другую — калі сядзіш дома, захутаўшыся ў плед, і п’еш гарбату.**

Сёння вобраз Конана, створаны коміксамі, стаў сінонімам безгустоўнасці і мала каму вядома, які ён, сапраўдны Конан. Навелы, напісаныя Робертам Ірвінам, неверагодна вытанчаныя, поўныя псіхалагізму. Карацей, я быў сталым наведвальнікам гэтага сайта. У конкурсе нічога не выйграў, але мяне заўважыў Аляксандр Шчогалеў — адзін з рэдактараў часопіса «Полдень. XXI век», апавяданні ў які ўласнаручна выбіраў Барыс Стругацкі. Аляксандр сказаў, што маё апавяданне — адзінае на конкурсе, якое можна назваць амаль прафесійным. Праўда, у выніку гэта апавяданне ў часопіс не трапіла, затое трапіла іншае — «Цукерка». Публікацыя ў «Полдне» лічыцца вельмі прэстыжнай, і з таго часу мне стала лягчэй «прасоўваць» свае творы.

**— Чым яшчэ вы займаецеся ці хочаце займацца?**

— Калекцыяную розныя дробязі, мінералы, вучу японскую мову. Цікаўлюся астраноміяй. З жаданняў-планаў — хацелася б навучыцца катацца на скейце, танцаваць стэп, пазаймацца паркурам, намаляваць графіці, пацалавацца з дзяўчынай-панкам. Але баюся, што ў маім узросце — 34 гады — наўрад ці гэта ўсё можна споўніць. А зрэшты, пажывём — убачым!

— **Якой вы бачыце асноўную задачу літаратуры — забаўляць ці выхоўваць? Падробліваццa пад густы чытача ці «расціць» яго пад сябе?**

— Літаратура павінна быць карыснай. Але карысць можа быць абсалютна рознай: ад лёгкага эскапізму (не трэба пужацца гэтага слова, пра карысць яго ў разумнай ступені казаў яшчэ Толкіен) да падштурхоўвання чалавека ўсведоміць важныя думкі, глыбокія ідэі. Я не падтрымліваю тэорыю пра дзяленне літаратуры на высокую і нізкую. У розных відаў літаратуры — розныя задачы. Адну кнігу хочацца пачытаць, калі едзеш у маршрутцы на дачу, другую — калі сядзіш дома, захутаўшыся ў плед, і п’еш гарбату. Можа, і існуюць людзі, здольныя чытаць Пруста ў электрычцы, але, мяркую, іх няшмат. Канешне, найбольш таленавітыя аўтары могуць сумяшчаць захапляльнасць і глыбокадумнасць тэксту. Класічныя прыклады — вядомыя ўсім Шэкспір і Грыбаедаў. Асабіста я з роўным задавальненнем чытаю і «Яшчэ адзін цудоўны міф» Аспрына, і «Героя нашага часу» Лермантава.

**Сёння вобраз Конана, створаны коміксамі, стаў сінонімам безгустоўнасці і мала каму вядома, які ён, сапраўдны Конан**

**— Якой, на вашу думку, можа быць беларуская фантастыка?**

— Калі казаць пра «цвёрдую навуковую фантастыку», то яе напаўненне мала залежыць ад нацыянальных асаблівасцей. Гэта літаратура будучыні, касмапалітызму. Калі ж весці размову пра фантастыку ў больш шырокім сэнсе — улічваючы фэнтэзі, магрэалізм, сюррэалізм, містыку — то, зразумела, беларуская фантастыка цалкам можа звяртацца да багатай культурнай спадчыны нашага краю. Тут здаралася мноства дзіўных гісторый, якія могуць быць асновай мастацкіх твораў.

**— У якой ступені навука і літаратура павінны быць набліжанымі да рэальнасці?**

— Любая навука набліжана да рэальнасці. Яна яе апісвае, вывучае. Любая літаратура таксама апісвае рэальнасць — хай нават часам рэальную толькі для аднаго чалавека.

* * *

*— Адкажыце мне яшчэ на адно пытанне, — сказаў Гары. — Гэта рэальнасць? Ці адбываецца ў маёй галаве?*

*Дамблдор прамяніста ўсміхнуўся яму, і яго голас гучаў моцна і ўпэўнена ў вушах Гары нават тады, калі яго постаць схавалася ў яркім тумане, што зноў апусціўся.*

*— Канешне, гэта адбываецца ў тваёй галаве, Гары. Але чаму з-за гэтага яно перастае быць рэальнасцю?*

***Гутарыла Кацярына ЗАХАРЭВІЧ***

# НА БАЛКОНЕ



*Студэнцкі тэатр БДУ «На балконе» — адзін са старэйшых народных тэатраў Беларусі: у наступным годзе яму споўніцца 70. Дзмітрый Цішко — мастацкі кіраўнік гэтага тэатра. Прытым ён прафесійны акцёр і студэнт Акадэміі мастацтваў. У межах леташняга фестывалю «ТЭАРТ» ён рэжысіраваў адну з чытак фінскіх п'ес. А яго спектакль «Art» пра сяброўства і мастацтва перамог у намінацыі «Магічны ансамбль» у леташнім самарскім фестывалі «Тэатрамагія». Дзмітрый Цішко расказаў «Маладосці» пра студэнцкі тэатр, людзей, якія туды трапляюць, і фестываль «Тэатральны куфар».*

**— Скажыце, у чым асаблівасць студэнцкага тэатра «На балконе»?**

— Увогуле, у БДУ амаль што на кожным факультэце ёсць свой тэатр. Але тэатру «На балконе» ў наступным годзе будзе 70, можна сказаць, што ён лідар і першапраходзец. Назву атрымаў 10 год таму, калі яго перанеслі непасрэдна на балкон. Спачатку тэатру была вылучана актавая зала, але з-за недахопу вучэбных аўдыторый — бо гэта фізіка-матэматычны факультэт — залу забралі і вылучылі балкон. Я тут «новенькі», працую толькі год.

**— Што значыць студэнцкі тэатр менавіта для вас?**

— Я не бачу вялікай розніцы паміж прафесійным і студэнцкім тэатрамі. Для мяне галоўнае, што гэта тэатр. Тут ты можаш самавыяўляцца, выказваць свае думкі. Студэнцкі тэатр тым і добры — гэта шанец для хлопцаў і дзяўчат выйсці на сцэну, штосьці паказаць, чамусьці навучыцца. Безумоўна, калі гэтым займаюцца прафесійна — здорава, але ёсць шмат людзей, якія хочуць паспрабаваць выступаць. Гэта магчымасць для самарэалізацыі студэнтаў у творчай прасторы.

**— Мо тады студэнцкія тэатры лепей?**

— Я не магу сцвярджаць — лепей ці горш. Тэатр — гэта калектыў. Калі збіраюцца людзі, не мае значэння, які гэта тэатр. Калі хочуць штосьці рабіць, паказваць, даказваць… У кожнага свае амбіцыі, мары, жаданні. А калі не… Тады гэта іншая размова. Галоўнае, каб у чалавека ўнутры штосьці «гарэла».

**— Як вы патрапілі ў студэнцкі тэатр?**

— У Акадэміі мастацтваў мы з Ірынай Іванаўнай Кабанавай (заг. кафедры сцэн. мовы і вакала ў БДАМ. — заўвага рэдакцыі) арганізоўвалі творчы вечар Сяргея Ясеніна, было запрошана шмат гасцей. З таго ўсё і пачалося… Мяне папрасілі дапамагчы зрэжысіраваць некалькі канцэртаў, а потым патэлефанавалі і запрасілі на гутарку. Што

за гутарка, я не ведаў, але прыйшоў. А мне прапанавалі пасаду мастацкага кіраўніка тэатра «На балконе». Напэўна, спрацавала сарафаннае радыё: ёсць, маўляў, такі хлопец. Праца ў студэнцкім тэатры — грунтоўны досвед. Быць мастацкім кіраўніком асабіста для мяне — гэта этап. Арганізаваць працэс, зрабіць спектаклі… Я разумею галоўных рэжысёраў нашых тэатраў: усё гэта вельмі складана. Акрамя таго я дапамагаю з рэжысурай канцэртаў і іншых мерапрыемстваў. Нядаўна адбыўся фестываль эстрады, і я ўбачыў шмат таленавітых людзей.

**— Што трэба зрабіць, как трапіць у вашу трупу?**

— Конкурс для тэатралаў звычайны: расказаць верш і байку. Цікава, але чамусьці выбіраюць вершы пра каханне. Вядома, на набор быў папярэдні запіс. Кастынг адбыўся даволі вялікі, прыйшло больш, чым у Акадэміі мастацтваў. У тэатр «На балконе» спрабаваліся 85 чалавек, з якіх я выбраў 20. У нас, як і ўсюды, не хапае хлопцаў. Калі прыйшлі два хлопцы, я адразу іх залічыў. Калі б не ўбачыў іскрынку таленту ці жадання, напэўна, не браў бы.






**— Як выбіраеце акцёраў? Па бляску ў вачах?**

— Па-першае, я шукаю тыпажы, каб усе акцёры не былі аднолькавымі. Вядома, бярэцца пад увагу талент. Бывае, што не ўмеюць чытаць вершы. Але па байцы можна сказаць шмат… Калі ты бачыш, што чалавек чапляе характар, значыць, з ім можна працаваць. Быў выпадак, калі дзяўчына дрэнна прачытала верш, а потым спытала: «Можна, я заспяваю?» Я дазволіў. І яна праспявала пра нябожчыкаў, калі не памыляюся. Гэта было жудасна, але яна так спявала, што было бачна: унутры яе штосьці ёсць. Дзяўчына расслабілася, разняволілася… Але іскру я ўбачыў! Праўда, яна не прыйшла да мяне ні на адзін з заняткаў.

**— Як вам здаецца, чаму людзі ідуць у студэнцкія тэатры?**

— У любы тэатр чалавек прыходзіць не проста так. Людзі ідуць сюды з пэўнымі мэтамі. Хтосьці хоча быць акцёрам, камусьці гэта патрэбна для асобаснага росту. Напрыклад, у нас шмат студэнтаў з факультэта міжнародных адносін, ім гэта вельмі карысна. Тэатр разнявольвае, што неабходна ім у будучай прафесіі. Я б нават прапанаваў увесці асобны курс. Думаю, калі б людзям не падабалася, яны б да мяне не прыйшлі. Былі і канфлікты, калі, напрыклад, хтосьці баяўся выходзіць на сцэну. Але я заўсёды кажу: «Не трэба — не прыходзьце. Вы ж не атрымліваеце грошы, як у прафесійным тэатры, вы атрымліваеце толькі асалоду».




**— Як вы адбіраеце драматургію? Амаль адны дзяўчынкі — гэта складана.**

— Так, з драматургіяй складана. І справа не толькі ў вялікай колькасці дзяўчынак. У нас вельмі маленькая сцэна, таму нельга ўзяць п'есу, дзе на пляцоўцы адначасова павінны знаходзіцца 5 чалавек. Вось да Дня Перамогі мы выпусцілі «Ноч Гельвера», але яшчэ са старымі акцёрамі. З «новенькімі» хачу зрабіць канцэрт паводле эцюдаў, як гэта робіцца ў Акадэміі мастацтваў. Напрыклад, «я жывёла», «я прадмет». Потым па плане інсцэніроўка апавяданняў Чэхава, Шукшына…

**— У вашым калектыве ёсць традыцыі?**

— Адкрыццё і закрыццё сезона, як і ў кожным тэатры, — згодна з традыцыяй. Калі цяплее, мы можам пайсці ў паход, правесці трэнінгі на прыродзе.

**— Ці ўзаемадзейнічаеце з іншымі студэнцкімі тэатрамі?**

— Вядома. Нядаўна завіталў да «Студыёзаў» і «7 паверха» Універсітэта культуры. У БДУ арганізоўваўся тэатральны тыдзень, мы іх запрашалі да нас, але штосьці не атрымалася. А так, напрыклад, тэатральны крытык Аляксей Стрэльнікаў узначальвае тэатр «Галава-нага» факультэта журналістыкі, рэжысёр Кацярына Тананайка — тэатр «На Філфаку» філалагічнага факультэта. З ёй мы часта працуем разам, таму што міжнародны фестываль студэнцкіх тэатраў «Тэатральны куфар» створаны на базе двух тэатраў — «На Філфаку» і «На балконе».

**— Як «Тэатральны куфар» атрымаў такую славу?**

— Напэўна, таму што такіх фестываляў няшмат, а студэнцкіх тэатраў хапае. Пры гэтым у фестывалі ўдзельнічаюць і калектывы з тэатральных ВНУ, і прафесійныя трупы. Кожны год фармат фестывалю розны. Леташняму «Тэаральнаму куфару» мы прыдумалі дэвіз: «Усе шляхі вядуць на "Куфар"», таму што ўдзельнічала шмат краін. Студэнтам падабаецца гэты рух, у нас шмат валанцёраў, якія трацяць свой час на дапамогу ў арганізацыі фестывалю. Пачынаючы з працоўнай групы, якая адказвае за перавозку дэкарацый, заканчваючы перакладчыкамі і гідамі.

**— А як увогуле працуе студэнцкі тэатр? У прафесійным ёсць адказныя за святло, музыку, сцэнаграфію, а…**

— А ў нас такога няма. Ёсць я і Ірына Аляксандраўна Бародзіч, якая дапамагае мне з касцюмамі ды дэкарацыямі. Залаты чалавек, такога трэба пашукаць, яна дастане што заўгодна! Напрыклад, на «Тэатральны куфар» спатрэбілася ванная. Дзе ўзяць? Розныя ж пастаноўкі бываюць. Украінцы, напрыклад, у сувязі з палітычнай сітуацыяй

не змаглі правезці праз мяжу стрэльбу. А ў спектаклі трэба было страляць халастымі патронамі. Мы тут усё «аблазілі», знайшлі добрых людзей, якія далі стрэльбу. Рэквізіт увогуле няпроста знайсці, нават у прафесійных тэатрах не заўсёды могуць пазычыць, ды і не заўсёды ёсць.

**— Ці можа акцёр студэнцкага тэатра стаць прафесійным артыстам?**

— Гэта складанае пытанне. Спецыфіка студэнцкіх тэатраў такая, што людзі зацікаўлены працай у тэатры часам больш, чым прафесійныя акцёры. Аматары імкнуцца да развіцця, яны ў пастаянным пошуку, чытаюць шмат літаратуры. Таму бывае і так, што акцёр студэнцкага тэатра лепшы за прафесіянала. У маім калектыве ёсць такі прыклад — Уладзіслаў Наймарк. Гэты таленавіты хлопец можа паспрачацца са студэнтам тэатральнай акадэміі. Прафесійна ён ніколі не займаўся, але з 6 гадоў іграе ў народным тэатры.

**— Ці здараліся форс-мажоры падчас спектакляў?**

— Напэўна, не. Рэжысёр павінен правільна арганізаваць працэс — я гэтаму вучуся. Гэта дапамагае і майму асобаснаму росту: я не растрачваю сябе налева і направа, а пастаянна бегаю, каб усё сабраць разам. А ўвогуле, кур'ёзы адбываюцца заўсёды. Звычайна з іх можна знайсці выйсце. Напрыклад, сёння вечарам спектакль, а няма чалавека, які адказвае за музыку. Такое здараецца. Альбо няма рэквізіту, які патрэбен... Даводзіцца выкручвацца.

**— Як вы распаўсюджваеце інфармацыю пра спектаклі?**

— Уваход на спектаклі вольны, але па запісе, асабліва калі прэм'ера. У асноўным інфармацыю можна знайсці на афішах у БДУ ці ў сацыяльных сетках. За межамі ўніверсітэта спрацоўвае сарафаннае радыё. Але ў нас заўсёды поўная зала: там толькі 45 месцаў.

**— Даводзілася слухаць падзякі гледачоў?**

— Вядома, гледачы выказваюць падзяку часцяком. Падыходзяць і да мяне, і да акцёраў, кажуць добрыя словы, пішуць у нашых групах у сацыяльных сетках. Трэба, дарэчы, групу пачысціць, там шмат лухты…

**— Як вы ўвогуле сталі займацца рэжысурай?**

— Працаваў акцёрам у Гродзенскім драматычным тэатры. Паралельна вучыўся завочна на акцёрскім. Потым перавёўся на дзённае аддзяленне рэжысуры. Мне падабаецца ёю займацца. Не ведаю, ці атрымаецца ў поўнай меры рэалізавацца ў гэтай прафесіі, але на дадзены момант ні пра што не шкадую. Калісьці, калі я толькі звольніўся з тэатра, казаў сам сабе: «Цішко, куды ты лезеш? Ты ж нічога не разумееш». Калі прыйшоў у Акадэмію як студэнт-рэжысёр, не ведаў, як размаўляць са студэнтамі-акцёрамі. Так і сказаў ім: «Я не ведаю, як з вамі працаваць. Давайце спрабаваць рабіць штосьці разам». А потым паступова ўсё пачало развівацца і зацягнула мяне. Я ж не змяніў сферу дзейнасці катэгарычна. Быў акцёр — стаў рэжысёр. Усё гэта тэатр.

**— А не перашкаджае кіраўніцтва студэнцкім тэатрам навучанню ў Акадэміі?**

— Наадварот, дапамагае. Гэта вялікая практыка. Трэба толькі зрабіць жалезны графік. Але гэта бывае вельмі складана. Напрыклад, зранку рэпетыцыя ў Акадэміі, у абед — у іншым месцы, а вечарам — у тэатры «На балконе». А яшчэ я рэпетытар па гітары…

**— Што патрэбна рабіць, каб быць добрым рэжысёрам і акцёрам?**

— Трэба працаваць. І рэжысёру, і акцёру. Гледачу? Таксама трэба працаваць. Вядома, публіка ў любым выпадку пойдзе ў тэатр… А вось рэжысёру і акцёру трэба знаходзіцца ў пастаянным пошуку, назіраць за жыццём навокал, чытаць. На таленце не выедзеш. Патрэбны здольнасці да канцэнтрацыі і хуткага пераключэння з аднаго на другое… Самая галоўная якасць тэатральнага чалавека — працавітасць.

***Гутарыла Анастасія ВАСІЛЕВІЧ***

*Павел ДАРОХІН*

# НАСУПЕРАК СЛОВАМ



***Павел Дарохін нарадзіўся 13 сакавіка 1986 года ў Мінску. Па адукацыі мастак і гісторык-мастацтвазнаўца. Працуе загадчыкам аспірантуры, у вольны час малюе, выконвае абавязкі музыкі ў тэатральнай студыі, піша дысертацыю і штосьці яшчэ. Любіць сушы, піцу і варэнікі з бульбай.***

* * *

А што, калі б насамрэч быў вадою?
Нявечыць цела ў турбіне,
Каб асвятляць святло чужое,
Пад лопасці падставіць спіну.
У студні пасяліцца можна,
Надыдзе спёка — вось распуста!
Ідзе чужынец падарожны —
Цалуй яго ў сухія вусны.
А можа, быць вадой балота?
Згнаіць памкненні дум заўчасна
І сёння быць заўсёды потым,
Дзе слой на слой у торфе ўласным.
Агонь ваду сфармуе ў пару,
Ёй — ў кандэнсат пераўтварыцца
Ці то… аб чым я толькі мару?
Давай я буду навальніцай.

* * *

Насустрач ісці, дзе палярнай не бачна,
Калі скрыжаванне не крыж
Насуперак словам, дзе ўсё адназначна
Глядзі, ты насупраць стаіш
Дзе ўсё адмыслова, глухія асновы
Ды зноў, што і год адсюль,
Што быццам згубіўся, глытай жыццяпісы
Дажджы каляровых куль,
Калі яе рукі складаюць калодзеж
Лістом ці то лісцем пустым,
Калі ты падорыш хвіліны на продаж
Ніякі напой ні пры чым
Насамрэч утульна ў вагоне агульным
Канцавы — закінуты свет
Жывёлы паснулі, расліны паснулі
Няблага б і нам, ці не?
Адвечным вяртаннем, зімой-паляваннем

Пазнай, і суцішым ход
Мо хочаш працягу апавядання?
Націсні, спрацуе код.

**ГЛЫБІНЯ ПЛОСКАСЦІ**

Фарбу на плоскасць наношу
Свідруюць іншыя людзі
Важную займу пасаду
Ў працы грамадскай падзеле
Лініяй мераю плошчы
Лёгка паверхні брудзіць
Цвёрдае ўсмокча слабасць
Малюнка дрыготкага цела

Як ападзе тынкоўка,
Знак, што прыходзіць сцюжа,
Я надаю імёны
Носяць іншыя людзі
Можа, на момант змоўкнуць
Чоўну, змерзламу ў лужыне
Прымхі і забабоны
Шоргат нябачных суддзяў

Жалеза ўглыб і насупраць
У іншых каардынатах
Вільгаць усцяж — то не выйсце
Але і не Алімпіяда.
Зверху святло, унізе
Бездань матэрыі чорнай
Памятай жыць, усё сыдзе
Ды гэта ўжо непаўторнае.

* * *

У рэшце рэшт блытаніна смешная
Між акулярамі і калейдаскопам
Будуйма вежы з драўніны рэштkaў,
Слановай косткі. Далей аўтастопам
Без компасу скрозь масіў траекторый
Набудавалі тут сетак Рабіца
Цераспалосіца, свая тэрыторыя
Хіба на танку з такімі справіцца
Хіба на ганку сустрэнуць вячэрай
Ці шалік цёплы павяжуць на шыю
Шаляў шал адпаведнаю мерай
Аддзячыць чаргой кулямётнай,
шчыльнай
А можа інакш. Бо вада ды пясок
Для замкаў цудоўным ёсць
будматэр’ялам
Суворыя сцены пацешаць зрок
Ды ім і гадзіны стаяць не замала
Прыліў — кісялём сцякаюць муры
Адліў — ды зноў пажыццёвы пляж
Няма чаго галавы дурыць
Праз што ты бачыш няясны міраж
Будуюць ударнікі працы нанова
Насуперак мору, пяску ды часу
Лянота ўдзельнічаць, вось маё слова
Давай назіраць за працэсам разам.

* * *

Ліст пусты. Без дакладнай адрэсы.
Наступныя тыдні чакай на восень.
Праглынуў на ўздых друкаванай прэсы,
Ніжэй, ніжэй, замацуй двукоссі
Празрыстыя людзі па тратуарах
Тэмпература яшчэ на некалькі
Падае. Марою абернуцца мары
Ключы раскідаў, знайдзі цяпер, дзе які
Святла чакаў, не варты і месяца
Сусвет зачыніўся сталёвай покрыўкай
Няма пад рукою прыдатнай лесвіцы
Мой рондаль-пакой без выйсця
на сонейка
Казаць без сэнсу, без курсу плыць
Слабы наратыў ад стану глейкага
Зашыю вусны. Ды як забыць
Рэзананс у вушах ад летняй жалейкі.



Саша ТЭМЛЕЙН

# АПАВЯДАННІ



***Саша Тэмлейн (Аляксандр Змушко) нарадзіўся 10 красавіка 1981 года ў Мінску. Навуковы супрацоўнік аддзела біятэхналогіі «Інстытута пладаводства». Працуе ў жанрах навуковай фантастыкі, прыгодніцкага, філасофскага і гумарыстычнага фэнтэзі, альтэрнатыўнай гісторыі і дзіцячай казкі.***

## ДЖАСПЕР І ЭМІЛІ

Джаспер быў дрэвам.

Ён усё папярэдняе жыццё марыў абярнуцца дрэвам, і вось у яго атрымалася. Джаспер спакойна рос, магутна распасцершыся над абрывам; яшчэ крыху — і яго карэнне паласкалася б у аблоках і хмарах. У яго зялёнай галаве звіла гняздо нейкая птушачка, але, паколькі ў папярэднім жыцці ў заалогіі ён асабліва не разбіраўся, то не ведаў, што за яна. Але птушачка так смешна вымаўляла раніцай «Пень! Пень!», што Джасперу адразу ж прыйшлася даспадобы. Лістоты ў яго не было — адны толькі трывалыя іголкі, а ствол ён меў звонкі і залацісты, як і належыць усялякай добрасумленнай сасне.

Джаспер быў сваім жыццём больш чым задаволены.

Тут ніколі не было суха, а глебы цалкам хапала, каб учапіцца вузлаватымі каранямі.

Высока-высока ўгары чорнымі кропкамі луналі птушкі, зрэдку прабягаў горны баран, а ўнізе, пад абрывам, праз жмуты аблокаў віднеўся Горад: маленькі, такі ўтульны і прыгожы, быццам быў выбудаваны з карамелі і зацвярдзелай нугі. Джаспер памятаў, што калісьці ён жыў у ім, але там было занадта шумна, вечна патрабавалася размаўляць і нешта вырашаць — а Джаспер гэтага не любіў.

Тут ён таксама зрэдку гутарыў: калі вецер, які жыве высока ў пячоры на схіле гары, разыходзіўся не на жарт, то хвоі рыпелі і стагналі — скардзіліся адна адной на жыццё, а то і дзяліліся плёткамі або фантазіямі пра тое, што нядрэнна б ім было стаць карабельным лесам, патрапіць у лапы лесніка з сякерай, стаць выдатнай стройнай мачтай і сплысці, пабачыць чужыя краіны.

Джаспер ні пра што гэтакае не марыў.

Ствол яго быў зламаны дзесяць разоў, галіны раскінуліся шырока ў бакі, а карані аплялі скалу, як буйнакаліберная павуціна. Раз на год, як і належыць, на ім спелі гузы, і ён скідаў іх уніз; можа, дзесьці там, пад аблокамі, на зялёных лугах, каля ручаёў, яны і маглі вырасці ў самых сапраўдных прыгажунь і атрымаць шанс аказацца фарштэўнем, кілем, а то і носам прыгожага карабля.

А яшчэ Джаспер меў сябра.

Гэта была маленькая дзяўчынка, якая нярэдка гулялася ля яго каранёў, нягледзячы на строгую забарону бацькоў. Яна таксама была з Горада, і Джаспер, калі б захацеў, нават мог цьмяна ўзгадаць яе прадзеда — з той пары, калі ён яшчэ быў чалавекам.

Спачатку ўсё ішло добра.

Час цягнуўся, нічога не мянялася, ды Джаспер і не хацеў пераменаў.

Ён для таго і стаў дрэвам, каб іголкі свабодна зелянелі ў паветры, на галінах цвыркалі птушкі, а карані магутным доўгім высілкам цягнулі вільгаць з зямлі. Але перамены былі непазбежнымі. Да Горада ўнізе правялі шырокую дарогу, і ён застракацеў намётамі, ларкамі і шатрамі з дарагіх адрэзаў тканіны. Праз Горад праходзіла шмат гасцей: ён рос, разбухаў, як кропля. Знаёмая дзяўчынка — здаецца, яе звалі Эмілі — таксама вырасла і ператварылася ў няскладнага падлетка… Упершыню Джаспер адчуў нейкі неспакой: яго задавальняла, калі ўсё ідзе, як ёсць. Няхай ён і не хацеў жыць у Горадзе, але любіў яго такім, якім той быў, і гнеўна глядзеў на пухліну, якая расла ўнізе — крывабокія, цяп-ляп пабудаваныя домікі.

«А што, калі б я зноў нарадзіўся чалавекам, то мог бы ўсё змяніць?» — падумаў ён, але адразу ж адкінуў гэтую недарэчную думку. Да таго ж, Эмілі перастала прыходзіць, і Джаспер павольна старэў на сваёй скале....

Але аднойчы сёе-тое змянілася — зусім.

Джаспер упершыню ўбачыў гэтыя клубы дыму раніцай.

Яны падымаліся над стэпам, быццам небывалы жоўты пажар, і загарадзілі сабой палову гарызонту. Крывава-чырвонае сонца падымалася ўгору, купаючыся ў гэтым пыле. А затым пыл стаў набліжацца.

І Джаспер убачыў людзей: маленечкія, як мурашы, са зморшчанымі злымі тварамі, падобнымі да печаных яблыкаў, і зіхоткімі вострымі шаломамі, яны злосна сцябалі сваіх нізкарослых чэзлых конікаў. Яны імчаліся і імчаліся ад гарызонту да Горада, і не было ім ні канца ні краю.

А затым Горад палыхнуў!

Агонь разліваўся, як вішнёвае варэнне, якое ён так любіў у дзяцінстве. З жахам і лютасцю Джаспер глядзеў, як агонь пажырае выродлівыя пабудовы, што цяпер сталі яму такімі дарагімі.

І тады ён убачыў Эмілі. У сукенцы, якую даводзілася трымаць абедзвюма рукамі, яна імчалася па вузкай сцежцы, абдзіраючы рукі ў кроў і збіваючы чаравікі. Спачатку Джаспер падумаў, што яна бяжыць да яго (што за недарэчная думка?!) — але пасля зразумеў: леваруч праз прорву быў працягнуты вераўчаны мост. Калі па ім перайсці, а затым абсекчы канцы...

У руцэ Эмілі быў заціснуты нож.

На няшчасце, да моста вяла не адна дарога, а цэлыя тры!

І першыя дзве ўжо запоўніліся людзьмі. Джаспер у гневе глядзеў на гэтыя плоскія твары, захопленыя звярынай пажадлівасцю і злосцю; на адзенне, што больш было падобна на шматкі рвання; на мячы — крывыя і залітыя крывёй. Эмі моўчкі абхапіла яго ствол рукамі і заплюшчыла вочы. Дыханне вырывалася з яе грудзей з сіпам, нерытмічнымі рыўкамі.

— Вось і ўсё, — раптам прамовіла яна голасам маленькай Эмі. — Бывай, дрэва.

І яна адпусціла пальцы.

Джаспер зароў.

Злавіўшы вецер, што заблукаў у вышыні, ён паспешліва сплёў з яго патокаў смяротныя вузлы. Старая плоць выдала нямы стогн. Так, ён па-ранейшаму быў моцным

і магутным, і мог бы чапляцца за жыццё яшчэ доўга — але не гэтага хацеў. Карані з агідным віскам выдраліся з зямлі. Вырываліся і падалі ў прорву камяні. Дзікуны стоўпіліся каля моста і са страхам пазіралі на гэта дзейства.

— Ён рос над абрывам, — гаўкнуў адзін з іх. — Напэўна, не вытрымаў свайго цяжару. Жыхары неба забіраюць яго. Ён падае.

У глыбокай пашане яны глядзелі, як каласальны ствол перакрэсліў празрысты, блакітнавата-шызы акіян і прызямліўся дакладна на пляцоўку на тым баку.

— О, божа! — выдыхнула Эмілі. — Ты зрабіла гэта для мяне?! Для мяне, дрэва?!

Джаспер сярдзіта зашумеў ветрам у галінах.

Больш не марнуючы часу, яна папаўзла.

Прыгожы крыналін і шоўк не прызначаліся для поўзання па старым ствале хвоі. Яна разадрала локці і распарола спадніцу. Варвары, апамятаўшыся, з галёканнем лезлі за ёй. Але галіны быццам трымалі іх, сукі лезлі ў вочы, ствол вылузваўся з рук. І калі яна, дрыжучы ад напружання, ступіла на цвёрды пятачок па той бок, дрэва раптам заскрыпела.

Ніжнія галіны падламаліся, і ствол, зрабіўшы грацыёзны паварот вакол сваёй восі, з пераможным стогнам строс, як мурашак, наліплых на яго дзікуноў і павольна ды велічна адышоў уніз…

Падаў ён доўга, вельмі доўга — бездань была такой, што груку падзення Эмі не пачула.

У вар'яцтве пагоні, у крыві паміраючага горада, у роспачы надзеі ёй здалося: велічэзны ствол упаў не проста так, ён ратаваў яе ад забойцаў ды гвалтаўнікоў і павёў іх за сабой.

— Ён ахвяраваў сабой дзеля мяне, — шапнулі разбітыя вусны Эмі. — О, божа, якая вар'яцкая думка!

Але, быць можа, яе суцешыла б тое, што Джаспер, працінаючы воблака і разбіваючыся аб каменную пліту ўнізе, зусім пра гэта не шкадаваў.

## ТРУБАКЛАДЧЫК І СЦЯНА

Горад Джыліян быў гожы. Ён ляжаў паміж мяккіх узгоркаў, падобных на спіны чароўных звяроў, якія патанулі па карак у зямлі; яго атачалі горы, ружовыя, як шчочкі малочніцы, на світанні, і сінія, як райскія птушкі, увечары. Палі яго былі ўрадлівымі і поўнымі кароў; лясы вакол кішэлі дзічынай; чарапічныя дахі гарэлі, як залатыя зліткі, купаючыся ў промнях сонца колеру сердаліку, што танула ў бяздонным моры.

А побач з Горадам узвышалася Сцяна.

Яна была чорнай і маналітнай; у ёй кіпела цемра, узнікалі цені і страшныя асобы паказваліся з гагатава-чорнага варыва. Ніхто з гараджан да Сцяны не хадзіў: месца лічылася благімі там забаранялі гуляць дзецям, хоць суніцы ў лесе перад Сцяной былі проста дзівоснымі! Але вось бяда: кожны год, цаля за цаляй, яна падбіралася да Горада ўсё бліжэй і бліжэй; як чорная зеўра ад зямлі да нябёсаў, пазірала на яго тысячамі бяссонных вачэй і аблізвалася, быццам хацела зжэрці Горад — такі пернікава-салодкі, абліты святлом першай закаханасці і выкладзены цукатамі здзейсненых надзей.

І жыў у Горадзе Трубакладчык.

Імя яго ніхто не памятаў, бо ён быў такім гожым ды ладным, што ўсе проста называлі яго: «Эй, прыгажунчык!» Трубакладчыку было ўсяго дзевятнаццаць гадоў,

і час ад часу ён падумваў закахацца, але вось бяда: калі вецер дзьмуў з захаду на поўдзень, яму здавалася, што любіць пухлашчокую Джэні, унучку кухара з «Чарнічных кексаў», а калі з поўначы на ўсход, то сэрца яго рвалася з грудзей ды імкнулася да вяснушкаватай дачкі ганчара.

Аднойчы, збіраючы букет палявых кветак для Лілі, дачкі каваля, ён падышоў занадта блізка да Сцяны.

— Прывітанне, Трубакладчык, — сказала Сцяна. — А хочаш атрымаць столькі сілы, што і Лілі, і Джэні, і Мар'яна, ды і ўвогуле ўсе дзяўчаты ў горадзе стануць тваімі?

— А што, ты так можаш? — спытаў Трубакладчык.

— Я магу многае, — сказала Сцяна, — а калі з'ем гэты Горад з яго храбусткімі вежкамі і апетытнымі дзвярыма, з выкладзеным камянямі брукам, са сцягамі колеру бруснічнага сіропу, то змагу яшчэ больш! Але, як бачыш, я іду занадта павольна — усяго толькі сантыметр за год, і мне давядзецца дабірацца да Горада вельмі доўга! Атрымліваецца, што я сяджу на дыеце, а галадаць мне зусім не хочацца!

— І што ж мне рабіць? — спытаў Трубакладчык.

— Падыдзі і дакраніся да мяне, — сказала Сцяна. — І я дам табе столькі сіл, што ты зможаш падняць горы, праглынуць пагорак і выліць моры ў лугі. А калі ты не падыдзеш, то я знайду іншага, хто хоча і Лілі, і Джэні, і Мар'яну, бо я стамілася чакаць. А людзі заўсёды хочуць так шмат чаго!

Трубакладчык падумаў пра Лілі, Джэні і Мар'яну ды сказаў:

— Добра. Дай мне сваю сілу.

Ён падышоў і паглыбіў рукі па локаць у Сцяну.

І тут чорныя бруі працялі яго, рукі пакрыліся шыпамі, ахоўныя шчыткі закрылі вочы, панцыр, падобны да ракі, закляпаў з усіх бакоў цела, а ногі сталі падобнымі да пазашлюбнага плода кавадла і турэмнай калодкі.

— Цудоўна, — сказаў Трубакладчык, і ад яго голасу задрыжалі горы.

Ён выцягнуў рукі са Сцяны.

— Ці задаволены ты сваёй сілай, што можа раку павярнуць назад і закіпяціць мора? — аблізнулася яна.

— О, так, задаволены, — сказаў Трубакладчык.

І зноў працягнуў рукі ды ўпёрся ў Сцяну.

— У імя залацістай карамелі, хрумсткай чарапіцы і апетытных дзяўчат, што ты робіш? — здзівілася яна.

— Заўсёды знойдзецца хтосьці, хто захоча і Джэні, і Лілі, і Мар'яну, — сказаў Трубакладчык. — І захоча перавярнуць Зямлю, паставіць усё ўверх дном. Але ён спазніўся, бо твая сіла ўжо ў мяне.

І мышцы на яго жахлівых руках напружыліся, надзьмуліся, а ногі сышлі па калена ў зямлю. Вочы бліснулі бурштынавым агнём.

— Не-не-не, — заверашчала Сцяна. — Ты не смееш!

— Ужо пасмеў.

З тых часоў кожны наведвальнік не без цікаўнасці выслухоўвае гісторыю пра Сцяну, што знаходзіцца крыху далей на поўдзень ад Горада, дахі якога пад промнямі чырванейшага за рубін заходзячага сонца здаюцца залатой нугой і праліне, што абрамляюць сінія, як сапфіры, горы. Ніхто не ведае, што яна такое; але часам у ёй з'яўляюцца ды знікаюць цені і бурліць цемра.

А яшчэ ў самым цэнтры Сцяны стаіць статуя — сапраўдная пачвара, пакрытая шыпамі, рагамі, клюшнямі і рагавым панцырам. Лапы яе, быццам старыя карані, па локацьураслі ў Сцяну. Хтосьці кажа, што яна мёртвая, а іншыя — што часам пасля

асвяжальнай навальніцы або ў самыя моцныя маразы можна пачуць яе дыханне. Ніхто нічога толкам не ведае пра Сцяну, але, у рэшце рэшт, гараджане не надта хвалююцца пра гэта.

Бо ўсім вядома, што цаля за цаляй, за годам год яна павольна адсоўваецца ад Горада.

## ГОРАД І МАСКА

Аднойчы ў Горад прыйшоў Чалавек з тысячаю масак. Ён з'явіўся ў яркі пагодлівы дзень; сцягі паласкаліся над ратушай, нібы рознакаляровыя языкі цмокаў; неба было чыстым, быццам цётухна Філа працёрла яго анучкай; і нават камяні маставой блішчалі святочна, жадалі здавацца каштоўнымі.

Пры ўваходзе ў Горад на Чалавеку была маска са слановай косці.

Ён трымаў каля вуснаў трубачку, на якой напяваў немудрагелістыя мелодыі. У руках Чалавек нёс букет звычайных палявых кветак з васількоў і рамонкаў, а вопратка на ім была пыльнай — звычайная справа для падарожжа.

Куткі вуснаў на яго масцы выгіналіся ўверх.

На вуліцы Пражэрлівых Глотак Чалавек сустрэў маленькую дзяўчынку і раптам стаў на адно калена.

— Як цябе завуць, дзіця маё? — спытаў ён меладычным, пералівістым голасам.

— Амелі, — сказала яна.

— Гэты букет табе, Амелі, — сказаў ён.

— Ой, праўда?

А Чалавек у масцы ўжо ішоў далей.

У завулку Бадзяжных Катоў ён засунуў старую маску ў мех і дастаў новую — вытанчаную, са светлага дрэва. Яе поўныя вусны былі ледзь прыадкрытымі, быццам смяяліся. На плошчы перад ратушай Чалавек сустрэў дзяўчыну, верхняя губа якой дражніла яго прывабным выгінам, быццам прасілася да пацалунку.

Чалавек у масцы зноў апусціў руку ў мех — і выцягнуў адтуль неверагоднай прыгажосці ружу, выкаваную з латуні.

— Я пранёс яе праз пустыню і мора, — сказаў ён. — І яна вартая цябе — той, чыя прыгажосць падобная да ветрыку, што сцякае ноччу з зорак.

— Ой, праўда? — дзяўчына ўзяла ружу, запунсавела і адвярнулася.

Трэцюю маску Чалавек насунуў крыху пазней. Гэта была маска азызлага добрасумленнага заможнага гараджаніна з абвіслымі вусамі.

Зайшоўшы ў карчомку «Шустрая Поні», ён прысеў за столік да мажнага заўсёдніка з агністай барадой і прапанаваў:

— Найшаноўны! Я тут нядаўна, але калі вы распаведзяце мне пра ваш, бясспрэчна, дзівосны Горад, я палічу за гонар аддзячыць вам тым, што аплачу ваш абед.

— Я таксама магу расказаць, — сказаў чырвонаносы па суседстве.

— А вам я аплачу піва, — ветліва пагадзіўся Чалавек у масцы.

Вось так ён неўзабаве стаў для дачкі ганчара цудоўным палюбоўнікам; для Эміліі Понд — куртуазным «лыцарам», для страпільшчыка — кампаньёнам па выпіўцы, для півавара — выдатным дарадцам, і ўвогуле для ўсіх жыхароў горада — самым блізкім і сапраўдным сябрам, якога толькі можна ўявіць.

Чалавек пражыў у Горадзе нядоўга: можа, вясну, а можа, дзве.

Усе, нават пастар, былі перакананы: Чалавек у масцы — вельмі слаўны!

«Самы сапраўдны прыяцель, — казаў пра яго мажардом. — Дзе яшчэ такога адшукаеш! Толькі ўтойлівы троху».

«А так нават і лепш, — запэўнівала дачка ганчара. — Адзін твар прыеўся б, а так цалуй і цалуй розныя маскі!»

Але з часам жыхарам Горада захацелася даведацца пра Чалавека больш.

— Чаму б табе не зняць маску? — наўпрост спытаў мэр. — У нас у Горадзе нічога хаваць не прынята!

— Так, але ж я так прывык, — абараняўся госць, які, зрэшты, ужо даўно стаў сваім.

— Прывык — не прывык, — сурова сказаў мэр. — А гэта справа такая! Мы адмовы не сцерпім! Здымай маску, вось і ўсё!

— Альбо што? — ціха сказаў чалавек.

— Альбо сыходзь з Горада!

Мэр разгарачыўся, яго абвіслыя шчокі палалі.

— Добра, — сказаў Чалавек.

Ніхто не думаў, што ён на самай справе сыдзе. Ніхто не бачыў, як ён сышоў.

У перадсвітальны час Чалавек ціха ўвязаў свае цюкі, перасыпаў у мяхі цацкі, падперазаў сваю старую несамавітую вопратку і падаўся ў дарогу. У яго маскі куткі вуснаў былі апушчаны.

Калі Чалавек выйшаў з Горада і той застаўся далёка-далёка, а вакол — толькі пыльная раўніна, бур’ян і чартапалох, чалавек сеў на зямлю і зняў маску. Пад ёй аказаўся несамавіты твар, рудаватыя валасы, якія тырчалі пасмамі, і мутна-вадзяністыя вочы. На выгляд яму было гадоў дваццаць пяць.

Чалавек плакаў.

— А што, калі б яны не прынялі мяне такім, які я ёсць? — сказаў ён фразу, якую паўтараў столькі разоў, што, здавалася, яна мармурова адбілася ў кутках яго вуснаў.

Нарэшце, ён выцер вочы і падняўся.

— У свеце шмат Гарадоў, — сказаў ён. — Паспрабую яшчэ раз.

Ён насунуў маску са сланновай косці, куткі вуснаў якой былі падняты, вывудзіў з торбы жалейку і пачаў насвістваць мелодыю, што сама сябе падбадзёрвала. Больш не азіраючыся, Чалавек пайшоў наперад.

Там было бачна поле з рамонкамі і васількамі.



*Вольга ПАЎЛЮКЕВІЧ*

# ХАВАЮЧЫ СЛОВЫ Ў САБЕ...



***Вольга Паўлюкевіч нарадзілася 1 верасня 1993 года ў Слуцку. Скончыла філалагічны факультэт БДУ, працуе рэдактаркай сайта. Натхняецца людзьмі і мастацтвам ва ўсіх яго праявах.***

* * *

Яны сыходзяць
Унутр люстэркаў і фотаздымкаў,
Яны знікаюць
У жоўтых ценях і чорных рамках
І мы трымаем пясок і попел цяпер ў абдымках
Замест сышоўшых,
Самотных, светлых і неаплаканых.
І нам хапае
Таго, што Бог нам даруе дзённа:
Кавалак хлеба,
Адпуст
І бездань сваёй любові.
А ноччу нашы нябожчыкі
Шлюць маленні й праклёны,
І мы душою пакутнаю
Кожны позірк іх ловім.

**КАМЯНІ**

колісь былі маленькімі камяні
колісь і я была сярод іх маленькай —
зараз хіба што каменьчыкам пад цягнік
кідаюся на рэйкі —
час пралятае, і дні ўсё часцей гудуць,
з грукатам шэраг гадоў ад’язджае ад станцыі
ні ў бабулі, ні ў таты ўжо не запытацца
як данясці ў дзіравай душы ваду

колісь раскідвалі камяні па жыцці —
зараз збіраем, каб збудаваць касцёлы
колісь былі маленькімі — зараз
пачынаюць расці,
мы ж, здаецца, былі мацнейшымі
а зрабіліся кволымі

чым далей, тым цяжэй уздымаць з зямлі
камяні, што ўтрымаць раней не змаглі,

камяні, за якімі нас пахаваюць,
бо душа ахвяравана святлу
ты сабе — апошні цяжкі валун,
комін сэрца ды галава сівая.

* * *

Кажуць здаўна, што найгоршае ў свеце —
чакаць і ляцець за тым, што знікае,
Ты — адно і другое, ты —
Шэры водбліск няўлоўных каханняў.
Я сабе раздзіраю горла,
Я свае выдзёўбваю вочы,
Каб ніколі не плакаць уголас,
Зрокам арлiным цябе не высочваць,
Гнёзды не віць з абяцанняў,
Каб
Не даганяць
і не чакаць.
У мяне і сэрца птушынае —
Бо дрыжыць
І б'ецца часцей,
Я нашу на сваім хвасце
Ветра трымценне між вершалінамі.
А з табою як чайка ў нафце:
Не ўзлятаю з салёных хваляў,
Толькі як здолею след твой страціць
Я — заспяваю.

* * *

Мне споўніўся 21
калісьці ў мінулым жыцці,
а ў гэтым я шафа, старая і нерухомая.
Ты дзеля мяне клічаш грузчыка,
бо не можаш прымусіць ісці наперад
ці выйсці з дому.
Табе здаецца, мне месца ў Антыкварыяце,
бо тут з мяне толькі сыплецца пацяруха.
Ты ўчора стэлефанаваўся з адным прыяцелем:
У яго ёсць знаёмыя,
можа, удасца расчухаць.
Я — шафа,
я звер з вялізнай двухдзвернай глоткай,
я пахну бялізнай, адзеннем і нечым салодкім.
Ты хочаш пазбавіцца бездані за паліцамі,
і цёмных драўляных сценак,

бо хто яго ведае,
што, калі зазірнеш у мяне, адкрыецца?
Дарога ў Нарнію?
Ці сэрца старой кабеты з дзявочым целам?

**СТВАРЭННЕ ЧАЛАВЕКА**

Спачатку было святло —
і мы нарадзіліся і расплюшчылі вочы,
мы ведалі ноч,
але ўжо не баяліся ночы —
бо сонца над намі ўзышло.
Мы ўбачылі небасхіл
і сінь яго пакаштавалі ружовым ротам,
паветра было салодкім, крыху вільготным,
і мы навучыліся дыхаць ад дзвюх стыхій.
Мы зведалі смак зямлі,
калі пахіснуліся з першым няпэўным крокам,
а потым пабеглі,
так вольна і так далёка…
і, быццам Майсей, паўстагоддзя да мары йшлі.
…Мы спалі зусім няшмат,
бо месяц і зоркі свяцілі над нашым ложкам,
мы лёсы чыталі па іх начных падарожжах,
чакаючы добрых знакаў або парад.
Любілі, каго маглі —
шчаня, што знайшлі на мосце каля чыгункі…
Мы блыталі думкі і блыталіся ў думках,
але ж мы жылі.

І толькі калі мы спазналі Сусвет такім,
якім ён быў створаны дзеля нашага шчасця,
мы самі стварылі сябе.
І было прыўкрасна.
А сёмага дня мы стварылі сабе грахі.

* * *

Ты хаваешся ў словы, хаваючы словы ў сабе,
І яны асядаюць у лёгкіх,
трапляюць у судзіны,
праз палову хвіліны — у сэрца
і ў горла,
і грудзі
так сціскае, што ты захлынаешся,
тонеш, нібы карабель.

* * *

Я баюся памерці.
Я як тонкую шклянку нашу сваё цела па свеце
і ахоўваю пільна
ўжо больш за пятнаццаць гадоў,
напаўняючы цвіллю
і бруднай зялёнай вадой,
і калі я спыняюся, ўверсе збіраецца смецце.
Я шкляная,
толькі звонку — як келіх ці проста бутэлька піўная,
як кілішак, такіх жа нямоглых я хціва кранаю,
спакушаю іх пальцы і вусны,
і п’янеюць мужчыны ад дотыку чорнай распусты,
і сціскаюць празрыстае цела,
і спатольваюць смагу душою маёй звар’яцелай,
пакідаючы пустку…
Я ў шкляной абалонцы —
унучка агню і пяску:
я нашчадак пякельнага полымя, ветру і пылу,
шляхам першых пакут
я душу сваю вязніцай цела шклянога зрабіла.

Я баюся і смерці, і гора.
Толькі лёс нашы звонкія целы закідвае ў горан —
горан гонару, горан пагарды,
і мы паміраем,
каб ізноў нарадзіцца — шкляною аховай вальфрама,
што сама сабе шлях асвятляе да Раю
ад храма.

* * *

заблукалі мае неслухмяныя рукі
па тваіх фотаздымках
па словах тваіх
ад мяне да цябе —
позірк, дотык, уздых
чую голас —
і сэрца заходзіцца стукам
ты — калодзеж:
халодныя сцены і змрок
зазірнуць  — нібы знікнуць
упасці
ўтапіцца
а душа што вада,
і цягнуся нутром
быццам смагу спатоліць
з жывое крыніцы.

*Сяргей БЕЛАЯР*

# АПОВЕСЦІ



***Сяргей Белаяр (Сяргей Мартынюк) нарадзіўся 19 красавіка 1978 года ў Брэсце. Лаўрэат і пераможца айчынных і замежных літаратурных конкурсаў. Новыя вышыні ў друку — часопісы «Бярозка» і «Полымя». Бліжэйшыя планы на будучыню — апублікаваць новыя творы, а менавіта нізку навукова-фантастычных апавяданняў дэтэктыўнага характару.***

## ВЫРАТАВАЛЬНАЯ МІСІЯ

### I

Фатонны зоркалёт «Слейпнір» імкліва набліжаўся да канчатковай кропкі маршруту — міжнароднай касмічнай станцыі «Ёган Кеплер».

— Як думаеш, чаму знікла сувязь са станцыяй? — спытаў Кінбут Бянткоўскі, гледзячы ў манітор, на якім, вылучаючыся на фоне вугальна-чорнай прасторы з сотнямі немігатлівых зорак, расла Asteroidea.

— Не ведаю, камандзір, — пацісну ў плячыма Едка Гедройц, — прычын можа быць шмат, пачынаючы ад паломкі перадатчыка і заканчваючы сонечнай бурай. Навошта гадаць? Састыкуемся і ўсё высветлім!

Бянткоўскі кіўнуў. Зямля атрымала сігнал SOS тыдзень таму, пасля чаго экіпаж МКС на сувязь больш не выходзіў.

— Будзем спадзявацца, што нічога сур'ёзнага не адбылося!

— Гэта апошняе, у што я стаў бы верыць. Больш рацыянальна зыходзіць з таго, што ў іх праблемы! Прычым сур'ёзныя.

— Ты ператвараешся ў закаранелага цыніка, Едка!

— Космас робіць мяне такім. Пройдзе яшчэ не адна тысяча, калі не мільён гадоў, перш чым зоркі перастануць быць варожымі людзям. Заўсёды трэба настройвацца на самае горшае.

«Ёган Кеплер» паступова запаўняў сабой увесь экран.

— Бачных пашкоджанняў не адзначаю! — паведаміў Доўкгал Геліч, скарыстаўшыся трансфакатарам. — Зваротны бок разгледзець не магу!

— Як толькі скінем хуткасць да самай малой, высылай бот!

— Ёсць высылаць бот пасля тармажэння!

— Пераходжу на тармажэнне! — папярэдзіў таварышаў Скумін Разыцень. Насавая дзюза выплюнула сноп распаленага вадароду, «Слейпнір» слаба тузануўся. Слупок акселераметра хутка папоўз уніз, паказваючы адмоўнае паскарэнне.

— Мама, чаму ты плачаш?

— Святаслава забрала «хуткая»... Інфаркт! Яго не зацвердзілі на пасаду дэкана і адправілі на пенсію, вось ён і знерваваўся. Ты ж ведаеш, што бацька не можа жыць без навукі...

— Ды чорт з ёй, з навукай! Куды яго павезлі?

— Не ведаю — мне не дазволілі ехаць з ім і нічога не сказалі!

— Што гэта за парадкі такія?.. Супакойся, а я абтэлефаную прыёмныя аддзяленні! Я знайду тату! — Медзелец доўга не мог знайсці тэлефонны даведнік. Дрыжачыя пальцы не траплялі па кнопках.

— Медзелец Святаслаў Адамавіч? Хвіліну! — паўза расцягнулася да вечнасці. Дацэнт кусаў вусны ад нецярпення. — Так, у абласную бальніцу паступіў такі, — адказаў на пятым званку жаночы голас.

— Як ён?

— Мужчына, не трэба так крычаць!

— Прабачце!

— Смяротны зыход да прыбыцця ў медыцынскую ўстанову.

Ногі Медзельца падкасіліся...

Ішоў дождж. Гідкі, якім ён можа быць у канцы лістапада. Мінакі спяшаліся па дамах, і ні ў каго не выклікаў цікавасці прамоклы да ніткі малады чалавек, які сядзеў на лаўцы і дурнымі вачыма глядзеў некуды далёка-далёка.

Жыццё страціла ўсялякі сэнс.

— За што, Божа? Чаму гэта здарылася менавіта са мной?

Неба маўчала. Або не чула, або не хацела чуць. Чамусьці больш верылася ў другое.

Слёзы змешваліся з кроплямі і, зрываючыся з падбародка, разбіваліся аб плітку. У нейкі момант рука намацала ў кішэні скрыначку. Медзелец выцягнуў яе і некалькі імгненняў спрабаваў зразумець, што гэта такое.

Бацька галіўся выключна лёзамі.

— Чаму б і не? — дацэнт разарваў паперу і зацiснуў лязо паміж указальным і вялікім пальцамі. Выйсце ёсць заўсёды, трэба толькі адысці далей, каб ніхто не перашкодзіў.

Завулак быў брудным і літаральна патанаў у дажджавой вадзе.

Лязо лёгка ўвайшло ў плоць...

## VIII

Казанцаў уварваўся ў жылы блок і зачыніў дзверы. Сэрца шалёна калацілася — без нейтралізатара прафесар быў безабаронны супраць крайневысокачастотнага выпраменьвання «вырабу № 890 311— Р». Пройдзе зусім няшмат часу, і псіхатропны выпраменьвальнік ператворыць яго мозг у жэле.

Прафесар Глеб Міхайлавіч Казанцаў знікне назаўжды.

— Сукі! Не маглі зрабіць гэта дзярмо мацнейшым! — ад удару аб падлогу кулон разляцеўся дробнымі аскепкамі. Хацелася плакаць ад крыўды. Нейкая недарэчная бойка парушыла ўсе планы. А якія адкрываліся перспектывы... — І што цяпер?

Страх апаноўваў хвалямі. Ліпкі, гідкі, да роспачы жудасны — Казанцаў не мог адключыць выпраменьвальнік. Проста не ведаў, як гэта зрабіць. Бегчы? Прафесар не быў упэўнены ў тым, што перажыве другі пераход.

У той раз толькі шчаслівая выпадковасць дапамагла яму застацца ў жывых...

Марозны вецер прабіраў да костак, адбіраючы апошнія сілы, але Казанцаў упарта перасоўваў ногі. Інстынкт самазахавання гнаў яго да людзей. Туды, дзе цёпла, дзе можна не баяцца выпраменьвання. Зламаныя лыжы засталіся ў гурбе, цяпер толькі палкі дапамагалі захоўваць вертыкальнае становішча. Смяротная стомленасць ціснула на плечы. Казанцаў ведаў — калі ўпадзе, то больш не ўстане. Да крыві кусаў вусны, каб не заснуць.

Чорную кропку ў небе ён прыняў за галюцынацыю і адмахнуўся. Але ў наступнае імгненне да слыху Казанцава даляцеў гул. Не смеючы верыць у поспех, Казанцаў спыніўся і ўтаропіўся ў неба. Кропка ператварылася ў крыж.

— Гэй! — сабраўшы рэшту сіл, закрычаў Казанцаў. Апранутага ў белую маскіровачную куртку з чужога пляча чалавека заўважылі нейкім цудам. Самалёт даставіў Казанцава на нарвежскую станцыю, адкуль усюдыход адвёз яго на «Камсамольскую». У восемдзесят восьмым Казанцаў страціў два пальцы на левай назе і адзін на правай ды амаль паўтара месяца праляжаў у шпіталі з пнеўманіяй. Узрушэнне аказалася настолькі моцным, што псіхіка не вытрымала.

Чатыры з паловай гады зняволення ў сценах «Канатчыкавай дачы»...

Прафесар здрыгануўся.

— А калі не атрымаецца?

— Вы ўжо прыкладзіце ўсе намаганні, спадар Казанцаў! — з твару палкоўніка ФСБ імгненна знікла добразычлівая ўсмешка. — Краіне патрэбны станоўчы вынік!

Па спіне прафесара прабег холад. Часы мяняліся, метады спецслужбаў — не.

Ні нацысты, ні камуністы так да канца і не зразумелі, з чым сутыкнуліся. Навукоўцы былі падобны на сляпых кацянят. Калі толькі бываюць кацяняты, якія прагнуць сусветнага панавання.

Немцы натыкнуліся на іншапланетны артэфакт у сорак другім, а ў сорак чацвёртым станцыю захапілі парашутысты НКУС. Навуковы персанал да гэтага часу паспелі вывезці. Эсэсаўская ахова аказала адчайны супраціў, аднак узарваць артэфакт ёй не далі.

Савецкія навукоўцы ўзяліся за працу адразу, не чакаючы заканчэння вайны — на парозе маячыла пагроза новай.

Прафесара трэсла ад страху. Паміраць хацелася меней за ўсё.

— А навошта столькі зброі, Вольфганг Карлавіч?

— Для таго, таварыш Казанцаў, што на станцыю могуць напасці, — акадэміку Мюнцэру не спадабалася пытанне дацэнта, — амерыканскія імперыялісты ці іх наймiты! Чым тады вы будзеце адбівацца? Снежкамі?

Больш дурных пытанняў Казанцаў не задаваў. Лішняя цікаўнасць магла каштаваць не толькі кар'еры, але і свабоды. А то і жыцця...

— Вы ўпэўнены, што Медзелец дасць рады?

— Дацэнт падае вялікія надзеі, таварыш палкоўнік. Дый іншых спецыялістаў у нас пакуль няма.

— Згуба даследчай каманды стала незаменнай стратай.

Прафесар вырашыў не развіваць тэму — ён даўно пераканаўся ў тым, што для палкоўніка людзі не значылі роўным лікам нічога.

— Як плануеце ўводзіць Медзельца ў курс справы?

Прафесар прачысціў горла і патлумачыў:

— Пачну з дакументаў Аненербэ, затым нібыта выпадкова знайду дакументацыю па праекце... Перш чым дацэнт усвядоміць, у што ўляпаўся, ён будзе наш!

— У Медзельца не ўзнікне нязручных пытанняў?

— Я асабіста прагледзеў усе дакументы — дацэнт атрымае толькі тое, што я палічу неабходным яму даць!

Палкоўнік зноў усміхнуўся, пасля чаго строга сказаў:

— Толькі не фарсіруйце падзеі — гэта можа выклікаць падазрэнні...

З нагоды сёмага лістапада на станцыі быў абвешчаны выхадны.

— Пытайце, сёння я ў добрым настроі!

— Вольфганг Карлавіч, а гэта праўда, што вы былі сябрам НСДАП?

— Час быў такі, Глеб Міхайлавіч, — ніколькі не збянтэжыўся акадэмік Мюнцэр, — інакш кар'еру ў навуцы было не зрабіць. Як член КПСС вы зразумееце мяне.

— А паступацца прынцыпамі было цяжка?

— Прынцыпамі? — Мюнцэр засмяяўся. — Не кажыце глупства! Якія прынцыпы?.. Ці не ўсё адно, каму служыць? Абы плацілі!..

Усё паўтаралася. Калі хто і не звар'яцеў, то неўзабаве звар'яцее. Прафесар ведаў гэта лепш за ўсіх.

— Ваша задача — праверка працаздольнасці выпраменьвальніка і ацэнка магчымасці аднаўлення работ па праекце.

— Персанал ведае?

— У гэтым няма патрэбы. У мэтах захавання сакрэтнасці пра сапраўднае прызначэнне «вырабу № 890 311—Р» будзеце ведаць толькі вы адзін!.. Нягледзячы на тое, што людзі звязаны падпіскай аб нераспаўсюдзе, загадваю не дапусціць уцечкі інфармацыі!.. Спадзяюся, вы разумееце ўсю важнасць праекта, Глеб Міхайлавіч?

Прафесар выдатна разумеў і таму не шкадаваў сябе. Яны ўсе не шкадавалі сябе. Занадта вялікімі былі стаўкі.

— Гэта наш адзіны шанс спыніць амерыканцаў! — кіраўнік праекта генерал КДБ акадэмік Сідараў слепа верыў у тое, што Савецкі Саюз яшчэ мог адступіць ад прорвы.

Усе іншыя сумняваліся. Але працягвалі працаваць...

— Уздзеянне будзе схаваным і накіраваным. Ні бетон, ні метал, ні дрэва, ні цэгла перашкодай для хваль не стануць! — Мюнцэр любіў армянскі каньяк. Пахваліцца любіў не менш. — Мы станем упоравень з багамі!

Акадэмік зусім не перабольшваў. «Выраб № 890 311—Р» рабіў фантастыку рэальнасцю. Дыстанцыйнае псіхатропнае ўздзеянне дазваляла выклікаць змены паводзін і разумовай дзейнасці, рэакцый на падзеі і сітуацыі, парушаць працу функцыянальных сістэм і трансфармаваць клеткі тканін...

— А калі выпраменьвальнік да гэтага часу працуе? — ад адной толькі думкі кідала ў пот.

— Вы ж сцвярджалі, што ўнізе адбыўся выбух! — нагадаў палкоўнік.

— Дакладнай яго прыроды растлумачыць не здолею.

— Мы прадугледзелі і гэты варыянт.

— Што гэта?

— Нейтралізатар КВЧ-выпраменьвання. Вам няма чаго баяцца!.. Насіце на шыі...

— Сукі! — Казанцаў падазраваў, што кулон спецыяльна зрабілі далікатным. Навошта ІМ сведка? Мадуляваныя імпульсы прафесар бачыць не мог, але адчуваў, як яны руйнуюць яго мозг.

Час гуляў супраць Казанцава...

— Мы можам зрабіць з чалавека ўсё, што нам захочацца! І Звышчалавека, і раба! Пакалечыць і нават забіць яго! — Мюнцэр п'янеў не ад каньяку.

Ці задумваліся яны пра наступствы?

Магчыма, кагосьці і раздзіралі сумневы, але толькі не Казанцава. Спаў ён спакойна. Да таго часу, пакуль выпраменьвальнік не выйшаў з-пад кантролю...

— Пракляты чалавечы фактар! — Казанцаў быў гатовы разарваць Медзельца і Судзерава голымі рукамі. І тое, што іх абодвух накрыла выпраменьваннем, не прыносіла радасці. Дацэнт павінен быў толькі пераканацца ў тым, што ўстаноўка можа працаваць. Даследаванні планавалася пачаць пазней — з прыбыццём новай каманды навукоўцаў.

Застрэліцца?

Уся істота прафесара паўставала пры думцы аб смерці. Хай паміраюць іншыя!

## IX

У левым крыле загрукаталі стрэлы. Мяркуючы па ўсім, хтосьці ўсё ж дабраўся да зброі...

Усе тыя, каму пашчасціла захаваць розум, беглі з «Полюса недаступнасці» з наіўнай надзеяй вырвацца. Адкуль ім было ведаць, што радыус дзеяння артэфакта — паўсотні кіламетраў?

— А калі б і ведалі?

Вадзіць усюдыходы ўмелі адзінкі. І гэтыя адзінкі нікога не хацелі браць з сабой — кожны ратаваў толькі ўласную скуру...

Усюдыход урэзаўся ў скалу за дваццаць кіламетраў ад станцыі. Крыві было столькі, што яна заліла ўсю кабіну.

Ванітавыя спазмы сагнулі Казанцава напалову. Пусты страўнік выплюхнуў толькі жоўць — у галаве вадзіцеля зеўрала вялізная дзірка. Чалавек ляжаў тварам на рулі, падагнуўшы пад сябе нагу. На падлозе пакрываўся інеем пісталет...

Ланцужок слядоў заканчваўся напаўапранутым трупам. Паніка аказалася настолькі моцнай, што лейтэнант унутраных войск выскачыў на мароз у чым быў. Ні зброі, ні вады...

Нябожчыкі прыходзілі кожную ноч. І кожную ноч на працягу некалькіх гадоў Казанцаў прачынаўся ад уласнага крыку. Лекарам давялося прыкласці нямала намаганняў для таго, каб разагнаць цені.

Стралялі кароткімі чэргамі…

А цені чакалі, каб вярнуцца. Лекі толькі загналі іх у падсвядомасць…

Стрэлы ўсё бліжэй...

Свядомасць паплыла.

Казанцаў апусціўся на падлогу ды так і застаўся сядзець, прываліўшыся спіной да шафы і гледзячы ў нікуды. У прафесара больш не засталося сіл для супраціву. Фарбы свету цямянелі, пакуль не засталіся толькі два колеры — шэры і чорны. Аднак і гэты шэры вось-вось павінен быў стаць чорным.

Стрэлы цяпер нагадвалі нягучныя воплескі — губляліся не толькі фарбы.

Казанцаў фізічна адчуваў дотык цемры...

Калі прафесар ужо занёс над прорвай нагу, прагрымеў блізкі і таму аглушальны стрэл. Дзверы адчыніліся. Хтосьці бесцырымонна падняў Казанцаву павекі.

— Паспеў!

На шыю прафесара надзелі нешта металічнае, а ў рот улілі шчодрую порцыю каньяку. Праз некалькі хвілін Казанцаў ачуняў.

— Аляксандр Мікалаевіч?

— Здзіўлены?.. Вочы вас не падманваюць. Я не звар'яцеў. Усё дзякуючы гэтай рэчы! — шыю электрыка ўпрыгожваў тоўсты ланцужок.

Казанцаў адразу зразумеў, што гэта не ўпрыгожванне.

— Адкуль?

— Няма нічога, што нельга было б купіць за грошы, Глеб Міхайлавіч! Пытанне ў цане! — на баку Судзерава ствалом уніз вісеў аўтамат, ад якога рэзка пахла спаленым порахам.

— На каго вы працуеце?.. На амерыканцаў?

— Чаму адразу на амерыканцаў? Ніяк не можаце пазбавіцца ад савецкіх комплексаў? ЗША — адпрацаваны матэрыял. Будучыня за Цянь Ся!

— Кітай... А калі я адмоўлюся працаваць?.. Вы ж выратавалі мне жыццё зусім не з альтруістычных памкненняў!

— Не адмовіцеся, Глеб Міхайлавіч! — усміхнуўся электрык. — Вы занадта моцна яго любіце. Як і грошы... Кітайскі ўрад прапануе вам у два разы больш, чым плацілі лаомаоцзы. Будзеце працаваць пад кіраўніцтвам Медзельца!

— Дацэнт даў згоду?

— Цяжка адмовіць, ведаючы, што твая каханая дзяўчына ў любы момант можа памерці ў страшных пакутах. У Трыяд багатая і ненармальным фантазія... Як толькі скончыцца бура, я выклікаю верталёт. Падводная лодка чакае нас ля ўзбярэжжа.

— Думаеце, ніхто нічога не даведаецца?

— Даведаюцца, вядома! Але нічога нельга ўжо будзе зрабіць... Прыходзіць наш час!

— Вы не падобны на кітайца.

— У душы я Хань!.. Хопіць размоў! Марш у кают-кампанію!.. Не хачу пакідаць Медзельца без нагляду.

— Не трэба было!

Судзераў і Казанцаў разам павярнулі галовы — дацэнт стаяў у дзвярах. У яго руцэ была заціснута граната.

Прафесар адскочыў, а электрык схапіўся за аўтамат.

Позна.

Медзелец вырваў загвоздку яшчэ ў калідоры...



*Аліса МІНІНА*

# НІЯКАЙ ЗІМЫ НЕ БУДЗЕ



***Аліса Мініна нарадзілася 3 сакавіка 1993 года ў Асіповічах. Закончыла Інстытут журналістыкі і Школу маладога пісьменніка. Паэтка, якая мае празаічны тэкст у адным экзэмпляры.***

* * *

Ад любові да зайдрасці —
Адзін крок. Бачна звонку:
Пакуль я выдумляю радок,
У цябе ўжо — на старонку.
У цябе ўжо тры тамы —
Табе мала
Вершаваных мемарыялаў,
І ўласных ініцыялаў,
І маны,
Што была пасля.
Ты прыходзіш у сны,
Нібы той гусляр,
Пазіраеш у неба
І на гэтай глебе
Асадкай, як той рыдлёўкай,
Да стомы дня
Мне не дае спакою
Твая паэтычная і не толькі
Вышыня.

## ШТО ЗАСТАЕЦЦА СНАМІ

ты тут? як сувязь?
ізноў гудкі…
палоска цела
і белым майткі
палоска —
станік
відаць, што з ружамі
ты хутка ўстанеш
бо ўжо варушышся

я — сон, я — прывід
мяне няма
на месцы маім
глухая сцяна —
не закладзеш пралом
ані чарговым вершам
ані радком

паболей спі
пытайся ўпотай
суцэльны сплін
а што было б потым
ты праўду прыдумаў,
што выбраў не тую
я кожны твой дотык
табе дарую
я — кожны твой дотык.

**ВАЛАКАРДЗІМА**

Мы ляжым на падлозе,
І нас абдымае водар,
Які лезе ў старыя рамы
Праз кожную дзірку.
Зрабі выгляд, што спіш,
Зрабі гэта з асалодай,
І я кожную ранку
Перакладу ў гадзіну.
Абыякава, ці пераклад
Будзе трапны.
Я хачу, каб ён трапіў
У твой панцыр,
А ты зноў кідаеш мяне ля трапа
Канцавой невядомай
Аўтобуснай станцыі.
А мне што, а мне
І не трэба болей,
Як у далонях тваіх
Ціхенька цікаць.
Ад астатняга
І папярэдняга болю
Я лякуюся кроплямі
Валакардзіна.

* * *

Гэта першае — маякнуць
і трымаць сувязь.
Неабходна, каб слухаў нехта,
як ты кропкай на мапе,
метрам стомленых вуліц
закладаеш нясмелыя рухі
ва ўласны вектар.
Гаварыцца аб чым магчыма,
выходзіць словам,
калакольным звонам
плача,
працягвае ўздыхам,
каб надзейны мужчына
і чысцюткае сола,
каб на нашым ранча
было ціха.
На запраўцы не кава —
суцельная горыч,
паабапал дарогі людзі, што дзіўна.
І ўжо хутка, здаецца,
зямлю не зловіш,
бо цішэй і цішэй з кожнай гадзінай.
Уздоўж дарогі рака
шапоча сакрэты,
белы конь
ланцугом узбуджае ночы…

А паўсюль ўжо разліваецца
лета.
І ў яго нам
не патрапіць двойчы.

* * *

Цёртая морква,
Кубачак малака,
Рукі на месцы мокрым.
Цеплыня нарадзілася там,
Дзе твая вага
Знайшла цэнтр маёй зямлі.
Ноч у вокны
Стрыбае
Драпежнай коткай,
Свеціць вокам,
Драпае да крыві.
Ліжа шыю,
Кусае за вушкам,
Ты аднойчы назваў мяне мілай
І ніколі — птушкай.
І за гэта я адпускала
Яго на цягнік.
Усміхалася рэхам, джалам
Сваіх мінулых,
А ты марыў і змораны ехаў
У наш прытулак.
Піў нагбом,
Анічога не чуў,
Прытуляўся да грудзей
Ілбом,
Ужо тады адчуў,
Што ніякай зімы не будзе.

*Леанід ЛЕВАНОВІЧ*

# ДЗЕ МОЙ КРАЙ...




***Леанід Левановіч (Лявонаў) нарадзіўся 14 верасня 1938 года ў вёсцы Клеявічы Касцюковіцкага раёна. Скончыў Магілёўскае культпрасвет-вучылішча і факультэт журналістыкі БДУ. Працаваў у рэспубліканскіх газетах і часопісах, у выдавецтве «Мастацкая літаратура». Аўтар шматлікіх кніг прозы і нарысаў.***

*Ёсць адна песня песняў — пра Радзіму.*
Максім ТАНК

Ці ведаеш ты, мой ласкавы чытач, дзе знаходзяцца Віргінскія выспы? Мусіць, адразу і не адкажаш, і на мапе будзеш доўга шукаць. Падказваю для наводкі: абмываюць іх цёплыя хвалі Карыбскага мора. Цяпер знайсці іх лёгка, але патрапіць туды вой як няпроста.

Дык вось, нічога не ведаў пра Віргінскія астравы і мой герой — былы дырэктар торфабрыкетнага завода, а цяпер, як ён сам кажа, хранічны пенсіянер Пятро Андрэевіч Кузьміцкі. Але здарылася так, што неспадзеўкі яму пашчасціла патрапіць на далёкія экзатычныя выспы. Нечаканае падарожжа вельмі ўразіла яго: штодня Пятро рабіў занатоўкі пра ўбачанае і перажытае. І вось што ў яго атрымалася. Мушу папярэдзіць: Пятро Андрэевіч — чалавек бывалы, з сямі печаў хлеб еў, пратэпаў немалы жыццёвы шлях: вясковы хлапчук, які гадаваўся без бацькі, скончыў інстытут з чырвоным дыпломам і дарос да дырэктара завода. Але ў літаратуры ён дылетант і піша, як «дыша» — без выкрунтасаў, залішніх прыдумак і рознага штукарства.

## ДЗЕНЬ ПЕРШЫ

Ляцім над Атлантыкай. Курс на поўдзень, як птушкі ў вырай. Наперадзе — Маямі, сэрца Фларыды, там перасядзем на іншы самалёт і далей на трапічныя Віргіны. Да Маямі — тры гадзіны лёту, пасля іх — яшчэ тры. Вой, далёка вы разлегліся, экзатычныя астравы!

З Бостана вылецелі а восьмай. «Шмон» прайшлі паспяхова. Мытнік, цёмнаскуры, белазубы, загадаў зняць куртку, выцягнуць рэмень, разуцца. Я ўжо развязаў шнуркі, і тут Юля кажа: «Праходзь. Красоўкі дазволілі не здымаць». Ядрон батон! Які тэрарыст з сівагаловага дзеда ў красоўках. Спахапіўся, дабрадзей: раптам у мяне раматус, цяжка сагнуцца. А я і праўда не люблю абутак са шнуркамі, хоць і чэрава не разгадаваў, нахіліцца магу.

Самалёт доўга каціўся да ўзлётнай паласы, потым моцна загрукатаў маторамі, і крута паімчаў увышыню. «Боінг-737» даўжэзны, але не шырокі — шэсць месцаў у радзе. Вялікія, што лётаюць у Еўропу, шырозныя, нібы гумно, маюць па дзесяць крэслаў. Наперадзе сядзіць Алесік з бацькамі. Малы высунуў віхрастую галаву між крэслаў:

— Бабуля, ты хочаш спаць?

— Не, я гляджу на аблокі. Яны такія прыгожыя. Акурат белыя горы, — адказала баба Стася. — Быццам там заўсёды Новы год.

— Не, бабуля, да Новага года яшчэ далёка. А ты, дзядуля, хочаш спаць?

— Ды не, я выспаўся. Я вось сяджу і думаю... Уваччу карцінка: як ты важна коціш на калёсіках свой малы чамаданчык. І ўсе пасажыры ў Бостане табе ўсміхаюцца.

— Я ўжо вялікі. Мне чатылы годзікі...

Вядома ж, дзед не ўпусціў момант і нагадаў унуку песеньку: «Цік-так ходзікі. Мне чатыры годзікі. Чуб вясёлы светларусы. Тата з мамай — беларусы!» Унук бойка паўтарыў словы. Заварушыўся мой сусед справа, расплюшчыў вочы, паказаў Алесіку вялікі палец — маўляў, малайчына, гуд джоб! — і зноў задрамаў, схіліў лысую галаву. Быў сусед у шортах, цёмнай тэнісцы, а на дварэ — сярэдзіна лістапада, у Мінску выпаў снег, галалёдзіца. Нават Чыкага заваліла снегам. А на Віргінах учора было плюс 30, бушавала трапічная навальніца.

Ядрон батон! Якая ты вялікая, Зямля-матухна! Па-рознаму табе ўсміхаецца сонца, і такія розныя людзі жывуць на тваім улонні. Вунь коціць цялежку сцюардэса, маладая негрыцянка з вялізнай капою кучаравых валасоў.

— Бацька, што будзеце піць? Можна папрасіць крэнберы джус. Журавінавы сок. А можа, з раніцы лепей кавы. Скажаш: кофій ту. Дзве кавы, — параіла Юля.

Стася не пярэчыла. Сцюардэса падала два кубачкі кавы з малаком і восем даўгаваценькіх пакецікаў цукру.

— Гэта занадта. Не дзіва, што амерыканцы тоўстыя, — Стася адразу ж адклала ўбок чатыры пакецікі. — Хопіць нам па два.

Унук выпіў свой ліманад і адразу заснуў: яно і не дзіва, бо пабудзілі а пятай. Задрамала і Стася, схіліўшы галаву на маё плячо, таму я сядзеў і не варушыўся. Пазіраў на белыя аблокі пад крылом самалёта, а ў думках быў на сваім Палессі. Перад паездкай я глядзеў у інтэрнэце надвор'е ў Мінску і Гомелі. Не горача: нуль — мінус два, часам мокры снег. А мяне чакае цёплае мора, гарачы пясок і пальмы, якіх даўно не бачыў. Месяц таму, калі збіраліся ў Амерыку, сын прагаварыўся: Юля падрыхтавала сюрпрыз — паездку на цёплае мора, але папрасіла яго нічога пра гэта не казаць.

Яна распавяла пра паездку за тыдзень да вылету. Я адразу ж залез у інтэрнэт, адшукаў Віргінскія астравы, даведаўся, што яны падзяляюцца на амерыканскія, брытанскія і іспанскія. Адкрыў іх у 1493 годзе Хрыстафор Калумб. Выспы Сент-Джонс, Сент-Томас і Сент-Крокс належалі Даніі, у 1917 годзе іх набылі ЗША за 25 мільёнаў долараў. Мы прылятаем на Сент-Крокс і будзем там сем дзён. Чаму менавіта там? Знаёмая амерыканка прапанавала Юлі арэндаваць ейную двухпакаёўку на гэтай выспе, плата — сто баксаў у дзень. Больш як паўтары тысячы пацягнулі білеты. Самім давядзецца купляць прадукты, гатаваць ежу. Зяць Віктар замовіў машыну, на якой будзем калясіць па востраве.

— Паглядзі, якая вясёлка! — заварушылася Стася.

За ілюмінатарам зіхацела надзвычай яркая сямікалерная весялуха — гэтак кажуць на Палессі. Адзін яе канец быў у моры, быццам смактаў ваду, другі знікаў

дзесьці за аблокамі. Аблокі таксама былі незвычайныя: высозныя, шматслойныя, яны нагадвалі казачныя хмарачосы, якія ўрасталі ў неба. А над імі лунаў, быццам вялізны казачны альбатрос, наш самалёт.

— Глядзіце, справа — Куба, пад намі — Дамініканская Рэспубліка, злева — Пуэрта-Рыка, — падаў голас Віктар.

— А Божачкі, куды нас занесла! — ці то ўзрадавалася, ці то спалохалася Стася. — Шкада, што наш Алежка гэтага не ўбачыць.

Бабуля Стася болей за ўсіх бедавала, што старэйшы ўнук Алег застаўся адзін у Бостане, хоць і разумела — вучоба ў каледжы не дазволіла яму паляцець у адпачынак.

— А вунь якія паселішчы! Бясконцыя дамы. Нейкімі ўзорамі пастаўлены, — дзівілася Стася.

І праўда. Рознакаляровыя кубікі нагадвалі дзівосную мазаічную васьмёрку. А паўз бераг мора высіліся агромністыя хмарачосы, нібы на Манхэтане. Як цесна стаяць дамы! Цёплы клімат, урадлівая зямля, дзе растуць самыя розныя фрукты — Фларыда магнітам прыцягвае людзей, асабліва з тугім кашальком.

У велізарным аэрапорце Маямі багата цёмнаскурых жанчын і мужчын; уся абслуга, так бы мовіць, спрэс цёмнаскурая. Тэрміналаў шмат, усяго іх ажно шэсцьдзясят. Бясшумныя эскалатары, вакол — шкло і бетон, нават невялікі цягнік возіць пасажыраў. Вось табе і Маямі!

Ляцім далей. Уразіў сцюард з сотняй косак. Як гэта можна так заплесці валасы? І ў Бостане падобных бачыў, і сярод пасажыраў цёмнаскурых багата. Традыцыя. А вось у самалёце, калі мы са Стасяй ляцелі з Франкфурта-на-Майне, цёмнаскурая сцюардэса-прыгажуня выглядала нейкай дзівоснай кветкай сярод цыбатых, русявых, бландзіністых дзяўчат. Калі яна паварочвалася да пасажыра, дык нібы асвятляла яго чароўнай белазубай усмешкай. Вочы ў яе былі чорныя, як вугольчыкі, і свяціліся цеплынёй, пяшчотай. Грудзі, быццам какосавыя арэхі, тырчалі з-пад белай блузкі; іх вабна прыкрывалі ражкі блакітнай хусцінкі, завязанай на шыі. Іншыя сцюардэсы былі ў спадніцах, а яна — у цёмных штоніках, якія спакусліва абцягвалі сцёгны і азадак, што нагадваў два гарбузікі. Яе так і хацелася ўшчыкнуць!

Вядома, пра свае грэшныя думкі Стасі я не прызнаўся. Калі сцюардэса спыталася па-англійску, што мы хочам, я сказаў:

— Пліз, орэнч джус энд бір.

Калі яна падавала апельсінавы сок і піва, згледзеў ейныя светлыя падушачкі пальцаў і светлыя бялкі вачэй:

— Данке шон! — чамусьці вырвалася ў мяне.

— Бітэ шон! — пявучым голасам прамовіла прыгажуня.

— Божа, як перамяніўся свет! Яе продкі, можа, насілі толькі набедраныя павязкі. А яна лётае на самалётах Люфтганзы! Ведае мовы. Немцы прынялі яе на працу як сваю. Ці для экзотыкі, каб мужыкі вачыма распраналі, — глыбакадумна разважала Стася.

— Глабалізацыя, ядрон батон. Да таго ж прырода любіць разнастайнасць. Мужчыны — таксама, — гэтак жа глыбакадумна адказаў я. У душы падзівіўся, што дарагая жоначка амаль што адгадала мае грэшныя думкі.

## ДЗЕНЬ ДРУГІ

Учора а чацвёртай гадзіне па мясцовым часе (тут на гадзіну раней, чым у Бостане, прачынаецца сонца) наш самалёт мякка прызямліўся ў аэрапорце выспы Сент-Крокс. Перад пасадкай у вочы кінуліся агромністыя шэра-зялёныя вайсковыя самалёты. Было іх штук сем ці восем. Значыць, і тут амерыканская база.

Спусціліся з трапа, адразу патыхнула гарачынёй. Высозныя гладкастволыя пальмы з чубкамі галін, якія нагадвалі вееры, стаялі шарэнгамі паўз асфальтоўку. А па зялёнай траве хадзілі куры, спявалі пеўнікі. Дзівосы! Курэй і пеўнікаў было шмат. Усе чырвона-чорныя, яны важна пераходзілі дарогу, а машыны спыняліся, прапускалі іх, не сігналілі. Затое пеўнікі смела гарлапанілі. Але яны меншыя за нашых, таму і спяваюць цішэй, быццам саромеюцца, што жывуць у горадзе без прапіскі.

Касы аэрапорта былі не ўнутры памяшкання, а знадворку, пад брылём, нібы пад паветкаю. У дзвюх касах пасажыры афармлялі заказаныя раней аўто. Мы з Віктарам стаялі ў чарзе. Нарэшце сімпатычная, сталага веку негрыцянка выдала нам ключы, назвала нумар месца, дзе чакае нас аўто. Гэта быў шыкоўны мінівэн «Додж», дзверы яго самі расхінуліся, паднялося вечка багажніка. Вось такі сэрвіс!

Прымацавалі Алесікава крэсла, прышпілілі малога, Стася села побач з ім, Юля — каля вадзіцеля з разгорнутай картай. Мне дасталася месца пасярэдзіне.

— Тут жа левабаковы рух. Не ведаю, як мы ўпішамся, — трывожыўся Віктар. — Ніколі так не ездзіў...

— А ты не спяшайся. Не думаю, што тут вялікі рух, — супакоіла зяця Стася.

— Мая знаёмая сказала: на востраве машын мала, і ўсе маленькія. А тут стаяць спрэс мінівэны. І нумарацыя дарог незразумелая, — углядалася ў карту Юля.

Мы з Алесікам нічога не сказалі: малы заснуў, а я ўстрымаўся ад каментарыяў. Віктар тым часам завёў матор, мы ўсе прышпілі рамяні бяспекі і паехалі. Мне было дзіўна, калі Віктар рабіў правы паварот і стараўся патрапіць на левую паласу. А ў прыдарожных кустах капашыліся куры і пеўнікі. Экзотыка: пальмы і пеўнікі. Ядрон батон, курыны востраў!

Нарэшце мы даехалі, уладкаваліся ў апартаментах. Жанчына-камендант, загарэлая, рухавая, гучнагалосая, паказала, дзе што ляжыць. З халадзільніка дастала літровую пляшку рому: прэзент ад гаспадыні. У сеціве я вычытаў, што на выспе вырабляюць ром з цукровага трыснягу — пэўна, ён тут недарагі.

Сцямнела неяк раптоўна, мы селі за стол. Выпілі за мяккае прызямленне. Мне заманулася паспрабаваць чыстага рому — без лёду і соку. Скажу вам наўпрост: моцная пякучая самагонка, але раскрыцця смаку, як пасля нашай аржанушкі-весялушкі, не адчуў. А вось з лёдам і сокам напой даволі прыстойны.

Увечары плавалі ў басейне. Вада цёплая, марская, бо мора побач, за бетонным парапетам. Ёсць і сходкі, але тут камяні, густыя водарасці — увечары можна і нагу зламаць, хоць басейн і асветлены. Тут жа паўз басейн пад пальмамі — уваход у бар, дзе за столікамі сядзелі белыя мужчыны. Адзін лысы барадаты таўстун уладкаваў ногі на стале. Менавіта ў такой позе малявалі дзядзьку Сэма ў пасляваенных газетах і ў часопісе «Вожык». Гэта ўрэзалася ў памяць з дзяцінства. А тут усё было ўвачавідкі, толькі не хапала таўстуну даўжэзнай сігары. Мужчыны гучна гаманілі, смяяліся. Цёмнаскурыя афіцыянты бясшумна, нібы цені, разносілі піва і на шырокіх круглых падносах — гарачую піцу. А над пальмамі, на металічным флагштоку, ціха трапятаўся зорна-паласаты сцяг.

Мы наплаваліся ўволю. Мяне радаваў Алесік, які смела боўтаў нагамі, трымаючыся за бацькаву руку. Я лёг на спіну, раскінуў у бакі рукі і ногі, глядзеў у цёмнае бяздоннае неба, слухаў гул акіяна. Упершыню прымерыў амерыканскія плаўкі, даўжэзныя, як нашы сямейныя трусы, але з кішэнямі, матузкамі, каб мацней прывязаць — у вадзе не спаўзуць. Іх трэба двое: сёння плаваеш у адных, яны сохнуць, а заўтра нацягваеш другія. У такіх плаўках можна хадзіць, як у шортах, завітваць у бар, прыбярэжныя рэстараны. Зручна!

Падумалася: у Мінску, пэўна, пырхаюць сняжынкі, а на Палессі, можа, ідзе ледзяны дождж, а тут гэткая цяплынь. І незвычайная злагада, супакаенне агарнула душу. Нават дзеля гэтага імгнення варта было цалюткі дзень ляцець самалётам, плаціць немалыя грошы. Ды гэта ж толькі пачатак нашага падарожжа. І ў той жа час варухнулася думка: добра, што гэтае падарожжа кароткае — сем дзён праляцяць хутка.

Ішлі ў свае апартаменты. У густым кустоўі за высокім плотам гучаў магутны хор цыкадаў і малых жабак. Потым Віктар паказаў у мабільніку гэтых стварэнняў. Мне ўспомніліся вясновыя канцэрты зялёных жабак у прыдняпроўскіх затоках.

Пішу ў лоджыі. А палове на сёмую выкацілася з-за вяршыні зялёнай гары чырвонае сонца. Паднялося над пальмамі і адразу пачало прыпякаць, быццам яму далі лупу. Ядрон батон, што ж будзе ўдзень? Дый ноччу было душна, на ўсю моц працавалі вентылятары ды кандыцыянеры. Зірнуў на басейн, дзе ўчора плавалі. Збоч бялеўся пляж, цямнеліся грыбкі-парасоны, накрытыя пальмавымі галінамі. У басейн і на пляж можна трапіць толькі маючы ключы, якія выдаюцца жыхарам і квартарантам рэзорта. Мясцовы цёмнаскуры люд займаецца толькі абслугай.

Пасля снядання паехалі ў горад. Паўз вуліцы — зялёныя кусты, усыпаныя чырвонымі або жоўтымі кветкамі. А вось жоўтага лісця не ўбачыш, хоць на дварэ — позняя восень.

Прыехалі на мора. На сёння запланавана паездка на невялікі востраў, дзе добры зацішны пляж, зручны для малых. На пірсе гойдаўся на хвалях невялікі катар. Да вострава метраў трыста, але малады рудабароды шкіпер узяў з нас 21 бакс — па пяць з дарослых і адзін з Алесіка. Даў білеты, назад перавязе бясплатна.

Пясок ужо быў гарачы. Уладкаваліся на лежакі. Бацькі з Алесікам рынуліся да вады, а я застаўся пільнаваць рэчы: крадзяжы на пляжах здараюцца даволі часта. Паўз бераг вада зялёная — тут затока. Далей, у адкрытым моры, вада сіняя з малахітавым адлівам. Яшчэ далей коцяцца белыя буруны — мабыць, там каралавыя рыфы.

На востраве шмат птушак: нейкія шэрыя з белымі грудкамі, падобныя на плісак, але трохі большыя, з карацейшымі хвастамі; карычневыя галубы, трохі меншыя за нашых. Іх вельмі шмат, і яны лезуць на сталы, каб ухапіць кавалачак хлеба ці батона. Сталы на пляжы пластыкавыя, на металічных стойках, ёсць пальмавыя грыбкі. Здзівіла, як прыйшоў чалавек з абслугі, прабурыў у пяску глыбокую дзірку і ўставіў туды парасон. Ён і яна, абое добра ўкормленыя, разлягліся ў цяньку.

Сонца прыпякала ўсё мацней, прыйшоў Віктар, я здаў вахту і пакіраваў па гарачым пяску да вады. Першы раз акунуўся ў Карыбскім моры. Здзівіўся, якое яно цёплае, лагоднае. Хацелася паплыць далёка, але разумеў: за белыя буйкі заплываць нельга. Лёг на спіну, злёгку варушыў рукамі і нагамі, плыў да берага, гледзячы ў высокае бясхмарнае неба. Юля з Алесікам амаль не вылазілі з мора. Трохі паходзяць па беразе, пап'юць вады, якую прывезлі з сабой, і зноў — купацца.

А якая гэта асалода — хадзіць па вадзе лініяй прыбою! Мяккія хвалі нібы аблізваюць пяткі: адна адкоціцца, і ты ступаеш па пругкім гладкім пяску, але адразу ж накрывае ногі другая, пеністая, быццам запраўленая салёным шампунем. Любата! Міжволі прыгадалася маленства, прыдняпроўскі пляж, белы пясок, прахалодныя мяккія хвалі роднай ракі. А тут высокае сонца смаліць на ўсю моц — без панамы, цёмных акуляраў і белай кашулі з рукавамі быць на пляжы небяспечна.

Пасля поўдня народ пачаў хавацца ў цень, некаторыя занялі столікі ў рэстаране побач. Сцен і вокнаў у ім няма — сядзі, пацягвай халоднае піва і любуйся марскім пейзажам. Афіцыянт у шортах, белай тэнісцы і шлёпках разносіць піва, карэйлі ды салаты па ўсім пляжы. Падышоў і да нас. Юля сказала, што нам нічога не трэба. Мы з'елі свае бутэрброды, дапілі ваду і паехалі дамоў. Па дарозе назад завіталі ў старажытную крэпасць, якая месціцца на пагорку. Тут цяпер музей: у нішах стаяць гарматы, на стэндах — розная зброя. Алесік не даў нам доўга затрымацца — яго гэта мала цікавіла, дый стаміўся, час адпачываць. Гледзячы на пачварныя гарматы, я падумаў пра велізарныя шэра-зялёныя самалёты, якія ўбачыў тут. Ядрон батон, перагукваюцца стагоддзі. Чалавек не паразумнеў, не падабрэў...

Увечары адбыўся праменад: хадзілі па набярэжнай гарадка. Насціл драўляны, з тоўстых дошак. Гулякаў поўна, цёмнаскурых мала, белыя мужчыны амаль усе вусатыя, барадатыя, пузатых таксама шмат. Сямейныя пары з дзецьмі. Ідзеш, чуеш, як хлюпаюць пад насцілам хвалі, нібы сыта сёрбаюць піва ці ром. Людзі сядзяць за столікамі ўнутры кавярняў і знадворку. Кайфуюць.

— Гэта ж трэба было такую набярэжную замасціць, — выказала захапленне Стася.

— Не, мама. Гэта не Пальма-дэ-Маёрка. Мы з Віктарам чыталі ў інтэрнэце. Там самая прыгожая ў свеце бухта. Пляжы па восем кіламетраў. І набярэжная даўжэзная. А тут — вялікая вёска, — астудзіла Стасіна і маё захапленне Юля.

— А дзе гэтая Маёрка? — зацікавілася бабуля.

— У Міжземным моры. Каля Іспаніі, — паказаў я, што і мы, старыя, нешта ведаем. — Некалі ў мяне быў круіз вакол Еўропы. Мы заходзілі на Пальму-дэ-Маёрку. Гэта недалёка ад Барселоны.

— Ну во, бацька, ты ўсё ведаеш. Нават быў там. А мы з Віктарам плануем злётаць у Еўропу. Хай падрасце Алесік. Назбіраем баксаў. Мая сяброўка лётала нядаўна ў Ісландыю. Тур — пяць дзён. Вельмі спадабалася. У нас усе хваляцца, хто куды ездзіў.

Уладкаваліся і мы ў кавярні. Малады барадаты афіцыянт прынёс пяць асобнікаў меню — Алесіку таксама. І ён зрабіў заказ: чыкін і фрэнч-фрайз, гэта значыць кура і смажаная бульба. Мне заказалі шрымпы — крэветкі з бульбай. Крэветкі былі тоўстыя, сакаўныя, вельмі смачныя. Піва пілі ірландскае, цёмнае, насычанае.

Юля спыталася ў афіцыянта, які пляж тут найлепшы. Ён параіў з'ездзіць на Кейн Бэй, паказаў на карце, як туды даехаць, спытаўся, адкуль мы. Узрадаваўся, калі пачуў, што мы з Бостана. Аказваецца, ён з суседняга штата Мэн, улетку працуе там у рэстаране, а на зіму прылятае сюды, арэндуе з сябрам лодку, у якой начуюць, бо зняць кватэру дорага.

Уразіла, з якой прыязнасцю ён гаварыў, як хутка і ветліва абслужыў — свае чаявыя ён зарабіў сумленна. Параіў звярнуць увагу на камеру за рогам кавярні: калі нехта з нашых знаёмых зойдзе на сайт, які там пазначаны, дык убачыць нас.

Мы са Стасяй дзівіліся, калі Віктар патэлефанаваў у Бостан знаёмым, тыя зайшлі ў інтэрнэт, і неўзабаве з мабільніка пачулася: «Мы вас бачым!» Мы стаялі метраў за пяць ад цёмнага вакенца, махалі рукамі. Ядрон батон! Вось табе і далёкія астравы. Цывілізацыя не ведае межаў. А яшчэ падумалася: людзі ўсе вакол вясёлыя, спакойныя, задаволеныя жыццём. А колькі вакол дзятвы! Вясёлай, гарэзлівай, так бы мовіць, рознакаляровай. І белыя, і чорныя гулялі разам. Не хацелася думаць пра так званыя гарачыя кропкі планеты, пра бясконцыя тэракты...

## ДЗЕНЬ ТРЭЦІ

Раніцай паехалі на Кейн Бэй. Гэта значыць Трысняговая затока. Дабіраліся доўга пакручастай вузкай дарогай. Вакол — багатая трапічная расліннасць, высокія непралазныя кусты, некаторыя чырвоныя ад ружовых кветак, іншыя ўсыпаныя жоўтымі бутонамі. Паўз дарогу высокія какосавыя пальмы. Арэхі буйныя, нібы грэйпфруты; яны спеюць і падаюць на зямлю, трэскаюцца, а людзі і звяры іх ядуць.

Нарэшце даехалі да пляжа. Тут было амаль бязлюдна. Чысцюткая вада, белы дробны пясок. Можна ісці паўсотню метраў да глыбокіх месцаў. Праўда, шмат камянёў, каралаў — можна параніцца. Вада паўз бераг малахітавая, далей, дзе пачынаецца глыбіня, мора цёмнае, аквамарынавае.

Я ішоў па пяску лініяй прыбою і раптам згледзеў, як невялікі светла-руды краб шуснуў у сваю норку. Метры за два ад вады такіх круглых норак было шмат. Ядрон батон! Усюды жыццё. І ў пяску — таксама.

Неўзабаве падплыла маторка, кіраваў ёю барадаты чалавек. Наперадзе, на носе лодкі, сядзела смуглявая сімпатычная дзяўчына з доўгай касою, нібы русалка. Шкіпер развярнуў лодку кармою да берага і падняў матор. Дзяўчо скочыла ў ваду па самыя грудзі, за ёй — мужчына, і яны ўсцягнулі лодку на пясок. Затым шкіпер скінуў у ваду два балоны (мабыць, з кіслародам), дзяўчына ўзяла іх і панесла. Было відаць, што цяжкія, бо ішла яна павольна. Барадач дагнаў яе, забраў адзін балон.

Аказалася, што за шарэнгай пальмаў месцілася база аквалангістаў. Мужчына і жанчына, абое сталага веку, у абліпоністых касцюмах, з поўнай экіпіроўкай, адплылі ад берага і нырнулі. На паверхні засталіся два белыя буйкі і пляскатая белая каністра. Мабыць, па іх лодка знойдзе плыўцоў у моры і падбярэ праз пэўны час.

А потым прыехалі дзясяткі два аматараў падводнага плавання. Некаторым было гадоў па восемдзесят, а мо і па дзевяноста, ледзьве совалі нагамі ў ластах, а плавалі — будзь здароў! У масках, з трубкамі для дыхання. Таму і жывуць доўга, бо рухаюцца, сябруюць, не сядзяць, склаўшы рукі на канапе перад тэлевізарам. Мяне яны натхнілі на далёкі заплыў, ажно Юля ўстрывожылася, пачала махаць рукамі, каб вярнуўся. Вада была цёплай, вецер памацнеў, пеністыя хвалі набягалі на пясчаны бераг. Плавалі мы ўсе, і асабліва Алесік, з вялікай насалодай. Нават Стася доўга сядзела ў вадзе. Ядрон батон! Кайф у Карыбскім моры.

Неяк выйшаў я з вады, апрануў белую кашулю з рукавамі, пачаў азірацца навокал. Мяне зацікавіў цёмнаскуры юнак, які ішоў па краі шашы. Рослы, плячысты, мускулісты, быццам наліты сілаю, з магутнымі біцэпсамі і шырокімі грудзьмі, якія блішчэлі на сонцы, нібы адпаліраваны чыгун. На галаве хітра завязана чырвоная хустка, як у пірата, шэрыя шорты, белыя красоўкі. Быў ён чорны, як засланка, і незвычайна прыгожы. Самы чорны і самы прыгожы цёмнаскуры юнак, якога давялося пабачыць.

Пляж ахіналі высокія пальмы, на вяршыні іх віднеліся звязкі какосавых арэхаў. Некаторыя ўжо даспелі, патрэскаліся, зваліліся ўніз. Мы з Віктарам з цяжкасцю разбілі адзін, трэснуты. Малака ў ім ужо не было. Віктар сказаў, што мякаць таксама можна есці, а яшчэ дадаў:

— Чытаў у сеціве. Штогод на свеце чатыры-пяць чалавек гінуць ад какосавых арэхаў. Калі гэткі стукне па галаве, мала не будзе.

Пачуўшы размову, Стася ўстрывожылася:

— Дык што ж вы стаіце пад пальмай? Бяды чакаеце?

Бяды чакаць нам не хацелася, таму адышліся далей ад высокага дрэва.

Апоўдні, калі бязлітасна прыпякло сонца, мы пайшлі на ланч у мясцовы бар. Адкрытае памяшканне, нібы вялізная тэраса, шмат сталоў. Нас пасадзіла афіцыянтка на лаву ля доўгага стала з відам на пальмы, мора. На лаве пружыністыя падушкі — можна падкласці пад спіну, адкінуцца і пацягваць піва «Будвайзер». Галоўны бровар кампаніі знаходзіцца каля Бостана, некалі мы былі там на дэгустацыі свежага піва.

Афіцыянтка — маладзенькае дзяўчо ў кароткіх абліпоністых цёмных шорціках, цёмна-шэрай маечцы. Прыгожы тварык, дзве акуратныя коскі, у носе — залачоны пірсінг. Пэўна, наведнікі бара любуюцца гэткай прыгажуняй, а яна ўпадабала Алесіка, усё ўсміхалася яму, не зводзіла вачэй, а малы шчабятаў з ёй па-англійску, вядома ж, сам зрабіў сабе заказ. Мне замовілі рыбу з бульбяным гарнірам, салатай, яшчэ нейкімі лісткамі. Порцыя вялізная, але, як у нашай вёсцы кажуць, вымярхаўся я добра, таму з’еў усё са смакам. Пацягваў піва з рыльца — куфляў не даюць — і не мог налюбавацца панарамай акіяна, зялёнымі шапкамі невысокіх гор.

Віктар паказаў сваю дасведчанасць: наш востраў і суседнія — гэта вярхушка горнай грады. Прыкладна за паўвярсты ад берага ў вадзе абрыў глыбінёй кіламетры два, а то і тры. Вось там і шпацыруюць смелыя аквалангісты. Юля спыталася ў барадатага бармена, ці можна паехаць назад праз горы. Ён вінавата ўсміхнуўся, ветліва адказаў, што дапамагчы не можа, бо працуе ўсяго два тыдні. Прызнаўся (Юля разгаворыць каго заўгодна), што ён з Аляскі, летам працуе там у рэстаране, а тут — зімой. Нават прызнаўся, што пад вясну, калі тут стане вельмі горача, паедзе ў Балгарыю — там жыве ягоная гёрлфрэнд.

Стойка бара ад акіяна застаўлена бутэлькамі самых розных колераў і памераў. Бутэлек сотня, а можа, і болей. Бармен стаяў і ад няма чаго рабіць (наведнікаў было мала) віртуозна падкідваў і лавіў бутэльку. Гэта вельмі зацікавіла Алесіка, ён глядзеў ва ўсе вочы на барадатага дзівака і ўсміхаўся. Бармен заўважыў пагляды малога, усміхнуўся і памахаў рукою, як гэта любяць рабіць амерыканцы.

Юля запыталася пра дарогу ў афіцыянткі. Дзяўчо схілілася над картай і фіялетавым пазногцем тыцнула, дзе трэба павярнуць направа, потым налева. Аказалася, што яна жыве недалёка ад нашай кватэры і на машыне ездзіць на працу па горнай дарозе. Неўзабаве тут пачнецца курортны сезон і будзе доўжыцца да канца мая. Як надыходзіць лета, жыццё на Віргінах замірае, бо спёка неверагодная. Мы са Стасяй і цяпер пакутавалі ад гарачыні. Усю ноч у нашым пакоі круціўся пад столлю вентылятар, працаваў кандыцыянер. Але ж мы тут на тыдзень, нацешымся морам і сонцам дый паляцім у Бостан, а пад вясну разам з птушкамі паімчым на Палессе: у гасцях добра, а дома лепш.

А шостай гадзіне прытэпаў Алесік: «Ку-ку! — зазвінеў вясёлы галасок. — Бабуля, плігатоў мне малачка». Стася пасунулася да халадзільніка, а я прыхінуў малога да сябе.

— Як спалася? Як настрой?

— Настлой доблы. Паедзем на новы пляж.

Малы загарэў і, падалося, што падрос за гэтыя дні. Ён раней пабываў у Мексіцы і Пуэрта-Рыка. І ўсюды возіць з сабой жоўта-рудага жырафа ды фланелевую мяккую коўдрачку ў чырвоныя, сінія, жоўтыя і зялёныя кругі велічынёю з пятак. Прывёз ён сюды і любімы паравозік з трыма вагонамі. Неяк сур’ёзным тонам зазначыў: калі вырасце, будзе машыністам цягніка. Бацькі і мы са Стасяй гадуем чалавека для Амерыкі. Ці магла падумаць мая маці, што яе праўнук народзіцца ў далёкай краіне, будзе гаварыць з аднагодкамі на іншай мове, жыць (а як вырасце, і працаваць) у іншай краіне. І зваць яго будуць Алексам. Галоўнае, каб ён стаў добрым чалавекам, каб і ад яго болела дабрыні на планеце Зямля.

Успомнілася, як тры гады таму позняй восенню я прыехаў у Бостан і ўбачыў малога Алесіка. Спачатку ён не ішоў да мяне, а потым асвойтаўся, палюбіў, калі я нашу яго на руках і мармычу песеньку: «Сядзем мы, сядзем, сядзем дый паедзем да майго двара...» Гэта здаралася ўдзень, калі бацькі — на працы, а Стася — на кухні. Я ўкладваў малога спаць, насіў, гушкаў; ён пазіраў на мяне валошкавымі вачанятамі, і мне здавалася, што ён глядзіць і бачыць праз мяне, бачыць маіх бацькоў і дзядоў. Я ж гадаваў сваіх дзяцей, укладваў іх спаць, але такіх паглядаў не заўважаў, ці не было калі, ці сам яшчэ быў зялёным. Гэта, мабыць, на генным узроўні — такая праніклівасць малых дзяцей. Цяпер падобных Алесікавых паглядаў не заўважаю.

Але адна мілая звычка ў яго засталася з першага года жыцця: калі п'е малако, у адной руцэ трымае сіпі-кап — пластмасавы кубачак з накрыўкаю і вушкамі. У носіку тры дзірачкі, праз іх малы смокча малако. Дык вось, другою рукою ён любіць трымацца за гузік мамы ці бабулі — калі я карміў, значыць, за мой. Я загадзя расшпільваў знізу кашулю, каб яму было зручней учапіцца за гузік. Дзіўная звычка. Чаму так? Сіпі-кап мы прывезлі і сюды: хоць унук ужо можа піць з кубка і са шклянкі, але ўвечары і ўранні малако п'е з любімага сіпі-капа.

Набраў і сюды дзіцячых кніжак. Праўда, чытаць няма калі. У Бостане вечарамі чытаем шмат. Я болей расказваю беларускія казкі: пра Лісіцу-хітрыцу, пра Ганарыстую Варону, пра Коніка і Мураша, пра Быка і яго сяброў. Неяк ён мяне паправіў: апавядаў я казку пра Быка, як той убачыў туман над ракою, падумаў, што гэта дым, спалохаўся, затрубіў: «Зямля гарыць, вада гарыць! Трэба ратавацца, бегчы на край света». І вось бягуць, далучыліся да яго Казёл, Свінка, кажу: «Пеўнік!» — «Не, дзядуля, не Пеўнік, а Гусак. Пеўнік будзе потым». Бывае, пачну казку пра Палярны экспрэс, а ён працягвае і так выразна, эмацыйна размахвае рукамі. Памяць выключная. Што з яго будзе?

## ДЗЕНЬ ЧАЦВЁРТЫ

Зноў пішу на балконе. Над чубатымі пальмамі падымаецца сонца. Напякло ў левую шчаку, перасеў, падставіў правую. Але якое гарачае — з самай раніцы прыпякае. Пазіраю на хвалі, на чалавека з металашукальнікам. Ён у шортах, без кашулі, капаецца ў пяску, знаходзіць манеткі, кладзе іх на круглы столік пад пальмавым грыбком. Таксама бізнес! Выцірае ўзмакрэлы лоб, бо капацца даводзіцца глыбока ды сагнуўшыся, а ён ужо не маладзён. Сабраў манеты ў кішэню, міма басейна пакіраваў далей. Пошук працягваецца.

Праганяе сонца з балкона, а зараз толькі палова на восьмую. Міжволі падумалася: сёння палова лістапада, у Мінску пачынаюцца самыя цёмныя дні. І будуць яны цёмнымі, з рэдкімі праблiскамі, да самага Новага года. А там пасвятлее, дзень пачне расці хутчэй. Хочацца дамоў!

Пасля снедання Віктар сказаў:

— Сёння, едучы на пляж, завітаем на ферму. Там ёсць свінкі, якія любяць піва. Во, напісана пра гэта...

— О, я хачу пабачыць свінак! — узрадаваўся Алесік. — А яны падобныя на свінку Пепу з мульціка?

— От убачым іх, і ты сам зразумееш, ці падобныя яны, — сказала Юля. — Пацярпі трохі.

Мы доўга ехалі праз сапраўдныя джунглі: пераплеценыя ліянамі кусты, сцяблiны. Ліяны звісаюць на дарогу тонкімі і тоўстымі ніцямі. Раптам з кустоўя высу-

нуліся дзве казулі: адна перабегла шашу, другая павярнула назад. Віктар прыцішыў хуткасць, я згледзеў казулю, якая чакала, пакуль мы праедзем. Паўз дарогу стаялі велізарныя дрэвы, каля зямлі — у тры-чатыры абхваты. Сям-там бяleліся пабудовы. Думалася: як тут людзі жывуць? Нарэшце дабраліся да фермы. Тоўстая негрыцянка сказала, што яна зараз пакорміць свінак, і тады можна будзе іх пабачыць, пачаставаць півам. Турыстаў да іх дапускаюць а дзясятай гадзіне, а было без чвэрці дзесяць. Значыць, трэба чакаць. Нас, дарослых, гэта мала цікавіла, дзеля Алесіка засталіся. Трохі воддаль было навязана асляня. Юлі заманулася яго сфатаграфаваць. Асляняці гэта нядужа спадабалася, ён пачаў біць капытамі аб зямлю, а потым гучна затрубіў, і мы падзівіліся, які ў яго моцны голас.

З боку фермы — бар і столікі на адкрытай тэрасе. Наведнікаў пакуль што не было. Неўзабаве гаспадыня паклікала нас, спыталася, ці будзем купляць піва, параіла ўзяць бляшанку і бутэльку: кабан любіць трушчыць бляшанкі, а свінкі — іх дзве — ахвотна п'юць з бутэлькі. Кошт — тры долары адна порцыя. У краме бутэлька піва — два долары, на пляжы — пяць. Купілі піва, падыходзім. У клетцы здаравенны даўжэзны чорны кабан. Свінкі таксама чорныя, трохі меншыя за самца. Кабан адразу ўзваліў даўжэзны лыч на бар'ер, зарохкаў, нібы прасіў пачастунак. Гаспадыня параіла кінуць бляшанку ў карыта. Юля ўзяла Алесіка на рукі, каб ён лепей бачыў увесь працэс. Віктар кінуў бляшанку, кабан абнюхаў яе, ухапіў зубамі, спрытна раструшчыў, задраў угору лыч, каб любімы напой не разліваўся, і заплюшчыў вочы — мабыць, ад насалоды. Бельгійскае піва Blue Moon са смакам пілі свінкі. Віктар адкаркаваў яго — і выліў у разяўленыя пашчы свінак.

Вось такое відовішча. Славутыя свінкі ёсць ва ўсіх турыстычных даведніках. Я ўзяў бутэлечку з блакітнымі наклейкамі, прачытаў, што яна змяшчае 355 грамаў напоя, які мае пяць і чатыры дзясятыя адсотка алкаголю. Міжволі падумалася: дзе тая Бельгія, ад Віргінаў да яе мо каля дзесяці тысяч кіламетраў, а піва прытарабанілі ў трапічныя джунглі, каб напаіць экзатычных славутых свінак. Ядрон батон! Бізнес не ведае межаў.

— А свінка з мульціка не такая. Яна белая з чырвоным пятачком, — зазначыў задаволены ўбачаным Алесік.

Бацькі малога былі таксама задаволены, шырока ўсміхалася гаспадыня, паказваючы буйныя белыя, нібы часнок, зубы, сыта рохкалі свінкі. Мабыць, толькі я пашкадаваў страчаных дзевяць баксаў: дадалі б тры і купілі б упакаваны сікс-пэк — шэсць бутэлечак. Па адной не прадаюць, толькі па шэсць, дванаццаць і дваццаць чатыры — за большую ўпакоўку два баксы скідка. Стымул!

Паехалі далей, кіруючыся на пляж Sandy Point (Пясчаны бераг), які знаходзіцца ў нацыянальным парку. Аматараў плавання пускаюць туды толькі ў суботу і нядзелю. Ніякага сэрвіса там няма, затое чыстая вада і даўжэзны пясчаны пляж — самы лепшы. Доўга ехалі па вузкай асфальтоўцы і нарэшце дабраліся да паркінга. Пакінулі машыну і па вузкай сцежцы між калючага кустоўя пацягнуліся далей. Вось і пясчаны бераг, атулены высокімі кустамі, але да вады яшчэ каля паўсотні метраў. На пяску — даўжэзныя тоўстыя, нібы зялёныя вяроўкі, сцябліны з цвёрдымі гладкімі лістамі. Карані ідуць у зямлю ў цяні кустоўя, а сцябліны распаўзаюцца на дзясяткі метраў па гарачым пяску, як наша дзераза ў лесе. Дзівоснае відовішча. Да чаго на выдумкі прырода шчодрая — некалі даўно здзіўляўся славуты байкар дзядуля Крылоў.

Напачатку купальшчыкаў было мала, але потым яны сталі прыбываць вялікімі кампаніямі са сваімі шэзлонгамі, парасонамі, півам і бутэрбродамі. Вецер памацнеў,

пеністыя хвалі накатваліся на пясок. Болей за ўсіх радаваўся Алесік: разганяўся па пляжы, пясчаная сцяна нібы абрывалася, і тады пачынаўся пакаты спуск вышынёй паўтара — два метры. Вось з яго са смехам і тэпаў малы рызыкант, бег да вады, дзе падхоплівалі бацькі. А я стаяў на падстрахоўцы, калі Алесік бегам спускаўся разам з пяском з вышыні. На радасць бацькоў і маю, малы ні разу не зарыўся носам у пясок. Вада была вельмі цёплая. Мусіць, гадзіны дзве і я праплаваў з кароткімі перадышкамі — ні ў Балтыйскім, ні ў Чорным моры такога не было. На старасці ўстанавіў рэкорд. Амаль столькі ж плавала і Стася. Так што дзядуля і бабуля сталі рэкардсменамі.

Вада не толькі цёплая, але і чыстая. На маторках тут плаваць нельга, машыны блізка не пад’язджаюць. Удалечыні часам праплывалі белыя цеплаходы. На беразе зноў бачыў безліч крабавых норак. Жывуць небаракі! Зялёныя сцяблiны на гарачым пяску і крабавыя норкі яскрава сведчылі пра невынішчальнасць Жыцця.

Ехалі дамоў, завіталі ў велізарны супермаркет транснацыянальнай кампаніі. Шырачэзны паркінг (на востраве так мала роўнай зямлі), даўжэзнае памяшканне. А колькі тут самых разнастайных тавараў! А гэта ж усё трэба было прывезці здалёку. Піва з Бельгіі, ЗША і Мексікі, гарэлка «Абсалют» са Швецыі, самыя розныя вырабы з Кітая, Аргенціны. Пакупнікоў было мала, у асноўным жанчыны, амаль усе цёмнаскурыя. І касіркі, і ўся абслуга — гэтакія ж.

Тут я пабачыў самую сэксапільную негрыцянку. У вялізнай калясцы, у якой складваюць пакупкі, яна каціла маленькую дзяўчынку. Амаль да пояса з галавы прыгажуні звісала сотня, а мо і болей (пэўна, ніхто іх не лічыў), цёмных косак; на цёмным круглым твары блішчэлі цёмныя вочы, звабныя ружовыя вусны, авальнае мяккае падбароддзе, грудзі — акурат дзве дыні, надзіва тонкая талія і шырачэзны азадак. Можна было пазайздросціць ейнаму мужу, які валодае гэткім багаццем.

Мы хадзілі даўжэзнымі вуліцамі (інакш не назавеш гандлёвыя рады гэтай велізарнай крамы), шукаючы нарукаўнікі для Алесіка. Нарэшце знайшлі жоўтыя надзіманыя паўшар’і — з імі лягчэй трымацца на вадзе. Потым даволі хутка мы адшукалі ром і піва, купілі розных прысмакаў.

Увечары моладзь плавала ў басейне, мы са Стасяй любаваліся імі з балкона і лічылі дні, калі адсюль паедзем. Вось такія мы турысты.

### ДЗЕНЬ ПЯТЫ

Зноў светлы ранак, бязвоблачнае неба. Віктар схіліўся над картай, высвятляючы маршрут да новага пляжа.

— Сёння ў нас у праграме Rainbow Beach. Гэта значыць Вясёлкавы пляж. Паедзем на паўночны бок вострава, — патлумачыла нам Юля, пакуючы торбы з ручнікамі, плаўкамі. — Сёння праверым нарукаўнікі. Як будзе плаваць з імі Алесік.

І вось едзем. Віктар ужо асвойтаўся з новымі правіламі руху. Машын на дарозе небагата, на паваротах ветліва прапускаюць — махаюць рукой: праязджай. Віктар махае ў адказ і вырульвае на левую паласу. Тут кідаюцца ў вочы старыя невялікія дамы, вокны без шкла. Такія ёсць і ў цэнтры. Юля неяк паказала высозныя пабудовы: гэта нафтаперапрацоўчы завод, які зараз не працуе — аказаўся нерэнтабельным, абсталяванне састарэла, і кампанія закрыла яго. Сотні людзей засталіся без працы. Ратуе турызм. Ёсць сельскагаспадарчыя фермы, мы бачылі статак кароў — усе як адна бурыя. Сустракаюцца статкі коз, можна ўбачыць каня, амаль побач з ім — легкавік. І ўсюды куры і пеўнікі. Мабыць, яны кормяцца самі: трава зялёная круглы год, кузюрак, чарвякоў хапае.

У першы дзень уразілі нас сонечныя батарэі. Стася здзівілася:

— А што гэта за шчыты? Мусіць, нешта расце пад імі?

Я таксама звярнуў увагу на даўжэзныя рады металічных рабрыстых шчытоў, падобных на лісты шыферу. Віктар сказаў, што гэта — сонечныя батарэі, сонца смаліць круглы год, такім чынам вырашаецца праблема з электрычнасцю. Мяне гэта асабліва зацікавіла, бо часта думаю: за апошнія два стагоддзі чалавецтва з'ела болей каменнага вугалю, нафты, газу, торфа, чым за ранейшую гісторыю. І апетыт сучаснага грамадства спажывання расце з кожным днём, гэта асабліва прыкметна на амерыканскай зямлі, дзе велізарныя хмарачосы, аграмадныя супермаркеты, бясконцы паток машын, а яны ўсе просяць піць, без электрычнасці ўсё замірае.

Таму мне часта думаецца: а што далей? Ну, на паўсотню, хай сотню гадоў хопіць, а далей? Што застанецца нашым унукам, праўнукам? Скарачаць вытворчасць — значыць звальняць людзей, а ім трэба жыць, саграваць кватэры, а дзе і наадварот — астуджаць, без кандыцыянера не абыдзешся. Таму мяне парадавалі сонечныя батарэі. З цікавасцю пазіраў і на ветракі ў Нямеччыне.

Ёсць вялікі рэзерв эканоміі — раззбраенне. Людзі змушаны будуць гэтым заняцца. Скарачэнне прыродных рэсурсаў прымусіць чалавецтва скарачаць запасы ўзбраення, думаць пра эканомію. Гэта ўва мне загаварыў былы дырэктар торфабрыкетнага завода. Маё сэрца аблівалася крывёю, калі мы спальвалі торф — каштоўнейшы дар прыроды.

А цяпер пра новы Вясёлкавы пляж. Ён меншы за ўчарашні, пясок гарачы, вада цёплая, каля берага — блакітна-жоўтая, а далей — цёмна-сіняя, там глыбіня. Каля берага месцамі каралы, уваходзіць у мора трэба асцярожна. Алесік з жоўтымі нарукаўнікамі лёгка трымаўся на вадзе, бабахаў нагамі, толькі пырскі разляталіся вакол. Я са смакам паплаваў, потым хадзіў па беразе. Купальшчыкі ўсё прыбывалі, мацнеў і вецер, пеністыя хвалі накатваліся на пясок. І тут поўна крабавых норак, але іхнія жыхары не паказваюцца — мабыць, ноччу выходзяць на паляванне.

На гэтым пляжы адбылося нечаканае здарэнне, але пра яго заўтра.

**ДЗЕНЬ ШОСТЫ**

Сёння моцны вецер: акіян сярдзіта шуміць, удалечыні белыя буруны хваляў. Пальмы над нашым басейнам варушаць доўгімі вузкімі лістамі, падобнымі на пеўнікавы пёры. Дзесьці чытаў, што любое параўнанне кульгае, але мне здаецца, што пальмы варушаць лісцем, нібы пстрыкаюць нажніцамі.

Дык вось што адбылося ўчора. Я хадзіў па беразе. Насустрач ішоў сталага веку смуглявы вусаты, падобны на індуса мужчына ў плаўках, цёмных акулярах і капелюшы. Ён кіўнуў мне, павярнуў у ваду, акунуўся, пачаў махаць рукою — некага клікаў. Я падышоў да Віктара, які з Алесікам узяўся будаваць пясчаны замак. Неўзабаве да мужчыны падышла маладая негрыцянка з дзяўчынкай гадоў пяці. Малая трымала ружовы нодул — паралонавую трубку даўжэй за метр, якая дапамагае трымацца на вадзе. Малая акунулася з бацькамі, затым выйшла на бераг, пратэпала міма мяне, прыглядаючыся да пясчанага замка, які Алесік будаваў з бацькамі. У цёмных валосіках дзяўчынкі чырванеўся вялікі каснік, купальнік на ёй быў у чырвона-жоўтыя гарызантальныя палоскі. У руках яна трымала ружовы нодул, а сама была смуглявая, быццам вылепленая з шакаладу.

Вецер мацнеў, хвалі сярдзіта шыпелі, напаўзалі на пясок. Я глядзеў на пару аквалангістаў у ластах, якія задам сунуліся да вады. Мужчына ўжо увайшоў па грудзі,

чакаў жанчыну. Раптам ён пачаў махаць рукамі, нешта крычаць. Я азірнуўся — дзяўчо бязладна боўтала ручанятамі, ружовы нодул калыхаўся на пеністых хвалях каля берага. Я быў бліжэй за ўсіх да малой і кінуўся ратаваць. Тут былі каралы, я спатыкнуўся, моцна выцяў аб камень калена, сігануў пад хвалю, вынырнуў каля дзяўчынкі, якая ўжо не боўтала рукамі — мусіць, насёрбалася вады. Быў бачны толькі чырвоны каснік. Прыхінуў халоднае цельца да боку, паплыў да берага, намацаў нагамі дно, стаў. Да мяне падбегла спалоханая маці, выхапіла дачку.

Юля параіла павярнуць малую на жывот, пакласці на калена. Маці зрабіла так, і з рота дзяўчынкі палілася вада. Потым яе палажылі на пясок. Маці масажыравала яе грудкі, неўзабаве малая пачала варушыць нагамі, расплюшчыла вочы. Тут я ўбачыў, што маё калена чырвонае ад крыві, увайшоў у ваду, абмыўся, рана зашчыпала. Юля хуценька збегала да машыны, прынесла пластыр, заклеіла рану.

Да мяне падышоў бацька малой, склаў далоні перад грудзямі, нізка пакланіўся, затым пачаў нешта гаварыць. Я зразумеў толькі: «Сэнк'ю вэры мач». Я прамовіў: «Ай донт андэстэнд інгліш, спік э літл». Пэўна, ён уцяміў, што я не разумею па-англійску, толькі трохі размаўляю. Мужчына нешта сказаў жонцы, пайшоў да машыны. Неўзабаве вярнуўся з пакетам, перада мной дастаў з яго літровую бутэльку рома і падаў мне. Я папрасіў Юлю перакласці, што мне нічога не трэба, адвёў яго руку з бутэлькай убок, а ён усё адно сунуў мне. «Бяры, бацька. Ён вельмі просіць узяць, ён вельмі ўдзячны. Ты выратаваў Лілі, іхнюю адзіную дачушку».

Давялося ўзяць бутэльку, і мы пакіравалі з Віктарам да машыны. Яна стаяла ў цяньку, кузаў нядужа моцна нагрэўся. Я зняў мокрыя плаўкі. Адчуваў сябе нейк млосна, кружылася галава. Выпіў вады, пасядзеў трохі ў цяньку пад пальмай. Угледзеў аквалангістаў: яны плавалі далёка ад берага. Міжволі пазайздросціў ім. Добра, што гэты чалавек першым заўважыў, як дзяўчынку збіла хваля і панесла ў мора. Здалёк я бачыў, што Юля з мамай Лілі пра нешта гавораць, потым пайшлі да іхняй машыны, нешта запісвалі.

Неўзабаве мы паехалі дамоў. Па дарозе Юля расказала, што бацька Лілі — прафесар, этнічны індус, яго першая жонка загінула ў аўтааварыі, ёсць дарослы сын, потым прафесар ажаніўся са сваёй цёмнаскурай студэнткай. У іх нарадзілася Лілі. Джэйн — так завуць Ліліну маці — запісала адрас, яны хочуць запрасіць на Сэнксгівін. Жывуць яны ў штаце Каларада, у горадзе Дэнвер. Мы са Стасяй парадаваліся, што ў нашых з'явіліся новыя знаёмыя.

— Дзеда, а калі б не ты, Лілі патанула б? Ты вылатаваў яе? — дапытваўся Алесік.

— Да яе бегла мама. Яна б выратавала. Проста я быў бліжэй за ўсіх.

— Бацька, ты ў нас герой. Невядома, як бы ратавала мама. Можа, яна і плаваць не ўмее. А ты выратаваў... Баліць калена? — спагадліва пыталася Юля.

Мне было няёмка, таму перавёў размову ў іншае рэчышча:

— Во, Стася, глядзі. Сонечныя батарэі...

Увечары планавалі паехаць у горад, але мне з параненым каленам ехаць не хацелася. Стася прапанавала:

— Вы едзьце, пагуляйце. А мы з бацькам пабудзем дома.

— Я прапаную другі варыянт. Мы ж не былі ў бары каля басейна. Да таго ж, сіноптыкі абяцаюць дождж, — сказаў Віктар.

Пярэчыць не выпадала. Пайшлі ў бар, які называецца «Прытулак піратаў». У напаўцёмнай зале наведнікаў было мала. Афіцыянтка адразу ўзяла заказ, прынесла піва — мексіканскую «Карону». З рыльцаў бутэлек тырчалі долькі лімо-

на — выцісні адну і смакчы напой. Але піва так сабе, а без лімона, пэўна, было б яшчэ горшым. Карону пераможцы мексіканскаму піву я б не прысудзіў. Афіцыянтка папярэдзіла, што піцу гатуюць даўжэй, давядзецца пачакаць. Тут нешта зашумела, і раптам абрынуўся магутны трапічны лівень. За столікам у двары пад брызентавым навесам сядзела кампанія: два белыя мужчыны і тры негрыцянкі — на іх паліўся паток вады, яны хуценька пераселі за другі стол.

З боку басейна палілася вада праз нізкі парог. Два хлопцы з чарпакамі і швабрамі ўзяліся асушваць падлогу. Асляпляльна бліснула маланка, ляснуў пярун. Так, сіноптыкі не падманулі. Можна сказаць, нам пашчасціла — перажылі трапічны лівень з навальніцай. Дождж хутка скончыўся — гэтак жа рэзка, як і пачаўся.

— А вунь кухар нясе нашу піцу, — угледзеў Віктар. — Кухня ў іншым памяшканні. Добра, што дождж перастаў.

Неўзабаве да нашага стала наблізіўся высачэзны і таўшчэзны, нібы шафа, рудабароды мужык з вялізным круглым падносам. Ветліва прывітаўся, паставіў на стол гарачую духмяную піцу, адхінуў бялюткую сурвэтку, пажадаў смачна есці.

— Ну і граміла, — падзівілася Стася. — Нават піратаў можа напалохаць.

Піцу ён згатаваў выдатную. Нават Алесік з’еў ладны кавалак.

Раптам зазваніў Юлін мабільнік: тэлефанаваў Алежка з Бостана, засумаваў, распытаў пра ўсё. «А мы вячэраем у рэстаране. На дварэ трапічны лівень. О, ён ужо канчаецца. І наш адпачынак таксама... Праз пару дзён будзем дома. Ну, трымайся!» Мы са Стасяй пераглянуліся: рады за дачку, у яе добрая сям’я, харошыя дзеці. Унукі для старых — самая вялікая радасць.

Пасля снядання Юля з Віктарам уселіся за карту, каб канчаткова вызначыць новы маршрут. Алесік дапытваўся ў мяне: ці баліць калена? Я сказаў, што яно ўжо не баліць, мама Юля добра прыклала пластыр.

— Сёння паедзем на ўсход. Пабачым самы ўсходні пункт Штатаў. Далей амерыканскай тэрыторыі няма, — абвясціў Віктар новы план.

І вось едзем. Усходняя частка вострава больш дагледжаная. Мора кветак — чырвоных, жоўтых, белых. У адным месцы, метраў на сто з гакам, суцэльная чырвона-зялёная сцяна. А якія пальмы! Адна ў адну — высокія, гладкастволыя. Вузкая дарога пятляе праз горы. Вакол — высокія кусты кактусаў. Так, менавіта кактусаў. У нас растуць у вазонах на падаконніках эхінопсусы — калючыя, тоўсценькія. А тут яны гіганцкія — амаль па два метры.

Нарэшце дапялі да манумента на гары. На пляцоўцы ля яго стаяла адна машына — цёмнаскурыя бацькі з трыма дзецьмі фатаграфаваліся. Юля дастала фотакамеру, і тут жа падкаціўся Алесік: я хачу сфатаграфаваць. Давялося згадзіцца. Мы ўсе дружна сталі, малы закамандаваў:

— Лаз, два, тлі! Сі-скі!

Усе зарагаталі, а Юля патлумачыла: пачуў малы гэтае слова, калі рабіла здымак яе сяброўка. Усім вядомае «чы-із» ужо прыелася, малому спадабаўся новы варыянт. А я падумаў, што зусім не маю здымкаў свайго маленства, а ўнук у чатыры гады ад народзінаў ужо сам фатаграфуе і мае здымкаў не адну сотню. Свет пераменіўся.

Але на гэтай гары, якую ў 1493 годзе ўбачылі матросы Калумба, доўга нічога не мянялася. Дарэчы, Калумб сцвярджаў, што Зямля мае форму грушы, у вузкім канцы яе — уваход у рай. Праўда, гэтага ўвахода ніхто не знайшоў. У пасляваенныя гады тут праклалі асфальтоўку, устанавілі чатыры масіўныя стэлы, зверху зрэзаныя наўскасяк, усярэдзіне — амерыканскі сцяг. Адсюль далёка відаць марскую прастору з белымі бурунамі пеністых хваляў, бо вецер дзьмуў моцны.

Едзем уніз. Вакол — тэрыторыя парка Крэмерс. Паварочваем на пляж. Шашу з абодвух бакоў абступаюць высозныя пальмы, наперадзе — паласаты шлагбаум, злева — белы будан, у акенцы — смуглявы вусаты чалавек у белай форменцы: за ўезд на пляж трэба плаціць пяць долараў. Адступаць няма куды, затое паркінг свабодны. Потым мы пераканаліся, што гэта самы камфортны пляж. Тут і адбылося развітанне з цёплым, лагодным Карыбскім морам. Невялікі пляж атуляюць пальмы, некаторыя нахіленыя: мабыць, падчас штормаў хвалі падмываюць іх, але дрэвы ўпарта трымаюцца за пясчаны бераг. Пад імі стаялі шэзлонгі, на якіх мы ўладкаваліся. Сёння даволі моцны вецер, пальмы дружна абмахваюцца лістамі-пёрам. Напачатку чубатыя верхавіны гэтых экзатычных дрэў нагадалі мне веер.

Стася ўгаворвала, каб не купаўся, але я не пагадзіўся: апошні дзень, заўтра ляцім дамоў. Не, дамоў — гэта не зусім дакладна: Бостан — часовы прытулак. Стася амаль штодня ўспамінае роднае Палессе, а мне сніцца наш дом, Прыпяць. На развітанне плаваў са смакам. Вада была надзвычай цёплай, чыстай. Пластыр на калене размок, адарваўся, я злавіў яго, выкінуў у сметніцу. Мусіць, болей ужо ніколі плаваць у Карыбскім моры не давядзецца. А можа, яшчэ пабачымся з Віргінамі? Хто ведае, колькі таго жыцця засталося... Калі прыйдзе час вечнага выраю... Ва ўсякім разе, гарачыя дні позняй восені на востраве Сент-Крокс запомняцца назаўсёды.

Юля і Віктар, як ніколі шмат фатаграфавалі. Думаю, будзе цікавы здымак: столік у зацені пальмаў, на ім — прыгожае блакітнае вядзерца, з якога тырчаць пяць пляшак піва. А было так. Мы пайшлі з Віктарам у бар, заказалі чатыры піва. Бармен, усмешлівы цёмнаскуры малады мужчына, кажа:

— За гэтую суму... За дваццаць долараў мы можам даць вядзерца з лёдам і пяць пляшак піва. Чатыры я адкаркую, а пятая застанеццаа... Калі захочаце, тады і адкрыем.

Ядрон батон! Вось такі сэрвіс на далёкім востраве! Стася з Юляй здзівіліся, калі ўбачылі шыкоўнае вядзерца з лёдам і півам. Халоднае светлае бельгійскае «Стэла Артуа», залацістае, бы шампанскае, пад пошум Атлантычнага акіяна і пальмаў падалося надзвычай смачным.

Уразіў пляжны душ. Пад пальмай металічная стойка, націснеш ніжнюю кнопку — лагодны дожджык мые ногі да каленяў, націснеш верхннюю — абмыеш твар, можаш і ўсё цела. Стаіш на зацэментаваным пятачку. Адтуліна для сцёка вады. Кайф.

## ДЗЕНЬ СЁМЫ

Уранні, як звычайна, па графаманскай звычцы пішу на балконе. Сніліся сёння... мядзведзі. Ды не злыя, а лагодныя, як у мульціках, якія ўвечары глядзелі. Можа, таму і гэткі дзіўны сон.

Прыйшоў Алесік, пытаецца:

— Дзеда, пла што ты пішаш? Пла мой цягнік?

— Ну, вядома, пра твае вагончыкі, яны вельмі шыкоўныя. У мяне ў дзяцінстве такіх не было. Ніякіх цацак. Затое я бачыў цягнікі сапраўдныя, калі ездзіў у Оршу.

— А Олша — гэта што такое?

— Гэта горад на Дняпры. Помніш, у песні «Дзе мой край...» гаворыцца пра Дняпро... «Дзе вішнёвыя хаты глядзяцца ў шырокі Дняпро...»

— А калі пла мой цягнік пішаш... Пачынаеш з чаго? З лакаматыва?

— Ну, так. Пачынаю з лакаматыва. Ён цягне вагоны. У ім сядзіць машыніст.

Дарэчы, унук часта кажа: «Калі выласту, буду машыністам». Здаецца, пра гэта я ўжо пісаў. Ухваляю, падтрымліваю яго мару. Малы чалавек, а думкі ўжо сур’ёзныя. Мне падаецца, што ён падрос за гэтыя дні, загарэў, сінія вачаняты зрабіліся яшчэ болей сінімі. Міжволі падумалася: каб не Алесік, не пабачылі б мы са Стасяй Віргінаў, не сядзелі б у Штатах цалюткую зіму. Як усё звязана ў жыцці!

Маці паклікала малога есці кашу, а я зноў узяўся за нататнік. Прынцып «што бачу, пра тое і пішу». Зараз бачу шэрую чаплю, якая стаіць на пірсе на чорных тонкіх нагах. Яна падобная на бусла, але ў яго ногі чырвоныя і дзюба чырвоная, а крылы — белыя. Чапля чакае здабычу — падплыве якая рыбіна, дык яна спрытна ўхопіць. У моры, дзе вялікія хвалі, зрабіць гэта птушцы не ўдасца.

Юля атрымала з Мінска эсэмэску: там два градусы мароза, пранізлівы вецер. Алежка тэлефануе з Бостана, у іх мінус пяць. Нью-Ёрк заваліла снегам. Ядрон батон! А тут гарачыня. І ўсё ж я б не хацеў тут жыць. Мне даражэй Радзіма, дзе ёсць зіма і лета, восень і вясна. Люблю чысцюткі снег у зімовым лесе, люблю вясновую квецень і барвы залатой восені. Прыгажэйшага края за Беларусь на Зямлі не існуе!

Пакуем чамаданы. Алесік з бацькамі плавае ў басейне, а мы са Стасяй дома. Калена маё загойваецца, хадзіць магу нармалёва. Сёння ад’язджаем. У Бостан самалёт прылятае апоўначы, бо ў Маямі давядзеццпа некалькі гадзін чакаць. Гуд бай! Бывайце, Віргінскія астравы!

* * *

Мы ўжо трэці дзень дома. Дзякуй Богу, даляцелі добра. З Маямі вылятаді, калі ўжо сцямнела. Я глядзеў у ілюмінатар і дзівіўся: унізе было мора, не — акіян рознакаляровых агней, быццам нехта высыпаў мех светлых шарыкаў. Ні начны Парыж, ні Франкфурт-на-Майне не ўражвалі гэтак з вышыні, як Маямі. І ўся Амерыка да Бостана ззяла агнямі. Асветленыя палосы хайвэя, вуліцы гарадоў і паселішчаў — усё ззяе. Думалася, што пасля адзінаццаці ілюмінацыя будзе радзейшай. Ажно не! Пад крылом свяцілася агнямі невялікае паселішча, зірнуў на гадзіннік — палова дванаццатай.

Прызямліліся пасля поўначы, Бостан таксама зіхацеў агнямі. Гэта колькі ж трэба электрычнасці! А неўзабаве амерыканцы пачнуць упрыгожваць дамы — за месяц да Крысмаса ўсё пачынае зіхацець...

Мы адсыпаемся. Учора Алесік як заснуў у тры гадзіны дня, дык спаў да самага рання. Арганізм дабірае сваё, бо на Віргінах малы недасыпаў, як і ўсе мы. Сёння схадзіў у садок. Мы з жонкай забіралі яго. Прыйшлі дамоў, паабедалі — у садку абедамі не кормяць, і кожнае дзіця прыносіць ссабойку. Алесік рэдка з’ядае ўсё. Дый дома есць, гледзячы мульцік. Як мы гадаваліся без мульцікаў? Шчасце майго пакалення, што не было тэлевізара і камп’ютара. Мы раслі ў хаце без электрычнасці. Затое басаном лёталі па вуліцы, купаліся ў Дняпры, чыталі кніжкі.

Увечары Алесік папрасіў:

— Дзеда, уключы «Дзе мой клай».

Гэту песню ён любіць даўно. І мінулай зімой мы часта слухалі яе. Знайшоў песню на словы Уладзіміра Караткевіча зяць Віктар у сеціве, запісаў на мой мабільнік і на камп’ютар. Я навёў курсор:

— Во, Тодар! Уключай! — і палілася ўрачыстая мелодыя, загучалі словы: — «Дзе мой край? Там, дзе вечную песню пяе Белавежа, там, дзе Нёман на захадзе...»

Унук прыклаў да вуснаў кулачкі, нібы граў на трубе, дудзеў, тупаў шырокімі

крокамі. Раней ён пытаўся, што такое Белавежа, што такое Дняпро і Прыпяць, што значыць «ласкава віецца». А я дзівіўся, якія смелыя параўнанні знаходзіў вялікі паэт, мой зямляк, бо і я нарадзіўся на Аршаншчыне. Ну, сапраўды: «…А мужчыны, як скалы, — ударыш, і зломіцца меч». А пра мову: «…мая мова, булатны клінок». І далей: «Мы клянёмся табе, што ніколі, ніколі, ніколі… не кінем цябе...» І малы гэтыя словы паўтараў. Расце беларус на амерыканскай зямлі, чаго не магу сказаць пра Алежку. Той ні па-беларуску, ні па-руску чытаць не хоча, як і па-ангельску — таксама. Як ён вучыцца ў каледжы, калі начамі сядзіць за камп'ютарам? Ненавіджу камп'ютарныя гульні! Які вораг чалавецтва іх прыдумаў?

Перачытаў свае запісы на Віргінах. Здзівіўся: каб не занатаваў, шмат што ўжо забылася б, а прайшло ж зусім нямнога часу. Сёння неспадзяваная падзея: Юля атрымала пісьмо, раскрыла канверт, а там — чэк на сто баксаў. У пісьме Джыл піша: мы вам вельмі ўдзячныя, хутка свята — Сэнксгівін, купіце падарунак Алексу. «Бацька, гэта твая прэмія», — усміхалася задаволеная дачка. Усе думаем, што купіць малому.

* * *

Прайшло тры дні. Юля і Віктар вырашылі так: трэба нам са Стасяй наведаць Мастацкі музей. Білет туды каштуе 25 баксаў — за два давядзецца аддаць палову атрыманай сумы. Яны там былі, музей вельмі спадабаўся. Заўтра Юля адвязе нас, а ў канцы дня забярэ...

Пішу вечарам. Думак поўная галава. Музей уражвае моцна. Грандыёзны будынак. Шмат залаў, багата карцін, ёсць і вялізныя, на адной гэткай — Джордж Вашынгтон, мноства выдатных скульптур, безліч прыгожых рэчаў. У Мінскім мастацкім музеі, як і ў славутай Траццякоўцы, галоўнае — жывапіс, скульптуры, на іншае няма месца. А тут багацце самых розных прыгожых рэчаў: кубкаў, вазаў, падсвечнікаў, камодаў, сталоў і крэслаў. Ходзіш і думаеш: чалавек спрадвеку імкнуўся ўпрыгожыць сваё жытло, зрабіць нешта адмысловае. І якія былі майстры!

---

Праўду кажуць: свет цесны, а зямля круглая. Неяк выбраліся мы з жонкай у Мастацкі музей, і адбылася там нечаканая сустрэча. Стомленыя, прыселі мы на лаву пасярэдзіне залы, пазіраем на грандыёзнае палатно, на якім — Ніягарскі вадаспад, сцішана перамаўляемся. На доўгай лаве сядзелі яшчэ людзі. І раптам — радасны голас:

— Чую родную мову! — паварочваюся, а на мяне глядзіць чалавек, усміхаецца. — Лявон Кірэевіч! Ядрон батон! Няўжо гэта вы?

— Я, Пятро Андрэевіч!

Абняліся. Стася таксама ведала мяне: першы раз я прыязджаў у Штаты адзін, тады мы сустракаліся, і Пятро цішком усунуў мне сшытак, у якім апісваў паездку ў Варшаву. Цяпер я пазнаёміў землякоў са сваёй жонкай, патлумачыў: некалі іхнія дзеці і нашы жылі ў адным доме, потым раз'ехаліся па іншых гарадках каля Бостана. Сядзім, гамонім. І на карціны забыліся — пра Беларусь гаворка. Мае знаёмцы мала перамяніліся: Пятро гэткі ж высокі, сівагаловы, трохі прыгорбіўся; Стася, падалося, крыху ўсохла — вядома ж, гады бяруць сваё. Усё жыццё яна працавала бухгалтарам. Раней ніколі не была за мяжой, і першай краінай, якую наведала, стала Амерыка, куды яна прыехала ўжо трэці раз.

Зайшла размова пра падарожжа на Віргіны, і Стася не стрымала сваю ганарыстасць: пахвалілася, як Пятрок выратаваў дзяўчынку, не забылася і пра чэк на сто баксаў. Пятрок моршчыўся: гэта яму не падабалася. Ён перавёў гаворку ў іншае рэчышча, спытаўся, пра што я пішу, успомніў маю «Усмешлівую Амерыку» (мае кнігу з аўтографам), потым прызнаўся:

— На мяне напаў нейкі сверб. Захацелася нешта накрэмзаць пра падарожжа на Віргіны. Думаю, хай будзе для ўнукаў. Алесік яшчэ малы. Што ён там мог зразумець! Боўтаўся ў цёплай вадзе, тэпаў па гарачым пяску. Можа, пачыталі б, ці варта ўвагі мая пісаніна?

— Чаму ж не? Ахвотна прачытаю.

Пачалі думаць, як сустрэцца. І тут Стася прапанавала ўбачыцца зноў у музеі: хітрыя амерыканцы прадаюць даражэзныя білеты, затое цягам дзесяці дзён маеш права наведаць музей яшчэ раз, бо за адзін дзень усё не агледзіш. Прапанова спадабалася. Праз тыдзень сустрэліся, хадзілі па залах разам, сцішана перамаўляліся. Потым тут жа, у музеі, паабедалі.

На развітанне Пятро сунуў мне нататнік у цвёрдай цёмнай вокладцы, на першай буйнымі белымі літарамі было напісана «satcom», ніжэй — драбнейшым шрыфтам «direct» і тэлефон фірмы.

— Я вось думаю. Цяперашнім часам унукі не стануць разбіраць мае крамзолі. А калі нешта з гэтага надрукуецца, то, можа, і прачытаюць. І яны, і нехта іншы. На ганарар не прэтэндую. У нас з жонкай ёсць усё неабходнае. А чаго няма, дык тое нам і не патрэбна.

— Праўду кажаш, Петрачок, — падтрымала Стася. — У нас усяго хапае. Апетыты ў нас не амерыканскія. Яны жаруць, як не ў свой дух. Таму і тоўстыя. Ламаюць галовы, як пахудзець.

— Тут во Стася сказала пра апетыты амерыканцаў. Мне думаецца, грамадства спажывання загнала сябе ў пастку... Ніхто не думае, на колькі хопіць прыродных рэсурсаў. Чалавецтва жыве адным днём. Так бы мовіць: тут і цяпер. А што далей? Куды мы ідзем? — Пятро хвілінку памаўчаў, а пасля гаварыў далей: — І ўвогуле, я ўсё болей пераконваюся... Бюракратычны, таталітарны сталінізм — гэта ўчарашні дзень. Але крах Савецкага Саюза паказвае, што рынкавы капіталізм яшчэ горш. Патрэбна рацыянальнае планаванне і разумны кантроль. Альтэрнатывы сацыялізму і камунізму — няма.

Гэтыя словы сталі для мяне поўнай нечаканасцю. Прызнаюся, і я не раз думаў: «Куда несёт нас рок событий», але да такой катэгарычнай высновы не быў гатовы.

— Пятрок, не трэба палітычных дыскусій, — Стася зірнула на гадзіннік. — Зараз Юля павінна прыехаць.

Тут жа адгукнуўся мабільнік, Стася паднесла яго да вуха, і нават я пачуў:

— Можаце выходзіць...

На вуліцы мы развіталіся з надзеяй на наступную сустрэчу. Мне насамрэч захацелася пабачыцца з былым дырэктарам торфабрыкетнага завода, выказаць сваё ўражанне ад яго твора і падыскутаваць за кухлем піва пра будучыню чалавецтва.

Каля ўвахода ў Мастацкі музей скубла зялёную траву чарада шэрых канадскіх гусей. Было такое ўражанне, што гусі хочуць зайсці ў памяшканне, каб стаць жывымі экспанатамі.

Міжволі падумалася: некалі гусі выратавалі Рым. Можа, шэрыя канадскія птахі выратуюць чалавецтва?

*2014 г. Вінчэсцер—Бостан.*

*Анатоль ЗЭКАЎ*

# ВАЧЭЙ ТВАІХ СВЯТЛО



***Анатоль Зэкаў нарадзіўся 20 студзеня 1955 года ў вёсцы Патапаўка Буда-Кашалёўскага раёна. Паэт, рэдактар, вядучы перадачы «Дыя@блог P.S.» на Беларусь 3. Цікавы імправізатар: нават кароткае яго выступленне ўспрымаецца як міні-канцэрт. Актыўна падтрымлівае пачаткоўцаў.***

**СВЕТА**

Я табе заўсёды рады
і прызнаюся пры тым,
што я нават слова *свята*
чую ў імені тваім.

А яшчэ ж у ім — паверце! —
*свет, Сусвет, святло* бяроз...
Мне і *светла* жыць на свеце,
што *асветлены* ім лёс.

* * *

У вачах тваіх — самота,
і каханне ўжо не грэе.
Я не зняў твае турботы
і нічым не абнадзеіў.

Хоць была маёй каханай,
да сябе ўсё ж не наблізіў.
Сыпаў соль табе на раны
і ніколі не залізваў.

Не казаў і слоў прыгожых
і занадта быў упарты,
кветак не дарыў — і, можа,
быў цябе зусім не варты.

Пэўна, я кахаць не ўмею
і табе наўрад ці пара,
ды кахаў, аднак, цябе я
і, павер, кахаю зараз.

* * *

У памяць былое грукоча,
як град,
нібыта вярнуць мяне хоча
назад.
І ўбачу, калі азірнуся
туды,
што я да цябе зноў гарнуся,
і ты
мяне і чаруеш, і цешыш,
бы там
і ты была крышачку лепшай,
й я сам...

* * *

На волю цябе адпускаю,
у сэрца ўсяліўшы тугу,
і долі шчаслівай жадаю —
усё, што, між іншым, магу.

І ты легкакрылаю птушкай
удалечы толькі мільгнеш
і ведаць не будзеш, як скрушна
жывецца, каханая, мне.

* * *

Ты ў царкве пад абразамі,
я Евангелле чытаю.
Кіламетры паміж намі,
хаця іх не адчуваю,

бо здаецца, што з табою
у царкве стаім мы побач
перад Госпадам з мальбою
і з надзеяю на помач.

* * *

Я не ведаю, што будзе заўтра,
і не ведаю, што будзе потым,
ды й таму я так бязмежна рады,
што з табой сягоння не самотна,

што магу штодня твой голас чуць я
і дыханне ў трубцы тэлефоннай.
Ну а тое ўсё, што заўтра будзе,
турбаваць нас не павінна сёння.

* * *

Гукну цябе — і толькі рэха
з далечы той мне адгукнецца,
з якой аднойчы сам я з’ехаў,
каб больш ніколі не сустрэцца.

О, як яно душу праніжа,
як калане у сэрца болем,
і мне захочацца быць бліжай,
каб не растацца больш ніколі.

* * *

Мы тэлефоннымі званкамі
сваю развейваем самоту,
хоць разумеем добра самі,
што абаім нам адзінотна.

Ды нешта ўсё-ткі гавару я,
і нешта ты ў адказ гаворыш,
і голас твой мяне чаруе,
хоць я зусім і не ў гуморы.

Аднак стараюся трымацца,
бо як-ніяк усё ж мужчына!
З табой нялёгка развітацца,
хоць быць і разам немагчыма.

* * *

Мы не дайшлі да той мяжы,
якая многае зыначыць,
калі не зможам болей жыць,
спадзеючыся на удачу.

Яшчэ не пройдзена яна
і не пяройдзена, тым болей,
ды знаем мы: яна адна
зняволіць нас ці разняволіць.

І так, і гэтак можа быць,
і гэта ўжо ад нас залежыць,
ці зможам мы пераступіць
мяжу, пазбавіўшыся межаў.

* * *

Жыву у зацені аблокаў я,
дзе й сонейка не бліскае,
і думаю, што ты далёкая,
а ты — такая блізкая
і для мяне — такая родная,
каханая, сардэчная.

Усё жыццё маё турботнае
тваім святлом асвечана.

* * *

Ты зазірні ў маю душу,
ды не судзі задужа строга.
Перад табою я грашу,
а яшчэ болей — перад Богам.

Жыву не так, як трэба жыць,
і, перад светам вінаваты,
я столькі, пэўна, награшыў,
што й сам ужо таму не рады.

Як доўга каяцца мне ў тым
перад табой,
людзьмі
і Богам!
Бягуць-ляцяць мае гады —
і часу для раскаяння нямнога.

* * *

Калі сонца за хмары заходзіла
і зырчэла за лесам палоскай святла,
ты пайшла — быццам і не прыходзіла,
гэтак моўчкі пайшла — быццам
і не была.

І застаўся зноў у адзіноце я,
толькі сцены са мною, падлога і столь.
Ці мо ты й насамрэч не прыходзіла?
Дык адкуль жа тады несціхаючы боль?

* * *

Ці вывернеш душу ты,
ці на замок замкнеш,
жыццёвыя пакуты
з табой, пакуль жывеш.

З сябе іх не адрынеш
і не змяцеш у кут.
Калі адны і скінеш,
дык іншыя ўжо тут.

Як бы ні летуценіў
і ні глядзеў на свет,
ды за табой, як цені,
яны ідуць услед.

Здаецца, з імі квіты,
і лад ужо ў душы,
ды колькі ні жыві ты,
ад іх ты не збяжыш.

І не старайся марна
пазбыцца іх парою...
А што ў жыцці так хмарна,
дык і жыццё на тое.

* * *

Я пачуцці свае разняволіў,
каб сягоння наноў іх стрыножыць.
Не мая, не мая — і ніколі
быць маёю, на жаль, ты не зможаш.

І я гэта зусім не прыдумаў,
бо абрала сама не мяне ты.
Мне і светла з табою, і сумна,
але ўсё-такі больш, пэўна, светла.

* * *

О, колькі наварочана
ўпапад і неўпапад.
Усё між намі скончана —
шляхоў няма назад.

Хоць і самім не верыцца,
што ўжо мінуў наш час,
і тыя дні не вернуцца,
што сагравалі нас,

і тое не адбудзецца,
чаго ў нас не было,
адно што не забудзецца
вачэй тваіх святло.

Няўжо так лёс ашчэрыўся
на нас з табой?
Аднак
я веру і не веру ўсё,
што буду жыць не так,

што буду жыць, не бачачы
й не чуючы цябе,
жыццё сваё іначачы
і ў працы, і ў гульбе.

О, колькі наварочана —
ўсяго не прыгадаць.
Усё між намі скончана?

Ды гэта як сказаць.

* * *

Ўсё пускаю на злом,
ды ці стане лягчэй
ад таго, што было
і магло быць яшчэ?

Толькі што ўсё ж хаваць:
мне не стане лягчэй,
і наўрад ці стрываць
без тых дзён і начэй,

калі голас твой чуў
і на голас той бег.
Нібы ў прорву лячу,
адпусціўшы цябе...



*Рубрыка Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта*

Віктор МАРЫ ГЮГО

# АДРЫНУТЫЯ

***Урыўкі з рамана***

**Том першы. Кніга другая.**

## ПАДЗЕННЕ

**Глава першая**

### ВЕЧАР ПАСЛЯ ЦЭЛАГА ДНЯ ХАДЫ

У першыя дні кастрычніка 1815 года, прыкладна за адну гадзіну да захода сонца ў невялікі гарадок Дзінь уваходзіў падарожны. Тыя нешматлікія жыхары, якія ў гэты момант знаходзіліся ля вокнаў ці на парогах сваіх дамоў, пазіралі на яго з некаторай трывогай. Здаецца, цяжка было б сустрэць мінака з такім жабрачым выглядам. Гэта быў чалавек сярэдняга росту, прысадзісты і дужы, у самым росквіце сіл. Ён выглядаў прыкладна на сорак шэсць або сорак восем гадоў. Фуражка са скураным апушчаным казырком напалову хавала яго загарэлы абветраны твар, па якім струменьчыкамі сцякаў пот. Сарочка з грубага нябеленага палатна, прышпіленая ля каўнера маленькім срэбраным якарам, агольвала яго валасатыя грудзі; на ім была скручаная ў жгут шыйная хустка, сінія цікавыя штаны, зношаныя і пацёртыя, пабялелыя на адным калене і дзіравыя на другім; старая падраная шэрая блуза на адным з лакцёў была залатана пры дапамозе шпагата кавалкам зялёнага сукна; на плячах падарожнага вісеў поўны салдацкі ранец, дбайна зашпілены і зусім новы; у руцэ ён трымаў вялізны сукаваты кій, а з падкаваных башмакоў выглядвалі яго босыя ногі; валасы падарожнага былі кароценька паабстрыганы, а барада доўгая.

Пот, спёка, доўгае падарожжа і пыл толькі пагаршалі ўражанне ад гэтага абарванца.

Яго валасы хоць і былі кароткія, але стаялі тырчком: пэўна, нядаўна пастрыжаны, ледзь-ледзь пачалі адрастаць.



Ніхто не ведаў яго. Відавочна, гэта быў звычайны мінак. Адкуль ён ішоў? З поўдня. Мабыць, з пабярэжжа, бо, накіроўваючыся ў Парыж з Канна, ён увайшоў у Дзінь тым жа шляхам, на якім сем месяцаў раней бачылі імператара Напалеона. Пэўна, ён ішоў увесь дзень.

Ён выглядаў вельмі стомленым. Жанчыны са старога прадмесця, што ў ніжняй частцы горада, бачылі, як ён спыніўся пад дрэвамі бульвара Гасэндзі і піў ваду з фантана ў канцы алеі. Відаць, яго адольвала моцная смага, бо дзеці, якія ішлі за ім следам, бачылі, як праз крокаў дзвесце ён зноў спыніўся — каб напіцца з фантана на Рынкавай плошчы.

Дайшоўшы да рога вуліцы Пуашвер, падарожны звярнуў у левы бок, у напрамку мэрыі. Ён увайшоў туды і прабыў там прыблізна чвэрць гадзіны. Ля дзвярэй мэрыі, на каменнай лаўцы — той самай лаўцы, на якую 4 сакавіка падняўся генерал Друо, каб прачытаць перад здзіўленымі жыхарамі Дзіня праклamaцыю, напісаную ў бухце Жуан, — сядзеў жандар. Падарожны зняў фуражку і пакорліва прывітаў яго.

Не адказаўшы на гэтае прывітанне, жандар уважліва агледзеў незнаёмца, праводзіў яго позіркам, а потым увайшоў у мэрыю.

У той час у Дзіне быў заезны дом з шыльдай «Кальбаскі крыж». Гаспадаром гэтага заезнага дома быў нехта Жакен Лабар, які быў паважаным чалавекам у горадзе дзякуючы сваёй роднасці з іншым Лабарам, які трымаў у Грэнобле заезны дом «Тры дэльфіны», а раней служыў у імператарскіх войсках. У час высадкі імператара шмат чутак хадзіла ў тых мясцінах пра заезны дом «Тры дэльфіны». Казалі, што ў студзені генерал Бертран, пераапрануты возчыкам, прыязджаў туды некалькі разоў і раздаваў ганаровыя крыжы салдатам ды прыгаршчы залатых манет гараджанам. Вядома дакладна толькі адно: калі імператар увайшоў у Грэнобль, ён адмовіўся спыніцца ў будынку прэфектуры; падзякаваўшы мэру, ён сказаў: «Я пайду да аднаго добрага чалавека», — і адправіўся ў напрамку «Трох дэльфінаў». Так, праменьчыкі славы Лабара з «Трох дэльфінаў» пераадолелі адлегласць у дваццаць пяць лье і распаўсюдзіліся на Лабара з «Кальбаскага крыжа». У горадзе пра яго казалі: «Гэта стрыечны брат таго, грэнобльскага».

Падарожны накіраваўся да гэтага, найлепшага ў горадзе, заезнага дома. Ён увайшоў у кухню, дзверы якой адчыняліся адразу на вуліцу. Усе кухонныя печы тапіліся, агонь радасна палаў у каміне. Гаспадар заезнага дома, які быў і галоўным поварам, з заклапочаным выглядам пераходзіў ад ачага да каструляў і сачыў за прыгатаваннем надзвычайнай вячэры для возчыкаў, гучныя галасы і смех якіх былі чутны нават у суседнім пакоі. Кожны, хто калі-небудзь падарожнічаў, ведае, што ніхто так не любіць добра і смачна паесці, як возчыкі. Тлусты сурок з белымі курапаткамі і цецерукамі па баках круціўся на доўгім вертлюгу перад агнём; два буйныя карпы з возера Лозэ і фарэль з возера Алоз смажыліся на пліце.

Пачуўшы, як адчыняюцца дзверы і нехта ўваходзіць, гаспадар запытаў, не падымаючы вачэй ад пліты:

— Што жадаеце, спадар?

— Паесці і спыніцца на ноч, — адказаў чалавек.

— Гэта магчыма, — прамовіў гаспадар. І, хуценька зірнуўшы на падарожнага, дадаў: — Зразумела, за грошы.

З кішэні сваёй блузы мужчына выцягнуў тоўсты скураны кашалёк і сказаў:

— У мяне ёсць грошы.

— У такім выпадку, да вашых паслуг, — адказаў гаспадар.

Падарожны зноў засунуў кашалёк у кішэню, вызваліўся ад ранца, паставіўшы яго на падлогу ля дзвярэй, і, не выпускаючы з рук кія, прысеў на маленькі табурэцік перад камінам. Дзінь знаходзіцца ў гарах, таму вечарамі ў кастрычніку тут вельмі холадна.

Між тым гаспадар працягваў хадзіць туды-сюды, адначасова разглядаючы падарожнага.

— Ці хутка вячэра? — запытаў той.

— Зараз будзе, — адказаў гаспадар.

Пакуль незнаёмец, павернуты спінай да гаспадара, грэўся ля агню, шаноўны карчмар Жакен Лабар выцягнуў са сваёй кішэні аловак і адарваў ражок старой газеты, якая ляжала на маленькім століку ля акна. Напісаўшы адзін ці два радкі на палях, ён склаў гэты кавалачак паперы і, не запячатваючы, аддаў хлапчуку, які, напэўна, служыў яму паварчуком і лакеем. Карчмар нешта шапнуў яму на вуха, і той хуценька пабег у напрамку мэрыі.

Падарожнік нічога не заўважыў. Ён толькі зноў запытаў:

— Ці хутка вячэра?

— Зараз будзе, — адказаў гаспадар.

Хлапчук вярнуўся. Ён прынёс запіску назад. З паспешнасцю таго, хто чакае адказу, гаспадар разгарнуў яе. Уважліва прачытаўшы пасланне, пакруціў галавой і на хвіліну задумаўся. Нарэшце ён падышоў да падарожнага, які здаваўся паглыбленым у свае невясёлыя думкі.

— Шаноўны спадар, — сказаў ён, — я не магу дазволіць вам застацца.

Мужчына ажно прыўзняўся.

— Як так? Вы баіцеся, што я не заплачу? Хочаце, я заплачу адразу? Кажу вам, у мяне ёсць грошы.

— Справа не ў гэтым.

— А ў чым?

— У вас ёсць грошы…

— Так, — зноў сказаў незнаёмец.

— Але ж у мяне, — працягваў гаспадар, — няма свабоднага пакою.

Тады незнаёмец спакойна прапанаваў:

— Дык пакіньце мяне на ноч у канюшні.

— Я не магу.

— Чаму?

— Усе месцы там заняты коньмі.

— Тады, — працягваў чалавек, — знайдзіце для мяне куточак на гарышчы. Дайце пук саломы. Урэшце, мы можам вырашыць гэта пасля вячэры.

— Я не магу даць вам вячэру.

Гэтыя словы прагучалі стрымана, але непахісна, і яны прымусілі незнаёмца насцярожыцца. Ён падняўся:

— Вось значыцца як! Але ж паслухайце, я паміраю з голаду. Я ішоў ад самага ўсходу сонца. Я прайшоў дванаццаць лье. У мяне ёсць грошы. І я хачу есці.

— На жаль, у мяне нічога няма, — сказаў гаспадар.

Незнаёмец зарагатаў і павярнуўся да пліты і каміна.

— Нічога! А ўсё гэта?

— Усё гэта ўжо замовілі.

— Дазвольце даведацца, хто?

— Спадары возчыкі.

— Колькі ж іх чалавек?

— Дванаццаць.

— Ды тут хопіць ежы ажно на дваццаць чалавек!

— Яны замовілі ўсё гэта і заплацілі наперад.

Тады незнаёмец зноў сеў на табурэцік і, не павышаючы голасу, сказаў:

— Я ў карчме, я хачу есці і застаюся.

Тады гаспадар схіліўся да яго і сказаў на вуха такім голасам, ад якога незнаёмец скалануўся:

— Ідзіце адсюль.

У тое самае імгненне наведвальнік, схіліўшыся, падпіхваў у камін жалезным наканечнікам свайго кія вугольчыкі; ён хутка азірнуўся і ўжо збіраўся нешта адказаць, але гаспадар апярэдзіў яго — пранізліва глянуўшы, зноў ціха сказаў:

— Паслухайце, хопіць ужо непатрэбных слоў. Вам назваць ваша імя? Вас завуць Жан Вальжан. А цяпер сказаць вам, хто вы такі? Калі вы ўвайшлі, штосьці мяне насцярожыла, я паслаў у мэрыю і вось што мне там адказалі. Вы ўмееце чытаць?

Кажучы так, ён працягнуў мужчыне разгорнутую запіску, якая толькі што вярнулася са свайго падарожжа з заезнага дома ў мэрыю і з мэрыі назад у заезны дом. Незнаёмец хутка прабегся па ёй. Пасля невялікай паўзы гаспадар сказаў:

— Звычайна я стаўлюся да ўсіх з павагай. Ідзіце адсюль.

Незнаёмец апусціў галаву, узяў з падлогі свой ранец і пайшоў.

Ён пайшоў па галоўнай вуліцы. Ён ступаў наўздагад, трымаючыся каля дамоў, прыніжаны і журботны. Ён не азірнуўся ніводнага разу. Але калі б ён азірнуўся, то ўбачыў бы, як гаспадар «Кальбаскага крыжа» стаіць на парозе і, акружаны пастаяльцамі свайго заезнага дома і іншымі, тыкае ў яго пальцам і нешта ажыўлена ім гаворыць; і магчыма, па падазроных, спалоханых поглядах людзей ён здагадаўся б, што яго з'яўленне ўзбудзіць увесь горад.

Але ж нічога гэтага ён не бачыў. Засмучаны чалавек не азіраецца назад. Бо добра ведае, што яго цяжкая доля ідзе следам.

Такім чынам, ён яшчэ некаторы час ішоў наўздагад, не спыняючыся, па незнаёмых вуліцах, забыўшыся пра стому, як звычайна здараецца ў цяжкія хвіліны. Раптам ён зноў адчуў моцны голад. Тым часам надыходзіла ноч. Ён пaглядзеў па баках у пошуку якога-небудзь прытулку.

Дзверы багатай карчмы былі для яго зачынены, цяпер ён шукаў невялікі шынок ці якую-небудзь бедную хаціну.

Раптам у канцы вуліцы бліснуў агеньчык; сасновая галінка, падвешаная да жалезнай бэлькі, ясна вымалёўвалася на чыстым вячэрнім небе. Ён пайшоў да яе.

Гэта сапраўды быў шынок — шынок на вуліцы Шафо.

На імгненне падарожны спыніўся і зазірнуў праз акно ў нізенькую залу шынка, асвечаную маленькай лямпай і яркім полымем ачага. У шынку сядзелі некалькі чалавек. Яны пілі. Гаспадар грэўся ля агню. Жалезны кацялок, падвешаны да крука, кіпеў над ачагом.

У гэтым шынку, што з'яўляўся таксама своеасаблівым заезным домам, дзвярэй было двое. Адны з іх выходзілі на вуліцу, а другія адчыняліся праз маленькі, завалены гноем дворык. Падарожны не наважыўся зайсці з вуліцы. Ён праскочыў у двор, зноў спыніўся, а потым, нясмела ўзняўшы клямку, штурхнуў дзверы.

— Хто там? — запытаў гаспадар.

— Чалавек, які жадае павячэраць і спыніцца на ноч.

— Добра. Тут можна і павячэраць, і спыніцца на ноч.

Ён увайшоў. Усе наведвальнікі азірнуліся. Лямпа асвечвала незнаёмца з аднаго боку, агонь ачага — з другога. Пакуль ён адвязваў свой ранец, усе прысутныя ўважліва разглядалі яго.

Гаспадар сказаў:

— Вось агонь. У гэтым кацялку гатуецца вячэра. Падыходзьце пагрэцца, сябра.

Падарожны сеў ля ачага. Ён выцягнуў перад агнём стомленыя да болю ногі; ад кацялка ішоў смачны пах ежы. Твар падарожнага, наколькі яго магчыма было разгледзець з-пад насунутай на лоб фуражкі, набыў задаволены і разам з тым журботны выгляд, уласцівы для пакутнікаў.

Увогуле, выгляд у яго быў мужны, рашучы і разам з тым сумны. Твар выклікаў нейкае дзіўнае, дваякае ўражанне: спачатку ён здаваўся пакорлівым, а потым суровым. Вочы з-пад броваў блішчалі амаль так, як бліскае з-пад ламачча яскравае полымя.

Адзін з наведвальнікаў шынка, гандляр рыбаю, перш чым прыйсці ў шынок і апынуцца за сталом сярод іншых прысутных, наведаўся спачатку да Лабара — каб пакінуць каня ў ягонай стайні. Абсалютна выпадкова раніцай таго самага дня ён сустрэў падазронага незнаёмца, калі той ішоў па дарозе паміж Бра д'Ас і… (Забыўся на назву. Здаецца, гэта быў Эскублон). І вось, сустрэўшыся з ім, незнаёмец, які ўжо і тады выглядаў вельмі стомленым, папрасіў падвезці яго, на што гандляр рыбаю толькі прыспешыў каня. Паўгадзіны таму гэты гандляр знаходзіўся сярод людзей, якія абкружылі Жакена Лабара, і нават сам паспеў расказаць наведвальнікам «Кальбаскага крыжа» пра сваю непрыемную ранішнюю сустрэчу. Са свайго месца ён зрабіў непрыкметны знак гаспадару шынка. Той падышоў да яго. Яны ціхенька перамовіліся. А падарожнік зноў паглыбіўся ў роздум.

Шынкар падышоў да ачага, рэзка схапіў незнаёмца за плячо і сказаў:

— Ідзі адсюль. Зараз жа.

Незнаёмец павярнуўся і пакорліва адказаў:

— Вось як! Значыцца, вы ўжо ведаеце?..

— Так.

— Мяне ўжо выгналі з адной карчмы.

— А зараз цябе выганяюць адсюль.

— Куды ж мне ісці?

— Прэч.

Падарожны ўзяў свой кій і ранец ды пайшоў.

Калі ён выходзіў з шынка, некалькі дзяцей, якія прыйшлі за ім следам з «Кальбаскага крыжа» і, здаецца, чакалі тут, пачалі кідаць у яго камяні.

Ён у гневе павярнуўся назад і прыгразіў ім кіем — дзеці разляцеліся ў розныя бакі, быццам чародка птушак.

Праз некаторы час падарожнік апынуўся насупраць турмы. На варотах вісеў жалезны ланцуг, прымацаваны да званочка. Ён пазваніў.

Акенца ў варотах адчынілася.

— Спадар брамнік! — сказаў падарожны, пачціва здымаючы фуражку. — Калі ласка, адчыніце мне і дазвольце застацца ў вас гэтай ноччу.

Голас яму адказаў:

— Турма — гэта не заезны дом. Няхай цябе арыштуюць, тады адчыню.

Акенца ў варотах зачынілася.

Ён апынуўся на маленькай вулачцы, дзе было шмат садоў. Некаторыя з іх былі абнесены толькі жывой плеценай агароджай, што значна ажыўляла

вуліцу. Сярод гэтых садоў і агароджаў падарожны ўбачыў невялікі дамок, з акенца якога лілося святло. Ён зазірнуў у гэтае акенца, як раней у акенца шынка. У вялізным выбеленым пакоі ён убачыў драпіраваны набіўным паркалем ложак, калыску ў кутку, некалькі драўляных крэслаў і двухствольнае ружжо, якое вісела на сцяне. У цэнтры пакоя стаяў накрыты стол. Медная лямпа асвятляла белы абрус з грубага палатна, бліскучы, як срэбра, алавяны збан, напоўнены да самых берагоў вінам, і карычневую міску для супа, ад якой ішла пара. За сталом сядзеў мужчына прыкладна сарака гадоў з адкрытым і радасным тварам, ён падкідаў на каленях дзіця. Каля яго сядзела маладая жанчына, якая карміла другое дзіця. Бацька смяяўся, дзіця смяялася, маці ўсміхалася.

На імгненне незнаёмец задумліва спыніўся перад гэтым мірным, радасным відовішчам. Што рабілася ў яго душы? Толькі ён адзін мог адказаць на такое пытанне. Мабыць, ён падумаў, што яго гасцінна сустрэнуць у гэтым шчаслівым доме і што там, дзе ён бачыць столькі шчасця, магчыма, знойдзецца для яго трошачкі спачування.

Ён ціхенька пастукаў у акно.

Ніхто не пачуў яго.

Ён пастукаў зноў.

І пачуў, як жанчына сказала:

— Мілы мой, мне здаецца, што нехта стукае.

— Не, — адказаў муж.

Ён пастукаў трэці раз.

Муж падняўся, узяў лямпу і, падышоўшы да дзвярэй, адчыніў іх. Гэта быў мужчына высокага росту, напалову селянін, напалову рамеснік. На ім быў шырокі скураны фартух, які даходзіў да яго левага пляча і ў якім тапырыліся малаток, чырвоная насоўка, парахаўніца і розныя іншыя прадметы. Ён стаяў, узняўшы галаву; з-пад шырокага каўняра кашулі віднелася яго белая бычыная шыя. У яго былі густыя бровы, вялізныя чорныя бакендбарды, вочы навыкаце. Ніжняя сківіца выступала наперад і выраз твару меў той складаны для апісання выгляд, які мае твар чалавека, калі ён ведае, што знаходзіцца ў сваёй хаце.

— Прабачце, спадар, — сказаў падарожны, — ці не маглі б вы за грошы даць мне талерку супу і прытуліць на ноч у той пуні, якая знаходіцца ў вашым садзе? Скажыце, ці маглі б вы? За грошы?

— Хто вы такі? — запытаў гаспадар дома.

Падарожны адказаў:

— Я іду з Пюі-Муасона. Я ішоў увесь дзень. Я прайшоў дванаццаць лье. Скажыце, ці маглі б вы? За грошы?

— Я не супраць таго, каб за грошы даць прытулак добраму чалавеку. Але ж чаму вы не пойдзеце ў заезны дом?

— Там няма месца.

— Гэтага не можа быць. Зараз не кірмаш і не базарны дзень. Вы былі ў Лабара?

— Так.

— І?

Падарожны збянтэжана адказаў:

— Я не ведаю, ён мяне не пусціў.

— Ці былі вы ў шынку на вуліцы Шафо?

Збятэжанасць падарожнага павялічвалася.

— Ён таксама не пусціў мяне, — прамармытаў ён.

Недавер з’явіўся на твары селяніна, ён зноў агледзеў з галавы да ног незнаёмца і раптам жудасна ўскрыкнуў:

— А ці не той вы чалавек?

Ён ізноў агледзеў незнаёмца, адышоў на тры крокі, паставіў лямпу на стол і зняў са сцяны ружжо.

Між тым, пачуўшы словы мужа «А ці не той вы чалавек?», жанчына паднялася, схапіла на рукі абодвух дзяцей і, нават не прыкрыўшы голыя грудзі, хутка схавалася за плячыма мужа, адкуль з жахам пазірала на незнаёмца збянтэжанымі вачыма і ціхенька шаптала: «Зладзейскі вырадак!»

Усё гэта адбылося так хутка, што нават складана сабе ўявіць. Нейкае імгненне гаспадар глядзеў на незнаёмца так, як глядзяць на грымучую змяю, пасля зноў падышоў да дзвярэй і вымавіў:

— Ідзі адсюль.

— Богам прашу, — упрошваў падарожнік, — дайце хоць шклянку вады.

— А ці не хочаш кулю ў лоб? — запытаў селянін.

Затым ён рэзка зачыніў дзверы, а падарожнік пачуў, як заскрыгаталі дзве цяжкія жалезныя засаўкі. Праз імгненне зачыніліся аканіцы і пачуўся грукат жалезнага бруса.

Між тым набліжалася ноч. Дзьмуў халодны альпійскі вецер. У апошнім святле дня падарожны заўважыў у адным з садоў, што акружалі вуліцу, нешта падобнае да зямлянкі, як яму падалося, парослай дзірваном. Ён рашуча пераскочыў драўляную агароджу і апынуўся ў садзе. Наблізіўся да зямлянкі з вузкай і нізкай адтулінай замест дзвярэй; яна нагадвала тыя шалашы, што звычайна будуюць шашэйныя рабочыя ля краю дарогі. Незнаёмец сапраўды падумаў, што гэта адін з тых шалашоў, яму было холадна, і хацеў есці, з голадам ужо змірыўся, а ў гэтым шалашы мог хаця б схавацца ад холаду. Звычайна па начах у такіх прыстанках няма ні душы. Ён лёг на пусты жывот і пралез у сярэдзіну зямлянкі. Там было цёпла, нават знайшлася нядрэнная саламяная падсцілка. Ён выцягнуўся на гэтай падсцілцы і, адолены стомай, заставаўся ляжаць так нейкі час, не маючы сіл варухнуцца. Потым, адчуваючы, што ранец за плячыма перашкаджае яму, здагадаўся, што ім можна скарыстацца як падушкай, падарожнік пачаў адшпільваць адзін з рамянёў. У гэты момант пачулася грознае рыканне. Ён узняў вочы. Галава вялізнага бульдога паказалася ў цёмнай адтуліне.

Гэта была будка сабакі.

Ён таксама быў моцны і страшны; з дапамогай свайго кія і ранца-шчыта ён неяк выбраўся з будкі, але дзіркі на яго лахманах пашырыліся.

Ён выбраўся з саду, адступаючы назад і размахваючы кіем, і, каб утрымаць на адлегласці сабаку, быў вымушаны скарыстацца прыёмам, які фехтавальшчыкі называюць зачыненай ружай.

Калі ён не без намаганняў другі раз перасёк агароджу і апынуўся на вуліцы адзін, без жытла, без даху на галавой, без прытулку, выгнаны нават з сабачай будкі, ён цяжка апусціўся на камень; кажуць, нейкі чалавек, які ў гэты момант праходзіў каля яго, пачуў ягоны выкрык: «Нават сабаку жывецца лепш, чым мне!»

У хуткім часе ён падняўся і зноў адправіўся ў дарогу. Ён выйшаў з горада, спадзеючыся знайсці ў полі дрэва ці стог сена, дзе можна было б схавацца.

Ён ішоў так яшчэ нейкі час, нізка схіліўшы галаву. Апынуўшыся далёка ад усялякага чалавечага жытла, ён узняў вочы і азірнуўся навокал. Ён быў у полі: перад ім рассцілаўся адзін з тых пакатых узгоркаў з пакошаным жнівом, якія нагадваюць пасля жатвы стрыжаную галаву.

Гарызонт быў абсалютна чорны і не толькі з-за начной цемры: нізкія аблокі, якія быццам дакраналіся да ўзгорка, даходзілі даверху і зацягвалі ўсё неба. Аднак, паколькі ў хуткім часе павінен быў узысці месяц, а ў зяніце яшчэ трымаліся водбліскі змрочнага святла, гэтыя хмары стваралі на небе нешта падобнае да бледнага купала, які адкідваў слабае святло на зямлю.

Такім чынам, зямля была асвечана больш за неба, што заўсёды выклікае жудаснае ўражанне, і ўзгорак з яго аднастайным і нудлівым абрысам цьмяна і невыразна вымалёўваўся на змрочным гарызонце. Усё разам стварала агіднае, убогае, панурае, удушлівае ўражанне. Адзінае ва ўсім полі і на ўзгорку нязграбнае дрэўца, якое калыхалася і здрыгвалася ад ветру, стаяла за некалькі крокаў ад падарожніка.

Мяркуючы па ўсім, чалавек гэты не належаў да людзей з тонкім духоўным і разумовым складам, якія чуйна ўспрымаюць таямнічы бок з'яў; аднак усё гэтае відовішча: поле, узгорак, раўніна, дрэва — наганялі такую нясцерпную нуду, што пасля хвіліны нерухомага сузірання ён раптам павярнуў назад. Бываюць такія імгненні, калі сама прырода здаецца варожай.

Ён вярнуўся ў горад. Вароты Дзіня былі ўжо зачынены. Дзінь, які вытрымаў не адну асаду падчас рэлігійных войнаў, у 1815 годзе яшчэ быў абкружаны старажытнымі крэпаснымі сценамі з чатырохвугольнымі вежамі, разбуранымі пазней. Прабраўшыся праз нейкую адтуліну, падарожны ўвайшоў у горад.

Было прыкладна восем гадзін вечара. І, паколькі падарожны не ведаў горада, ён зноў пайшоў наўздагад.

Такім чынам ён дайшоў да прэфектуры, а потым апынуўся ля семінарыі. Калі ён праходзіў па Саборнай плошчы, пагразіў царкве кулаком.

На рагу гэтай плошчы знаходзілася друкарня. Менавіта тут упершыню надрукавалі заклікі імператара і ягонай гвардыі да арміі, прывезеныя з вострава Эльба і прадыктаваныя самім Напалеонам.

Ні на што болей не спадзеючыся, змучаны стомай падарожны лёг на каменную лаўку ля дзвярэй тыпаграфіі.

У гэты момант старая жанчына выходзіла з царквы. У цемры яна заўважыла ляжачага чалавека.

— Што вы тут робіце, сябра? — запытала яна.

Ён адказаў рэзка і злосна:

— Няўжо вы не бачыце, добрая жанчына? Я кладуся спаць.

Добрай жанчынай, вартай такога зварота, была маркіза дэ Р.

— На гэтай лаўцы? — здзівілася яна.

— На працягу дзевятнаццаці гадоў я спаў на голых дошках, — сказаў чалавек, — а сёння я буду спаць на голых камянях.

— Вы былі салдатам?

— Так, добрая жанчына. Салдатам.

— Тады чаму вы не ідзяце ў заезны дом?

— Таму што ў мяне няма грошай.

— На жаль, — сказала маркіза дэ Р, — у маім кашальку ёсць толькі чатыры су.

— Усё роўна давайце.

І ён узяў чатыры су. Маркіза дэ Р працягвала:

— Вам не хопіць гэтых грошай для заезнага дома. Ці спрабавалі вы яшчэ дзе-небудзь спыніцца? Вы ж не можаце правесці так усю ноч. Напэўна, вы змерзлі і хочаце есці. Хто-небудзь мог бы вас прытуліць нават з літасці.

— Я стукаўся ва ўсе дзверы.

— І што ж?

— Адусюль мяне гналі.

«Добрая жанчына» дакранулася да рукі незнаёмца і паказала яму маленькі домік, які знаходзіўся па другі бок плошчы, побач з епархіяй.

— Вы кажаце, што стукаліся ва ўсе дзверы, — зноў сказала жанчына.

— Так.

— Але ж ці стукаліся вы вось у гэтую?

— Не.

— Тады паспрабуйце.

**Глава другая**

## АСЦЯРОЖНАСЦЬ, ПАДКАЗАНАЯ ЗДАРОВЫМ СЭНСАМ

У гэты вечар дзіньскі епіскап пасля прагулкі ў горадзе даволі доўга сядзеў, зачыніўшыся ў сваім пакоі. Ён займаўся важнай працай аб абавязках, якая, на жаль, так і засталася нясконачанай. Ён старанна збіраў усё, што калі-небудзь казалі наконт гэтага святары і вучоныя. Кніга, якую ён пісаў, падзялялася на дзве часткі: у першай гаварылася пра абавязкі ўсіх, а ў другой — пра абавязкі кожнага чалавека ў залежнасці ад яго сацыяльнага становішча.

Агульначалавечыя абавязкі значныя. Існуе чатыры тыпы такіх абавязкаў. Апостал Мацвей вызначае іх так: абавязкі ў дачыненні да Бога (Мц., VI), абавязкі ў дачыненні да самога сабе (Мц., V. 29, 30), абавязкі ў дачыненні да бліжняга (Мц., VII, 12), абавязкі ў дачыненні да божых стварэнняў (Мц., VI, 20, 25). Што датычыцца іншых абавязкаў, то епіскап знайшоў іх адзначанымі і прадпісанымі ў іншых крыніцах: абавязкі ўладароў ды падданых — у Пасланні да Рымлян; абавязкі суддзяў, жонак, мацярэй і юнакоў — у апостала Пятра; абавязкі мужоў, бацькоў, дзяцей і слуг — у Пасланні да Ефесянаў; абавязкі вернікаў — у Пасланні да Яўрэяў; абавязкі нявінніц — у Пасланні да Карынфянаў. Усе гэтыя прадпісанні ён рупліва аб'яднаў у адзінае цэлае, якое яму хацелася данесці да чалавечых душ.

У восем гадзін вечара, калі ён яшчэ працаваў, трымаючы на каленях вялізную разгорнутую кнігу, і ў такой нязручнай паставе рабіў нейкія запісы ў маленькіх клетачках паперы, як звычайна, увайшла спадарыня Маглуар, каб узяць сталовае срэбра з насценнай шафы побач з ложкам. Праз хвіліну, здагадаўшыся, што стол ужо накрыты і сястра, напэўна, чакае яго, ён загарнуў кнігу, устаў з-за стала і ўвайшоў у сталовую.

Сталовая ўяўляла сабой прадаўгаваты пакой з камінам, дзвярамі, якія выходзілі на вуліцу (раней мы ўжо казалі пра гэта), і акном з відам на сад.

Спадарыня Маглуар сапраўды заканчвала накрываць на стол. Не адрываючыся ад справы, яна размаўляла з Бацісцінай.

На стале была лямпа, стол знаходзіўся побач з камінам, у якім гарэла яскравае полымя.

Даволі проста ўявіць сабе двзюх гэтых жанчын, кожнай з якіх было больш за шэсдьдзясят гадоў: маленькую, пухленькую і жвавую спадарыню Маглуар ды лагодную, худзенькую і кволую паненку Бацісціну, троху вышэйшую за свайго брата, у шаўковай чырвона-бурай сукенцы, колер якой быў у модзе ў 1806 годзе. Гэтую сукенку спадарыня Бацісціна купіла ў тым самым годзе ў Парыжы і захавала яе дагэтуль. Кажучы простай мовай, якая мае вартую ўвагі асаблівасць перадаваць асноўную думку адным словам, а не доўгімі непатрэбнымі апісаннямі, спадарыня Маглуар мела выгляд «*бабы*», а спадарыня Бацісціна — «*дамы*». На галаве спадарыні Маглуар быў белы чэпчык з гафрыраванымі брыжамі, а на шыі — залаты крыжык, адзінае ўпрыгожванне, якое было ў гэтым доме; шыйная хустачка выглядвала з-пад чорнай шарсцяной сукенкі з кароткімі і шырокімі рукавамі, бавоўняны фартух у чырвона-зялёную клетку з чырвонай стужкай на поясе і такім жа нагруднікам, прычэпленым зверху дзвюма шпількамі; на нагах жанчыны былі вялізныя башмакі і жоўтыя панчохі, якія носяць жанчыны ў Марсэлі. Сукенка спадарыні Бацісціны была зроблена па фасоне 1806 года: кароткая талія, вузкая спадніца, рукавы з наплечнікамі, клапаны і гузікі. Свае сівыя валасы яна хавала пад завітым парыком, які тады называлі *«дзіцячым»*. Спадарыня Маглуар мела выгляд разумнай, жвавай і дабрадушнай жанчыны; між тым неаднолькава ўзнятыя куточкі яе вуснаў і верхняя губа, якая была таўсцейшай за ніжнюю, надавалі яе выгляду некаторую суровасць і ўладарнасць. Пакуль монсеньёр маўчаў, яна гаварыла даволі рашуча, сумяшчаючы павагу з фамільярнасцю; але ж, калі монсеньёр гаварыў, яна, як і гаспадыня, пакорна слухалася загаду. Бацісціна амаль заўсёды маўчала. Яна абмяжоўвалася тым, што слухалася ды дагаджала. Нават у маладосці яна не была прыгажуняй: блакітныя лупатыя вочы і доўгі нос з гарбінкай; але ж увесь яе твар, уся яе істота, як мы ўжо казалі раней, былі напоўнены невыказнай дабрынёй. Яна заўсёды была дабрадушнай, аднак вера, міласэрнасць і надзея, тры дабрачыннасці, якія сагравалі душу цяплом, пацiху ўзнялі гэтую дабрадушнасць да святасці. Прырода зрабіла яе ягнём, а рэлігія ператварыла ў сапраўднага анёла. Бедная святая дзяўчына!

Бацісціна так часта расказвала пра тое, што здарылася ў той вечар у доме епіскапа, што шматлікія з тых, хто яшчэ жывы, памятаюць усё да найменшай падрабязнасці.

У той самы момант, калі ўвайшоў епіскап, спадарыня Маглуар нешта ажыўлена гаварыла Бацісціне. Яна абмяркоўвала з ёй сваю ўлюбёную тэму, да якой епіскап ужо паспеў прывыкнуць. Размова ішла пра клямку на ўваходных дзвярах.

Відаць, Маглуар паспела наслухацца розных выдумак, калі купляла запасы ежы для вячэры. Пагаворвалі, што ў горадзе з'явіўся нейкі падазроны тып, небяспечны валацуга, які блукае па вуліцах, і што той, хто надумае позна вяртацца дадому гэтай ноччу, можа мець непрыемнасці, сустрэўшыся з ім. Казалі таксама, што паліцыя была нікуды не вартая, бо прэфект і мэр не жывуць у згодзе і, каб нашкодзіць адзін аднаму, падстройваюць непрыемнасці. Таму разважлівым жыхарам Дзіня трэба самім рабіцца паліцыяй, быць пільнымі і клапаціцца пра сваю бяспеку: зачыніць дамы, загарадзіць уваходы, замкнуць дзверы.

Спадарыня Маглуар асабліва падкрэсліла апошнія словы; аднак епіскап выйшаў са свайго даволі халаднаватага пакоя, сеў ля каміна, каб пагрэцца, і думаў зусім пра іншае. Словы спадарыні Маглуар ён пакінуў без усялякай увагі. Тады яна зноў паўтарыла іх. Спадарыня Баціcціна, якая жадала задаволіць Маглуар і разам з тым не раздражняць брата, нясмела запытала:

— Ці чуеце, брат мой, пра што гаворыць спадарыня Маглуар?

— Так, я мелькам нешта чуў, — адказаў епіскап.

Напалову павярнуўшы стул і паклаўшы абедзьве рукі на калені, ён узняў да служанкі свой добразычлівы вясёлы твар, асвечаны знізу полымем каміна:

— Ну што ж, паглядзім, у чым жа там справа. Што здарылася? Нам нешта пагражае?

І спадарыня Маглуар зноў пачала расказваць усю гэтую гісторыю, нават не заўважаючы, што трошачкі ўпрыгожвае яе. Згодна з ёй, у горадзе знаходзіўся нейкі цыган і абадранец, нейкі небяспечны жабрак. Ён хацеў спыніцца ў Жакена Лабара, але той адмовіў яму. Людзі бачылі, што ён прыйшоў з бульвара Гасандзі і да самага змроку бадзяўся па горадзе.

— Сапраўды? — запытаў епіскап.

Гэтае пытанне ўзбадзёрыла спадарыню Маглуар; ёй падалося, што епіскап ужо амаль турбуецца, і з выглядам пераможцы яна працягвала:

— Так, монсеньёр. Сапраўды так. Гэтай ноччу абавязкова здарыцца нешта дрэннае. Усе так кажуць. А ў дадатак, яшчэ ні да чаго не вартая паліцыя (дарэмнае паўтарэнне). Жыць у горных мясцінах і не паставіць ніводнага ліхтара! Выходзіш, а навокал цемень! Вось я і кажу, монсеньёр, ды і спадарыня гаворыць, што...

— Я, — перабіла яе Баціcціна, — я нічога не кажу. Усё, што робіць мой брат, добра.

Быццам не пачуўшы гэтага пярэчання, спадарыня Маглуар працягвала:

— Вось мы і кажам, што ў нашым доме зусім небяспечна і што, калі монсеньёр дазволіць, я пайду да слесара Палена Мюзбуа, каб ён прыладзіў да дзвярэй тыя засаўкі, што былі раней. Яны ёсць у яго, таму гэта справа адной хвіліны. Сапраўды, монсеньёр, засаўкі неабходны, няхай толькі на гэтую ноч, бо няма нічога больш жахлівага за дзверы з клямкай, якія кожны можа з лёгкасцю адчыніць. А яшчэ монсеньёр мае звычку заўсёды казаць «уваходзьце», нават глыбокай ноччу. Божа мой! Можна нават і не пытацца дазволу....

У гэты момант нехта гучна пастукаў у дзверы.

— Уваходзьце, — сказаў епіскап.

**Глава трэцяя**

## ДОБЛЕСЦЬ СЛЯПОЙ ПАСЛУХМЯНАСЦІ

Дзверы адчыніліся.

Яны адчыніліся рэзка і шырока, быццам бы іх штурхнулі рашуча і моцна.

Увайшоў чалавек.

Той самы чалавек, якога мы ўжо ведаем. Той самы падарожнік, якога мы нядаўна бачылі, калі ён шукаў які-небудзь прытулак.

Ён увайшоў і, зрабіўшы адзін крок наперад, спыніўся, пакінуўшы пасля сябе незачыненыя дзверы. На яго плячы вісеў салдацкі ранец, а ў руцэ ён трымаў сваю палку; позірк незнаёмца быў суровы, дзёрзкі, стомлены і злосны. Агонь каміна яскрава асвятляў яго. Ён быў жудасны. А ў гэтым нечаканым з'яўленні было нешта злавеснае.

У спадарыні Маглуар нават не хапіла сіл, каб ускрыкнуць. Яна задрыжала і быццам аслупянела.

Спадарыня Бацісціна азірнулася, заўважыла незнаёмца і, спужаўшыся, ажно прыўстала. Але потым, асцярожна перавёўшы свой позірк на брата, які сядзеў ля каміна, яе твар зноў прыняў ціхмяны і спакойны выгляд.

Між тым епіскап звярнуў да незнаёмца свае спакойныя вочы.

Па руху вуснаў епіскапа, незнаёмец здагадаўся, што той зараз запытае: «Чаго жадаеце?» Тады ён паклаў абедзьве рукі на палку, паглядзеў па чарзе на старога ды жанчын, і, не чакаючы пытання, пачаў гучным голасам:

— Вось што. Маё імя Жан Вальжан. Я катаржнік. Я правёў дзевятнаццаць гадоў на катарзе. Чатыры дні назад мяне адпусцілі, і я іду ў напрамку Пантарлье. Вось ужо чатыры дні, як я іду з Тулона. Сёння я прайшоў дванаццаць лье. Увечары ўвайшоў у гэты горад і хацеў спыніцца ў заезным доме, але ж мяне прагналі адтуль, бо я паказаў свой жоўты пашпарт у мэрыі. Нічога не зробіш. Тады я пайшоў у іншы заезны дом. Там мне сказалі: «Ідзі адсюль!» Спачатку ў адным, а потым і ў другім. Ніхто не захацеў прытуліць мяне. Я быў у турме, але ж брамнік не адчыніў мне. Я залез у будку сабакі. Сабака ўкусіў мяне і прагнаў, быццам бы гэта быў чалавек, а не сабака. Можна падумаць, ён ведаў, хто я такі. Я пайшоў у поле, каб спыніцца на ноч там. Аднак хмары зацягнулі неба. Я вырашыў, што хутка пачнецца дождж і што няма справядлівага Бога, які б перашкодзіў яму, і я зноў вярнуўся ў горад, каб недзе прытуліцца. Там, на плошчы, я знайшоў каменную лаўку і ўжо збіраўся заснуць на ёй, але нейкая добрая жанчына паказала мне ваш дом і сказала: «Пастукайся туды». Я так і зрабіў. Што тут такое? Заезны дом? У мяне ёсць грошы. Цэлых сто дзевятнаццаць франкаў і пятнаццаць су, якія я зарабіў за дзевятнаццаць гадоў. Я заплачу. Колькі гэта будзе каштаваць? У мяне ёсць грошы. Я вельмі стаміўся, я прайшоў дванаццаць лье, і я вельмі хачу есці. Вы дазволіце мне застацца?

— Спадарыня Маглуар, — сказаў епіскап, — пастаўце яшчэ адзін сталовы прыбор.

Чалавек зрабіў тры крокі наперад і наблізіўся да лямпы, якая была на стале.

— Пачакайце, — працягваў ён, быццам не паверыўшы сваім вушам, — гэтага не можа быць. Вы добра пачулі? Я катаржнік. Катаржнік. Я прыйшоў з галеры.

Ён выцягнуў вялізную жоўтую паперу са сваёй кішэні і разгарнуў яе.

— Вось мой пашпарт. Як бачыце, ён жоўты. Гэта зроблена для таго, каб мяне гналі адусюль, дзе б я ні знаходзіўся. Мабыць, вы жадаеце прачытаць? Я і сам здольны чытаць. Вывучыўся на катарзе. Там ёсць спецыяльная школа для тых, хто жадае. Вось, паслухайце, што яны напісалі ў пашпарце: «Жан Вальжан, вызвалены катаржнік, ураджэнец… Гэта вам не цікава… Прабыў на катарзе дзевятнаццаць гадоў. Пяць гадоў за крадзеж з узломам. Чатырнаццаць гадоў за чатырохразовыя спробы ўцячы. Гэта вельмі небяспечны чалавек». Вось! І адусюль мяне гналі прэч! А вы? Ці згодзіцеся

вы прытуліць мяне? Гэта заезны дом? Ці згодзіцеся накарміць і пакінуць на ноч? У вас ёсць канюшня?

— Спадарыня Маглуар! — сказаў епіскап. — Пасцяліце чыстыя прасціны на ложку ў алькове.

Раней мы ўжо гаварылі наконт беспярэчнай паслухмянасці жанчын. Спадарыня Маглуар пакінула пакой і пайшла выконваць усе гэтыя загады. Епіскап тым часам звярнуўся да падарожніка:

— Сядайце, спадар, і пагрэйцеся. Зараз мы будзем вячэраць, і пакуль вы будзеце есці, вам падрыхтуюць ложак.

Толькі цяпер падарожнік зразумеў сэнс гэтых слоў. На ягоным твары, дагэтуль суровым і хмурным, адбілася надзвычайнае здзіўленне, недавер, радасць. Ён замармытаў, быццам шалёны:

— Сапраўды? Гэтага не можа быць! Вы дазваляеце мне застацца? Вы не ганіце мяне! Мяне? Катаржніка? Вы клічаце мяне «спадар» і не звяртаецеся на «ты». «Ідзі прэч, сабака!» — вось як мяне заўжды сустракаюць. Я сапраўды думаў, што вы адразу пагоніце мяне. Бо я адразу сказаў, хто я такі. Дзякуй той добрай жанчыне, якая параіла мне зайсці сюды. Зараз я буду вячэраць! І ложак! Сапраўдны ложак з матрацам і прасцінамі! Як ва ўсіх людзей! Вось ужо дзевятнаццаць гадоў я не спаў на сапраўдным ложку! Вы дазволілі мне застацца! Сапраўды, вы высакародныя людзі! Урэшце, у мяне ёсць грошы! Я добра заплачу! Прабачце, пан карчмар, а як ваша імя? Я заплачу, колькі патрэбна. Вы добры чалавек. Вы ж карчмар?

— Я святар і жыву ў гэтым доме, — адказаў епіскап.

— Святар! — паўтарыў падарожнік. О! Добры чалавек — святар! Так значыцца, вам не патрэбны мае грошы? Вы — кюрэ? Кюрэ з гэтай вялізнай царквы? Які ж я дурань! Не заўважыў вашай скуфейкі.

З гэтымі словамі ён паставіў ранец і палку ў куток, схаваў пашпарт у кішэню і сеў. Спадарыня Бацісціна з дабрынёй глядзела на яго. А ён працягваў:

— У вас чулае сэрца, спадар кюрэ, вы нікога не цураецеся. Гэта так цудоўна — добры святар. Значыцца, вам не патрэбны мае грошы?

— Не, — адказаў святар, — Пакіньце іх сабе. Колькі іх у вас, вы казалі? Сто дзевятнаццаць франкаў?

— І пятнаццаць су, — дадаў падарожнік.

— Сто дзевятнаццаць франкаў і пятнаццаць су. І колькі часу вам спатрэбілася, каб зарабіць іх?

— Дзевятнаццаць гадоў.

— Дзевятнаццаць гадоў!

Епіскап цяжка ўздыхнуў.

Падарожнік працягваў:

— Пакуль усе мае грошы са мной. За чатыры дні я патраціў толькі дваццаць пяць су, якія зарабіў у Грасе, калі дамапагаў разгружаць калёсы. Паколькі вы абат, я хачу сказаць вам, што на катарзе ў нас быў святар. І вось аднойчы я ўбачыў епіскапа. Да якога звяртаюцца «ваша правялебнасць». Гэта быў Майорскі епіскап у Марсэлі. Епіскап — гэта кюрэ, які ўзвышаецца над іншымі кюрэ. Прабачце мне, я дрэнна тлумачу, але ж для мяне гэта так далёка і незразумела! Ведаеце, вы зусім іншыя! Ён служыў абедню на катарзе, на галаве ў яго была нейкая востраканцовая залатая штука. Яна так і блішчэла на паўдзённым сонцы. Мы стаялі з трох бакоў, і на нас былі наведзены гарматы з запаленымі кнотамі. Мы вельмі дрэнна бачылі. Ён

нешта гаварыў, але ж мы нічога не чулі, бо ён быў далёка ад нас. Вось што такое епіскап.

Пакуль ён тлумачыў усё гэта, епіскап падняўся ды зачыніў дзверы, якія дагэтуль былі разнасцежаны.

Увайшла спадарыня Маглуар. Яна прынесла сталовы прыбор, які паставіла на стол.

— Спадарыня Маглуар, — сказаў епіскап, — пастаўце гэты прыбор як мага бліжэй да агню.

І, павярнуўшыся да госця, сказаў:

— Ноччу ў Альпах вельмі халодны вецер. Напэўна, вы змерзлі, спадар?

Кожны раз, калі епіскап сваім ласкава-сур'ёзным прыемным голасам называў яго спадаром, твар падарожніка быццам бы азараўся. «Спадар» для катаржніка — гэта ўсё роўна што стакан вады для чалавека, які памірае ад смагі. Зняслаўленыя жадаюць павагі.

— Як жа цьмяна гарыць лямпа, — заўважыў епіскап. Спадарыня Маглуар зразумела яго, яна пайшла ў спальню епіскапа, дзе ўзяла з каміна два срэбныя падсвечнікі і, вярнуўшыся, паставіла іх з запаленымі свечкамі на стол.

— Спадар кюрэ, — сказаў падарожнік, — вы добры чалавек, вы не цураецеся мяне. Вы далі мне прытулак. Вы запалілі для мяне свечы. А я ж не ўтойваў ад вас, адкуль я прыйшоў, не ўтойваў, што я нікчэмны чалавек.

Епіскап сеў побач з ім і ласкава дакрануўся да яго рукі.

— Вы нават маглі б і не гаварыць мне, хто вы такі. Гэта не мой дом, гэта дом Хрыста. У чалавека, які ўваходзіць праз дзверы гэтага дома, пытаюцца не пра тое, ці ёсць у яго імя, але пра тое, ці не здарылася з ім нейкае гора. Вы пакутуеце, вас мучыць голад і смага — уваходзьце. І не трэба мне дзякаваць і казаць, што я даў вам прытулак. Толькі тыя, каму сапраўды патрэбны прытулак, адчуваюць сябе тут як дома. І, паколькі вы прыйшлі сюды, я скажу, што гэта больш ваш дом, чым мой. Усё, што тут знаходзіцца — яно ваша. Дык навошта мне ведаць ваша імя? Урэшце, я ведаў, як вас завуць яшчэ да таго, як вы мне яго сказалі.

Падарожнік са здзіўленнем паглядзеў на яго.

— Сапраўды? Вы ведалі, як мяне завуць?

— Так, — адказаў епіскап. Вас завуць — брат мой.

— Паслухайце, спадар кюрэ, — сказаў падарожнік, — калі я ўвайшоў сюды, я вельмі хацеў есці, але ж вы такі добры, што зараз я і не ведаю, што са мной: быццам бы і голад кудысьці знік.

Епіскап паглядзеў на яго і запытаў:

— Вы вельмі пакутавалі?

— Ах! Арыштанцкая куртка, ядро, прыкаванае да нагі ланцугом, голыя дошкі замест ложка, спёка, сцюжа, праца, катаржнікі на галеры, удары! Двайныя кайданы за малюсенькую правіннасць, карцар за адно толькі слова. Нават на хворых кандалы. Сабакі і тыя шчаслівейшыя! Дзевятнаццаць гадоў! Мне ўжо сорак шэсць. А цяпер і жоўты пашпарт. Вось і ўсё.

— Так, — сказаў епіскап, — вы выйшлі з месца пакуты. Але ж паслухайце. Залітытвар слязьмі твар грэшніка ў пакаянні куды больш цешыць нябёсы, чым незаплямленае адзенне ста праведнікаў. Калі вы выйшлі з тых мясцін, затаіўшы ў сэрцы гнеў ды нянавісць да людзей, то вас трэба пашкадаваць, але ж, калі вы вярнуліся адтуль з добразычлівым, пакорным і мірным сэрцам, вы вартыя ўвагі больш, чым любы сярод нас.

Між тым спадарыня Маглуар прынесла вячэру. Посны суп з алеем, хлебам, соллю, трошачкі сала, кавалак бараніны, смоквы, тварог і вялізны бохан жытняга хлеба. Да звычайнай вячэры епіскапа яна дадала ад сябе бутэльку старога моўскага віна.

У гэты момант на твары епіскапа з'явіўся выраз, уласцівы гасцінным людзям.

— Сядайце за стол, — запрасіў ён.

Ён пасадзіў падарожніка справа ад сябе, як рабіў заўсёды, калі ў яго доме былі госці. Бацісціна, якая трымалася спакойна і проста, села па левы бок.

Епіскап прачытаў малітву перад вячэрай і, як звычайна, наліў усім суп. Падарожнік з прагнасцю пачаў есці.

Раптам епіскап сказаў:

— Мне здаецца, што на гэтым стале чагосьці не хапае.

На самой справе, спадарыня Маглуар паклала на стол толькі тры прыборы, неабходныя па колькасці чалавек за сталом. Між тым паводле традыцыі, калі ў доме епіскапа былі госці, на стол клалі адразу ўсе шэсць срэбраных прыбораў — нявінная фанабэрыя! Такое мілае падабенства да раскошы было свайго роду дзяцінствам у гэтым гасцінным, але ж строгім доме, дзе беднасць узносілася да вартасці.

Спадарыня Маглуар зразумела, што меў на ўвазе епіскап і, нічога не кажучы, выйшла; праз хвіліну тры прыборы, якія запатрабаваў епіскап, блішчалі на абрусе, сіметрычна раскладзеныя перад кожным з трох сатрапезнікаў.

### **Глава пятая**

### СПАКОЙ

Пасля таго, як монсеньёр Бенвеню пажадаў дабранач сястры, ён узяў са стала адзін са срэбраных падсвечнікаў, другі аддаў свайму госцю і сказаў:

— Хадземце, спадар. Зараз я пакажу, дзе знаходзіцца ваш пакой.

Падарожнік пайшоў за ім.

Як ужо адзначалася раней, пакоі ў доме размяшчаліся такім чынам, што, каб увайсці або пакінуць малельню, дзе знаходзіўся алькоў, трэба было прайсці праз спальню епіскапа.

У той момант, калі яны праходзілі праз спальню, спадарыня Маглуар акурат клала сталовае срэбра ў насценную шафу. Гэта была яе апошняя гаспадарчая справа перад тым, як пайсці адпачываць.

Епіскап праводзіў падарожніка да алькова. Там яго чакаў ложак з чыстай і свежай бялізнай. Падарожнік паставіў свой падсвечнік на столік.

— Тады, — сказаў епіскап, — дабранач. Заўтра раніцай вам дадуць шклянку малака ад нашых кароў, яшчэ цёплага.

— Дзякуй, спадар абат, — сказаў падарожнік.

Ледзь толькі ён вымавіў гэтыя мірныя словы, як раптам, без усялякага пераходу, у ім адбылася дзіўная змена, якая б абавязкова спужала абедзвюх жанчын, калі б яны прысутнічалі пры гэтым. Нават і цяпер складана ўявіць, якое пачуцце рухала ім у тое імгненне. Што гэта значыла? Перасцярога або пагроза? Ці ён проста падпарадкоўваўся несвядомаму і незразумеламу для яго самога парыву?

Раптам ён павярнуўся да старога, зложыўшы накрыж рукі, і, скіраваўшы на свайго гаспадара дзікі погляд, хрыпла ўскрыкнуў:

— Дык вось яно што! Вы кладзяце мяне ў доме побач з вамі.

Ён спыніўся і дадаў з усмешкай, у якой было нешта злавеснае:

— Вы добра падумалі пра тое, што робіце? Ніхто ж не казаў вам, што я не забойца.

Епіскап паглядзеў на столь і сказаў:

— Гэта вядома аднаму толькі Богу.

Ён паважна ўзняў руку са складзенымі для знака крыжа пальцамі; варушачы вуснамі, быццам чытаючы малітву або размаўляючы сам з сабой, ён благаславіў падарожніка, які нават не схіліў галавы, і, не азіраючыся, пайшоў да сябе.

Калі хто-небудзь быў у альковe, шырокая саржавая фіранка, працягнутая ад сцяны да сцяны ў малельні, хавала алтар. Праходзячы побач з гэтай фіранкай, епіскап стаў на калені і прачытаў кароткую малітву.

Праз імгненне ён ужо быў у садзе, дзе разважаў, сузіраў, аддаўшыся душой і думкамі той вялікай таямніцы, якую Бог адкрывае вачам тых, хто не спіць па начах.

Што датычыцца падарожніка, то ён сапраўды так стаміўся, што нават не паспеў нацешыцца цудоўнымі чыстымі прасцінамі. Ён патушыў свечку, заціснуўшы адну ноздру і моцна падзьмуўшы другой, як гэта звычайна робяць катаржнікі, і, не здымаючы адзення, лёг на ложак і адразу заснуў.

Калі епіскап вяртаўся з саду ў спальню, была ўжо поўнач.

Праз некалькі хвілін увесь дом спаў.

*З французскай пераклала Аляксандра КУРАВЕЦ.*

*Малюнак Алесі ГАЛОТА*



Ірына ШАЎЛЯКОВА

# ТЭОРЫЯ ЛІТАРАТУРЫ ЯК КРАМА ПРАКТЫЧНЫХ ДЗІВОСАЎ: паняцце мастацкая (сама) ідэнтыфікацыя

Беларускі літаратуразнаўчы дыскурс 2000—2010-х у метадалагічным і тэрміналагічным аспектах нагадвае своеасаблівы рэзервуар (камору), дзе на ўсякі выпадак захоўваецца ўсё, што ў розны час туды трапіла — незалежна ад функцыянальнага стану. Калі цягам апошняй трэці XX стагоддзя тэарэтыка-метадалагічны падмурак даследаванняў нацыянальнага мастацтва слова ўмацоўваўся пераважна за кошт уласных рэсурсаў (канцэпцыі і ідэі В. Каваленкі, У. Конана, М. Тычыны, Л. Сіньковай, І. Жука), то з канца 1990-х папаўняецца згаданы рэзервуар, як правіла, за кошт запазычанняў. Найчасцей мае месца своеасаблівая «міждысцыплінарная экстрапаляцыя», калі тэрміны, паняцці і метадалагічныя ідэі, распрацаваныя ў сістэме каардынат філасофіі, псіхалогіі, сацыялогіі, антрапалогіі, этналогіі, а таксама матэматыкі, фізікі, кібернетыкі і да т.п., пасля нязначнай «каліброўкі» пачынаюць выкарыстоўвацца як інструменты літаратуразнаўчага (гісторыка- альбо тэарэтыка-літаратурнага) аналізу. Аднак, на думку сучаснага расійскага філолага, гісторыка культуры І. Сандамірскай, «міждысцыплінарнасць мае на ўвазе не толькі свабоду, але і вялікія страты ведаў, на гэты конт не варта падманвацца. Наогул жа кірунак міждысцыплінарнасці залежыць ад таго, як вы фармулюеце праблему і як канструюеце катэгорыі для аналізу, апарат» [1].

Больш ці менш выразнае артыкуляванне праблемнага поля «ідэнтычнасць — ідэнтыфікацыя — самаідэнтыфікацыя» ў сучасным беларускім гуманітарным досведзе ажыццяўляецца прыкладна з канца 1980-х. З другой паловы 1990-х побач з мастацка-публіцыстычнымі (паводле пафасу і стылю) артыкуляцыямі з'яўляюцца спробы сфакусаваць увагу зацікаўленай супольнасці на *ідэнтычнасці* як на аб'екце ўласна навуковай рэфлексіі (філасофскай, культуралагічнай, гістарычнай), мэтава арыентаваныя на аксіялагічныя запыты тагачаснага беларускага грамадства. «Сучасны беларускі інтэлектуалізм (найперш філасофія і культуралогія)», паводле прызнання саміх яго рупліўцаў, «па вялікім рахунку, ёсць плёнам ні чаго іншага, а ўласна беларускай літаратуры (дакладней, плёнам яе найноўшай мадыфікацыі» [2]. Пры гэтым варта мець на ўвазе, што канцэптуальна згаданая вышэй праблематыка не ёсць вынаходніцтвам канструктараў найноўшай літаратурнай сітуацыі. Так, у кантэксце ўласна філасофскага аналізу стану беларускай самасвядомасці XIX — першых дзесяцігоддзяў XX стагоддзя У. Абушэнка вызначае праблемы нацыянальнай, этнічнай і культурнай ідэнтыфікацыі (актуалізаваныя як спробы асэнсавання ўласнай ідэнтычнасці і аўтэнтычнасці праз пошук уласнай адрознасці і спецыфічнасці) у якасці своеасаблівага канстытутыўнага пачатку, падмацоўваючы меркаванне ўказаннем на Ф. Багушэвіча, Я. Купалу, А. Цвікевіча і інш. [3, с. 402].

Здавалася б, найкарацейшая траекторыя руху *ідэнтычнасці* ды *ідэнтыфікацыі* (як паняццяў) у найноўшы беларускі літаратурны дыскурс мусіць пралягаць праз філасофскія росшукі і культурасофскія праекты А. Анціпенкі, В. Акудовіча, даследаванні У. Абушэнкі, І. Бабкова, П. Садоўскага, праз культуралагічную эсэістыку Ю. Барысевіча і С. Дубаўца. На справе адпаведныя ідэі аказаліся найбольш запатрабаванымі літаратурна-публіцыстычнай і калялітаратурнай эсэістыкай. Але ў ёй яны па сутнасці і лакалізаваліся. Пры гэтым за два дзесяцігоддзі змены закранулі не столькі ўласна *модус*, колькі *мадальнасці* канцэптуальнага асэнсавання (у айчыннай практыцы — «прысваення») удзельнікамі літаратурнага працэсу праблем ідэнтычнасці. Мадальнасць другой паловы 1990-х гадоў найбольш яскрава, на наш погляд, урэчавілася ў экзістэнцыйна-трагічных, часам нават трагедыйных павод-

ле праблематыкі эсэ Я. Рагіна. З другой паловы 2000-х трэндавыя адзнакі набывае татальна-іранічная (з выхадам у прастору брутальнага сарказму) мадальнасць, узорам якой з канца 2000-х і прынамсі да пачатку 2010-х застаецца віртуальная (электронная, сеткавая) калумністыка А. Бахарэвіча.

Літаратуразнаўцы звяртаюцца да ідэй сучасных айчынных інтэлектуалаў (і пералічаных вышэй, і іншых), як правіла, «кропкава», прычым найчасцей у намінатыўным ключы (у аглядавых пераліках). Найчасцей падчас даследаванняў аксіялагічнага грунту мастацкай славеснасці альбо маральнаэтычных пытанняў у гісторыка-літаратурным ключы праблематыка ідэнтычнасці актуалізуецца праз непасрэдны зварот да літаратурна-мастацкага матэрыялу, то бок без пасрэдніцтва сучасных культуросафаў, а часам — і ў паслядоўнай палеміцы з імі. Згадаем, напрыклад, артыкулы А. Сідарэвіча і Л. Сіньковай, дзе лейтматывам гучыць думка пра тое, што ўся новая і найноўшая беларуская літаратура прасякнута пафасам аднаўлення нацыянальнай ідэнтычнасці, які для яе застаецца нязменна актуальным: «…беларуская культура штораз, са сваіх патрэб зыходзячы, асвойваецца ў больш развітых культурных кантэкстах праз дынаміку арыгінальных мастацкіх структур. Так, наша класіка XX стагоддзя, ад Купалы і Гарэцкага да Танка і Быкава, наша выбітная літаратура ў кожным таленавітым творы вырашае адраджэнцкую задачу — задачу сцвярджэння беларуса, беларускага светабачання — як задачу кожны раз мадэрновую (сучасную)» [4, с. 398].

Аднак у сферы тэарэтычных росшукаў перавага аддаецца першакрыніцам. Зрэшты, гаварыць пра колькі-небудзь заўважную даследчыцкую актыўнасць у гэтым кірунку пакуль не выпадае: у айчынным літаратуразнаўчым дыскурсе апошніх пятнаццаці год мы здолелі адшукаць літаральна адну больш ці менш акрэсленую спробу актуалізаваць паняцце ідэнтычнасці ў дачыненні да тэарэтыка-літаратурнай праблематыкі. С. Калядка, разглядаючы ў адным з артыкулаў «жаночае пісьмо» Вальжыны Морт у сувязі з праблемай ідэнтычнасці мастацкага тэксту, абірае шлях наўпроставых тэрміналагічных запазычанняў: «Ці магчыма ідэнтыфікаваць структуру твора ў сукупнасці фармальных і змястоўных складнікаў? Так, па крытэрыях літаратурнага роду, жанра, метра, стапы і г. д., якія характэрны кожнаму мастацкаму твору. І калі запазычыць філасофскія тэрміны, то тут дарэчы будзе паняцце “калектыўная ідэнтычнасць”… У дачыненні да мастацкага твора “калектыўная ідэнтычнасць” азначае, па-першае, аднесенасць да народнай творчасці (народ як калектыўны аўтар); па-другое, атаясамліванне твора з іншымі падобнымі па ўстаялых характарыстыках, адпаведных пэўнай групе твораў (напрыклад, гэты твор — элегія, якая суадносіцца з іншымі элегіямі па прыкмеце наяўнасці жалобнага, сумнага гучання); патрэцяе, наяўнасць найбольш распаўсюджаных прыёмаў, спосабаў апісання “Я” аўтара і свету і падача гэтага матэрыялу з дапамогай часцей сустракаемых стылістычных сродкаў» [5, с. 95]. Указваючы на пэўную ўмоўнасць прапанаванай класіфікацыі, даследчык сучаснай беларускай жаночай паэзіі паслядоўна трымаецца ў рэчышчы згаданай вышэй міждысцыплінарнай экстрапаляцыі: «Філосафы вылучаюць індывідуальны і сацыяльны ўзроўні ідэнтычнасці, тое ж характэрна і мастацкаму твору — індывідуальны (тое ж, што і “рэальны”) узровень арганізацыі тэксту — гэта набор аўтарскіх характарыстык, які робіць дадзены тэкст унікальным; сацыяльны ўзровень звязаны з ідэнтыфікацыяй твора з літаратурнымі напрамкамі, тэндэнцыямі, моднымі ўплывамі і г. д., якія выкліканы чаканнямі сацыяльнага асяроддзя, у які ён пагружаны» [5, с. 96]. Бадай, аўтар цытаванага артыкула не можа не адчуваць відавочнай хісткасці выніковай — ужо літаратуразнаўчай — канструкцыі, дзе адзін з узроўняў ідэнтычнасці («індывідуальны») — гэта «набор… характарыстык», а другі («сацыяльны») апісваецца праз працэсуальную па сваёй сутнасці намінацыю. Нездарма даследчык тут жа ўказвае на неабходнасць «размяжоўваць паняцці “ідэнтыфікацыя” і “ідэнтычнасць” як працэс і вынік гэтага працэсу. Ідэнтыфікацыя — працэс пабудовы ідэнтычнасці» [5, с. 96].

У любым выпадку, своеасаблівым апраўданнем аб’ёмнасці прыведзеных фрагментаў адносна невялікай працы С. Калядкі, на наш погляд, з’яўляецца тое, што яны яскрава сведчаць пра імкненне даследчыка запачаткаваць арыгінальны метадалагічны падыход да асэнсавання розных аспектаў так званай «аўтаразнаўчай паэтыкі». Разам з

тым, іх аналіз падвозіць да высновы наконт непрадуктыўнасці міждысцыплінарнай экстрапаляцыі тэрмінаў ды паняццяў для рашэння тэарэтыка-літаратурных праблем. Але найбольш істотна тое, што відавочнай становіцца недаацэненасць канцэптуальнага («экзістэнцыйнага») патэнцыялу праблематыкі «ідэнтычнасць — ідэнтыфікацыя» [6] для абнаўлення не толькі тэрміналагічнай сістэмы, але і метадалагічнага інструментарыя айчыннай тэорыі літаратуры — абнаўлення, неабходнасць якога дэтэрмінавана спецыфікай і тэндэнцыямі развіцця беларускай мастацкай славеснасці.

Зварот да паняцця «ідэнтычнасць», яго, так бы мовіць, «натуралізацыя» ў літаратуразнаўчым дыскурсе маглі б мець цікавы плён для беларускай тэорыі літаратуры. Вядома, калі браць пад увагу, што гэта паняцце нельга не толькі механічна пераносіць з адной навуковай тэрмінасістэмы ў іншую: яго нельга аўтаматычна (без удакладнення зместавага напаўнення) выкарыстоўваць у розных сегментах тэарэтыка-літаратурнага даследу (напрыклад, у абсягах жаналогіі ці гендэрнай праблематыкі — і для высвятлення заканамернасцей развіцця літаратурнага працэсу).

Нягледзячы на тое, што канцэптам-топасам літаратуразнаўчых прац, прысвечаных нацыянальнаму мастацтву слова памежжа XX—XXI стагоддзяў, стаўся крызіс ідэнтычнасці, у дачыненні да ключавых пытанняў тэорыі літаратурнага працэсу актуалізацыя паняцця «ідэнтычнасць» нам падаецца менш актуальнай, чым легітымацыя паняцця «(сама)ідэнтыфікацыя» ў дачыненні да нацыянальнага прыгожага пісьменства.

Паняцце ідэнтычнасці ад пачатку звязана з семантыкай выніковасці, устойлівасці, бо ідэнтычнасць — гэта форма існавання ўстойлівага вобразу Самасці [7]. Інакш кажучы, у літаратуразнаўчай прасторы ідэнтычнасць будзе ўспрымацца як паняцце, тэмпаральна і кантэкстуальна абмежаванае, хоць і «часова»: ад некалькіх год ці дзесяцігоддзяў (літаратурны перыяд) да стагоддзя(ў) (эпоха). Да таго ж у сучасным тэарэтыка-літаратурным дыскурсе (пад відавочным уплывам сінергетыкі, агульнай тэорыі сістэм) мастацкая славеснасць усё часцей разглядаецца як складаная сістэма, якая валодае ўсімі ўласцівасцямі адкрытых нераўнаважных сістэм, схільных да бесперапыннай самаарганізацыі. Таму ў дачыненні да мастацкай славеснасці даследаванне ідэнтычнасці як *набору* тэарэтыка-літаратурных *характарыстык* (устойлівых параметраў) падаецца задачай «дэкаратарскай»: па сутнасці, размова ідзе пра замену паняційнакатэгарыяльнага апарата літаратуразнаўства (паэтыкі ў шырокім сэнсе) на сукупнасць паняццяў, запазычаных з іншых навуковых дысцыплін (філасофіі, псіхалогіі, сацыялогіі і інш.). Гэта пытанне мэтазгоднасці, так бы мовіць, эрганамічнасці літаратуразнаўства як навуковай дысцыпліны: навошта выштукоўваць, напрыклад, паняцце жанравай ідэнтычнасці, калі ў літаратуразнаўстве развіваюцца ўяўленні пра літаратурны жанр і сістэму літаратурных жанраў?..

На нашу думку, спроба прапанаваць дэфініцыю *ідэнтычнасці літаратуры* (як мастацтва слова) непазбежна прывядзе да неабходнасці звязаць (структураваць) у сістэму «набор ідэнтычнасцей» (аксіялагічную, эстэтычную, выяўленча-стылявую і г. д.). Пры гэтым найбольш інструментальным у аспекце вывучэння актуальных праблем беларускага літаратурнага працэсу нам падаецца паняцце *мастацкай ідэнтычнасці*.

Тэзаўрус найноўшай беларускай літаратуры (як і калісь новай беларускай літаратуры) структуруецца вакол ідэі адраджэння (аднаўлення) *нацыянальнай самасці*. У літаратурнай прасторы першага дзесяцігоддзя XXI стагоддзя згаданая ідэя набывае align рознафарматнае мастацкае ўвасабленне ў нераўназначных літаратурных з'явах, парознаму ўрэчаўляецца ў творчасці розных аўтараў і г. д. Для найноўшага айчыннага літаратуразнаўства пошукі мастацтвам слова нацыянальнай самасці (своеасаблівай «інтэгратыўнай» мадэлі нацыянальнага быцця, што паўстае гарантам *нацыянальнай анталагічнай перспектывы*) праблематызуюцца і як пошукі адэкватных сродкаў мастацкага аднаўлення (урэчаўлення) гэтай самасці (праз мастацкія сэнсаформы). На наш погляд, вызначальнай характарыстыкай мастацкай ідэнтычнасці літаратуры як паняцця з'яўляецца яе гістарычнасць (дакладней, гістарычная рухомасць, дынамічнасць). Пад ***мастацкай ідэнтычнасцю*** літаратуры пэўнага перыяду на гэтым этапе нашага даследавання прапануем разумець *комплекс анталагічных, экзістэнцыйных,*

*аксіялагічных, эстэтычных, стылявых (вобразна-выяўленчых) ідэй, арыенціраў і ўстановак, увасабленне якіх у літаратурным працэсе абумоўлівае дамінаванне пэўнага тыпу (ці суіснаванне шэрагу тыпаў) літаратурнай творчасці.*

Сучасныя ўкраінскія, беларускія, расійскія літаратуразнаўцы для асэнсавання таго ці іншага літаратурна-мастацкага феномена ў гісторыка-літаратурным аспекце актуалізуюць паняцці «тып мастацкай (літаратурна-мастацкай) свядомасці», «тып літаратуры», прычым у некаторых выпадках тэрміналагічныя палі згаданых паняццяў як бы накладваюцца адно на адно [8]. Разам з тым, філосафы, спецыялісты ў галіне эстэтыкі, мастацтвазнаўцы досыць неадназначна ставяцца як да самога тэрміналагічнага наймення «тып мастацкай свядомасці», так і да яго канкрэтызацый у тэарэтыка-літаратурным дыскурсе. У сувязі з гэтым найбольш мэтазгодным нам падаецца зварот да паняцця «тып літаратурнай творчасці». Мы разумеем *тып літаратурнай творчасці* як своеасаблівую стратэгію мастацкага спасціжэння і аднаўлення быцця, што паўстае вынікам дынамічнага ўзаемадзеяння шэрагу эстэтычных, уласна мастацкіх, духоўна-маральных, сацыякультурных ідэй, уяўленняў, фактараў, арыенціраў і вызначае спецыфіку «інтэгратыўнай» мадэлі літаратуры пэўнага перыяду, вектар і асаблівасці развіцця літаратурнага працэсу.

Супярэчлівасць сацыякультурных умоў і аксіялагічных фактараў развіцця беларускай літаратуры на мяжы ХХ—ХХІ стагоддзяў (у чарговай «пераходнай» фазе) у значнай ступені абумоўлівае складанасць працэсаў мастацкай (сама)ідэнтыфікацыі нацыянальнага прыгожага пісьменства як рэакцыі на маштабны крызіс комплексу ідэнтычнасцей (сацыяльных, культурных, этнічных, аксіялагічных і г. д.). На наш погляд, менавіта з пачатку 2000-х складваюцца ўмовы для паўнавартаснай легітымацыі паняцця ***«мастацкая (сама)ідэнтыфікацыя»*** перадусім дзеля тэарэтычнага асэнсавання і канцэптуальнага апісання нацыянальнага літаратурнага працэсу як неперарыўнага дынамічнага цэлага. У тэарэтыка-літаратурным сэнсе кантэкстам актуалізацыі паняцця мастацкай (сама) ідэнтыфікацыі становіцца аналіз беларускага літаратурнага працэсу як дыялектычнай змены ўстойлівых і пераходных перыядаў: «…для ўстойлівых, ці, як іх яшчэ называюць, стабілізацыйных перыядаў, уласцівая пэўная сістэматызацыя літаратурных тэндэнцый, пэўная замкнутасць межаў, дамінаванне цэнтральнай ідэі, на якую арыентаваная большая частка творча настроеных людзей. Наадварот, для пераходных перыядаў характэрная незвычайная разнароднасць літаратурных з’яў, шматстайнасць кірункаў, без перавагі якога-небудзь пэўнага, адкрытасць межаў мастацкіх сістэм, эксперыментаванне з мастацкім тэкстам і з уласнай свядомасцю» [9].

Канструкт «*(сама)ідэнтыфікацыя*» дазваляе, на наш погляд, занатаваць узаемасувязь двух вектараў унутры маштабнага працэсу: умоўна «вонкавага», «знешняга» ў дачыненні да літаратурна-мастацкіх практык — і «ўнутранага».

Вектар *ідэнтыфікацыі* аб’ядноўвае ўласна літаратуразнаўчыя доследы айчынных і замежных навукоўцаў, літаратурна-крытычную рэакцыю на бягучы літаратурны працэс, кантэкстуальнае асэнсаванне літаратурных з’яў, феноменаў, падзей у дыскурсах іншых навуковых дысцыплін, спецыфіку актуалізацыі нацыянальнай мастацкай славеснасці ў сучаснай інфармацыйнай прасторы і да т. п.

Вектар *самаідэнтыфікацыі* дазваляе трымаць у фокусе ўвагі самарэфлексію мастацтва слова над уласнымі пошукамі і набыткамі. Спецыфіку і вынікі гэтай самарэфлексіі можна рэканструяваць, з аднаго боку, на падставе аналізу мастацкіх твораў: найбольш рэпрэзентатыўнымі менавіта ў гэтым сэнсе ў абсягах апошніх двух дзесяцігоддзяў нам падаюцца проза А. Федарэнкі, Л. Рублеўскай, І. Бабкова, У. Сцяпана, А. Глобуса, А. Аркуша, В. Мудрова, Н. Бабінай, а таксама творы А. Разанава, «вялікафарматная» паэзія (паэмы) Л. Дранько-Майсюка і А. Бадака. З другога боку, надзвычай інфарматыўным складнікам мастацкай самаідэнтыфікацыі найноўшага нацыянальнага мастацтва паўстае пісьменніцкая эсэістыка: тут у якасці своеасаблівых полюсаў мы б вылучылі творы Л. Галубовіча і тэксты А. Бахарэвіча.

Такім чынам, вывучэнне спецыфікі, кірункаў, дынамікі мастацкай (сама)ідэнтыфікацыі беларускай літаратуры можа ажыццяўляцца ў дачыненні да розных гістарычных (часавых) кампанентаў літаратурнага

працэсу (ад перыядаў да эпох). Грунтам для тэарэтычнай распрацоўкі гэтага паняцця ў літаратуразнаўчым дыскурсе павінен, на наш погляд, стацца падыход да мастацкай (сама)ідэнтыфікацыі як да рухомага адзінства мэтавых, структурных, метадалагічных (аналітычных і сінтэтычных), экзістэнцыйных (унутраны патэнцыял) кампанентаў. Дзеля таго, каб мастацкая (сама)ідэнтыфікацыя сталася эфектыўным інструментам аналізу літаратурных практык, яе варта легітымаваць у літаратурна-мастацкім дыскурсе: прадставіць тэарэтычную мадэль, атрыбутаваць паняцце, акрэсліць функцыянальныя магчымасці і сферу прымянення, выніковасць і г.д. Даследаванне структурных і змястоўных асаблівасцей мастацкай (сама)ідэнтыфікацыі беларускай літаратуры пачатку XXI стагоддзя, напрыклад, вынікамі можа мець і верагоднаснае апісанне найноўшай нацыянальнай мастацкай славеснасці як складанаарганізаванай сістэмы, і шэраг менш маштабных структурна-функцыянальных мадэлей розных яе сегментаў (напрыклад, гісторыяцэнтрычнай прозы, жанравай сістэмы паэзіі, канцэптасферы эсэістыкі і інш.). Акрамя таго, легітымацыя згаданага паняцця ў тэарэтыка-літаратурным ключы надае адмысловую рухомасць, унутраную дынамічнасць і паняццю ідэнтычнасці: іманентная працэсуальнасць мастацкай (сама)ідэнтыфікацыі вымагае скаардынаванага асэнсавання розных ідэнтычнасцей, іх асэнсавання як ансамбля «дынамічнасцей», здольных да самаразвіцця. Урэшце, канцэптуальны і метадалагічны патэнцыял паняцця мастацкай (сама)ідэнтыфікацыі звязаны з тым, што на грунце дыяхранічных (гістарычных, рэтраспектыўных) ці сінхранічных даследаванняў адпаведнай праблематыкі могуць быць акрэслены найбольш верагодныя перспектывы (вектары) развіцця нацыянальнага мастацтва слова. З пэўнай асцярожнасцю можна гаварыць пра магчымасць стварэння верагоднаснай прагнастычнай мадэлі развіцця беларускай літаратуры як мастацкай сістэмы ці (што больш рэльна) мадэлей развіцця яе падсістэм (напрыклад, жанравых, стылявых, канцэптасфер і г.д.) — выразна ўяўляючы, што гаварыць варта пра кароткатэрміновую перспектыву (у суадносінах з маштабамі нацыянальнага літаратурнага працэсу як складніка сусветнага).



**ЛІТАРАТУРА**


1. Ларионов, Д. Ирина Сандомирская: «Блокада явилась мощнейшим биополитическим полигоном для испытания технологий власти» / Д. Ларионов. — [Электронный ресурс]. — Режим доступа: http://www.colta.ru/articles/literature/1823. — Дата доступу: 29.01.2014.

2. Акудовіч, В. Сучасная беларуская філасофія: праблемы і героі / В. Акудовіч. — [Электронны рэсурс]. — Рэжым доступу:http://bk.baj.by/lekcyji/litaratura/akudovicz04.htm. — Дата доступу: 29.01.2014.

3. Абушенко, В. Л. Идентичность / В. Л. Абушенко // Новейший философский словарь; сост., гл. науч. ред. А. А. Грицанов. — 3-е изд., исправл. — Минск : Книжный Дом, 2003. — 1280 с.

4. Сінькова, Л. Д. Тэрміны «паскоранасць», «паскоранае развіццё» ў апісаннях славянскіх і неславянскіх літаратур / Л. Д. Сінькова // Мовазнаўства. Літаратура. Культуралогія. Фальклорыстыка: XIII Міжнар. з'езд славістаў (Любляна, 2003): Дакл. бел. дэлегацыі / НАН Беларусі. Беларускі камітэт славістаў. — Мінск : Бел. навука, 2003. — С. 388—399.

5. Калядка, С. У. «Жаночае пісьмо» Вальжыны Морт: праблема ідэнтычнасці мастацкага тэксту / С. У. Калядка // Міжнародныя Шамякінскія чытанні «Пісьменнік — Асоба — Час»: матэрыялы III Міжнар. навук.-практ. канф., Мазыр, 27 верасня 2013 г. / УА МДПУ імя І. П. Шамякіна; рэдкал.: А. У. Сузько (адк. рэд.) [і інш.]. — Мазыр, 2013. — С. 95—98.

6. Заковоротная, М. В. Идентичность человека. Социально-философские аспекты / М. В. Заковоротная. — Ростов-на-Дону: Изд-во Северо-Кавказского научного центра высшей школы, 1999. — [Электронный ресурс]. — Режим доступу: http://filosof.historic.ru/books/item/f00/s00/z0000729/index.shtml. — Дата доступа: 13.02.2014.

7. Сурова, Е. Э. Идентичность, идентификация и идентификационные модели / Е. Э. Сурова // Вестник Санкт-Петербургского университета. Сер. 6: Философия. Культурология. Политология. Право. Международные отношения. — 2008. — Вып. 3. — С. 56—67.

8. Черноіваненко, Є. М. Тип літератури і тип художньо-літературної свідомості в літературному процесі: Автореф. дис... д-ра філол. наук: 10.01.06; 10.01.02 / Є. М. Черноіваненко; Київ. нац. ун-т ім. Т.Шевченка. — К., 2002. — 32 с. — укр.

9. Савельев, К. Н. Литература английского декаданса: истоки, становление, саморефлексия: автореф. дис. …докт. филол. наук: 10.01.03 / К. Н. Савельев; Мос. пед. гос. ун-т.; М., 2008. — [Электронный ресурс]. — Режим доступа: http://refdb.ru/look/1074161.html. — Дата доступа: 12.02.2014.

*Ягор КОНЕЎ*

# БЕЛАРУСКАЯ ІНФАРМАЦЫЙНАЯ МАРА

Я выкладаю міжнародную журналістыку звыш 15 гадоў. Даследую яшчэ даўжэй. І мой досвед дазваляе сцвярджаць, што сацыяльная рэклама ў сучаснай інфармацыйнай прасторы — адзін з самых дзейсных сродкаў выхавання нацыі.

Кожны глядач, чытач часопіса, карыстальнік рэсурсамі інтэрнэту — непаўторная асоба, індывідуальны сусвет. Але ў сукупнасці мільёны гледачоў, чытачоў і юзераў-карыстальнікаў з'яўляюцца вымяральнай аўдыторыяй, якой на дзіва лёгка маніпуляваць.

Часцяком даволі цяжка пераканаць аднаго чалавека ў тым, што ён абавязаны тэрмінова пайсці на вайну і пазабіваць процьму людзей. Аднак даволі лёгка пераканаць у гэтым цэлы народ на працягу шасці-васьмі тыдняў. Багата такіх прыкладаў пакінула нам мінулае стагоддзе, у прыватнасці, журналістыка нацыянальна-сацыялістычнай Германіі, фашысцкай Італіі, мілітарысцкай Японіі, хартысцкай Венгрыі і г. д.

Хапае змрочных прыкладаў і сёння. Дастаткова зірнуць у паўднёвым напрамку. На тамтэйшых нацыянальных каналах летась амаль штовечар дэманстравалі ролікі, у якіх або сямідзесяцігадовая бабуля брала ў рукі аўтамат ды кіравала на Данбас змагацца з «сепарамі», або купка жаўнераў сноўдала па лесе ў пошуках «каларадаў» і кожны з іх агучваў сваю прафесію: «Я — вадзіцель», «Я — шахцёр», «Я — бухгалтар»... Меркавалася, што такая агітацыя падштурхне гледачоў прызыўнога ўзросту (ад 20 да 60 гадоў) паспяшацца ў ваенкамат. Разлік можа падацца прымітыўным, аднак пасля трохтысячнага паказу ён спраўдзіўся: толькі ў пачатку гэтага года на прызыўныя ўчасткі прыйшлі 45 тысяч чалавек.

Шчыра кажучы, такую прапаганду я лічу цёмным бокам журналістыкі. На шчасце, цемра суіснуе са святлом. І менавіта светлым бокам медыя часта з'яўляецца сацыяльная рэклама. Вядома, калі яна зроблена якасна (што атрымліваецца даволі рэдка) і скіравана на станоўчыя пераўтварэнні ў грамадстве (такое здараецца яшчэ радзей).

Я не стану пералічваць усе ўдалыя прыклады сацыяльнай рэкламы, пра якія ведаю. (Падазраю, што не ведаю яшчэ болей.) Адзначу толькі той, які мяне прыемна здзівіў.

У 1960 гады ў Сінгапуры грамадства сутыкнулася з сур'ёзным дэмаграфічным крызісам — жанчын, якія мелі вышэйшую адукацыю, ніхто не браў замуж. Адпаведна ўсё меней дзяўчат паступала ў ВНУ, каб не застацца бясшлюбніцамі. Адпаведна эканоміцы катастрафічна бракавала дысцыплінаваных, ініцыятыўных і псіхалагічна ўстойлівых спецыялістаў, якімі амаль паўсюль з'яўляюцца жанчыны. Перспектывы Сінгапура прарвацца ў «дзясятку» высокаразвітых эканомік свету набылі тумановае адценне.

Прычына такога крызісу некаму, можа, і падаецца камічнай, але тамтэйшым жанчынам было не да жартаў. Стагоддзямі шлюбная філасофія азіяцкіх мужчын базавалася на недатыкальным прынцыпе: жаніцца трэба толькі на непісьменнай дзяўчыне. Адукаваная, маўляў, не будзе слухацца мужа. А ўрад Лі Куан Ю, які зрабіў стаўку на развіццё высокатэхналагічнай эканомікі, быў жыццёва зацікаўлены не толькі ў прыросце нараджальнасці, але, найперш, у гадаванні «разумнай нацыі» (такі тэрмін быў прыдуманы памочнікам прэм'ер-міністра па інфармацыйнай палітыцы). Прасцей кажучы, інтэлект трэба фарміраваць у будучых грамадзян Рэспублікі Сінгапур яшчэ на ўзроўні зачацця, а значыць, малайскія мужчыны, насуперак тысячагадовай традыцыі, мусілі жаніцца з адукаванымі дзяўчатамі. Задача падавалася невырашальнай для рэгіёна, дзе жанчыны атрымалі права голасу

нават пазней, чым у Цэнтральнай Афрыцы. Ды яе вырашыў 40-секундны некамерцыйны ролік. У гэтым міні-фільме распавядалася гісторыя двух тайцаў. Адзін, ураджэнец раёна Сентоса, ажаніўся з непісьменнай жанчынай і сустрэў старасць жабраком. Другі герой, жыхар з раёна Джуронг, звязаў лёс з выпускніцай універсітэта і ў сталым узросце аглядаў краявіды Сінгапурскай затокі з акна сваёй прасторнай кватэры, акружаны дзецьмі ды ўнукамі. Фінальны слоган роліка, дарэчы, аніяк не вынікаў са зместу: *«Ці хочаш атрымліваць 30-працэнтную надбаўку да заробка? Ажаніся з жанчынай з вышэйшай адукацыяй! Дзяржава гарантуе заможнасць»*.

Ролік трансліравалі штодня па ўсіх тэлеканалах у вечаровы прайм-тайм перад выпускам навін, на працягу ДВАЦЦАЦІ гадоў.

Рэакцыя грамадскасці на яго аказалася прадказальнай. Першыя пяць гадоў з яго не кпіў толькі лянівы. Наступныя пяць гадоў сацыяльны ролік ігнаравалі, бы дакучлівую муху. На дванаццаты год ягонай трансляцыі адбыўся «прарыў» — у аддзелы рэгістрацыі шлюбаў зачасцілі пары, у якіх абодва маладыя мелі дыпломы ВНУ. Сярод жаніхоў пераважала пакаленне дзяцей тых малайцаў і тамілаў, якія грэбавалі адукаванымі жанчынамі. А вось іхнія дзеці з малалецтва ўспрынялі карысную параду з тэлеэкрана — маўляў, адукаваная дзяўчына таксама чалавек, з ёй можна век векаваць.

На жаль, у нас стаўленне да сацыяльнай рэкламы не вельмі адказнае. Я з сумам прыгадваю ролікі, у якіх моладзь перасцерагалася ад СНІДу: у адным вакол хлопца круціліся дзяўчаты, а голас за кадрам начытваў радкі з Шэкспіра; у другім мультыплікацыйная дзяўчына ляцела на віражах «амерыканскіх горак», якія сімвалізавалі ВІЧ, а ратаваў яе ад падзення ў бездань пачак прэзерватываў і г. д. Ад іхняга прагляду цяжка было адчуць нешта, акрамя пачуцця сораму. Дый нават такую прымітыўную сацрэкламу хутка знялі з тэлеэфіру, пазбавіўшы ўсялякай дзейснасці.

Прычыны гэткай нядбайнасці тыповыя для нашай сістэмы. Нехта «наверсе» пастанавіў, што «належыць прымаць эфектыўныя меры». Адказныя чыноўнікі «спусцілі» распараджэнне на ўзровень, напрыклад, колішняга Відэацэнтра, суправадзіўшы «вышэйшае распараджэнне» мізэрным бюджэтам. Там партачылі абы-якую малапрафесійную лухту, якая не затрымлівалася ў тэлеэфіры. Як бачым, вынік — гэта апошняе, што цікавіць у выканаўчым ланцугу.

А між тым нават пры сённяшнім не вельмі высокім узроўні беларускай рэжысуры можна штовечар трансліраваць па нацыянальных тэлеканалах сацыяльны ролік са слоганам кшталту: *«Ці хочаш быць здаровым, шчаслівым і заможным? Адцурайся тытуню, наркотыкаў і алкаголю!»* Бо не так ужо істотна, якім будзе ягоны візуальны рад. З роліка ўсё адно будуць кпіць і жартаваць першыя дзесяць гадоў. Аднак, калі яго не здымуць з эфіру (затрымаць яго там зможа толькі дырэктыва Прэзідэнта), то вялікая верагоднасць, што наступнае пакаленне акажацца куды болей цвярозым і разумным чым папярэдняе.

* * *

Камерцыйная рэклама адлюстроўвае дэмаграфічныя зрухі сучаснага грамадства. Даволі часта дзіця заяўляе пра свае правы і павучае бацькоў, што трэба спажываць той ці іншы прадукт. Бацька пры гэтым нагадвае падлетка-расцяпу, якім у сям'і не камандуе хіба што лянівы. Місію таты выконвае матуля, якая вырашае, што трэба набыць дзеля агульнага шчасця. Падлеткі звычайна маўчаць, перамяшчаюцца суполкамі, і толькі голас за кадрам падказвае, што ім патрэбны новы айфон ці гаджэт. Што ж датычыцца дзядулі або бабулі, то яны спрэс імкнуцца да маладжавасці, каб гойсаць разам з унукамі на роліках.

Аднак калі камерцыя ўлічвае дэмаграфічныя перамены, то місія сацыяльнай рэкламы заключаецца ў разумным кіраванні дэмаграфічнымі працэсамі. І ў недалёкім часе ёй давядзецца, упэўнены, вырашаць праблему «ўцечкі мазгоў і рук».

Каб пераканацца, наколькі сур'ёзная такая праблема, дастаткова паглядзець на поўнач, у краіны Прыбалтыкі. Тамтэйшы горкі досвед можа зазнаць і нашая Беларусь.

У пачатку 2000-х Латвія, Літва і Эстонія лідзіравалі ў Еўропе па колькасці студэнтаў на душу насельніцтва. Аднак пасля ўваходжання трох краін у Еўрапейскую супольнасць, тысячы ўладальнікаў дыпло-

маў аб вышэйшай адукацыі паз'язджалі ў Берлін, Лондан або Парыж, дзе ўладкаваліся на прэстыжныя пасады сантэхнікаў, прыбіральшчыкаў, афіцыянтак і будаўнікоў. Цяпер, дарэчы, прыбалтыйская моладзь з меншай ахвотай марнуе час на вучобу ва ўніверсітэтах. Ведае, што для эміграцыі ў Еўрасаюз дастаткова школьнай адукацыі. У выніку за 20 з лішкам гадоў незалежнасці насельніцтва краін Прыбалтыкі скарацілася амаль на чвэрць, прычым пераважна за кошт моладзі. Не дзіва, што такія дадзеныя не ахвотна агучваюцца ў тамтэйшых медыя. Кіраўніцтва Латвіі, Літвы і Эстоніі праблему ўцёкаў моладзі за мяжу раўнадушна ігнаруе. Маўляў, Прыбалтыка — частка Еўрасупольнасці, унутры якой працоўныя кадры перамяшчаюцца, як ім зручней.

Здавалася б, прыбалтыйскі досвед непрыдатны да нашых рэалій. Для беларускай моладзі (за выключэннем дзяцей апазіцыйных палітыкаў) «шлях у Эўропу» традыцыйна перапыняюць не толькі візавыя абмежаванні, але і благое веданне замежнай мовы, набытае ў сярэдняй школе. «Безгалосаму» ж у Еўрасаюзе цяжкавата здабыць прыстойную працу. Дык ці ёсць сэнс хваляваццa?

Ёсць, калі перавесці позірк з захаду на ўсход — на Расійскую Федэрацыю, дзе для беларусаў няма моўных абмежаванняў, а сярэдні заробак нават у пік крызісу ўдвая вышэйшы, чым на Беларусі. Не дарма сярэдні заробак на Беларусі наш урад налічвае, зыходзячы з аналагічных паказчыкаў у Смаленскай і Бранскай абласцях. А чым далей на ўсход ад Смаленска, тым болей гэты паказчык узрастае. Менавіта фінансавая лічба і прываблівае маладыя вочы. А ўсё, што суправаджае працу ў Расіі, — карупцыя, крымінал, чыноўніцкая бязглуздзіца, благія побытовыя ўмовы — падаюцца другаснымі ды неістотнымі.

Дарэчы, пацэлілі на ўсход не толькі нашыя суайчыннікі, але і маладыя немцы. З 2011-га з ФРГ эмігруюць на 20—30 тысяч чалавек болей, чым прыязджаюць туды. Праўда, кіруюць не ў Маскву, а ў Пекін або Дэлі, дзе эканоміка на ўздыме. Так у нас перад вачыма адбываецца новае «перасяленне народаў»: маладыя фіны і шведы імкнуцца ў багатую нафтай Нарвегію, усходнееўрапейцы — у Заходнюю Еўропу, заходнееўрапейцы — у Злучаныя Штаты Амерыкі і г. д. Удзел нашай краіны ў гэтай глабальнай міграцыі спародзіць глабальную праблему для эканомікі. Тысячы маладых рук будуць задзейнічаны ў замежнай сферы абслугоўвання, а не ў стварэнні айчыннай «інфармацыйнай эканомікі». Яны павысяць іншаземны, а не нацыянальны дабрабыт.

Аднак я менш за ўсё схільны ляматаваць, маўляў, «ахтунг на падыходзе»! Сітуацыю, мяркую, не позна пераламіць, калі ўжо зараз узяцца за стварэнне інфармацыйнай Беларускай Мары — накшталт знакамітай Амерыканскай.

Між іншым, міф пра тое, нібыта Фартуна дорыць шчаслівы шанец кожнаму, хто ступіць на амерыканскую глебу, мае цалкам штучны характар і з'явіўся аж праз 70 гадоў пасля прыняцця «Дэкларацыі Незалежнасці». Да сярэдзіны XIX стагоддзя Злучаныя Штаты Амерыкі мелі рэпутацыю тэрыторыі, куды плылі або ад безвыходнасці, або, ратуючыся ад закону. Насельніцтва ЗША збольшага шчыльна гуртавалася на атлантычным узбярэжжы, пакідаючы незаселенымі вялізныя абшары на захадзе і поўдні. І раптам у 1850-м адбыўся інфармацыйны «выбух» — правінцыйная газетка «Каліфорнія Стар» апублікавала ананімную заметку пра нейкага Джона Сміта, які, маўляў, гуляў па беразе Ціхага акіяна і спатыкнуўся аб кавалак золата «памерам з конскую галаву». Ледзьве нагу не зламаў небарака.

Дагэтуль «Каліфорнія Стар» гібела ў фінансавай нястачы, яе галоўны рэдактар часта хаваўся ад крэдытораў. Аднак публікацыя пра шчасліўца Джона Сміта, якога ў рэальнасці не існавала, кардынальна перамяніла стан газеты — іншыя выданні з імпэтам перадрукоўвалі плёткі з яе старонак, а рэкламадаўцы пацягнуліся чарадой у кабінет галоўнага рэдактара. Зразумеўшы, што патрапілі на «залатую жылу», журналісты «Каліфорнія Стар» штотыдзень ашаламлялі публіку новымі сенсацыямі пра перасяленца (яго імя і веравызнанне сачыняліся ў аддзеле навінаў), які, маўляў, знаходзіў буйны кавалак золата або ў сваім гародзе ў час пасадкі капусты, або ў рэчцы падчас купання, або ў лесе на ловах.

Узнятая «Каліфорніяй Стар» інфармацыйная «хваля» неўзабаве дакацілася да атлантычнага ўзбярэжжа ЗША, а дзякуючы намаганням агенцтва «Рэйтар» — і да Еўропы. Мільёны людзей даведаліся, што на амерыканскім «дзікім Захадзе» золата болей, чым

конскага гною, і як толькі туды патрапіш, то неадменна зробішся шчаслівым.

Так утваралася Амерыканская Мара, якая базавалася на перакананні, што ўсялякі працавіты і адносна законапаслухмяны грамадзянін мае процьму магчымасцей, каб узбіцца на багацце і раяваць у заможнай старасці. Пазней у яе распрацоўцы прынялі чынны ўдзел сотні газет, часопісаў і альманахаў. Іхнія высілкі спарадзілі масавую эміграцыю на амерыканскі Захад. Хтосьці з перасяленцаў агінаў на караблі Паўднёвую Амерыку (Панамскі канал яшчэ не пракапалі), хтосьці рухаўся праз цэнтральныя штаты, так званую «індзейскую» зямлю, за адным разам вынішчыўшы ўсіх тамтэйшых бізонаў і 2 мільёны чырванаскурых. А потым высветлілася, што золата ў Каліфорніі кот наплакаў. Амерыканская Мара абвярнулася грандыёзным падманам. Каштоўныя камяні «памерам з конскую галаву» лёгка адшукваліся толькі на газетных старонках, а не ў гарах, лясах і рэчках. Умовы жыцця на «дзікім Захадзе» аказаліся па-сапраўднаму дзікімі. Аднак перасяленцы ўжо не маглі вярнуцца на Усход, абжывалі Каліфорнію ды Каларада, Тэнэсі ды Юту. Нават пасля такога падману людзі верылі газетнаму слову болей, чым уласнаму досведу. Не дзіва, што праз сорак гадоў, у 1890-х, газетныя чуткі пра «залатую ліхаманку» гэтак жа эфектыўна скіравалі мноства людзей на Аляску.

Амерыканская Мара напоўніцу дыскрэдытавала сябе і ў часы Вялікай Дэпрэсіі 1930-х, і ў перыяд мілітарызаванай «рэйганомікі» 1980-х, і падчас глабальнага фінансавага крызісу «нулявых». І ўсё роўна захавала прыцягальнасць. Бо ў многіх іншых рэгіёнах свету жыццё яшчэ горшае, і мільёнам людзей хочацца верыць, што недзе на планеце ёсць «райскі куток», дзе здзяйсняюцца ўсе мары.

Беларуская інфармацыйная Мара ў адрозненне ад Амерыканскай можа базавацца на рэальных дасягненнях. Я маю на ўвазе не прамысловыя паказчыкі, якія зараз не выклікаюць аптымізму, але чалавечы фактар. Так, паводле статыстыкі, у нашай краіне жыве звыш 20 тысяч мільянераў, якія сумленна плоцяць падаткі са сваіх даходаў. Пэўна, сярод іх знойдзецца хаця б паўсотні тых, хто пагодзіцца стаць героем дакументальнага нарыса (хвілін на 26, максімум на 52). Такога, у якім рэпарцёры пражывуць разам з героем адзін дзень яго жыцця — з’ездзяць з ім на працу, пройдуць экскурсіяй па ягоным доме, распытаюць пра сакрэт поспеху і сутнасць жыццёвай філасофіі. Варта зняць 52 такія тэленарысы і трансляваць на БТ штотыдзень.

Разумею, што многія з «новых беларусаў» збаяцца расповеду пра свае дасягненні. У нашым менталітэце існуе невыкараняльная прыхамаць — аніколі не хваліся, інакш зайздроснікі ўсё адбяруць! Ды, спадзяюся, і сярод нашых мільянераў знойдуцца ахвотнікі да сваіх «хвілін славы». І тады эфект такіх нарысаў стане мацнейшай сацыяльнай рэкламай для нашай моладзі. Бо калі на ўласныя вочы бачыш, што і на Беларусі можна прыстойна жыць і зарабляць, то слушна падумаеш: а ці варта эміграваць?

Сённяшнія студэнты, якімі б інфантыльнымі іх ні называлі, па вялікім рахунку мараць пра тое, каб мець прыгожы дом, шчодры заробак і любімую працу. Тысячы сайтаў і блогаў штодня іх пераконваюць у тым, што на Беларусі такое немагчыма, што трэба, маўляў, «валіць у Рашку» або «ўчыніць Майдан». Пераконваць варожую «лічбавую армію» ў адваротным — справа бесперспектыўная, паколькі ў інфармацыйнай вайне логіка анікога не хвалюе. Супрацьстаяць ёй можна хіба што рэальнымі прыкладамі, якія ўбачаць маладыя вочы на тэлеэкране ў прайм-тайм. Чужы поспех пракапае тое рэчышча, у якое памкнецца энергія маладых беларусаў. Ім захочацца працаваць і ўзбагачацца на Беларусі тым ахвотней, калі яны ўбачаць, што такое магчыма. Так, па сутнасці, і ўмацуецца Беларуская Мара. Клопат нашых медыя будзе заключацца ў тым, каб на працягу дзесяцігоддзяў падтрымліваць яе ў тэле- і радыёэфіры, на старонках газет і часопісаў, у электронным асяродку і, зразумела, на кінаэкране.

Я выдатна ўсведамляю, як варожа пастаяцца да прапаганды чужых поспехаў тыя, хто лічаць, што ў сацыяльным грамадстве лепш анікому не вылучацца з асяродку, што няхай усе будуць аднолькава небагатыя, чым не па-роўнаму багатыя і г. д. Аднак або наша дзяржава скарыстае чужы досвед на ўласную карысць, або і надалей будзем залежыць ад рэліктаў савецкай свядомасці. Не ўтворым інфармацыйнай Беларускай Мары, дык будзем умацоўваць чужы дабрабыт!

*Рубрыка кафедры
літаратурна-мастацкай крытыкі
Інстытута журналістыкі БДУ*

# ТЭАТР ЯК ХРАМ

*Сёння, калі Таццяна Арлова, тэатральны крытык і мастацтвазнаўца, прафесар, сустракае свой юбілей, я віншую з гэтай нагоды не толькі яе, але і яе вучняў. Тых, хто, нібы ордэн, носіць пачэсную сівізну або лысіну, сам выкладае з кафедры або абараняе доктарскую, але ў першую чаргу тых журналістаў-першакурснікаў, якія ўвойдуць у аўдыторыю, дзе Таццяна Дзмітрыеўна будзе распавядаць пра дзівосы пераўтварэння жыцця ў тэатр і тэатра ў жыццё.*

*Яна ўмее зачапіць кожнага — і таго, хто, працуючы ў сельгасаддзеле, будзе пісаць пра ўнясенне арганікі пад азімыя, і таго, хто абароніць дысертацыю па Бертольду Брэхту.*

*Што ўжо казаць пра мяне, які, зведаўшы салодкую атруту драматургічнай творчасці, раздумваў і раздумвае пра тэатр усё жыццё. І гэтыя радкі, натхнёныя лекцыямі Таццяны Арловай, сустрэчамі і гутаркамі з ёй, прысвячаю сваёй настаўніцы.*

## НАРАДЖЭННЕ ДРАМАТУРГА

Сутнасць драматургіі, на маю думку, не ў дзеянні, не ў сцэнічнасці, не ў тэатральнасці. Драматургія — самы вербальны з усіх родаў літаратуры. Рухі, мізансцэны — таксама яе «Словы».

Паэт можа нарадзіцца ў пятнаццаць гадоў, празаік у трыццаць, драматург дзесьці ў сорак. Бо драматургія — гэта і паэтычны талент, і веданне прозы жыцця, і адчуванне законаў сцэны, і — калі аўтару ёсць што сказаць. Без гэтага тэатр не тэатр, а дзіцячая пляцоўка.

Праказанае са сцэны Слова абарочваецца дзеяннем, скіраваным у жыццё. Слова драматурга не толькі адбівае, але і перастварае жыццё, па-новаму яго праграмуе. Таямнічым чынам драматург праектуе не толькі чужыя лёсы, але і ўласны. Драматург — дэміург, а тэатр — яго храм.

## ТЭАТР ЯК ХРАМ

У тэатры, як і ў храме, няма дрэнных рэжысёраў, акцёраў. Усе добрыя, бо такімі іх робіць тэатральная прастора (аўра).

У царкве не бывае добрых або дрэнных святароў, бо прастора гэтая ад Бога, ён даверыў ім выконваць абавязкі, абрады, таемнасці, а ўсё астатняе на сумленні святароў, якія такія ж людзі, як і ўсе, але ім шмат што дадзена. Тэатральнае грамадства і грэшнае, і зямное, але і сакральнае, бо ў тэатральнай прасторы творацца дзівы.

І калі Таццяна Дзмітрыеўна вадзіла нас, студэнтаў журфака, у тэатр, мне не было істотна, куды я прыйшоў — у будынак Купалаўскага ці ў ратонду Дзяржцырка, дзе ставіўся сенсацыйны «Бэмбі». Я быў у храме.

Ды для мяне прастора клуба ў Расонах, дзе выступае самадзейны тэатр і механізатар Васіль, пакінуўшы свой трактар, на дзве сцэнічныя гадзіны пераўтвараецца ў Гамлета, не менш значная, чым дзве гадзіны, праведзеныя ў «Брадвеі», дзе я, дарэчы, ніколі не быў.

## ТРЫ ЛІНІІ ЛЁСУ

Яны праглядаюцца ў антычнай трагедыі.

Паводле Эсхіла, лёс — закон, Зеўсава праўда. Чалавек — трагічны герой — караецца за беззаконне, сваё або продкаў.

Паводле Сафокла, лёс — боская загадка. Лёс — усмешка Сфінкса. Пачвара рассыпаецца, усмешка Сфінкса застаецца. Нарэшце пачвара смяецца і з Эдыпа, свайго пераможца.

Лёс чалавека — цярпець, сцяўшы зубы.

Лёс паводле Эўрыпіда — выпадак, гульня. Гульня або алімпійскіх багоў, або іншага чагось.

Лёс чалавека — прымаць не да канца зразумелыя правілы гульні. Не супрацьстаяць, а гуляць з лёсам.

## ЭСХІЛ І ШЭКСПІР

У Эсхіла за ўчынкамі людзей пільна сочаць Зеўс і багі-алімпійцы.

Над светам Шэкспіра спакойна праплываюць аблокі, і неба абыякава глядзіць на пралітую кроў і ахвяры.

## АРЫСТАФАН І ХІЧКОК

Ідэя птушынага валадарства ўзнікла яшчэ ў Арыстафана. У ягоных «Птушках» крылатыя ўладкавалі сваё валадарства лепш, чым двухногія.

Хічкок зняў апакаліптычную стужку «Птушкі» — і прароцтва пагражае спраўдзіцца парадаксальным чынам.

Сёння на чалавецтва навальваецца птушыны грып. Сцэны змагання з птушкамі ў хічкокаўскім фільме амаль што дакументальныя.

## ГАМЛЕТ І МАШЭКА

Шэкспіраўскі Гамлет і купалаўскі Машэка трапілі ў аднолькавую сітуацыю, пра якую можна сказаць словамі маркіза дэ Вільфора з рамана Аляксандра Дзюма «Граф Монтэ-Крыста»: «Нічога не можна зрабіць».

Унутраная сіла абвяргаецца ўласным жа бяссіллем.

Лягчэй прыкінуцца вар'ятам, як гэта робіць Гамлет, або крывавым людажэрам, як гэта зрабіў Машэка, чымсьці адважыцца на ўчынак або зрабіць справу.

## УЯЎНЫ ХВОРЫ

Герой «Уяўнага хворага» Мальера заганяе сябе ў магілу думкамі пра сваю хваробу. Яго падбіваюць, каб прыкінуўся нябожчыкам і такім чынам даведаўся, хто з сямейнікаў найболей яго любіць. А ён ставіць пытанне: «А гэта бяспечна?»

Небяспечна!

Такія гульні з хваробаю і смерцю сталіся фатальнымі і для самога Мальера, калі ён, іграючы гэтую ролю ў спектаклі, удаваў з сябе ўяўна хворага і ўяўна памерлага і, кажуць, сканаў на сцэне.

Літаратурныя гульні з нямогласцю і смерцю напраўду тояць у сабе небяспеку.

## СЦЭНІЧНАЯ ПРАВАКАЦЫЯ

Два драматургі — Карла Гоцы і Каэтан Марашэўскі, не быўшы ў блізкім знаёмстве, выкарысталі адзін і той жа прыём ды стварылі несмяротныя камедыі.

Прынц Калаф адгадаў усе загадкі раздуранай Турандоткі, а яна не адгадала, хто ён такі. Дык уначы яго апаноўвае ўсялякая нечысць — і Панталоне з ягонай прыдуркаватай кампаніяй у масках, і «клятае баб'ё», а ён замкнуў сабе рот на замок ды маўчыць — але ўсё ж такі не вытрымаў і прагаварыўся. Гэта «Прынцэса Турандот» Гоцы.

Мужык сядзіць ды ўпарта маўчыць, як куляшоўскі камсамолец на допыце, нават губу сабе гатовы зашыць, каб слоўца не выпусціць, бо надта яму хочацца атрымаць чортавы грошы, але паказваюцца правакатары — то дурнаватыя падшпаркі, то звар'яцелы дзед з дудою, і прымушаюць яго парушыць зарок маўчання.

Гэты прыём назавём сцэнічнай правакацыяй і ўхвалім аўтараў, бо яны, незалежна адзін ад аднаго, заваявалі несмяротнасць сваім п'есам.

## ДРАМАТУРГІ, ПАЛЯЎНІЧЫЯ, ПТУШКІ

Падчас вандроўкі па Белавежскай пушчы я пачуў ад гіда пра чорную аўру паляўнічых. Страляючы, паляўнічы разбурае аўры жывёл, і яны плямамі кладуцца на ягоны лёс. І таксама на лёс ягоных нашчадкаў. Грэх забойства братоў меншых падае на праўнукаў невядома ў якім калене.

Рэпліка старога паляўнічага Экдала з «Дзікай качкі» Ібсена наконт смерці дзяўчынкі: «Лес помсціць».

Транёў з «Чайкі» Чэхава страляе ў сябе, каб расплаціцца за тое, што бяздумна знішчыў птушку.

## ГЭТЫЯ ГАРАЧЫЯ СКАНДЫНАЎСКІЯ ДРАМАТУРГІ…

Яны са сваім палкім тэмпераментам прынеслі ў літаратуру аналітызм. Генрык Ібсен вынайшаў, дакладней, аднавіў у правах аналітычную кампазіцыю («Здані»). Скандынавы ўсё імкнуцца вытлумачыць, расклаўшы на элементы, і так трактуюць свае ды чужыя цывілізацыйныя лёсы. Аўгуст Стрындберг усё тлумачыў існаваннем ворага, які яму мроіўся ў абліччы Ліліт (ліхой бабы). Інгмар Бергман у «Сцэнах з сямейнага жыцця» летапісаў адвечную гендарную вайну.

У скандынаваў усё гэта атрмыліваецца грунтоўна, але крыху зацягнута.

## ЖЫЦЦЁ ЛЕАНІДА АНДРЭЕВА

Ён сваё жыццё спраектаваў у «Жыцці Чалавека», якім так захапляўся Янка Купала. Апісаў долю мастака, які зведаў цяжкое дзяцінства, поўнае спадзяванняў юнацтва, трыумф і славу, але — раннюю старасць і чаўрэнне. Ягоная слава была напраўду хуткай ды фенаменальнай, але гэткім жа хуткім стаўся і яе заняпад. Памёр Леанід Андрэеў у глухой вёсачцы ў Фінляндыі, забыты ўсімі, і аб ягонай смерці пашкадаваў хіба што лепшы сябра Максім Горкі.

Можа, у апошнюю хвілю перад смерцю вакол яго таксама зюзюкалі і перасмейваліся старыя кабеты, згадваючы пражытае ім жыццё. А пасля патухла свечка, і Нехта ў шэрым прамовіў: «Цішэй! Леанід Андрэеў памёр!»

## ЗАПАВЕТ ГАЎПТМАНА

Ён быў пахаваны, згодна з ягонымі запаветамі, ва Усходняй Нямеччыне, на марскім узбярэжжы, перад узыходам сонца.

## ДАЎГАЛЕЦЦЕ ШОЎ

У драме «Назад да Мафусаіла» Шоў марыў пра даўгалецце будучых насельнікаў Зямлі. Ён усімі сіламі імкнуўся дасягнуць здзяйснення гэтага праекта і амаль дасягнуў... дажыўшы да 94 гадоў.

## САМАГУБЦА ЭРДМАН

Эрдман напісаў у дужа неспрыяльны час п'есу «Самагубца» і гэтым нібы спраектаваў уласны лёс. Ён быў высланы, вярнуўся, пісаў кінасцэнары, але «Самагубца» быў апошнім яго драматургічным творам. Ён забіў сябе як драматурга.

## МУЖЫК І ДУДА

Рэфлекс дуды.

Першая беларуская інтэрмедыя «Мужык у касцёле». Мужык трапляе ў касцёл, чуе там «дудачкі, свісцёлачкі і тарарычкі» (арган) і кідаецца ў скокі.

Тарас на Парнасе робіць тое ж пры гуках музыкі.

Мужык — істота прыродная, рэфлектыўная.

Адна з першых спроб самарэфлексіі — у «Маёй дудцы» Багушэвіча.

## ШЛЯХТА Ў КАШЫ ПАВЕТРАНАГА БАЛЁНА

Па другім праглядзе «Ідыліі». Пасля таго, як адгучалі патэтычныя радкі пра любоў да роднай старонкі, беларуская шляхта сядае ў кош паветранага шара і гатова адляцець куды далей ад гэтага блаславёнага краю. А сялянства панура накідвае на плечы зрэбныя світкі, якія памяняла было на святочныя строі падчас пастаральнага дзейства... Гучыць паланэз «Развітанне з Радзімай» на шкляным гармоніку — і я чую, як рыдае ў прыціхлай зале якаясь экзальтаваная паненка. Стрэл — ці то пярун з залевай, ці то нехта з панурых сялян падстрэліў паветраны шар у запале сацыяльнай помсты.

## МУЖЫК З «АДВЕЧНАЙ ПЕСНІ»

Чаму чалавецтва чапляецца за традыцыю, як тапелец за брытву?

Традыцыя — сістэма паўтораў. Яна адпавядае натуральным, прыродным рытмам, паваротам чалавечага кону, і ў нечым абна-

дзейвае чалавека: маўляў, жыццё будзе доўжыцца, яно бясконцае, а смерць нібы адкладваецца, бо яна эпізадычная.

У «Адвечнай песні» Янкі Купалы Мужык як бы памірае, а адвечнае кола існавання працягвае рухацца насуперак усяму.

Трагедыя Мужыка не ў самім існаванні замкнёнага кола, гэтай сістэмы паўтораў, а ў тым, што ён не можа паўтарыцца **сам**, а паўтараецца толькі ва ўласных нашчадках. А сам ён як бы ўжо і выпаў з кола.

### МІКІТА ЗНОСАК І ГЛАБАЛІЗМ

У Еўразвязе праблема — там ужо 25 краін, і кожная пхнецца туды са сваёй мовай. Патрэбны перакладчыкі. Чамусьці ніхто не хоча пераходзіць на «вялікую» мову, англійскую ці яшчэ якую. Наймаюць тлумачоў. Прадказваюць каля 500 моўных камбінацый.

Ото ж прыдумалі! Трэ было спярша ўзяць за кансультанта Мікіту Зноска.

Наш Мікіта Зносак ад такіх навін хапаецца за галаву і кажа: «...Напладзілі сабе людзі языкоў, як тая трусіха трусянят, і мне, меджду протчым, як ідуць немцы — вучыся панямецку, як ідуць палякі — вучыся па-польску, а як будуць ісці нейкія іншыя — вучыся па нейкаму па-іншаму... Эх, каб я быў, меджду протчым, царом!.. Ад Азіі да Аўстраліі, ад Афрыкі да Амэрыкі і ад Смаленску да Бэрліну завёў бы адзін непадзельны рускі язык. І жыў бы сабе тады прыпяваючы. А то круці галавой над языкамі, як баран які над студняй».

### ЗАГАДКА КРАПІВЫ

Дык хто ж смяецца апошнім? Можа, Туляга? Адказ: апошнім смяецца Кандрат Крапіва, які ўнікнуў рэпрэсій падчас расправы над «узвышэнцамі», перажыў усіх гарлахвацкіх і чарнавусаў, праведнікаў і зладзеяў, размяняў дзясяты дзясятак, як быццам бы ён, а не прафесар Дабрыян, прайшоў праз браму неўміручасці, і шкадаваў «маладых», што паміралі раней за яго. Салідарны са сваім калегам Шоў, ён марыў пра даўгалецце і шмат каго перажыў.

### ДРАМАТУРГІ І СТВАЛАВЫЯ КЛЕТКІ

Ствалавыя клеткі вырошчваюцца проста з часцінак чалавечае скуры. Чалавецтва мае рэальны шанс амаладзіцца. Спраўджваецца мара народных казак («Маладзільныя яблыкі», перакоўванне чалавека), Бернарда Шоў («Назад, да Мафусаіла»), Карэла Чапека («Сродак Макропуласа»), Францішка Аляхновіча («Круці не круці, трэба памярці»), Кандрата Крапівы («Брама неўміручасці»).

### НЕБЯСПЕЧНЫЯ ПРАГНОЗЫ

Гадоў 15 таму я напісаў п’есу «Кацярынка і Кэт», дзе распавядалася пра дзяўчынку, якая атрымала ў падарунак ад крутога таты сваю дакладную копію, зробленую ў краіне, дзе растуць электронныя дрэвы, а ў іх галінах спяваюць электронныя салаўі.

Копія распраўляецца з арыгіналам і займае яго месца. Усе задаволеныя — тата і мама. Не задаволены толькі сябра дзяўчынкі, якога завуць Рыгорка, але каму да таго справа?

2005 год.

У свеце з’яўляецца мода дарыць маленькім дзяўчынкам іх электронныя копіі, барбі, падобныя да маленькіх гаспадыняў адна ў адну — русявыя валасы, блакітныя вочы...

Прапаную рабіць шчаслівыя прагнозы.

***Пятро ВАСЮЧЭНКА***

## НАСТАЎНІК

Ведаеце, яна заўсёды была легендай. Калі наш курс толькі паступіў на журфак, мы ўжо чулі пра некаторых выкладчыкаў. Яна — адна з такіх.

Я не ведаю Таццяну Арлову — жанчыну, але ведаю Таццяну Дзмітрыеўну — выкладчыка. Маё знаёмства з ёй пачыналася з літаратуры, кніг, якія яна напісала, падручнікаў, якія дапамагалі працаваць над курсавымі работамі. Памятаю, як на другім курсе выбрала яе навуковым кіраўніком: хацела напісаць штосьці па музычнай журналістыцы, і мне параілі звярнуцца да Арловай, прафесара

кафедры літаратурна-мастацкай крытыкі. Нечакана для мяне яна прапанавала тэму, у якую я адразу закахалася. Яна мае талент разумець, што патрэбна яе студэнтам. Гэта можа быць што заўгодна — вопыт, інтуіцыя, — але я лічу, што гэта менавіта талент.

Яна па-сапраўднаму любіць сваіх вучняў. Калі хтосьці цікавіцца яе прадметам, тэатрам, музыкай — чым-небудзь блізкім для Арловай, — яна абавязкова дапаможа. Яе дабрыня — патрабавальная і справядлівая. Таццяна Дзмітрыеўна сумленна выконвае сваю працу: яна цікавіцца сучасным мастацкім працэсам — і таго ж патрабуе ад нас, студэнтаў.

За некалькі гадоў маёй вучобы на кафедры я зразумела: ёсць выкладчыкі, а ёсць — настаўнікі. Ва ўніверсітэце ў самым пачатку вучобы нам сказалі, што тут няма настаўнікаў, а толькі выкладчыкі. Цяпер я з гэтым не пагаджуся. Вялікая розніца паміж настаўнікам і выкладчыкам — першы можа навучыць не толькі свайму прадмету.

Арлова вучыць мяне і, спадзяюся, астатніх, мудрасці. Яна расказвае, як трэба расстаўляць прыярытэты, як рабіць выбар, чаму ўвогуле трэба пра нешта задумвацца. Таццяна Дзмітрыеўна на сваіх занятках заклікае студэнтаў выходзіць з зоны камфорту, шукаць адказы на пытанні, пра існаванне якіх мы нават і не ведаем. Аднойчы сказала: «Калі ўмееце спяваць ці танцаваць — ідзіце ў шоу-бізнес, уцякайце з журналістыкі». Яна не лічыць гэтую працу лёгкай, не кажа, як многія, што прасцей за ўсё — пісаць тэксты. Арлова расказвала нам, як пісала «перадавіцы» для савецкіх газет, шукала тэмы, станавілася той, кім з'яўляецца цяпер — прафесіяналам, які з вышыні вопыту можа разглядзець у сваіх студэнтаў таленты.

Некалькі гадоў таму ва ўніверсітэцкім кінаклубе паказвалі фільм М. Фігуроўскага «Гадзіннік спыніўся апоўначы». Там здымаўся Дзмітрый Арлоў, бацька Таццяны Дзмітрыеўны. Спачатку яна расказала пра фільм, а потым жадаючым падарыла кнігу «Настаўнік» — пра бацьку. І цяпер я думаю пра тое, што Арлова пайшла па слядах свайго бацькі, бо яна ж таксама — настаўнік. Вельмі добры настаўнік. І дзякуй ёй за гэта.

З юбілеем Вас, шаноўная Таццяна Дзмітрыеўна!

***Маргарыта ДЗЯХЦЯР***



***Таццяна Арлова.***
***Фота Тамары Хаміцэвіч***

# КРЫЛЫ АРЛА АРЛОВАЙ

## *(маналог пісьмовага стала)*

Вітаю, шаноўнае спадарства!

Я пісьмовы стол, а зваць мяне Стол Пісьмовы (скарочаная форма для побытавага камунікавання), ну, а калі зусім поўна і з усімі рэгаліямі, то Stolatio Tati Orlovaus Honoris Causa…

Ведаеце, мне крыху няёмка і я трохі бянтэжуся… Так, не кожнага дня пісьмовыя сталы ўганароўваюцца публікацыямі ў паважных дзяржаўных часопісах і, наогул, не кожнаму нашаму брату прапаноўваюць прамаўляць маналог. Але ж я не з сарамлівых, мне ёсць што распавесці чытачам, асабліва тым, для якіх пісьмовы стол — нешта большае за проста мэблю… Ну бо мы — пісьмовыя сталы — асаблівая найвышэйшая каста дапаможнай для чалавека мэблі. Мы рэчы адухоўленыя. Так-так, не смейцеся: адухоўленыя чалавекам. Без яго, чалавека/гаспадара/ўладальніка, наша жыццё прыпыняецца, мы спачатку сумуем,

а потым можам нават захварэць на дэпрэсію… Добра, калі кагосьці з нас прапішуць у музеі (у выпадку наяўнасці таленавітага гаспадара, безумоўна, — пісьменніка там альбо навукоўца); горай, калі здадуць у камісіёнку, і невядома, хто цябе выкупіць і стане наступным уладальнікам; і зусім кепска, калі проста выкінуць на гарадскі сметнік… Гэта як дом састарэлых у вас, людзей: там, на сметніку, мы пасумуем, паскардзімся на няшчасны лёс, перакінемся парай слоў з іншым «смеццем», апошні раз уздыхнём і… памром, захлынаючыся халоднымі слязьмі восеньскага ліўня. Гэта так, для прыкладу… Але хопіць пра сумнае.

Я хачу прамаўляць і распавядаць пра жыццё. У першую чаргу, сваё. А яно ў мяне насычана-інтэлектуальнае ці інтэлектуальна-насычанае, як вам больш падабаецца. І неверагодна творчае. S'ilvousplaît…

***Пра мяне***

Я нарадзіўся на сучаснай, надта тэхналагічнай і паважанай мэблевай фабрыцы. Нарадзіўся зграбным брунетам з каштанавым адлівам і адразу быў адмысловым па форме і ўнікальным па змесце (пра апошні я даведаўся крыху пазней, калі займеў надзейнага гаспадара). Мяне хуталі ў поліэтыленавыя плёнкі, кардон ды іншы ўпаковачны матэрыял, каб уберагчы ад айчынных вільгаці/маразоў/скавышоў. Ой жа ж, і нацярпеўся я! А потым прывезлі на вуліцу Кальварыйскую, у будынак новага журфака (ой, перапрашаю, Інстытута журналістыкі БДУ), у пакой кафедры літаратурна-мастацкай крытыкі. Я, стварэнне прыдзірлівае да ўсяго, што датычыцца камфорту і годнай кампаніі, адразу запытаўся: «З кім мне жыць?» — «З прафесарам», — гучна прамовілі сцены, якія, высветлілася, маюць не толькі вушы, але і права голасу. Я спужаўся і голасу сценаў, і іх прысуду. Потым нервова ўздыхнуў і… знепрытомнеў. «З прафесарам Арловай!» — яшчэ гучней дадалі сцены, але я іх ужо не чуў. Казалі, што так было, але я не памятаю…

***Пра атачэнне***

Калі я апрытомнеў, то ўбачыў аазіс высакародных і такіх разнастайных раслінаў, якіх было багата не толькі на падваконні, але і ва ўсім пакоі кафедры. «Адкуль вы?» — запытаўся я. «Ад прафесара Арловай, — адказалі расліны, — гэта яна нас сюды пасяліла калісьці, даглядае і клапоціцца пра нашыя пяшчотныя цельцы, а мы, у сваю чаргу, час ад часу радуем і гаспадыню, і іншых супрацоўнікаў кафедры сваімі чароўнымі кветкамі».

На сцяне, што насупраць, я ўбачыў стэнд кніжак у густоўных цвёрдых вокладках. «Адкуль вы?» — запытаўся я. «Ад прафесара Арловай, — адказалі кніжкі, — гэта яна нас напісала і прынесла сюды, і цяпер мы з удзячнасцю служым на кафедры, дапамагаючы студэнтам засвойваць матэрыял па тэатральнай, музычнай крытыцы і не толькі. Калі ласка, не стаўцеся да нас як да музейных экспанатаў. Мы жывыя».

«Нішто сабе, — падумаў я, — і кветкі, і кніжкі, і ўсё ад Арловай. Цікава з ёю як мага хутчэй пазнаёміцца».

І раптам я перавёў свой погляд на маленькі столік, што месціўся бліжэй да дзвярэй. Гмм… відаць, мой калега… І з ім размаўляць? Не! Шляхетнасць не дазваляе. Але я схамянуўся і запытаўся: «Ты такі нязграбны і маленькі. Што носіш на плячах сваіх вузкіх, дружа? Відаць, рэфераты і курсавыя — макулатуру, адным словам». — «Не, не макулатуру. Для яе ў нас ёсць іншае месцейка, у скрынцы пад гасцявым столікам. Збольшага на сваіх плячах я нашу яблыкі, пірагі, цукеркі і пячэнькі, якімі частуюцца выкладчыкі кафедры, а часам і студэнты». — «А адкуль яны, гэтыя гастранамічныя слодычы ды ўцехі?» — «Ад прафесара Арловай, — здзіўлена адказаў столік, — яблыкі з яе легендарнага лецішча ў Ждановічах, а пірагі — з яе кухні. Гэта даўняя традыцыя, даведаешся яшчэ пра яе».

…І я — Stolatio Tati Orlovaus Honoris Causa — упершыню аслупянеў: а што насіць буду я?...

***Пра гаспадыню***

Яна, мая гаспадыня і ўладальнік, — прафесар Тацццяна Дзмітрыеўна Арлова.

Пазнаёміліся мы з ёю проста: яна прыйшла, павіталася (я таксама павітаўся, чырванеючы адценнем чырвонага дрэва, але, відаць, яна не пачула… альбо пачула і нікому не сказала пра маё сціплае «як я рады» і больш таварыскае «пасябруем?»).

«Нарэшце я маю такі шыкоўны стол і свой кут на кафедры», — прамовіла прафесар, і ад гэтых слоў я адчуў і гонар за сябе, і адказнасць: не кожнаму сталу выпадае напаткаць такога паважанага ўладальніка.

***…а потым***

А потым разам з Арловай я рос, сталеў і, спадзяюся, мудрэў. Мы, пісьмовыя сталы, амаль заўсёды пераймаем вопыт і стыль жыцця нашых гаспадароў. І тут мне пашчасціла. Перайманне вопыту, іншымі словамі.

Калі прафесар сустракаецца са студэнтамі — я сведка і кампаньён: калі ласка, абапірайцеся на мяне, раскладайце зручна чарнавікі і публікацыі, нататкі і накіды. Я толькі рады дапамагчы. Статус абавязвае.

Калі Таццяна Дзмітрыеўна вітае калег-журналістаў, якія нярэдка заходзяць да яе, каб узяць інтэрв'ю альбо атрымаць прафесійны каментар, я асабліва радуюся: ну калі яшчэ давядзецца пагутарыць з моднікамдыктафонам, які я з задавальненнем прымаю ў свае абдымкі.

Калі прафесар, крыху стомленая пасля лекцый, якія заканчваюцца а восьмай гадзіне ў другую змену, п'е каву — я таксама сведка. І так прыемна (толькі гэта паміж намі, сталамі), калі яна паміж гарачым кубкам і мною падкладае сурвэтку. Ну… бо ад гарачыні мой далікатны шпон сапсуецца, і я не здолею паранейшаму цешыць сваю гаспадыню шыкоўным лоскам. А хацелася б.

А бывае і так: прафесар збіраецца дадому, на чарговую тэатральную прэм'еру, выставу альбо дыпламатычны прыём — і зноў я, стол, побач. Я сціпла прымаю яе хуткія запісы размашыстым почыркам і годна захоўваю навуковыя тэксты, так даверліва пакладзеныя на мае плечы. Але мне гэта ў радасць. Так, у радасць.

А яшчэ яна, прафесар Арлова, вельмі клапатлівая: я заўжды выглядаю годна, шляхетна, арганізавана. Не тое што мой паплечнік і брат — багемны стол спадара Кавалеўскага, дарэчы, вучня і калегі Арловай, — заўсёды закіданы паперчынкамі, паперчынамі і паперамі; чарнавікамі, чыставікамі ды іншай паліграфічнай драбязой; паэтычнымі анталогіямі і вітамінкамі, цукеркамі і паштоўкамі, і…, і…, і… бррр! Хіба трэба навучыць яго, паэта, парадку. А што? Цалкам заканамерна: ён (Кавалеўскі) вучань прафесара Арловай, значыцца, і я магу стаць сталом-настаўнікам свайго малодшага калегі-стала. Перайманне традыцый, іншымі словамі. Хаця… Сам жа ён (не забывайма: мы мэбля) старэйшы за мяне. Няўжо дастаўся ў спадчыну ад прафесара Бондаравай? Не ведаю.

Але я — пісьмовы стол — і стальніца, і шуфляда, проста служу…

Проста служу Арловай. Як акцёры ў тэатры, я маю сваю адмысловую ролю ў яе жыцці.

***Напрыканцы***

Сведка тэатральных жарсцей, баталій, трыумфаў і не толькі, спадарыня Таццяна Арлова лёгка паэтызуецца з сучаснасцю. А я, ейны паплечнік, ведаю гэта дакладна. Бо я ейны ПІСЬМОВЫ СТОЛ.

P. S. Арлова лётае вольна, бо мае крылы арла.

# ЯК ПЕРШАЯ ПУБЛІКАЦЫЯ

Таццяна Дзмітрыеўна — адна з прафесараў, якія, як толькі прыходзяць на факультэт, адразу з'яўляюцца ў чытальнай зале. Яна пастаянны чытач у зале перыёдыкі, заўсёды прагортвае часопісы. Не было і тыдня, каб яна не зайшла. У яе ёсць любімае месца, крэсла. І гадзіну — дзве, пакуль усё не праглядзіць, не сыходзіць, працуе. Калі Арлова зайшла ў будынак — яна будзе тут, не сумнявайцеся.

Мяне здзіўляюць яе трапяткія адносіны да свайго бацькі — яна кнігу пра яго напісала. І калі мы на факультэце глядзім фільм «Гадзіннік спыніўся апоўначы» з яе бацькам, Арлова, нягледзячы на тое, што заўжды занятая тэатрамі, кіно, выставамі, заўсёды прыходзіць. Яна нават аднойчы выказалася: «У любы час дня і ночы, калі я магу хоць штосьці распавесці пра бацьку, — заўсёды зраблю гэта».

Калісьці ў «Рэспубліцы» была яе рубрыка «Сто радкоў пра тэатр». У гэтым была ўся яна! У бібліятэцы ёсць цэлая папка з яе нататкамі. Мы адсочвалі кожную публікацыю! Памятаю, як яшчэ ў старым корпусе, што на вуліцы Маскоўскай, на юбілей Арловай, 10 год таму, стужкамі развесілі на стэлажах яе артыкулы. Гэтае відовішча ўражвала. Мы заўсёды цанілі яе працу і дзівіліся яе добразычлівасці. Спадзяюся, Таццяна Дзмітрыеўна такой і застанецца — добрай, спагадлівай і адкрытай. Такой жа, як яе першая публікацыя.

***Людміла УШАКОВА,***
***загадчык бібліятэкі ІЖ БДУ***

Мікалай НІКІФАРОЎСКІ

# ГАНЧАРНЫЯ ТЭРАКОТЫ ВІЦЕБСКА ПА АРХЕАЛАГІЧНЫХ ЗНАХОДКАХ

У шырачэзнай вобласці тэракотавых вырабаў[1] ганчарныя вырабы займаюць калі не апошняе, дык, па меншай меры, вельмі і вельмі сціплае месца. За некаторымі выключэннямі, штодзённае месцазнаходжанне і служба іх у доме — кухня, кут у каморы; месца набыцця — базарныя задворкі, ні да чаго талковага не прыдатная крамка; месца вытворчасці — зноў жа гарадскі, местачковы ці вясковы, але абавязкова ўскраінны задні двор, каб брудная вытворчасць, як і сам неахайны вытворца, не бянтэжылі чужое вока; у заключэнне, воз для гаршкоў, што знешне выглядае велічна, у штодзённай мове стаў сімвалам пустаты, некаштоўнасці, а фізічны рухавік такога воза, заўсёды павольны конік — паследкам на службе чалавеку, які даўно ўвайшоў у напаўкплівыя прыгаворкі: «на ім (убогім, лянівым кані) толькі гаршкі вазіць».

У далейшым бытаванні тэракотавых вырабаў назіраецца вялікая разнастайнасць: у той час, калі палова або чвэрць цагліны, пліты для падлогі, кафлі для печы, непрыдатная для свайго непасрэднага прызначэння, яшчэ можа знайсці практычнае прымяненне — у насціле для бруднага месца, у папаўненні падмуркавай кладкі, а скрышаная прыгожа пакрые садовую або кветнікавую дарожку, клумбу, то падобныя ганчарныя рэшткі з пагардлівым найменнем «чарапкі» выкідаюцца туды, дзе яны найменш трапляюцца на вочы — у кучы смецця, памыйныя ямы, крапіўнікі. Калі ганчарныя рэшткі неяк прыдатныя для другаснай, відазмененай службы, то да свайго канчатковага разбурэння яны маюць справу з найбольш непрыстойнымі прадметамі, туляцца ў найбольш непрыстойных месцах і ўсё ж заканчваюць быццё ва ўказаных непрыстойных прытулках.


Н. Я. Никифоровскій.

Гончарные терракоты

ВИТЕБСКА

ПО

АРХЕОЛОГИЧЕСКИМЪ НАХОДКАМЪ.

ВИТЕБСКЪ.
Губернская Типо-Литографія.
1897.

Тое ж, што адбываецца з ганчарнымі вырабамі на паверхні зямлі ў бягучым часе, назіраецца ў адносінах да ганчарных рэштак, якія здабываюцца з зямлі пры раскопках, што не маюць археалагічных намераў. Тут цэльная цагліна, пліта, кафля, нават часткі іх таксама прыцягнуць да сябе ўвагу землякопаў як прадметы, бадай, прыдатныя да другаснай службы, бо за старажытнымі тэракотавымі вырабамі замацавалася небеспадстаўная рэпутацыя ледзь не вечнатрывалых рэчаў; але нікчэмны «чарапок», варты жалю абломак ганчарнага вырабу… да чаго

[1] Ад лац. — terra cota — абпаленая зямля, гліна; вырабы з яе.

ён прыдатны? Знойдзены цэльны ганчарны прадмет або буйная яго рэшта прыцягнуў бы ўвагу землякопаў хіба толькі як магчымае сховішча манетных і іншых каштоўнасцей, кімсьці некалі даручанае зямлі. Чаканні землякопаў падманутыя — і канчатковую гібель бруднага, у сучасным жыцці ні да чаго не прыдатнага прадмета вяршыць удар рыдлёўкі, лома, кіркі: чорнарабочая сіла, нярэдка звязаная паўрочнай, здзельнай працай або спешнасцю раскопак, не звяртае ўвагі на археалагічную каштоўнасць падобных знаходак і наўрад ці ўсведамляе яе.

Ці з'яўляецца справядлівай пераважная пагарда да рэштак таго, што служыла першым патрэбам зямнога ўладара, — узнімаць такое пытанне, па меншай меры, наіўна. Але гэтае пытанне зусім не наіўнае, калі датычыцца ганчарных прадметаў, нават сціплых іх рэштак, якія здабываюцца з-пад шматвяковага напластавання зямельных бугроў, смеццевых выкідаў, з засыпаных равоў і іншых спрадвечных руін. Калі раскопкі вядуцца з выключна археалагічнымі мэтамі, ці пры выпадковых раскопках прысутнічаюць навуковыя і ў археалагічным сэнсе аматарскія сілы, то кожны здабыты з зямлі прадмет, у тым ліку і ганчарныя рэштк, падлягае ўважліваму агляду, нягледзячы на яго дробязнасць, абтрапанасць і забруджаны выгляд. Усе такія знаходкі, згрупаваныя і рассартаваныя потым у кабінеце або музеі, узнаўляюць перад намі старадаўняе жыццё альбо значныя яго часткі, больш красамоўна за кніжныя і іншыя пісьмовыя крыніцы распавядаюць пра «часы даўнія», пра асоб і падзеі, якія так ці інакш прымыкаюць да гэтых часоў. Грунтоўная праца І. А. Хайноўскага «Раскопкі велікакняжацкага двара старажытнага града Кіева, праведзеныя вясной 1892 года (археалагічна-гістарычнае даследаванне)»[1], якая цесна мяжуе з дадзенымі гэтага артыкула, можа пацвердзіць нашае апошняе слова.

Наколькі вядома, у памятны нам час у Віцебску не праводзіліся спецыяльныя археалагічныя раскопкі, хоць раскопкі пры прыватных і нават грамадскіх прадпрыемствах здараліся неаднойчы і адбываліся ў месцах заведама гістарычных. Так, каля 1850—1854 гадоў праз даўняе прыгоннае Ручаўе пралегла пад С.-Пец.—Кіеў і Смал. шашу першая Заручэўская (на Вялікай Магілёўскай вуліцы) дамба; у наступным дзесяцігоддзі, а менавіта ў 1865—1867 г. былі зрытыя берагавыя вышыні пры ўраўноўванні дарогі (вуліцы) да пастаяннага праз Дзвіну маста; услед за гэтым замест драўляных мастоў з'явіліся яшчэ дзве дамбы — Заручэўская другая (на Малой Магілёўскай вуліцы) і Задуноўская, земляны матэрыял для якіх здабываўся пры скопванні ваколіц Замкавай гары. Дзякуючы ж раптоўнаму ўзвышэнню Замкавай вуліцы і гарачай будоўлі на ёй, Замкавая гара стала яшчэ болей скопвацца, а земляныя адкіды пайшлі на замяшчэнне колішняга Ручаўя, галоўным чынам, месцаў, якія прымыкаюць да прыватных уладанняў (сп. Серадняковa, Гурэвіч і інш.) Земляныя працы, звязаныя з узвядзеннем цудоўнага будынка для мужчынскай гімназіі з заходняга боку Замкавай гары, і такія ж працы пры стварэнні не меней цудоўнага будынка Акруговага Суда з усходняга боку гары, складаюць пакуль даволі свежую аповесць пра шырокія раскопкі ў Віцебску. Паўторым: адначасова з пералічанымі буйнымі раскопкамі не перастаюць праводзіцца дробныя, выкліканыя будаўнічай і іншай патрэбай (укладка вадаправодных труб у глыбі гарадскіх вуліц), прычым большасць з іх выпадае, як і раней, на месцы бясспрэчна гістарычныя.

Не прыпамінаючы спецыяльных археалагічных раскопак у Віцебску, мы ў той жа час не можам успомніць і асоб, якія, як І. А. Хайноўскі пры кіеўскіх прыватных раскопках, накіроўвалі дзейнасць землякопаў — неадступных ахоўнікаў працы, старанных наглядчыкаў за ўсім, што здабывалася на месцах раскопак і насіла сляды чалавечай апрацоўкі. Толькі гэтым можна растлумачыць параўнальную беднасць археалагічных знаходак, наяўных у мясцовым грамадзянскім музеі, а таксама ў музейных сховішчах асобных аматараў Віцебскай даў-

[1] Кніга выдадзена ў Кіеве, у 1893 г., у канцы яе на XXIV табліцах размешчана 156 цудоўна выкананых малюнкаў узгаданых у ёй прадметаў.

ніны. Пры такіх абставінах у Віцебску захаванне археалагічных знаходак, увага да іх маглі быць толькі выпадковымі. Калі насустрач гэтаму ішоў закупны рубель археолага-аматара, улешчванне землякопаў і іншыя дапаможныя сродкі, то і тады справа рабілася не нашмат прывабней: знаходнікі маглі прыберагчы хіба што дзясяты прадмет з тых, што мільганулі перад імі, або даставіць яго замоўцу толькі ў частках. Калі ж такі прадмет быў з каштоўнага металу, то карыслівасць немінуча брала верх над яго археалагічнай каштоўнасцю — і ў хуткім часе ён праходзіў праз рукі ювеліра; старажытная завушніца, грыўна, бранзалет, аздоба зброі пераўтвараліся ў сучасны ювелірны выраб. Так гінулі шматлікія археалагічныя каштоўнасці, так, несумненна, яны будуць гінуць і надалей, пакуль карысліваць не стане ніжэй за павагу да археалагічных каштоўнасцей, пакуль не ўмацуецца свядомасць адукацыйнай сілы археалагічных знаходак[1].

Якімі б змрочнымі не падаваліся выказаныя палажэнні самі па сабе, справа зберажэння археалагічных знаходак у Віцебску далёка не такая безнадзейная, як можа ўяўляцца. Так, аматары Віцебскай даўніны, спадзяёмся, не адмовяцца прыпомніць тую сапраўдную асалоду ад агляду археалагічных знаходак, якую яны кожны раз выносілі пасля наведвання грамадскага музея пры Віц. Губ. Стат. Ком. (Віцебскі Губернскі Статыстычны Камітэт. — **Рэд.**), а разам з гэтым не адмовяцца прыпомніць таго ж ураджання ад агляду прыватных археалагічных сховішчаў. Мы не маем права абвяшчаць імёны паважаных калекцыянераў, але ў той жа час не можам не сказаць свайго слова пра папулярны не толькі ў Віцебску, але і за межамі яго, прыватны музей, плён шматгадовай працы вядомага антыкварыя Вяч. Пятр. Федаровіча, тым больш, што толькі тут, у вялізным аддзеле тэракотавых вырабаў, мы знайшлі шчодрыя дадзеныя пра прадмет нашага артыкула, што дае нам прыемную магчымасць зрабіць яго больш поўным і рознабаковым. Пры гэтым для нас істотна тое, што шаноўны антыкварый, не шкадуючы сродкаў і занадта сціплых адпачынкаў ад нястомнай дзейнасці прысяжнага павераннага, калекцыянаваў выключна Віцебскія ганчарныя знаходкі, у розных месцах горада і ў розны час здабытыя пры раскопках[2]. З чарапкамі, чарапушкамі, абломкамі ў руках зазірнем у спрадвечную далечыню часоў, калі даўні віцяблянін вырабляў для асабістых патрэб і з меркантыльнымі намерамі разнастайны гліняны посуд — ахвярны, пахавальны, кухарскі, піцейны, кансервавы, — вырабляў як прысяжны рамеснік або як паднявольны служка патрэбам і неабходнасцям свайго ўладара, у абодвух выпадках маючы справу з матэрыялам, што апрацоўваецца натуральным чынам, — глінай.

З'яўляючыся падручным, прыдатным для лёгкай і зручнай апрацоўкі, гліняны матэрыял, вядома, зрабіўся адным з першых прадметаў для вырабаў чалавецтва яшчэ ў ягоным маленстве. Без дапаможных прылад, зусім не ведаючы металу, з адзіным дарам Стварцы — голымі рукамі — першабытны чалавек мог звярнуцца толькі да гліны, якая ад уздзеяння ветру, а тым болей сонца ўжо сцвярдзела, трывала ўтрымліваючы форму і выгляд, нададзеныя ёй воляй і вынаходлівасцю майстра. Дапамога агню для большага зацвярдзення вырабу завяршала трыумф зямнога ўладара. Раскопкі архаічных збудаванняў, раскопкі памятных у гісторыі месцаў — развалін Троі, Ніневіі, «краіны магіл», заатлантычныя раскопкі ў краіне ацтэкаў і больш старажытных насельнікаў мацерыка даюць аднагалосныя сведчанні, што гліна не адыходзіла ад гісторыі першабытнага чалавека і зрабіла яму найшырэйшую паслугу. У далейшым мы бачым, што

[1] Мы не адносім сказанага выключна да Віцебскіх раскопак, а ўзгадваем пра агульны лёс археалагічных знаходак, калі пры раскопках адсутнічаюць археалагічныя ці проста аматарскія сілы.

[2] Пры аглядзе музейных прадметаў вельмі важнай падмогай служаць фатаграфічныя табліцы, якія цудоўна перадаюць найбольш тыповыя прадметы. На табліцах пад часовымі №№ (I, II, III) сфатаграфаваны выключна ганчарныя тэракоты. — Мы дазволім сабе выказаць спадзяванне, што шаноўны антыкварый апіша каштоўныя скарбы свайго музея, як гэта зрабіў сп. І. А. Хайноўскі ў працы «Раскопкі вялікакн. двара».

тая ж гліна не заставалася незапатрабаванай і ў нашчадкаў першабытнага чалавека, якія паспелі ўзрасці ў культурным і грамадзянскім сэнсе і спазнаць вартасці металу — яна не перастае служыць патрэбам і неабходнасцям сучаснікаў. Не кажучы пра велічныя збудаванні з гліны, якімі з'яўляюцца храмы, палацы, масты, пакідаючы ў баку побытавыя вырабы, якія служаць патрэбам і вяльмож, і беднякоў, варта памятаць, што і сама апрацоўка металаў немагчымая без дапамогі і падтрымкі той жа гліны: высокі ціск гарачай тэмпературы могуць вытрымліваць толькі горны і плавільныя катлы з гліны.

Калі існуе аналогія паміж маленствам чалавецтва і маленствам асобнага, скажам, сучаснага чалавека, то нават павярхоўнае назіранне пераканае, што дзіця, якім ніхто не кіруе, рана звяртаеца да гліны: не ведаючы прыёмаў і сродкаў для глінабітных прац, яно інстынктыўна, але небясплённа іх здзяйсняе, вынікам чаго з'яўляюцца вырабы, якія паступова, па меры разумовага росту і кругагляду маладога майстра паляпшаюцца, задавальняючы гульнявыя і прыкладныя яго патрэбы. Бадай, у гэтым ёсць паўтор таго, што перажывала чалавецтва ў маленстве, і ўся розніца толькі ў размаху вытворчасці ды ў паспешлівай, пільнай патрэбе ў выробленых прадметах, якая ствараецца жыццёвай неабходнасцю.

Прагрэсуючы на шляху тэракотавых удасканальванняў, вытворцы старадаўніх гліняных вырабаў дасягнулі ў гэтай вобласці найвышэйшых паляпшэнняў, да якіх, бадай, не ў стане дайсці далейшая ганчарная вытворчасць. Істотным тут з'яўлялася выдатнае прыгатаванне чыстай, беспрымеснай гліны, якая праходзіла наступную апрацоўку перад тым, як паступала на выраб: майстры капалі гліну восенню і прыблізна на паўгады пакідалі яе на адкрытым месцы, дзе б яна магла падвяргацца ўздзеянню маразоў, вятроў, уплыву сонечных прамянёў і іншым атмасферным уздзеянням; потым яе ачышчалі ад раслінных рэштак, прыліпаў, крышылі і прасявалі, як муку. У такім выглядзе гліна была гатовая для цеста. Пры патрэбе майстры рассцілалі гліну на каменным або драўляным памосце, умацаваным навокал у выглядзе скрыні, мачылі яе вадой і доўга мясілі аголенымі нагамі, пакуль яна не ператваралася ў цеста, якое нагадвала згушчаны раслінны экстракт (пасту). Калі цеста аказвалася дастаткова вымешаным, яго палівалі вадою да абсалютнага разбаўлення і, узбоўтваючы жыжку, паволі прапускалі яе па злёгку нахіленых жалабах у асобныя прыёмнікі, прычым пясок і здробленыя камяні заставаліся на дне жолаба, раслінныя рэшткі старанна вымаліся, і ў прыёмнікі трапляла чыстая гліняная жыжка. Адстаяўшыся тут цягам некалькіх дзён, жыжка-гліна давала аднастайную, як цеста, масу, цалкам гатовую для ганчарных вырабаў. Гэтыя ж апошнія, умацаваўшыся і падсохшы пад навесам, без уздзеяння сонечных прамянёў і скразнога ветру, на працягу дзесяці сутак абпальваліся потым у горне пры высокай тэмпературы. Не дзіўна пасля гэтага, што, праляжаўшы ў зямлі вякі і тысячагоддзі, старажытныя ганчарныя вырабы, як цэльныя, так і абломкі іх, застаюцца нязменна цвёрдымі, звонкімі, як і ў дні вытворчасці.

Варта дадаць: пазбаўленыя такой клапатлівай апрацоўкі, сучасныя ганчарныя вырабы не вытрымліваюць і слабога параўнання са сваімі старадаўнімі суродзічамі. Прабыўшы ў зямлі які-небудзь дзясятак год, асабліва ў вільготным грунце, яны раскісаюць і, калі радавы колер іх супадае з колерам грунту, то нядаўнія слугі патрэбаў чалавека бясследна зліваюцца з зямлёй, што іх прытуліла. Тое ж бачыцца ў гліняных буграх, якія ракавым чынам вырастаюць каля ганчарных майстэрняў з абломкаў няўдалых вырабаў: застаецца цэлым толькі матэрыял, які апрацоўваецца — гліна, але не вырабы з яе, і гэта, лішні раз сведчачы пра ўпадак сучаснай ганчарнай вытворчасці, у той жа час упэўнівае нас, што здабытыя пры Віцебскіх раскопках тэракоты, у тым выглядзе, у якім мы бачым іх у музейных сховішчах, сягаюць у паважную, сівую даўніну.

Да якога прыблізна часу аднесці вытворчасць і побытавае ўжыванне ганчарных тэракотаў, з-за якіх была напісаная гэтая заметка, па прычыне адсутнасці дакладных дадзеных даводзіцца пакінуць пытаннем, на якое не даюць адказу нямыя рэшткі старажытнасці. Але пры першым жа знаёмстве з ганчарнымі тэракотамі заўважаецца, што ўсе яны падлягалі апрацоўцы на ганчарным кружале, за выключэннем тых частак,

якія натуральным чынам не паддаюцца апрацоўцы падчас вярчэння кружала, як, напрыклад, ножкі, вушкі, носікі, фігурныя выявы і арнаментальныя дадаткі да вырабаў. Нам вельмі важна пры гэтай акалічнасці ўспомніць сведчанне Плінія, які сцвярджаў, што выраб і абпальванне глінянага посуду вынайшаў Карэбус-афінянін, а ганчарнае кружала — Анахарсіс-скіф. Блытаныя, але шматлікія згадкі старадаўніх пісьменнікаў пра супляменнікаў Анахарсіса, раскіданых па паўночным узбярэжжы Чорнага мора і далей на поўнач ад яго, не перастаюць паўтараць імя скіфаў нават і тады, калі ў VI стагоддзі хрысціянскай эры скіфскі перыяд змяніўся сармацкім. Гамер (1000—900 г. да Н. Х.) ведаў скіфаў, хоць і пад іншым імем (гіпемолгі); Гезіёд (у IX ст. да Н. Х.) паэтызуе іх пад сапраўдным іх імем; у 513 г. да Н. Х. Дарый прадпрымае з сямісоттысячным войскам няўдалы паход супраць скіфаў; Герадот (н. 484, пам. 408 г. да Н. Х.) выклаў магчыма поўныя дадзеныя пра скіфаў свайго і папярэдняга часу; Тацыт і Пліній (у I ст. пасля Н. Х.) дастаткова ведаюць тых жа скіфаў і свае звесткі пра іх перадаюць у нязначнай, праўда, сувязі са звесткамі пра паўднёвае ўзбярэжжа Балтыйскага мора і нізоўі рэк, што ў яго ўпадаюць, як пра месцы гандлёвых аперацый Рыма і Візантыі. Гэтыя звесткі значна папаўняюцца паданнямі Пталемея (у другой палове II ст. пасля Н. Х.), які ў краіне сарматаў (скіфы тое ж) вылучае племя Венедаў, Стурнаў і Карвонаў, з якіх апошнія два, паводле смелага, але небеспадстаўнага меркавання, ёсць Беларусы і Крывічы летапіснага часу. Ваяўнічае шэсце Готаў (у III ст.) з заходняга боку Еўропы і Гунаў (у IVст. пасля Н. Х.) — з усходняга, як вядома, злучаных са скіфамі і германцамі пад уладай Атылы (пам. 454 г.) і далейшае «Вялікае перасяленне народаў», якія перашкодзілі гандлёвым сувязям Візантыі са скіфа-сармацкімі абласцямі, на некаторы час закрываюць гістарычныя звесткі пра Венедаў, Стурнаў і Карвонаў, пакуль Раксаланы, а пазней — Паляне і Росы не з’явіліся ў адарванай Грэцыі. У акружным пасланні царградскага патрыярха Фоція ад 866 г. гаворка ідзе пра Росаў, у якіх бачаць часова забытых Стурнаў і, асабліва, Карвонаў. Канстанцін Багранародны (візант. імпер. 945—959 г.) кажа пра Крывічоў як пра падуладных Росам. Нарэшце, як пра злучанае славянскае племя і член маладой дзяржавы, пра Крывічоў-палачанаў грунтоўна распавядае прападобны Нестар, дакладна вызначаючы месцы іх. З гістарычным прасветам пра першанасельнікаў цяперашняй Віцебскай губерніі ўзрастае летапіснае ўказанне на гандлёвы шлях «з Вараг у Грэкі і з Грэкаў па Дняпры, і верх Днепра»; тут жа, між іншым, бачна, што сярод пераволаў для зносін дзвюх вялікіх водных дарог — Дняпра і Заходняй Дзвіны — вядомы быў і параўнальна кароткі пераволак і ля Віцебска (вярхоўе р. Лучосы вельмі блізка ад Дняпра). Несумненна, што шлях да каштоўнага ў старажытнасці бурштыну быў вядомы прадпрымальным фінікійцам, якія, аднак, па камерцыйна-канкурэнтных разліках, хавалі яго, і шлях «з Вараг у Грэкі» быў узноўлены пазнейшымі намеснікамі фінікійскіх прадпрымальнікаў незалежна ад аддаленых уладароў гандлёвай і мараходнай справы.

Сказанае дагэтуль адносіцца не да летапіснага Віцебска, а хутчэй — да горада, што толькі фарміруецца, але імяннае быццё якога даўно наспела, горада, які быў прытулкам на шляху «з Вараг у Грэкі», адным з выбітных цэнтраў крывічанскай вобласці. Як член вялікай славянскай сям’і, якая ў 862 годзе аднадушна заклікала да сябе варажскую ўладу, не шляхам уціску, а добраахвотна, безыменны пакуль Віцебск прызнае гэтую ўладу нароўні са сваімі субратамі, не адыходзіць ад падпарадкавання ёй, калі яна перайшла з першапачатковага цэнтра ў новы — стольны Кіеў — і адсюль карыстаецца дзяржаўнай абаронай у асобе апекуна малалетняга Ігара, сваяка яго Алега, калі апошні ў 882 годзе выгнаў з крывічанскай зямлі і Чарнігава дзёрзкіх ханаў казарскіх. Вялікая княгіня Вольга-хрысціянка, якая прыбыла ў Віцебск у 974 годзе (згодна з летапісам г. Віцебска, паміж 945 і 957 г.), не заваёўвае і не ўціхамірвае горад, а мірна жыве тут два гады запар, для большай аховы яго будуе замак, а для хрысціянскіх патрэб віцяблян два храмы — Міхайлаўскі і Дабравешчанскі.

У паслядоўным, хоць і кароткім пераліку мы намагаліся прывесці ўсе згадкі, дзе

сустракаецца туманнае імя скіфаў і вобласць іх месцазнаходжання, да дзён, калі аддаленыя нашчадкі іх узносяць мірную малітву ў храме Дабравешчання; пачаўшы з міфічных часоў, калі «дзівосныя мужы – гіпемолгі, бедныя, найсправядлівейшыя смяротныя, што харчуюцца толькі малаком» (паводле Гамера), «даіцелі кабыл» (паводле Гезіёда), «аратаі, якія сеюць хлеб не для ўласнага ўжывання ў ежу, але для продажу» (паводле Герадота), вандроўнікі «якія нічога не сеюць і не аруць… самыя адважныя і шматлікія, што лічаць іншых скіфаў сваімі рабамі» (паводле таго ж Герадота), «неўры ці нуры-чараўнікі (пярэваратні ў ваўкоў), благаслаўлёныя гіпербарэйцы, што нявінна і мірна вядуць працяглае, радаснае жыццё ў цудоўнай краіне, пад вечным святлом сонца, і, з'яўляючыся перанасычанымі жыццём, адыходзяць на скалу і кідаюцца адтуль у мора» (паводле Герадота і Плінія)[1], — мы прыпыніліся на акце ўступлення іх у цесны грамадзянскі саюз з астатнімі славянамі, калі яны не толькі мірна жывуць пад уладай сваіх кіраўнікоў, але і мірна-ганарова праводзяць два гістарычныя гады з выразніцай гэтай улады — св. княгіняй Вольгай, дарэчы, зямлячкай, а можа быць, і ўраджэнкаю вобласці Віцебскіх Крывічан[2]. Пры такім невыразным і рознахарактарным пераліку згадак немагчыма разабрацца ў пытанні нашай заметкі: хто менавіта і калі з'яўляўся стваральнікам і гаспадаром ганчарных тэракотаў, што падпадаюць пад наш разгляд? Калі першае знаёмства з гэтымі тэракотамі кажа пра іх культурную (кружальную), а не архаічную тэхніку, то ў далейшым робіцца відавочнай адсутнасць тут уплыву грэцкага стылю — формы высокай, зграбнай, што вылучаецца вытанчанасцю, суразмернасцю ў абрысах, — форма, якая заўважаецца ў нешматлікіх ганчарных тэракотаў Кіева (па раскопках вялікакняжацкага палаца), якія былі прывезены сюды з Грэцыі, або выраблены на месцы грэчаскімі ганчарамі, як, напрыклад, амфары і стамнасы[3]. Зрэшты, несумненныя дадзеныя сведчаць, што гэты ўплыў, не паспеўшы канчаткова тут замацавацца, выціснуўся і замяніўся ўплывам стылю скандынаўскага і што ў працяглы перыяд ад нашэсця Готаў да канца вялікага перасялення народаў, калі абарваліся зносіны Кіева з Грэцыяй і загарадзіўся гандлёвы шлях да варагаў, безыменны Віцебск, як прытулак на гэтым шляху, мог быць перадатчыкам скандынаўскага стылю ў Кіеў, запазычваючы яго і для сябе. Тоеснасць раскопкавых тэракотаў Кіева і Віцебска надзвычайная: там і тут ганчарныя вырабы адрозніваюцца прысадзістасцю формы, пузатасцю, некаторыя маюць тоўстыя вушкі і ножкі, прычым вырабы Віцебска больш вытанчаныя і паліраваныя за кіеўскія. Гэтую апошнюю розніцу можна растлумачыць тым, што пакуль Кіеў перажываў вялікакняжацкі разлад, а пасля мангольскае разарэнне, Віцебск працягваў мірны рух, нададзены яму раней, а келіх гора выпіў пазней, калі аб'явіўся пад уласным імем і стаў сведкам сутыкненняў Масквы з Літвою, стаў гістарычнай «апораю Рэчы Паспалітай». Але да гэтага часу не ўзыходзяць ганчарныя тэракоты нашага артыкула, таму што Віцебск не жыў тады ў мірным руху, а быў «апорным» пунктам разбуральных рухаў з розных бакоў.

Разнастайнасць і шматлікасць ганчарных тэракотаў, што цяпер знаходзяцца перад намі, не даюць магчымасці разгледзець кожны паасобку, а тым болей — сказаць пра кожнага з іх асобнае слова. У гэтым выпадку дастаткова будзе разгледзець іх па групах, як гэта было намечана ў пачатку атрыкула, і больш падрабязна апісаць толькі тыповых прадстаўнікоў групы, а яны вельмі дарэчы

[1] Карыстаемся каштоўнымі дадзенымі грунтоўнай працы А. П. Сапунова, «Зах. Дзвіна», Віцебск 1893 г.

[2] На трохвярстовай адлегласці ад Віцебска (у паўночны бок) знаходзіцца вёска Вольгаўка, у якой заўзятыя прыхільнікі Віцебскай даўніны хочуць бачыць радзіму св. кн. Вольгі.

[3] Амфара — высокі гліняны сасуд з дзвюма ручкамі ля тонкага горлачка, які мае конусападобнае дно; стамнас — такі ж сасуд, але з больш тоўстымі ручкамі ля шырокага горлачка і пляскатым устойлівым дном. Першы сасуд прызначаўся для захоўвання вадкасцей і ўсталёўваўся ў выкапанае гняздо склепу ці падлогі; другі — для захоўвання густых або сыпучых прадметаў і мог стаяць на любой паверхні.

сфатаграфаваны на табліцах. Пачнем з тэракотаў ахвярных.

1) Час не захаваў для нас бясспрэчных помнікаў пра боствы віцябляніна-паганца, як не захаваў ён і вобраз паганскіх ахвярапрынашэнняў, а прадаставіў даследчыку даўніны толькі рэшткі ахвярных тэракотаў. І мы пазнаем іх па спецыяльнай прыстасаванасці да ахвярнай справы, для іншых патрэб непрыдатнай. Прадметы гэтыя могуць быць успрынятыя як адносна груба зробленыя, — што сведчыць пра іх большую старажытнасць: адзін з іх, які ўяўляў сабой падножжа сасуда, мае пляскатую стойку ў 3 ½ сантым. у дыяметры; паволі звужаючыся да вышыні 1 ½ сант., ножка дасягае тут найменшай таўшчыні дыяметра — у 2 см., ад якога ідзе такое ж павольнае пашырэнне да брушка пасудзіны; максімальная таўшчыня апошняй ажно да адбітай верхавіны не перавышае 4 ½ см. у дыям. Бачна, што шклянкавай формы кубак меў унутры сябе іншы меншы кубак, раўнамерна аддзелены ад сценак першай (на 1 см.). Дзве іншыя пасудзіны, як і шматлікія дублікаты іх, захоўваюць пачатковую форму кубкаў, адрозніваючыся паміж сабой то роўным, то губатым днішчам. Сярод прадметаў гэтай групы вылучаецца вытанчанасцю формы пустая ў сярэдзіне стойка, на верхнім дне якой пачынаецца таксама полая ножка; пры губатых выступах унізе і ўверсе, якія маюць аднолькавы дыяметр у 6 см., ды пры вышыні ў 3 ½ см., яна мае найменшы дыяметр у перахваце ў 5 см. Агулам гэты ніжні фрагмент вырабу нагадвае сучасную курыльную попельніцу, у якую праз пад'ёмную накрыўку або адтуліну ў цэнтры яе ўводзіцца вада.

Яшчэ большай вытанчанасцю стоек і тонкасцю формаў адрозніваюцца прадметы, з якіх першы (адна толькі стойка-днішча) мае правільныя загнутыя краі, нададзеныя ёй націскам пальца падчас першапачатковай апрацоўкі. Стойка-днішча мае дыяметр у 9 ½ см., і з цэнтра яе ўзнімалася страчаная пустая ўсярэдзіне ножка. Другі прадмет, з роўнымі незагнутымі краямі стойкі ў 8 см. у дыяметры, мае ножку (шыйку), вышыня якой разам са стойкай ледзь дасягае 6 см. Паступова патанчаючыся ад асновы, ножка мае ў таліі дыям. у 2 см.; адсюль яна крута пашыраецца, заканчваючыся напаўразбуранай місачкай у форме сподачка. Бачна, што іншы, меншы сподачак, які падтрымліваецца той самай ножкай, змяшчаўся над ніжнім, у раўнамерным водступе ад сценак, для асобнага размяшчэння ахвярных прадметаў. Дзякуючы параўнанню апошняй з кіеўскімі ахвярнымі пасудзінамі, мы адразу даведваемся пра спецыяльнае прызначэнне ўзгаданага тэракота, хоць ён даволі рэзка адрозніваецца ад субрата вытанчанасцю.

Мы прызнаем ахвярнымі прадметамі місачку і шырокую, пустую ўнутры стойку, якая ў верхняй частцы крута пашыраецца ў страчаную, адбітую місачку. Дыяметр першай, дарэчы, абсалютна цэлай місачкі, у развальных роўных краях даходзіць да 12 см., пры пляскатым днішчы ў 8 см.; дыям. другога прадмета роўны ля асновы 10, а ўверсе 8 ½ см., пры вышыні ў 8 см.

Пры выкарыстанні такіх пасудзін даўні віцяблянін ушаноўваў і ўміласціўляў сваіх, цяпер страчаных, багоў: ставіў перад імі смачныя стравы і напоі, курыў духмяныя рэчывы, а найбольш рэлігійны дадаваў да гэтага пасмы ўласных валасоў, абрэзаныя пазногці, або напаўняў пасудзіны ўласнай крывёй, крывёй ахвярнай жывёлы, а можа быць, і крывёй ахвярнага раба, палоннага, што з'яўляецца звычайным у рэлігійным кульце дзікіх народаў.

2) Нешматлікасць побытавага посуду, асаблівае ўшанаванне памерлых, паспешлівасць пахавання і іншыя схаваныя ад нас прычыны прымушалі карыстацца тым жа ахвярным посудам і для пахавальных патрэб. Звычай хаваць з нябожчыкам найбольш любімыя ім пры жыцці прадметы, несумненна, практыкаваўся, і лёгка магло здарыцца, што ўчарашняя курыльніца, крывавая місачка, якая ўжывалася пры ахвярным выпрошванні здароўя хвораму, вяртання жыцця канаючаму, цяпер выпраўлялася з ім у магілу або для ўміласціўленя тагасветных боствай, або з прадметамі ежы і піцця, патрэбнымі ў замагільным шляху. Але для гэтага існавалі і спецыяльныя пасудзіны, не адзінкавыя экзэмпляры якіх мы бачым у тэракотах. Як на больш выразных, мы спынімся на пахавальных гаршэчках, з якіх першы захаваў толькі дно ў 6 см. у дыям. з развальнымі адхінутымі краямі, дзе пры ацалелым краі бачны і носік. Астатнія тэракоты гэтай групы — цэлыя прадметы, з нязначнымі пашкоджаннямі; тут злёгку аблупілася палі-

ва, згубілася ручка, там не хапае галоўкі, накрыўкі. Найбольшы гаршэчак, дарэчы, як і ўсе астатнія, з адхінутымі вонкі краямі, аздоблены зігзагістым паяском з уціснутай разоркі, мае ў адтуліне дыям. у 12 амаль см., пры вышыні пасудзіны ў 9 см., тады калі найменшы мае ў адтуліне толькі 3 см., пры вышыні ў 3 ½ см. і пры шырыні пляскатага дна ў 2 ½ см.; найбольшая шырыня брушка гэтага апошняга гаршэчка ледзь даходзіць да 4 см. у дыяметры.

Пра побытавае ўжыванне такіх гаршковых малютак для гатавальных і нават піцейных патрэб не можа быць гаворкі. Падабенства іх з кіеўскімі плавільнымі[1] і розніца са здабытымі там жа непасрэдна са старажытных магіл чыста пахавальнымі пасудзінамі, якія маюць грубую збанападобную форму з прыстаўнымі грубымі вушкамі, або двума выступамі ў верхняй частцы пасудзіны, дзе ў вушках былі наспех прабітыя адтуліны для шнурка, за які пасудзіны вешаліся або апускаліся ў магілу, — не даюць магчымасці прызнаць іх ні за тыя, ні за іншыя: тонкія сценкі гаршэчкаў нязручныя для плавільнай справы, а гаршковая форма далёка адыходзіць ад збанападобнай кіеўскай. Аднак не цацачная патрэба і не лішак вольнага часу кіраваў майстрам пры такой руплівай апрацоўцы гаршковых малютак: пускаючы на выраб цудоўна падрыхтаваную гліну, робячы сценкі пасудзін як мага больш тонкімі, ва ўсіх частках раўнамернымі, адгладжваючы іх на кружале і звонку, і знутры, майстар жадаў дагадзіць вышэйшым патрэбам — службе пасудзін чалавеку па той бок труны. У той жа час не гульня і не бяздзейнасць звялі гэтыя пасудзіны ў глыб зямлі, пад векавое напластаванне смецця і руінных адкідаў. Менавіта ў іх пры пахаванні ставілася ў магілу то штодзённая, то любімая нябожчыкам ежа і піццё, або яны клаліся ў магілу як прадмет, патрэбны для гатавання ў тагасветным быцці, як дапаўненне гаспадарчага скарбу.

3) З рэштак чыста кухарскага посуду маюцца аб'ёмістыя чарапкі не менш аб'ёмістых калісьці гаршкоў, ды абломкі патэльняў з ножкамі пры іх, як і самі ножкі, аддзеленыя ад сваіх месцаў. Па гэтых рэштках бачна, што старажытная, напр., патэльня, на трох прыблізна ножках, не ставілася непасрэдна на гарачыя вуголлі, а ўзвышалася над агнём сантыметраў на 6; у адной з бакоў патэльні знаходзілася полая ручка — то круглая, то плоская для ўстаўкі драўлянай насадкі, або такую ж замяняла доўгая масіўная ручка, з дапамогай якой пасудзіна ставілася над агнём і даставалася адтуль. Апрача стараннай кружальнай апрацоўкі, выбітнай асаблівасцю даўніх гаршкоў была ўзорыстасць іх на знешнім баку, у выглядзе гарызантальных паяскоў у верхняй частцы, непасрэдна пад загібам краёў, або ў выглядзе стужак, зігзагаў, выробленых уцісканнем разца пры кружальнай апрацоўцы; арнаментоўка, несумненна, надавалася гаршкам таму, што адна і тая ж пасудзіна з гатовай у ёй стравай, нароўні з патэльняй, дакладней, — міскай, служыла і сталовым посудам.

4) Разгляд шматлікіх тэракотаў, якія адносяцца да групы піцейных пасудзін, дае права сцвярджаць, што даўні віцяблянін любіў адвесці душу гулянкамі, здзяйсняючы апошняе і кампанейскім шляхам і самотнаю папойкай. Для першага ў яго меліся двухручныя брацíны, а на апошні выпадак — аднаручныя кубкі. Агульны характар піцейных пасудзін заключаецца ў тым, што, маючы форму злёгку пашыранай уверсе шклянкі з плоскім цяжкім дном, яны падлягалі самай клапатлівай апрацоўцы, а многія з іх мелі добра захаваную і дагэтуль паліву звонку і знутры. Сярод вялікага падбору піцейных тэракотаў няма ніводнага, дзе б аснова была шырэйшая за адтуліну, і калі пасудзіна звужаецца трохі ўсярэдзіне, то адтуліна яго зноў прымае дыяметр асновы, а два аднаручныя тэракоты, пры ўстойлівым дне ў 3 ½ см., пры вышыні ў 11 см., маюць у адтуліне дыяметр у 7 ½ см. Як і павінна быць, брацíны большыя па памеры і аб'ёме: унутраны бок брацíны мае дыям. у 8 ½ см., а вышыня да

[1] «Раск. велік дв.», таб. XIV: 63, 72, перадае выяву дзвюх плавільных пасудзін, з якіх першая, пры вышыні ў 2 ½ см., найбольшай шырыні брушка ў 3 см., адтуліны ў 1 ¾ см., мае плоскае дно ў 1 ½ см.

адпалай уверсе часткі ручкі (адпаведна няпоўнай пасудзіны), — 10 ½ см.

Форма ручак піцейных тэракотаў дваякая — акруглая і ў выглядзе прамой скабы, якая часткова нагадвае шырокую, але нізкую літару «п». Даўжыня апошняй ручкі з вонкавага боку 9 ¼ (па крайнім рабры), а адлегласць паміж канцавымі кропкамі ножак, якімі яна прылягала да пасудзіны, 11 см. Гэтыя апошнія ручкі плоскія, трохі патоўшчаныя да пасудзіны і аднолькава клапатліва зробленыя перад тым, як былі прыкладзеныя да месца. Усе ручкі дастаткова вялікія, дазваляюць прасунуць тры пальцы рукі, і ў той жа час не псуюць пасудзіны несуразмернасцю. Да ўзгадкі пра паліванне шматлікіх піцейных пасудзін, як і іншых ганчарных вырабаў, варта дадаць, што мастацтва паліваць быццам апярэджвала арнаментоўку, якая на піцейных тэракотах прасцейшая за гаршэчную і абмяжоўваецца толькі двуматрыма ўціснутымі коламі па вонкавым баку, зробленымі на кружале.

Да гэтай групы варта далучыць мясцовыя амфары, якія, праўда, не маюць аніякага падабенства да грэчаскіх, што былі знойдзеныя ў Кіеве падчас раскопак, але, несумненна, служылі адным і тым жа патрэбам — захоўванню і перамяшчэнню дарагіх напояў, алеяў, пахучых вадкасцей, лекавых зелляў і інш. Гэтыя амфары выяўляліся ў вядомых і цяпер пузатых «гляках» з тонкаю шыйкаю, якія часам заканчваюцца «лісінай мордай» (носікам), і — глі690нянымі ж біклажкамі, з вушкамі і без іх. Агульная вышыня «гляка» 10 см., з якіх уласна брушку яго належыць 7 см., а астатняе — правільна звужанаму і пашыранаму ў адтуліне рыльцу (дыям. краёў адтуліны 4 см., а шыйкі ўсярэдзіне — 2 ½ см.). У плоскім дне з краямі, што выступаюць вонкі, дыям. «гляка» роўны 7 ½ см., а ў самым шырокім месцы брушка — 10. Пры клапатлівай апрацоўцы на кружале, «гляк», паліваны і аздоблены двума разорыстымі паяскамі, трохі вышэйшы за найбольшы дыяметр брушка. Акрамя такога «гляка», для той жа патрэбы ўжываўся іншы — з роўным, як у бутэлькі, брушкам. Што датычыцца носікаў (лісіных мордаў) да «глякаў», як і да згубленых пасудзін, то іх маецца некалькі экзэмпляраў, якія мала чым адрозніваюцца ад тых жа частак сучасных «глякаў». Але сярод іх па форме і велічыні прыцягваюць увагу два: трохкутны, злёгку загнуты ўніз носік у 7 ½ см. даўжыні і ў 7 шырыні ў той частцы, якою ён далучаўся да згубленай пасудзіны, і акруглы, з загнутымі вонкі краямі, які мае даўжыню 6 ¼ см. пры дыяметры адтуліны жарала ў 4 см. Ён зроблены ўручную і змяшчаўся збоку невядомай пасудзіны для піцця.

Калі б неаспрэчнымі дадзенымі не было засведчана здабыццё біклажкі са значнай глыбіні, з-пад руіннага смецця, мы адмовіліся б верыць у яе як археалагічную знаходку: цэлая, арнаментаваная зубчастымі насечкамі на краёвым абадку плоскай сценкі, трыма правільнымі абадкамі на ёй жа, хвалепадобнымі, правільнымі лініямі ў полі абадкоў, на чатырох ножках унізе, якія дазваляюць пасудзіне стаяць на любой паверхні, з двума бакавымі ў верхняй частцы вушкамі, для нашэння на шнурку, з цудоўнай палівай зялёнага колеру, яна можа заняць месца і за сучасным сталом і, па неабходнасці, вісець цераз плячо вандроўніка, падобна дарожнай пляшцы. Памеры біклажкі наступныя: агульная вышыня з ножкамі і кароткай шыйкай роўная 15 см., з якіх на корпус прыпадае 11, а на шыйку 2 ½ см., пры таўшчыні ў 4 ½ см. плоскай, правільна круглай пасудзіны. Старажытны падарожнік насіў у біклажцы напой для падмацавання, старажытны воін не развітваўся з ёю падчас вайны і міру па той жа патрэбе. А можа, тут захоўвалася зелле старажытнага лекара, згубнае піццё для ворага, духмянае зелле фарсуна — адкуль даведацца?!

5) Вырабы, якія не выкарыстоўваліся для ніводнай з пералічаных патрэб, г. зн. не былі ані ахвярнымі, ані пахавальнымі, ані кухарскімі, ані піцейнымі, мы дазволім сабе аднесці да групы кансервавых, хоць такая назва іх з’яўляецца даволі нацягнутай. Істотнаю асаблівасцю тэракотаў гэтай групы з’яўляецца тое, што замест пяску, дробна раскрышанага камня, якія звычайна прымешваліся да ганчарнай гліны, сюды дадаваліся раскрышаныя ракавіны, бачныя сляды якіх заўважаюцца на паверхні пасудзіны так жа, як і на зломе (белыя бліскавінкі, крупінкі), — што пры звычайна цудоўна прыгатаванай гліне надавала пасудзіне непрапарцыянальную велічыні лёгкасць. Па

сціплых рэштках невядомага, але, мяркуючы па чарапках, аб'ёмістага посуду, ад часу трохі патрэсканага, бачна, што тая ж руплівая рука ганчара вырабляла іх на кружале — там жа, дзе і пахавальны гаршэчак. Відавочна, такі посуд не мог абпальвацца агнём падчас службы: страціўшы пры першым, без сумнення, лёгкім абпальванні значную долю крупінак, ён рабіўся порыстым[1], немагчымым для захоўвання вадкіх цел, хоць у той жа час у ім вельмі зручна маглі захоўвацца гаспадарчыя ці прызначаныя на продаж запасы — мука, крупа, соль, плады, нават мяса і сала. Дзякуючы лёгкасці пасудзіны, гэтыя кансервы маглі зручна перасоўвацца, а таксама хавацца ў ёй жа ў зямлю без боязі, што пасудзіна згніе, а кансервы загінуць; пры пажары такі посуд быў менш небяспечны для змешчаных у ім кансерваў, чым драўляны.

6) На прадмет захоўвання ў зямлі і ўвогуле збірання грошай выраблялiся спецыяльныя пасудзіны — штосьці накшталт скарбонак. Першая, значна меншая, складае палавінную, адбітую частку свайго цэлага, — зроблена, па магчымасці, вытанчана, мае раўнамерныя тонкія сценкі, другая, больш грубай работы, мае зверху, ля прарэзі, прабоіну, відавочна, зробленую пры выцягванні са скарбонкі грошай, што там захоўваліся. Вышыня гэтай скарбонкі 5 см., найбольшая шырыня дыям. у верхняй частцы 6 ½ см., а ў аснове — 5 см., прычым фігура пасудзіны стварае ўражанне невялікага хлеба, які пры выпяканні асеў на адзін бок. Мы бачылі ў шаноўнага антыквара і яшчэ адзін экзэмпляр скарбонкі: яна не мае пашкоджанняў; на сярэдзіне верхняй паўкруглай сценкі ёсць прарэзь, якой цалкам дастаткова для пропуску ўнутр паўімперыяла.

7) Застаецца ўзгадаць змешаныя тэракоты, адзінкавыя экзэмпляры якіх, у сваю чаргу, сфатаграфаваныя сярод іншых прадметаў. Так, тут ёсць частка абразіка Св. Дзевы з Дзіцяткам на правай руцэ і галінкай у левай. Аблічча Божай Маці і ўвесь левы бок, да пояса, выразна бачныя; бачная таксама і дзяржава ў баку Боскага Дзіцяці, але Аблічча Яго страчана. Рэшта абразіка мае форму трохкутніка, аснова якога прыблізна 10, правы бок таксама 10, а левы — 12 см. Сфатаграфаваныя цацачна-арнаментныя прадметы, з якіх першы — гэта галоўка чалавека з часткай шыі (3 см.), з ясным абазначэннем вачэй, ляпнога носа, рота, падбародка, а другі — рэшта плячэй і надламаных рук. Сфатаграфавана цудоўна, нават вытанчана выкананая галоўка сабакі з надламанай шыйкай. Якое было цэлае гэтага фрагмента і чым менавіта яно было — адказаць немагчыма, хоць і варта прызнаць, што тэракот не абразіў бы зроку, знаходзячыся ў прэсе пісьмовага стала, у пары з іншай такой самай галоўкай — ля трумо, на камінным карнізе, у зборы дробных рэчаў у кабінеце: такі ён свежы і грацыёзны, нягледзячы на тое, што быў калісьці пахаваны! Зрэшты, усе прадметы гэтай групы, паводле нашага меркавання, не могуць мець археалагічнай каштоўнасці, падобна пералічаным у першых шасці групах, бо мясцовая вытворчасць іх і старажытнасць падлягаюць сумненням, хоць у той жа час за імі застаецца неад'емны стан знойдзеных прадметаў, здабытых з зямной глыбіні пры раскопках у Віцебску.

**Тое, што адбываецца з ганчарнымі вырабамі на паверхні зямлі ў бягучым часе, назіраецца ў адносінах да ганчарных рэштак, якія здабываюцца з зямлі пры раскопках, што не маюць археалагічных намераў**

Скарыстаўшыся абавязковай пачцівасцю шаноўнага антыквара, які прадаставіў нам магчымасць агледзець найкаштоўнейшыя скарбы свайго музея і праз гэта атрымаць незабыўную асалоду, мы спыніліся нашым артыкулам на паследках музея, такога багатага на археалагічныя прадметы

[1] Трэба думаць, што акрамя раскрышаных ракавін у гліну наўмысна ўводзіліся тонкія арганічныя (раслінныя) рэчывы, якія пры абпальванні посуду выгаралі, праз што пасудзіна, нічога не губляючы ў аб'ёме, памяншалася ў вазе.

іншых аддзелаў — рэлігійнымі (язычніцкай і хрысціянскай эпохі), ваеннымі, этнаграфічнымі, нумізматычнымі, выкапнёвымі, мануфактурнымі і інш. Наколькі дазвалялі сродкі, мы перадалі звесткі пра ганчарныя тэракоты Віцебска, у сувязі з кароткім гістарычным аповедам пра бясспрэчны выраб іх тут жа; перадалі і нашыя асабістыя ўражанні. Да сказанага варта дадаць хіба толькі шчырыя пажаданні на прадмет далейшых поспехаў музея, росту цалкам заслужанай яго папулярнасці ды паўтарыць спадзяванні, што рана ці позна будуць абвешчаныя тыя звесткі пра музейныя прадметы, якія пажадана мець пра іх, а менавіта: дадзеныя аб дакладным месцазнаходжанні здабытых з зямлі прадметаў — глыбіні, абставінах, часе і г. д. Але, выказваючы апошнія спадзяванні, мы не забываемся і пра тое, што ўрываемся ў вобласць абсалютна прыватных уладанняў, робім замах на вольны час і працу дылетанта-калекцыянера, якому не адны мы ўдзячныя за агляд музейных прадметаў і каштоўныя тлумачэнні, якія адносяцца да музейных скарбаў. Само сабой зразумела, што пры такіх умовах мы яшчэ менш маем права выказвацца за магчымасць адкрыцця музея для грамадскага, хаця б платнага агляду, — неабходнасць чаго, дазволім сабе выказаць перакананае слова, дастаткова наспела для Віцебска з яго шматтысячным насельніцтвам, з пашырэннем патрэбаў духоўнага жыцця гараджанаў. Спынімся на імгненне на гэтым апошнім пытанні.

З ганарлівай радасцю грамадзяніна мы можам сведчыць, як добрыя мерапрыемствы мясцовай улады, энергія асоб, выбраных гэтай уладай для правядзення ў жыццё прадпісанняў, плённа ўзнімалі гэтае жыццё, як не перастаюць узнімаць яго і сёння, прычым з нястомнай клапатлівасцю даволі шмат было скiравана ў бок забаў для простага народа, якія даюць магчымасць выкарыстаць вольны ад працы час з карысцю для сябе, з разумнымі мэтамі. Так мы пачціва віталі рэлігійна-маральныя чытанні і гутаркі, якія ладзіліся прыхадскімі святарамі ў нядзельныя і святочныя дні ў храмах па-за часам набажэнстваў. З тым жа пачуццём мы сустрэлі адкрыццё і далейшыя поспехі нядзельнай школы грамадзянскага ведамства. Мы бачылі, як гэтыя магутныя рухавікі жыцця прыцягвалі ў свой адкрыты для ўсіх прытулак тых, хто раней прывык аддаваць рэшту свайго вольнага часу піццю ці іншаму заганнаму баўленню часу. Не можам забыцца на тое, што адкрытыя чайныя не заставаліся без належных гасцей, якія мірна, у цёплай гутарцы бавілі час. Сярод узгаданага мы не можам абмінуць прыцягальнага, яшчэ абсалютна свежага ў памяці руху, звязанага з леташнімі зімовымі народнымі чытаннямі пры туманных карцінах. Усё гэта, як і неўзгаданае, наглядна сведчыць і пра штодзённыя патрэбы простага народа, і пра своечасовасць забаў, якія яму прапануюцца. Хацелася б бачыць працяг таго, што так клапатліва аддаецца народу для карыснага і разумнага баўлення часу.

Няма сумненняў, што такімі мерапрыемствамі для маральнага аздараўлення простага народа дасягнуты ў значнай меры самыя добрыя вынікі; у той жа час не застаецца сумнення, што і наступныя мерапрыемствы, у выглядзе адкрыцця адной ці некалькіх народных чытальняў, будуць арганічным працягам клопатаў мясцовай улады пра ўздым цвярозага народнага жыцця. Адкрыюцца такія — а гэта супадае з мэтамі і дзеяннямі Папячыцельстваў пра народную цвярозасць, якія заклікаы да жыцця Найвышэйшаю Воляю, — і найбліжэйшы сваяк чытальняў, агульнадаступны музей, павінен будзе прыйсці ў дапаможны саюз для адукацыйнага руху ў Віцебску. І гэта можа здзейсніцца яшчэ больш паспяхова, таму што зараз Віцебск мае ўжо два асобныя музеі — пры мясцовым Статыстычным Камітэце, грамадзянскага ведамства, і царкоўна-археалагічны, духоўнага, — якія, калі будуць злучаныя ў адзін агульнадаступны, пры добраахвотных укладах ахвярадаўцаў адразу дадуць велічную падтрымку адукацыйнаму руху. З сардэчнымі словамі «дай Бог!» мы і скончым наш артыкул.

***Пераклад з рускай Тамары МІНЮТКА.***
*maladost@zviazda.by*

***(паводле выдання 1897 года Віцебскай губернскай тыпа-літаграфіі).***

Мікалай ПЛАВІНСКІ



# ВОЙСКА ПОЛАЦКІХ КНЯЗЁЎ



*Мікалай Плавінскі — кандыдат гістарычных навук, дацэнт. Аўтар і суаўтар 10 манаграфій і больш як 200 навуковых, навукова-папулярных і энцыклапедычных артыкулаў па археалогіі і гісторыі Беларусі сярэднявечнага перыяда. Займаецца вывучэннем археалогіі Полацкай зямлі і сумежных тэрыторый, а таксама гісторыяй сярэднявечнай зброі.*

Ранняе Сярэднявечча ва Усходняй Еўропе, як, зрэшты, і ў Еўропе ўвогуле, было часам шматлікіх малых і вялікіх войнаў, вайсковых выпраў і бітваў. У гэтых бесперапынных нападах на суседзяў і абаронах сваіх уладанняў паўставалі першыя ўсходнеславянскія княствы, адным з якіх стала Полацкае. Яго ўладары ажыццяўлялі актыўную палітыку пашырэння межаў, эканамічнага і палітычнага ўплыву, што непазбежна вяло да канфліктаў з суседзямі. Вынікі гэтых канфліктаў маглі быць рознымі: ад далучэння новых земляў да часовага падпарадкавання Полацка іншым старажытнарускім княствам і гібелі саміх полацкіх князёў, як гэта сталася з першым вядомым нам валадаром — Рагвалодам.

Найвышэйшай магутнасці Полацкае княства дасягнула ў другой палове XI стагоддзя пры Усяславе Брачыславічы. Гэты князь вёў шматлікія войны, тэатрам баявых дзеянняў яго войскаў была амаль уся Усходняя Еўропа. Ваенная фартуна была пераменлівай да яго: Усяслаў зведаў не толькі гучныя перамогі, але і балючыя паразы. Але ў спадчыну сваім дзецям ён пакінуў вялікае і магутнае незалежнае княства са шматлікімі гарадамі і спрактыкаваным войскам.

## СКЛАД І КОЛЬКАСЦЬ ПОЛАЦКАГА ВОЙСКА

Войска Полацкага княства складалася з дружыны, апалчэння, асобных наёмных атрадаў і атрадаў з ліку падуладных Полацку балцкіх плямёнаў, якія маглі наймацца альбо набірацца ў выпадку неабходнасці.

Дружына прадстаўляла сабой асноўную ўдарную сілу войска, што знаходзілася ў пастаяннай баявой гатоўнасці. Дружыннікі выкарыстоўвалі шырокі асартымент узбраення, у тым ліку мячы, кальчугі, шлемы. Зыходзячы са звестак летапісаў, княжацкая дружына падзялялася на старэйшую і малодшую.

Старэйшая дружына складалася з найбольш дасведчаных у вайсковай справе вая-



*Полацкі дружыннік першай паловы XI стагоддзя (рэканструкцыя аўтара, мастак Д. Бунеева).*



*Полацкі дружыннік канца X — першай паловы XI стагоддзя (рэканструкцыя аўтара, мастак Д. Бунеева).*

роў, якія аднначасова мелі высокі сацыяльны і маёмасны статус. Прадстаўнікі старэйшай дружыны былі княжацкімі дарадцамі, кіраўнікамі княжацкай адміністрацыі, а ў выпадку неабходнасці маглі кіраваць асобнымі вайсковымі аддзеламі — былі ваяводамі.

Малодшая дружына складала аснову прафесійнага войска. Кола абавязкаў, якія маглі выконваць малодшыя дружыннікі, акрамя ўдзелу ў вайне, было надзвычай шырокім. Яны маглі быць княжацкімі служкамі, ажыццяўляць адміністрацыйныя функцыі — збіраць падаткі і разбіраць судовыя справы ў гарадах і сельскай мясцовасці. Узбраенне малодшых дружыннікаў, напэўна, амаль не адрозніваласа ад узбраення старэйшай дружыны.

Найбольшай часткай полацкага войска было апалчэнне, якое набіралася з гараджан і сялян. Але апалчэнцы не маглі ўдзельнічаць у доўгатэрміновых выправах, бо гэта прывяло б да занядбання іх гаспадаркі. Апалчэнцы звычайна былі ўзброены коп'ямі, дроцікамі, сякерамі — тым, што магло выкарыстоўвацца як у баі, так і ў гаспадарчых мэтах, на паляванні, у нарыхтоўцы дроў, расчыстцы дарог, будаўніцтве рачных перапраў.

У выпадку падрыхтоўкі да будучай вайны полацкія князі маглі наймаць на службу асобныя іншаземныя вайсковыя атрады. Такімі найміtамі ў Полацку маглі быць варагі. Недахопу ў варажскіх атрадах на Русі не было. Да сярэдзіны XI стагоддзя ўсё новыя і новыя атрады выхадцаў са Скандынавіі шукалі вайсковай славы і здабычы на «Austrvegr», альбо «Усходнім шляху» — сістэме ваенна-гандлёвых шляхоў, што вялі праз тэрыторыю Усходняй Еўропы ў Візантыю і краіны арабскага Усходу. Да таго ж самі мясцовыя князі і іх бліжэйшае атачэнне былі прамымі нашчадкамі варагаў, што, напэўна, спрыяла ўзаемаразуменню гаспадароў са сваімі наймітамі. Прыкладам з'яўляюцца звесткі з так званай «Пасмы аб Эймундзе» — ісландскай каралеўскай сагі канца XIII стагоддзя, у якой ідзе гаворка аб падзеях першай чвэрці XI стагоддзя на Русі. Згодна з ёй, Брачыслаў Ізяславіч наняў атрад варагаў на чале з Эймундам для барацьбы з Яраславам Мудрым.

Яшчэ адной крыніцай папаўнення войска былі падуладныя Полацку балцкія плямёны. У паходах полацкіх князёў маглі ўдзельнічаць жыхары Ніжняга Падзвіння — лівы і, верагодна, латгалы. Пра гэта можна меркаваць, зыходзячы з больш позніх звестак — «Хронікі Лівоніі» Генрыха Латвійскага пачатку XIII стагоддзя. Пра склад войскаў удзельных полацкіх князёў сведчаць таксама летапісныя дадзеныя XII стагоддзя. У другі напад Усяслава на Ноўгарад, які быў здзейснены падчас яго выгнання з Полацка і скончыўся паразай, у яго войску, акрамя ваяроў з фіна-

ўгорскага плямені водзь, прысутнічалі літоўцы і карэлы (таксама фіна-угры). Да такой высновы прыйшоў вядомы расійскі даследчык Валянцін Янін на падставе аналізу адной з наўгародскіх берасцяных грамат, якая датуецца 1060—1080-мі гадамі. У ёй сказана: *«Литва встала на Корелу»*. Даследчык мяркуе, што менавіта ўнутраныя супярэчнасці маглі прывесці да паразы войска Усяслава.

Часцяком інфармацыя пра колькасць войскаў магла наўмысна завышацца: для сваіх — з мэтай паказаць моц князя, для чужых — каб падкрэсліць веліч перамогі.

Можна меркаваць, што княжацкая дружына была нешматлікай. Аналіз матэрыялаў добра даследаваных гандлёва-рамесных і адміністрацыйных цэнтраў X стагоддзя ў Верхнім Падняпроўі, Яраслаўскім Паволжы, а таксама ў Цэнтральнай Швецыі сведчыць пра тое, што размешчаныя ў іх пастаянныя гарнізоны прафесійных ваяроў-дружыннікаў налічвалі ўсяго па 40—60 чалавек. Верагодна, і ў гарадах Полацкага княства была блізкая колькасць дружыннікаў. Пры самім князі магло пастаянна знаходзіцца да некалькіх соцень дружыннікаў. Па некалькі дзясяткаў прафесійных ваяроў размяшчаліся ў іншых гарадах і ўмацаваных паселішчах княства. З канца X і ў XI стагоддзі пэўная колькасць княжацкіх дружыннікаў магла стала знаходзіцца ў сельскай мясцовасці, дзе яны мусілі займацца зборам даніны з падуладнага полацкім князям насельніцтва, весці судовыя разбіральніцтвы і выконваць іншыя адміністрацыйныя функцыі.



*Дружыннік-вараг X стагоддзя (рэканструкцыя клуба «Крыўя», мастак Д. Бунеева).*

Пытанне аб колькасці апалчэння, якое маглі сабраць полацкія князі, яшчэ больш складанае. Можна меркаваць, што яго патэнцыяльнымі ўдзельнікамі маглі быць усе свабодныя жыхары гарадоў і сельскай мясцовасці. Але на практыцы колькасць сабранага апалчэння мусіла абмяжоўвацца меркаваннямі гаспадарчага характару, бо выключэнне значнай колькасці працаздольных мужчын з сельскагаспадарчага вытворчага цыкла магло прывесці да значна больш катастрафічных вынікаў, чым нават вайсковая параза. У кожным выпадку, пры неабходнасці полацкія князі маглі сабраць апалчэнне, якое ў разы пераўзыходзіла па колькасці дружыну і магло дасягаць некалькіх тысяч чалавек. Натуральна, што паступова патэнцыяльная колькасць апалчэнцаў, як і колькасць дружыннікаў, павялічвалася, што было абумоўлена ростам дэмаграфічнага патэнцыялу Полацкага княства.

Фактычна адзіным больш-менш надзейным сведчаннем пра колькасць полацкіх войскаў з’яўляецца летапісная інфармацыя аб перамозе ў 1106 годзе балцкага плямені земгалаў над сынамі Усяслава Чарадзея: *«побѢдиша зимѢгола Всеславичь, всю братью, и дружины убиша 9 тысящь»*. Нягледзячы на тое, што



*Ліўскі ваяр XI стагоддзя (рэканструкцыя А. Зарыня.*

дадзенае паведамленне распавядае пра падзеі, якія адбыліся пасля смерці Усяслава, яно дазваляе ўявіць супольныя мабілізацыйныя здольнасці ўсіх удзельных княстваў, якія ён раздаў сваім сынам. Відавочна, што пад словам «дружына» тут варта разумець не толькі прафесійных вояроў, але ўсё войска. Да таго ж сама лічба ў дзевяць тысяч падаецца завышанай.

Колькасць наёмнага войска, верагодна, магла залежаць ад плацежаздольнасці наймальніка і мэт вайсковай кампаніі, якія меркавалася вырашыць. Не менш важным было і тое, колькі вояроў прыводзіў з сабой той ці іншы скандынаўскі правадыр. Падрабязнае апісанне найму варагаў полацкім князем Брачыславам утрымліваецца ў «Пасме аб Эймундзе». Брачыслаў, названы ў «Пасме» Варцілавам, наймае атрад варагаў на чале з Эймундам для барацьбы з Яраславам тэрмінам на 12 месяцаў. Для выплаты ім грошай князь вымушаны раіцца са сваімі «мужамі». І толькі пасля гэтага прымае адпаведнае рашэнне. «Пасма» вызначае колькасць варагаў, якія прыйшлі на Русь з Эймундам, у 600 чалавек, аднак можна меркаваць, што гэтая лічба завышана. Для параўнання ўзгадаем, што прыкладна ў той жа час наўгародскі князь Яраслаў Уладзіміравіч сабраў у 1016 годзе для барацьбы са сваім братам кіеўскім князем Святаполкам войска з чатырох тысяч чалавек — тысячы варагаў (сярод якіх мусіў быць і Эймунд са сваімі людзьмі) і трох тысяч наўгародцаў.

Колькасць войскаў, якія маглі выставіць падуладныя Полацку балцкія плямёны, таксама невядомая. Можна толькі меркаваць, што ў далёкія і працяглыя вайсковыя выправы маглі накіроўвацца прадстаўнікі сацыяльнай эліты гэтых плямён, не задзейнічаныя непасрэдна ў сельскагаспадарчых працах.

Такім чынам, войска, якім распараджаліся полацкія князі, магло налічваць у залежнасці ад мэт вайсковай выправы і канкрэтных акалічнасцей ад некалькіх соцень да некалькіх тысяч чалавек. У выключных выпадках Брачыслаў і Усяслаў маглі, верагодна, сабраць да дзесяці тысяч вояроў ці нават болей. Разам з тым для вядзення працяглых баявых дзеянняў ці далёкіх выпраў полацкія князі маглі разлічваць пераважна на свае дружыны, наёмнікаў і атрады падуладных балцкіх плямён.

## УЗБРАЕННЕ І РЫШТУНАК ВАЯРОЎ

Асноўнымі крыніцамі для рэканструкцыі характару ўзбраення вояроў Полацкага княства X—XI стагоддзяў з'яўляюцца археалагічныя знаходкі. У адрозненне ад тагачасных летапісаў, якія амаль не ўтрымліваюць канкрэтных звестак пра выгляд зброі і спосабы яе выкарыстання, археалагічныя матэрыялы дазваляюць дастаткова поўна рэканструяваць набор баявых сродкаў і рыштунку раннесярэднявечнага полацкага ваяра.

Найбольш каштоўным і адначасова самым рэпрэзентатыўным відам зброі быў меч. Складаная тэхналогія вытворчасці, высокі кошт, неабходнасць пэўных навыкаў валодання рабілі меч элітарнай зброяй. Доўгі бліскучы клінок, пазначаны таямнічымі клеймамі, з упрыгожанай каштоўнымі металамі рукаяццю, стаў своеасаблівым сімвалам эпохі вікінгаў. На землях Полацкага княства ў разглядаемы перыяд выкарыстоўваліся некалькі тыпаў мячоў. Яны адрозніваліся па форме і асаблівасцях аздаблення рукаяцяў, у той час як клінкі былі дастаткова блізкімі па сваіх абрысах. Мяркуючы па выяўленых на клінках мячоў клеймах, яны выраблялiся ў франкскіх майстэрнях у рэгіёне сярэдняга Рэйна, адкуль разыходзіліся па ўсёй Еўропе, але асабліва актыўна імпартаваліся ў Скандынавію і Усходнюю Еўропу.

Для захавання каштоўнага клінка ад вільгаці прызначаліся похвы. Яны рабіліся з дзвюх дошчачак, якія абклейваліся тканінай, а зверху пакрываліся скурай і маглі быць упрыгожаны металічным наканечнікам.

Меч быў надзвычай эфектыўнай, але рэдкай зброяй, якой валодалі толькі найбольш заможныя і спрактыкаваныя ваяры. Пераважная большасць тагачаснага полацкага войска была ўзброена сякерамі і коп'ямі, а таксама дроцікамі. Дроцік, альбо суліца, як гаварылі на Русі, — гэта кідальнае кап'ё з невялікім і лёгкім наканечнікам і адносна кароткім дрэўкам.

Для паражэння праціўніка на адлегласці выкарыстоўваліся лукі. Паводле канструктыўных асаблівасцей яны падзяляліся на простыя, зробленыя з аднаго суцэльнага кавалка дрэва, і складаныя, якія маглі

рабіцца з розных парод дрэва і ўзмацняцца касцянымі накладкамі з мэтай павелічэння пругкасці і дальнасці стральбы. Асноўным сведчаннем выкарыстання лука полацкімі ваярамі з'яўляюцца знаходкі наканечнікаў стрэл. Гэтыя наканечнікі адрозніваліся паміж сабой формай і сячэннем пяра, што залежала ад функцыянальнага прызначэння стралы.

Найбольш шырока распаўсюджаным відам засцерагальнага ўзбраення былі шчыты. Мяркуючы па ўсім, большасць шчытоў дадзенага перыяду мела круглую форму. Яны рабіліся з дошак, часта абцягваліся скурай і расфарбоўваліся. Дыяметр такога шчыта дасягаў 80—100 см. У цэнтры магла быць круглая адтуліна, якую закрываў умбон — выгнутая жалезная пласціна для аховы рукі ваяра. На адваротным баку шчыта мацавалася планка, а зрэдку і жалезнае дзяржала, за якое яго трымаў ваяр. У XI стагоддзі ў Еўропе былі распаўсюджаны шчыты міндалепадобнай формы. Іх з'яўленне звязваюць з павышэннем ролі кавалерыі ў баявых дзеяннях. Верагодна, гэты працэс не абмінуў і тэрыторыю Полацкага княства.

Для аховы галавы ваяра прызначаўся шлем. Гэта быў надзвычай каштоўны элемент узбраення, даступны толькі дружыннікам. Можна меркаваць, што шлемы мелі канічную ці сфераканічную форму. Шлемы князёў і найбольш заможных дружыннікаў маглі быць упрыгожаны каляровымі і каштоўнымі металамі.

Яшчэ адным дарагім відам засцерагальнага ўзбраення была кальчуга, якая звычайна мела форму кашулі рознай даўжыні з рукавамі. А прыкладна з другой паловы XI стагоддзя ў комплексе ўзбраення вояроў Полацкага княства з'явіліся пласцінкавыя даспехі. Яны рабіліся з пласцінак падоўжана-прамавугольнай формы з шэрагам адтулін, праз якія прапускаліся раменьчыкі ці шнуркі, што злучалі пласцінкі паміж сабой.

З'яўленне значнай колькасці дэталей рыштунку вершніка на Русі прыпадае прыкладна на IX—X стагоддзі. Пры гэтым, да першай паловы XI стагоддзя ў пераважнай большасці выпадкаў ваяры перамяшчаліся вярхом, але перад бітвай спешваліся і ў бой ішлі ў пяхотным страі. І толькі прыблізна з сярэдзіны XI стагоддзя, як можна меркаваць, на Русі адбылося пашырэнне прафесійнай цяжкай кавалерыі з княжацкіх дружыннікаў.

Комплекс рыштунку верхавога каня складаўся з цугляў, аброці, сядла і страмёнаў. Для кіравання канём вершнік таксама карыстаўся бізуном альбо шпорамі. Аброці маглі ўпрыгожвацца шматлікімі бронзавымі ці жалезнымі арнаментаванымі накладкамі, якія часам былі пакрыты каштоўнымі металамі. У XI стагоддзі па меры фарміравання цяжкай кавалерыі пачынаецца распаўсюджванне шпор. Коней маглі падкоўваць, а ў зімовы час для перамяшчэння па дарогах і замёрзлых рэках у конскія капыты заганяліся адмысловыя ледаходныя шыпы.



*Латгальскі ваяр XI стагоддзя (рэканструкцыя А. Зарыня).*



*Полацкі дружыннік канца X — пачатку XI стагоддзя (рэканструкцыя аўтара, мастак Д. Бунеева).*

**БАЯВЫЯ ДЗЕЯННІ**

На паспяховасць вайсковай кампаніі звычайна ўплывала некалькі фактараў. Да іх ліку варта аднесці хуткі збор войска і найперш яго ўдарнай часткі — дружыны і атрадаў высокакваліфікаваных наймітаў. Не менш важнай была хуткасць перамяшчэння войска, якая магла забяспечыць нечаканасць нападу. Напрыклад, у 1021 годзе Яраслаў Мудры дагнаў і разбіў абцяжаранае палонам і здабычай (пасля нападу на Ноўгарад) войска Брачыслава ўжо на сёмы дзень.

Імклівасцю перамяшчэння, відавочна, адрознівалася войска Усяслава. Аўтар «Слова аб палку Ігаравым» нават параўноўваў полацкага князя з ваўком ці лютым зверам за яго хуткасць: *«Всеславъ князь людемъ судяше, князем грады рядяше, а самъ въ ночь влъком рыскаше, изъ Кыева дорискаше до куръ Тмутороканя»*. У 1069 годзе паміж вяртаннем Усяслава ў Полацк з-пад Белгарада і нападам на Ноўгарад ужо ў якасці князя-выгнанніка прайшло ўсяго паўгода. Гэты факт, дарэчы, сведчыць не толькі пра хуткасць руху полацкага войска, але і добра наладжаную сістэму яго збору, а таксама значны эканамічны патэнцыял княства. Свой другі напад на Ноўгарад Усяслаў здзяйсняе на чале войска, якое складалася з наймітаў ці саюзнікаў — ваяроў з фіна-ўгорскіх і балцкіх плямён. І наём ваяроў, і мабілізацыя саюзнікаў патрабавалі значных выдаткаў: у першым выпадку неабходна было плаціць, а ў другім — заахвочваць разнастайнымі дарамі. Відавочна, што Усяслаў меў значны грашовы патэнцыял і карыстаўся шырокай падтрымкай палачан, бо, нягледзячы на неаднаразовыя паразы, ён хутка пасля іх зноў меў у сваім распараджэнні баяздольнае войска.

Што датычыцца ходу саміх бітваў, то можна меркаваць, што яны звычайна былі хуткацечнымі. Паспяховы зыход часта залежаў ад распрацаванага плана. Аднак складанасць кіравання войскам непасрэдна ў момант сечы вяла да пэўнай непрадказальнасці. Фактычна, з моманту пачатку бою паўплываць на дзеянні асобных атрадаў можна было пры дапамозе труб ці сцягоў, бо галасавыя каманды былі амаль не чутныя.

Можна меркаваць, што ў часы Рагвалода і Брачыслава войскі часцей за ўсё рухаліся да месца бітвы на конях, але сыходзіліся ў баі пераважна ў пешым парадку. Паступова, па меры свайго фарміравання, цяжкая дружынная кавалерыя адыгрывае ўсё больш значную ролю. Таму ўжо ў часы Усяслава дружыннікі маглі біцца ў сечы не спешваючыся. Акрамя таго, змагацца з войскамі паўднёварускіх князёў, якія стала выкарыстоўвалі качэўнікаў у якасці саюзнікаў ці наймітаў, без уласнай кавалерыі было амаль немагчыма.

З прычыны хуткацечнасці бітваў страты бакоў часцей за ўсё былі не надта вялікімі. У той жа час бітва на Нямізе была зацятай, што, мусіць, прывяло да шматлікіх страт з абодвух бакоў: *«и бысть сѢча зла, и мнози падоша»*. Нават праз сто гадоў аўтар «Слова аб палку Ігаравым» пісаў: *«На НемизѢ снопы стелютъ головами, молотятъ чепи харалужными на тоцѢ животъ кладутъ, вѢютъ душу отъ тѢла. НемизѢ кровави брезѢ не бологомъ бяхуть посѢяни — посѢяни костьми рускихъ сыновъ»*.

Важнае значэнне для поспеху вайсковай выправы мела авалоданне чужымі гарадамі і крэпасцямі. У выпадку нападу на горад адным з асноўных фактараў поспеху нападаючых зноў жа была нечаканасць. Калі фактар нечаканасці быў страчаны і гараджане ды насельніцтва наваколля паспявалі падрыхтавацца да абароны, нападнікі часцей за ўсё не наважваліся на штурм ці працяглую аблогу. Яны задавальняліся рабаваннем і руйнаваннем наваколля, як, напрыклад, Уладзімір Манамах, які *«ожьгъше»* Полацк, ці *«пожегъ землю и повоевавъ»* вакол Лукомля, Лагойска і Друцка. Такія дзеянні моцна аслаблялі эканамічны патэнцыял праціўніка.

У выпадку паспяховага нечаканага нападу на горад ці яго штурму пераможцы вывозілі з яго ўсе каштоўнасці, а насельніцтва вывозілі ў палон. Так рабілі Брачыслаў і Усяслаў з Ноўгарадам у 1021 і 1066 гадах ці Яраславічы і Уладзімір Манамах з Менскам — у 1067 і 1084 гадах. Верагодна, абарона Менска ў 1067 годзе была асабліва зацятай: *«мѢняне затворишася в градѢ. Си же братья взяша МѢнескъ»*, што, мусіць, раз'юшыла яраславічаў, бо яны *«исѢкоша мужѢ, а жены и дѢти вдаша на щиты»*.

Васіль ШУР

*Рубрыка гістарычных факультэтаў краіны*

# АНАМАСТЫКОН МАЗЫРА Ў ЧАСЕ І ПРАСТОРЫ*

Дактарамі філалагічных навук І. Жалязняк і Р. Казловай (2006) на навуковай канферэнцыі ў Мазырскім педуніверсітэце прапанаваны яшчэ дзве зусім новыя гіпотэзы адносна паходжання айконіма *Мазыр.* Некаторыя даследчыкі адносяць гэты айконім да цяжка этымалагізуемых з прычыны нешматлікасці іншаславянскіх адпаведнікаў да яго назвы і цьмянасці каранёвага вакалізму. Ідэальныя айконімныя і гідронімныя адпаведнікі для беларускага айконіма *Мазыр* Р. Казлова прыводзіць наступныя: *Мозырь* — сяло ў Кастрамской губерні Расіі, *Mozirje* (1196 г.) — горад на рацэ Сава ў Славеніі; *Мазирка* — прыток Рэці на левабярэжжы Дзясны (Сумская вобл.), *Мазырынка* — назва вёскі ў Пензенскай губерні, *Mözer* — гарадок у Магдэбурскай акрузе Германіі. Адпаведнікі да айконіма засведчаны і ў антрапаніміі (прозвішчах) усходніх славян: ст. украінск. *Мозыр, Мозыра, Мозыря*; ст. бел. *Мозырка*; славен. *Mozer* і інш. Паходжанне айконіма *Мазыр (Мозыр)* гэта даследчыца, спасылаючыся на выказванні вядомых этымолагаў (*А. Трубачова* і *Ф. Безлай*), звязвае з апелятывам *mozirje* — балота, *mezina* — балота, *mezga* — сок дрэў. (Казлова, Р. Палескія Моза, Мозыр / Мазыр). Сваю гіпотэзу аб узнікненні айконіма *Мазыр (Мозыр)* выказаў таксама вядомы славіст, этымолаг Г. Цыхун, які, абагуліўшы выказванні самых розных даследчыкаў (А. Трубачова, В. Жучкевіча, У. Неразнака, Р. Казловай, А. Рогалева і інш.) пра гэты айконім, лічыць, што яго можна разглядаць як вельмі старажытны *«балотны»* тапонім, роднасны славенскаму айконіму *Mozirje,* што называе горад у забалочанай мясцовасці, і суседнюю рэчку *Mozirnica*, якая выцякае з балот, а таксама рускае слова *мосыр* — вільгаць, засведчанае ў вядомым слоўніку У. Даля. Г. Цыхун далучае ў гэтую групу і назву сяла ў Глыбоцкім раёне *Мосар (Мосыр*), што ў поўнай меры, на яго думку, можа пацвярджаць папярэдняе выказванне У. Неразнака: назва *Мазыр* узнікла ў выніку другаснага балтыйскага ўплыву, звязанага з гідронімамі і тапонімамі тыпу літоўскага *Mazupis,* польскага *Mazowsze* і падобнымі (гл. Цыхун, Г. Пра назвы некаторых беларускіх гарадоў // Роднае слова. — 2011. — № 10, — с. 35.).

Мазыр — горад, які ў ліку першых 10 верасня 1609 у ВКЛ набыў герб. І ў наш час, пад'язджаючы да Мазыра з розных бакоў — з Калінкавіч, Лельчыц ці Ельска — кожны бачыць велічны сімвал сталіцы Усходняга Палесся. У Вялікім Княстве Літоўскім, куды з XIII стагоддзя ўваходзілі землі Мазыршчыны, гербы і гербавыя знакі меў 41 горад. Гэта геральдычны знак, які адлюстроўвае ў сімвалах час стварэння і акрэслівае сацыяльную і мясцовую прыналежнасць асобы, паселішча або дзяржавы; лічылася, што горад, які яго мае, узняўся ў сваім дзяржаўна-палітычным развіцці на якасна новую прыступку. У перыяд феадалізму набыццё горадам герба было сведчаннем яго росту ў параўнанні з суседнімі пасяленнямі. Беларускім гарадам гербы звычайна даваліся разам з Магдэбургскім правам (гл. падрабязна пра гэта артыкул В. В. Шура ў кн. «Памяць. Мазыр» с.45).

У Прывілеі, які давала Мазыру Магдэбургскае права, гаворыцца: «*Надаем тому месту нашому печать месткую, то есть Орел ... с вырысованым S, которую ўрад месткій на судах і іных справах і потребах печатовать і того гербу ужівать мают вечные часы...»* Ёсць і другі Прывілей, які

* Працяг. Пачатак у № 8 за 2015 г.

быў выдадзены Мазыру каралём Міхаілам Корбут-Вішнявецкім. У ім сказана, што гораду даецца герб — у блакітным полі чорны арол з чырвонаю шыльдаю на грудзях. Для даследчыкаў геральдыкі вельмі важнай аказалася фраза, што мазыранам гэты герб дазволіў ужываць подпіс *«вяльможа трокскі староста Мазырскі»*. На мазырскім гербе ў блакітным полі чорны аднагаловы арол са срэбранай шыльдай на грудзях, на ёй чырвоная літара S. Затым — срэбраная шыльда была заменена на чырвоную. Знак быў сімвалам каралеўскай улады і сведчыў, што горад 10 верасня 1609 года атрымаў герб ад караля Сігізмунда III.

Вылучаюць у асноўным два тыпы гербаў — функцыянальныя і штучныя. Функцыянальныя гербы перадаюць якую-небудзь адметную рысу геаграфічнага становішча, ролю горада ў абароне дзяржавы, гандлі, гаспадарцы. Абарончымі сімваламі на беларускіх гербах выступалі выявы вежаў, брам, гарадскіх муроў. Штучныя гербы — больш умоўныя, звычайна маюць выяву святога, магчыма, заступніка ці ўладальніка горада. На гербе Мазыра, як прасочана спецыялістамі, спалучаюцца каралеўская і вялікакняжацкая атрыбутыка.

На пячатцы мазырскай ратушы, прыкладзенай да дакумента 1639 года, бачна выява арла з радзівілаўскім гербам — так званыя «ражкі». Вядома, што Радзівілы мелі на гербе чырвонага арла, на грудзях якога — шыльда з выявай трох паляўнічых ражкоў. Поле герба залатое, шыльда — чырвоная, лапы і дзюба арла — залатыя. Гэта сведчыць, як лічаць даследчыкі, аб параўнальнай слабасці каралеўскай улады і моцы магнатаў, якія маглі зняважыць каралеўскі ініцыял і замяніць яго выявай уласнага герба.

Прысутнасць радзівілаўскіх атрыбутаў на гербе Мазыра (тры паляўнічыя ражкі, размешчаныя на блакітным шчыце ў цэнтры з чорным аднагаловым арлом) сведчыць пра многае. Род *Радзівілаў* быў даволі мнагалікім у ВКЛ. За нейкія невядомыя нам заслугі перад каралём яны атрымалі права выкарыстоўваць дзяржаўную зямлю Мазырскага староства ў сваіх мэтах. Уся ўлада ў той перыяд у горадзе канцэнтравалася ў руках гэтых феадалаў. А *Януш Радзівіл* засведчаны ў гісторыі Мазыршчыны як Віленскі польны (памежны) ваявода, што ў 1649 годзе бязлітасна задушыў паўстанне мазыран, якое падтрымлівалі запарожскія казакі *Багдана Хмяльніцкага* пад кіраўніцтвам *Міхненкі*. Дарэчы, трэба адзначыць, што род *Радзівілаў* пакінуў свой след і ў архітэктуры Мазыра. *Радзівілы* вядомыя тым, што ў XVI стагоддзі заснавалі адзін з самых значных помнікаў архітэктуры Беларусі — *Мірскі замак*. Тады ж уласнасцю *Радзівілаў* у якасці заставы на паўднёвым усходзе ВКЛ быў і наш Мазыр, і князю, гаспадару горада і прылеглых зямель, прыязджаючы сюды, трэба было недзе спыняцца. Дзеля гэтага ў горадзе і быў пабудаваны палац, як яго называюць мазыране-старажылы, *Графскі маёнтак*, які захаваўся да нашых дзён. У савецкі перыяд ён быў часткаю гарадской бальніцы, якая ў наш час знаходзіца ў стадыі рэканструкцыі.

*Графскі маёнтак*, або Мазырскі палац, быў узведзены літарай Е (сцены першага паверха амаль метровай таўшчыні), з адной, падобнай да Мірскай, вежай, з напалову арачнымі праёмамі рабрыстай цаглянай кладкай. Маецца машыкуль і месца на выступе, дзе, як піша мазырскі краязнавец Ганна Булаш, знаходзіўся герб роду... У старажытным Мазыры не так ужо і шмат гістарычных архітэктурных помнікаў. І адкрыццё ў *Графскім маёнтку* музея было б сапраўдным падарункам для гараджан. (Звязда, — 2010, — 20 чэрвеня, — с. 8).

Згаданае ў апісанні герба Мазыра імя Януша Радзівіла звязана з наступнымі трагічнымі падзеямі. Адзін з атрадаў казацкага палкоўніка *Міхненкі* прыйшоў з *Запарожскай Сечы* і захапіў у 1648 годзе Мазыр. Жыхары, як сведчаць летапісы, прыветна сустрэлі казакоў, сярод якіх было шмат сялян, а для абароны горада выкарысталі драўляны замак на *Спаскай гары*. Замкам рэгулярныя войскі і наёмнікі авалодалі толькі пасля трэцяга штурму, выкарыстаўшы падман паўстанцаў. Было выяўлена слабае месца ў абароне з боку *Ксяндзоўкі* (сучасная вуліца Фрунзэ. — **В. Ш.**). Радзівілаўскае войска пад прыкрыццём вазоў з дровамі ўварвалася ў слаба абароненыя з гэтага боку замак. Усіх паўстанцаў жорстка перабілі, а параненага *Міхненку*

ўзялі ў палон. Пасля доўгіх катаванняў яму адсеклі галаву і выставілі яе на жэрдцы на страх гараджанам каля вежы зруйнаванага замка. Паводле адной з версій, параненаму Міхненку галаву адсек Януш Радзівіл і замацаваў яе на завостранай аглоблі, каб трымаць у страху ўсіх, хто мог выступіць супраць. Вось як апісвае тыя падзеі ў Мазыры П. Шпілеўскі: *«У 1648 годзе казацкі атаман Міхненка з адборнаю дружынаю ўкраінцаў абходзіў гарады Мінскага ваяводства і схіляў жыхароў на свой бок для апазіцыі супроць польскага самаўладства. Мазыр ахвотна далучыўся да дружыны Міхненкі і доўга ўпарта трымаў горад у абаронным становішчы, нягледзячы на вялікае польскае войска, што ўдзельнічала ў асадзе. Нарэшце польскі князь Януш Радзівіл паспяшыў на дапамогу палякам з пяцітысячным атрадам і штурмам авалодаў горадам, пасля чаго абышоўся з насельніцтвам горада вельмі бесчалавечна: аддаў загад іх тапіць і кідаць у агонь. Паплаціўся жыццём і мужны Міхненка: Януш уласнаручна адсёк яму галаву і ўваткнуў яе на калок, каб застрашыць і зганьбаваць паўстанцаў. Мазыр быў беззваротна спалены і разбураны»*.

Нават некаторыя вялікія гарады не маюць такой багатай гісторыка-літаратурна-этнаграфічнай спадчыны, засведчанай у самых розных навуковых крыніцах і мастацкіх творах, што падрыхтаваны не толькі мясцовымі аматарамі мінулага, але і знакамітымі даследчыкамі духоўнай і матэрыяльнай культуры Палесся — гісторыкамі, археолагамі, лінгвістам і — сабраны ў гісторыка-дакументальнай хроніцы *«Памяць. Мазыр. Мазырскі раён»* (Мінск, 1987), трохтомніку «*Мазыр 850 год»*: Т. 1. «*Мазыр: гісторыя і сучаснасць»*; Т. 2. *«Мазыр літаратурны»*; Т. 3. «*Спрадвечнай мудрасці скарбонка: сучасны стан традыцыйнай культуры г. Мазыра»* (Гомель, 2005), у гістарычным нарысе *«Мой Мозырь»* (Мінск, 1996) вядомага краяведа А. Бабра і яго шматлікіх публікацыях у мазырскай газеце *«Жыццё Палесся»*, у калектыўнай працы «Мазыршчына ў гады Вялікай Айчыннай вайны». — Мазыр, 2015. — 80 с. (аўтары: Т. Нікіціна, А. Бобр, С. Напрэенка), у кнігах пра Мазыршчыну М. Капача *«Деревни и люди Мозырщины»* (Мозырь, 2001), *«Мазыршчына падпольная, партызанская»* (Мінск, 2009), *«Героически сражались, добросовестно трудились»* (Мозырь, 2011) і інш., у кнізе У. Лякіна *«Мозырь в 1812 году»* (Мінск, 2005), у якой аўтар мовай шматлікіх дакументаў, архіўных матэрыялаў з улікам напісанага папярэднікамі пра Мазыр пераканальна раскрывае падзеі на тэрыторыі Беларусі, асабліва на Палессі, у перыяд вайны 1812 года — у прыватнасці, падрабязна ў дэталях апісваюцца вайсковыя фарміраванні, якія былі ў той час у Мазыры, жыццё і норавы розных сацыяльных груп насельніцтва Мазыра, яго вуліцы, прыродны ландшафт і іншае. Гэты ж аўтар апублікаваў і кнігу *«Гроза двенадцатого года над Полесьем»* (Мінск, 2009), працягваючы тэму вайны 1812 года, дзе ёсць багаты матэрыял і пра Мазыршчыну. У наш час праводзяцца разнастайныя навуковыя канферэнцыі, прысвечаныя самым розным аспектам у вывучэнні матэрыяльнай і духоўнай культуры Мазыршчыны, напрыклад, «Традиционная культура Полесья и современный мир» (Гомель, 2012), «Літаратурнае Палессе ў постацях і лёсах» (Мазыр, 2005), «Мозырщина: люди, события и время» (Мозырь, 2014) і іншыя.

Адносна самай старажытнай гістарычнай часткі Мазыра існуюць дзве версіі. Адны даследчыкі лічаць, што ён узнік на *Замчышчы* (на *Спаскай гары)*, дзе цяпер знаходзіцца адноўлены *Мазырскі замак*, другія сцвярджаюць, што самае ранняе паселішча на тэрыторыі сучаснага Мазыра было ва ўрочышчы *Кімбараўка*, на гары, што ўзвышаецца над вуліцай *М. Гогаля*. Раскопкі ж пацвярджаюць, што паселішча існавала ўжо ў перыяд жалезнага веку, асабліва інтэнсіўна дзейнічала ў VIII—XI стагоддзях. Магчыма, *Кімбараўка* была гарадзішчам-сховішчам, адміністрацыйным, гандлёва-рамесным і культурным цэнтрам і праіснавала да канца XI стагоддзя. У XII стагоддзі жыццё, як сведчаць археолагі, было перанесена на сучасную *Замкавую гару* (былыя назвы: *Спаская, Гара Камунараў*). Там быў умацаваны дзядзінец. Узвышаючыся над ярамі і пакатымі схіламі на 15—20 метраў, ён з трох бакоў быў непрыступным. З паўднёвага боку дзядзінца знаходзілася неўмацаваная частка паселішча — гандлёва-

рамесніцкі пасад (прыблізна раён сучасных вуліц *Ленінская, Камсамольская, Калініна*). Гэта, як адзначаюць У. Лякін, А. Бобр, П. Лысенка, А. Барсук, В. Герасімаў і інш., было тыповае сярэдневяковае ўсходнеславянскае паселішча, пра што пераканальна сведчаць знаходкі рэштказ паўзямлянак, гаспадарчых пабудоў, рамесных вырабаў, якія ў вялікай колькасці былі выяўлены ў выніку неаднаразовых экспедыцый, пошукаў археолагамі і краяведамі.

Мазыр часам называюць «*Мазырскай Швейцарыяй*» або «*беларускай Швейцарыяй*». Гэтыя перыфразы, мабыць, замацаваліся за наваколлем і горадам таму, што ён размешчаны на пяці асноўных узвышшах *Мазырскай грады*, якія знаходзяцца ў межах сучаснага паселішча або яго ваколіц. Гэта гара *Жучка*, што паміж вуліцай *Ленінскай* (былая *Пакроўская*) і вуліцай *Рыжкова* (былая *Мікалаеўская*), на ёй у свой час былі праваслаўныя, каталіцкія і яўрэйскія могілкі (цяпер СШ № 7, будтрэст *«Мазырсельбуд»*); *Ксяндзоўка* — узвышша паміж вуліцамі *Ленінскай* і *Калініна* (былая *Калінік*); у чатырохвугольніку паміж *плошчай Леніна* (былыя назвы: *Базарная плошча, Плошча Свабоды)*, *Камсамольскім завулкам* (былая *Міхайлаўская вуліца*), *вуліцай Савецкай* (былыя назвы *Кіеўская, Карла Лібкнехта*), *Камсамольскай* вуліцай (былая назва *Свята-Міхайлаўская вуліца*) знаходзіўся эпіцэнтр старажытнага Мазыра — *Спаская гара* і *Замкавая гара*, на іх тэрыторыі размяшчаўся ў XVI—XVIII стагоддзях *Мазырскі замак*. У 1792 годзе яго знішчыў вялікі пажар, і толькі ў 2003 годзе ён быў адноўлены, стаўшы дамінуючым гісторыка-культурным цэнтрам сучаснага горада над Прыпяццю. Вялікая заслуга ў гэтым мясцовага краязнаўца *А. Бабра*, аўтара кнігі *«Мой Мозырь»*, намаганні якога рэалізаваліся ў аднаўленні на месцы былога *Мазырскага замка* яго натуральнай копіі.

Незвычайнасць навакольнага ландшафту — дзівоснае спалучэнне маляўнічых узгоркаў, пакрытых экзатычнай расліннасцю на фоне не менш экзатычнага раўніннага левабярэжжа Прыпяці, здзіўляюць любога, хто ўпершыню наведвае Мазыр. Наўрад ці знойдзецца хоць адзін жыхар гэтага горада, які б гаварыў пра яго без пахвалы і захаплення. Вось фрагмент прызнання *Марыны Бондаравай,* журналіста і рэдактара праграм Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі: *«Кожны раз, калі пераязджаю праз мост, гляджу, як там бусел пажывае на Прымаставой... Радзіма для мяне сапраўды тая мясціна, дзе я адпачываю душою. Некалькі дзён у Мазыры раўназначны цэламу водпуску. Бывае, здаецца, нават час тут быццам спыняецца, гадзіннік ідзе павольней. Я вельмі радая, што тут магу час эканоміць. Розніца ў трыста кіламетраў дазваляе зразумець, якія розныя ў нас людзі: у Мінску — мітусня, у Мазыры яны адкрытыя, дружалюбныя. Мне здаецца, што тут прысутнічае нейкая незвычайная атмасфера: калі ты прыехаў у гэты горад, ён цябе не адпусціць ужо ніколі, ты не захочаш з ім разлучацца. Гэтыя развагі зусім нядаўна пацвердзіў і мой муж. Аказалася, што пасля заканчэння Акадэміі мастацтваў сваю першую сур'ёзную працу, дакументальны фільм «Старыя вуліцы Мазыра», ён здымаў у нас у горадзе. І калі прыехаў сюды ўжо ў статусе майго жаніха, сказаў наступнае: «Пасля здымкаў фільма я проста закахаўся ў гэты горад, ён стаў мне такім дарагім, але ніколі не думаў, што з яго я павязу сабе жонку»* («Жыццё Палесся», 28.07.2010, с. 3).

Ваколіцы *Мазыра,* узбярэжжа *Прыпяці,* пагоркі з маляўнічымі гаямі, равы і ўзлобкі пагоркаў з экзатычнымі зараснікамі заўсёды напоўнены птушынымі галасамі, невыпадкова, што адна з маляўнічых частак традыцыйна завецца *Салаўёўкай.* Пра гэту назву мазырскі краявед А. Бобр пісаў: «Там, дзе сходзяцца ля мастка, перакінутага праз роў, дзве самыя працяглыя вуліцы Мазыра — *Савецкая* і *М. Гогаля*, што вядуць у бок *Булавак,* на тэрыторыі адзінага ў свеце прыроднага заказніка, размешчанага ў межах горада, «*Мазырскія равы*», пралегла вуліца *Льва Талстога.* Месца на стыку ўказаных вуліц было названа мазыранамі так рамантычна ў гонар пашаны самага знакамітага пярнатага песняра нашай зямлі — *салаўя...*»

Успамінаючы свае дзіцячыя гады, якія прайшлі ў *Салаўёўцы*, А. Бобр адзначаў, што яна была адным з 12 хутароў, частку з якіх потым далучылі да Мазыра. Адтуль рукой падаць да *Кімбараўкі — Цёмнай даліны.*

Гэтую назву можна і сёння пачуць сярод старажылаў. Пасля грамадзянскай вайны 12 чэрвеня 1920 года на *Салаўёўскім* хутары адным з першых на Мазыршчыне быў створаны сельскі камітэт у складзе 15 чалавек. Старшынёй селькама быў абраны *І. Саснавец*, сакратаром — *В. Хатомскі*. Там жа ўзнік адзін з першых калгасаў, гаспадарчыя будынкі якога — кароўнікі, сенасховішча, а таксама будынак праўлення — захаваліся нават пасля Вялікай Айчыннай вайны. Цяпер гэта тэрыторыя другога мікраараёна Мазыра.

Сучасны Мазыр — адзін з трох найбольш буйных прамысловых цэнтраў Гомельскай вобласці. Воблік горада, як мы ўжо адзначалі, ствараюць узгоркавы рэльеф, мноства зялёных насаджэнняў. Горад шматнацыянальны: у ім пражываюць беларусы, рускія, палякі, яўрэі, украінцы, армяне, немцы, казахі, літоўцы. Восем жылых мікрараёнаў месцяцца па абодва бакі Прыпяці і займаюць плошчу 3786 га. У межах паселішча існуе Рэспубліканскі ландшафтны заказнік «*Мазырскія яры*» агульнай плошчай 1141,5 га. Багаты прыродны патэнцыял заказніка стварае магчымасць для развіцця экалагічнага турызму, гэтаму спрыяе ахова прыродных тэрыторый, распрацаваны і функцыянуюць два турыстычныя маршруты. У ваколіцах Мазыра ў *Ляшнянскім* лясніцтве размешчаны дом паляўнічага «*Гіневічаў Груд*», дзе ёсць усё неабходнае, каб палюбавацца непаўторнымі пейзажамі палескага краю, схадзіць на паляванне. На захад ад Мазыра знаходзіцца ўнікальная аграсядзіба «*Панскі сад*». А вёска *Лешня* (другая яе назва *Лясная)* — радзіма Героя Савецкага Саюза *Міхаіла Паўлавіча Катлаўца* — камандзіра танкавага батальёна, які вызначыўся ў баях з фашыстамі ў Малдавіі, Румыніі, Венгрыі.

Недалёка ад горада пабудаваны і дзейнічаюць буйнейшыя ў Еўропе нафтаперапрацоўчы завод і солевыварачны камбінат. Прамысловасць таксама прадстаўлена машынабудаўнічымі, металаапрацоўчымі, дрэваапрацоўчымі, нафтаперапрацоўчымі, нафтахімічнымі, харчовымі і іншымі прадпрыемствамі. Лесам занята 53 % плошчы раёна. На Мазыршчыне шмат рэк, азёр, меліярацыйных сістэм — рака *Прыпяць* і яе прытокі *Трэмля, Іпа, Ненач, Тур, Мытва, Салакуча, Скалодзінка, Чарцень*. Мазыр — сэрца гэтага краю.

Калі гаварыць пра *Мазыршчыну* ў рэтраспектыўным плане, то неабходна ўлічваць наступныя абставіны: горад ва ўсе часы быў бясспрэчным цэнтрам усяго *Усходняга Палесся*, а таму калі вядзецца размова пра *Мазыршчыну,* то, безумоўна, разумеюць не толькі сучасны Мазырскі раён, адміністрацыйныя межы якога ў савецкі перыяд па волі кіраўнікоў мяняліся некалькі разоў. Традыцыйна *Мазыршчына* — гэта тэрыторыя некалькіх сучасных адміністрацыйных адзінак Гомельскай і часткова Брэсцкай абласцей, а дакладней — тэрыторыя былога Мазырскага павета, як лічаць жыхары суседніх з Мазыром раёнаў, куды раней уваходзілі землі сучасных *Мазырскага, Лельчыцкага, Ельскага, Нараўлянскага, Петрыкаўскага, Жыткавіцкага, Калінкавіцкага,* часткова *Столінскага і Лунінецкага* раёнаў. *Павел Шпілеўскі*, аўтар кваліфікаванага і арыгінальнага твора «*Путешествие по Полесью и белорусскому краю*» ў нарысе «*Мозырщина*» адзначаў выключнае багацце матэрыяльнай і духоўнай культуры Палесся, а да *Мазыршчыны* адносіў не толькі Мазыр і яго ваколіцы, але і *Тураў, Петрыкаў, Давыд-Гарадок, Скрыгалаў.* Паводле адміністрацыйнага падзелу савецкага часу Мазырскае Палессе ўваходзіла ў склад Мазырскай акругі і ўключала 10 раёнаў — *Азарыцкі, Жыткавіцкі, Калінкавіцкі, Капаткевіцкі, Караліінскі, Лельчыцкі, Мазырскі, Нараўлянскі, Петрыкаўскі, Тураўскі* і мястэчкі — *Жыткавічы, Калінкавічы, Капаткевічы, Нароўлю, Тураў.*

Яшчэ адзін кур'ёзны факт з гісторыі Мазыршчыны. 20 лютага 1938 года Пастановай ЦВК БССР была створана *Палеская вобласць*, аднак воляй тагачасных кіраўнікоў рэспублікі адміністрацыйным цэнтрам новай адзінкі быў вызначаны не *Мазыр*, які ва ўсе часы лічыўся і лічыцца цэнтрам і галоўным горадам Усходняга Палесся, а суседні меншы горад *Калінкавічы*, што за дзесяць кіламетраў на поўнач ад Мазыра. Праўда, усе адміністрацыйныя ўстановы часова, да намечанага перанясення іх у Калінкавічы, размяшчаліся ў Мазыры. У склад Палескай

вобласці тады ўвайшло 17 раёнаў былой Мазырскай акругі, якая існавала з 1924 года: *Акцябрскі, Брагінскі, Васілевіцкі, Глускі, Даманавіцкі, Ельскі, Жыткавіцкі, Калінкавіцкі, Камарынскі, Капаткевіцкі, Лельчыцкі, Мазырскі, Нараўлянскі, Парыцкі, Петрыкаўскі, Тураўскі, Хойніцкі;* гарады Мазыр, Калінкавічы, Петрыкаў. У пасляваенны час ужо не ўзнімалася пытанне аб пераносе абласнога цэнтра з Мазыра ў Калінкавічы, а ў 1954 годзе *Палеская вобласць* была аб'яднана з Гомельскай, стаўшы адной з шасці сучасных абласцей Рэспублікі Беларусь.

Такім чынам, у савецкія часы Мазыр з 1924 года — цэнтр раёна, у 1924—1930 гадах — цэнтр раёна і Мазырскай акругі, у 1935—1938 гадах — цэнтр акругі, у 1938—1954 гадах — цэнтр Палескай вобласці БССР.

Палеская вобласць была адной з найменш населеных у Беларусі: на 26 тыс. кв. км. жыло каля 680 тыс. чалавек. У абласным цэнтры — 18 тыс. чалавек. Вялікую плошчу Палескай вобласці займалі балоты і лясы. Большасць насельніцтва была занята ў сельскай гаспадарцы. У канцы 1940 года налічвалася 1065 калгасаў, 8 саўгасаў, 26 МТС. Працавалі прадпрыемствы дрэваапрацоўчай прамысловасці, будаўнічых матэрыялаў, 5 торфазаводаў; найбольш буйное металаапрацоўчае прадпрыемства — арцель «*Молат*» (200 рабочых). На ўсіх прамысловых прадпрыемствах вобласці на 1.1.1941 працавала 15 590 рабочых. Вяліся вялікія меліярацыйныя работы (толькі ў 1939 годзе было асушана звыш 6 тыс. га балот).

У канцы XVI—XVIII стагоддзяў, як сведчаць апісанні горада на той перыяд, планіроўка вуліц Мазыра была пераважна радыяльна-веернай. Гэта было абумоўлена прыродна-геаграфічнымі ўмовамі — ярамі і ўзвышшамі, на якіх узнік і паступова фарміраваўся яго ўнікальны і непаўторны ландшафт. Ад падэшвы *Спаскай гары*, дзе знаходзіўся галоўны пляц і дзе быў гарадскі рынак, які меў не толькі гарадскі статус, у розных кірунках разыходзіліся асноўныя тагачасныя вуліцы Мазыра: на Кіеў і Оўруч — *Кіеўская*, *Оўруцкая*; на Мінск, Слуцк — *Слуцкая*, на Тураў і Лельчыцы — *Свідаўская (Свірыдаўская)*, на Петрыкаў, што ўздоўж Прыпяці, — *Нагорная, Гончая*. У дарэвалюцыйныя часы старадаўні Мазыр уяўлялі толькі вуліцы *Пятніцкая* (цяпер *Куйбышава*), *Слуцкая* (цяпер *Савецкая* ад Прымаставой плошчы да плошчы Леніна), *Кіеўская* (ад сучаснай *плошчы імя Леніна* да *плошчы Максіма Горкага*, якая да канца 1960-х была самай заселенай магістраллю, на ёй будынкі былі размешчаны толькі з аднаго боку — ад ракі. Каля падэшвы *Замкавай гары* пабудоў не існавала, былі яшчэ вуліцы *Жытомірская,* а яшчэ раней — *Оўруцкая* (цяпер — плошча Максіма Горкага), а таксама *Базарная плошча*, іншых падобных унутрыгарадскіх аб'ектаў не было. У ярах, частка якіх знікла або змяніла канфігурацыю, і на ўзвышшах у беспарадку размяшчаліся разнастайныя забудовы, у тым ліку некалькі цэркваў і манастыроў [2, с. 37—42]. Безумоўна, гэтыя ўнутрыгарадскія аб'екты таксама пэўным чынам ідэнтыфікаваліся, мелі самыя розныя назвы. Пра гэта можна больш падрабязна пазнаёміцца, прачытаўшы кнігі і артыкулы П. Шпілеўскага, А. Крукоўскага, М. Капача, А. Бабра, У. Лякіна, Г. Івановай, В. Шура. Напрыклад, ужо ў інвентары за 1724 год у Мазыры ўпамінаюцца вуліцы *Кіеўская, Оўруцкая, Свідоўская, Нагорная, Гончая*, а на адзінай для тагачаснага Мазыра цэнтральнай плошчы ўпамінаюцца ратуша, пякарня, стайня, 56 гандлёвых лавак (крам). Звяртаем увагу на правільнае натуральнае іменаванне тагачасных лінейных урбанонімаў, якія дакладна выконвалі адрасную ідэнтыфікуючую функцыю такіх аб'ектаў, чаго, на жаль, няма у шматлікіх сучасных урбанонімах Беларусі. Меліся ў горадзе тры мураваныя і адзін драўляны манастыр, пяць драўляных праваслаўных цэркваў, тры мураваныя і адзін каталіцкі касцёл, дзве яўрэйскія і адна хрысціянская школы [6, с. 154].

Для сярэдневяковага Мазыра характэрнымі былі *брамы* — шчыльныя, на дзве палавіны крытыя зверху вароты, якія закрывалі галоўны ўваход на тэрыторыю горада, вуліцы, замка, двара. Брамамі горад зачыняўся ўночы і ад ворагаў, калі ўзнікала небяспека. А. Барсук у артыкуле «*Гісторыя горадабудаўніцтва Мазыра*» прыводзіць наступнае апісанне мазырскіх брам: «Сучасная планіровачная структура горада склалася ў другой

палове XVI стагоддзя». У 1560 годзе сустракаюцца назвы гарадскіх брам: *Слуцкая, Кіеўская* і *Оўруцкая.* Яны звязваюцца з вуліцамі: *Оўруцкай* (сучасная вуліца Калініна), у пачатку яе знаходзілася *Оўруцкая брама*; *Свідоўскай* (сучасная вуліца Ленінская), дзе размяшчаўся дом *Свірыдовіча; «вуліца ад брамы Слуцкай аж да брамы Кіеўскай»* (сучасная вуліца Савецкая — па набярэжнай Прыпяці). Горад у той час меў спецыфічны адміністрацыйны падзел, абумоўлены, відаць, у пэўнай меры рэльефам.

Спецыфічнымі класіфікатарамі ўнутрыгарадскіх аб'ектаў дарэвалюцыйнага Мазыра выступалі агульныя назоўнікі тыпу *вуліца, гасцінец, роў, пляц, шлях, канец, яр, гара, пагорак, раўчак, спуск, пад'ём*. Традыцыйна выдзялялі пяць асноўных равоў — доўгіх прыродных паглыбленняў, у якіх, як у незвычайных каньёнах, размяшчалася самая старажытная частка горада. Гэта вуліцы *Калініна* (былая *Калінік*), *17 Верасня* (былая *Свідоўка* або *Свірыдаўская*), *Пралетарская* (былая *Папоўшчына*), *Саета* (былы *Рамашоў роў*), *Кіслякоўскі роў* (у раёне Прымаставой плошчы), *Ленінская* (былыя назвы *Пакроўская* і *Арыстакратычная* (неафіцыйная і больш ужывальная раней была назва *Астрожная*). *Мазырскія равы* ў часы ліўняў і моцных дажджоў у мінулыя часы ператвараліся ў сапраўдныя горныя рэкі, несучы ў бурных патоках мутнай вады тоны пяску, гліны, вымытыя са схілаў равоў дрэвы, кусты і іншую расліннасць, слупы, бярвенне.

У артыкуле А. Крукоўскага «*Горад Мазыр і яго ваколіцы*» падрабязна апісаны яго вуліцы на пачатку XX стагоддзя. Іх назвы, выгляд і параўнанне з сучаснымі гарадскімі аб'ектамі будуць цікавымі для кожнага, хто жыве ў Мазыры ці бывае ў гэтым горадзе. Прывядзём некаторыя фрагменты з названай працы з пэўнымі скарачэннямі з захаваннем тагачасных напісанняў: «У горадзе ўсяго 17 вуліц: 1) Ленінская (б. Пакроўская), 2) Новае Страенне, 3) Свідоўка, 4) Розы Люксембург (б. Слуцкая), 5) Слуцкая Набережная, 6) Лекерта (б. Мікалаеўская), 7) Аляксандраўская, 8) Камсамольская (б. Замкавая), 9) Гара Камунараў (б. Спаска-Замкавая і Спаская), 10) Карла Лібкнехта (б. Кіеўская), 11) Жытомірская, 12) Кіеўская набережная, 13) Калініна (б. Калінік), 14) Нагорная, 15) I Пролетарская (б. Папоўшчына), 16) II Пролетарская (б. Пятніцкая), 17) доктара Саета (б. Рымашоў роў); завулкаў — 5: 1) Гімназічны, 2) Камсамольскі (б. Свята-Міхайлаўская вул.), 3) Лекерта (б. Мала-Мікалаеўская), 4) Кіеўскі, 5) Праразны Завулак; 1 пляц, які меў назву «плошча Свабоды» (б. Базарная). Будуецца новая частка горада пад назвай «Рабочы гарадок». Прыгарадамі з'яўляюцца: *Кімбараўка* (яна часта завецца Кімбараўскай вуліцай), *Салаўёўка* і хутар *Целепуны*, каля якога знаходзіцца фабрыка «Чырвоны Кастрычнік». Брукаваныя толькі наступныя вуліцы: *Новае Страенне, Ленінская, Аляксандраўская, Карла Лібкнехта, Камсамольская,* частка *Слуцкай Набережнай, Камсамольскі* завулак ды *плошча Свабоды*. У горадзе 2 сады (паркі. — **В. Ш.**): адзін — на *плошчы Свабоды*, другі, «*Гарадскі сад»,* — на краі ўзгорка, які завецца «*Ксяндзоўка*». Гэта — бярозавы гаёк, размешчаны на вышыні 165 метраў над схіламі. Па некрутым схіле ўзгорка з *Ленінскай* вуліцы зроблены ўсходкі для пераходу ў сад, лік усходак — 164. Трэба адзначыць яшчэ тое, што паміж раўчаковымі далінамі, якія пераразаюць горад, знаходзяцца ўзгоркі, кожны з іх мае сваю назву. Так, паміж *Ленінскай* і *Мікалаеўскай* вуліцамі знаходзіцца ўзгорак «*Жучка*», а на ім — могілкі з царквою; паміж *Ленінскай* і *Калінікам — Ксяндзоўка*; у чатырохкутніку, бакамі якога служыць *плошча Свабоды, Камсамольскі завулак* (б. Міхайлаўская вуліца), *вул. К. Лібкнехта, Камсамольская вуліца* — гістарычная *Спаска-Замкавая гара* (цяпер — Гара Камунараў); каля *Калініка*, пралягаючы да *Жытомірскае* вуліцы, — *Капітанская горка*, прарэзаная раўчаком, па якім у накірунку да в. *Міхалкі* праходзіць *Ленінградска-Кіеўскі* гасцінец. Узгоркі хоць рэдка, але пакрыты рознымі дрэвамі, ад чаго набываюць больш характва і прыхарошваюць горад, калі на яго глянуць з якога-небудзь узгорка. Вуліцы ж у горадзе пакрыўленыя і вузкія. Больш простымі і шырокімі з'яўляюцца: *Ленінская, Розы Люксембург, Карла Лібкнехта*. Асвятляецца Мазыр электрычнасцю, устаноўлена 24 фанары, на асвятленне якіх у снежні 1926 года трацілася 720 кілават энергіі. Ні

конкі, ні трамвая, ні аўтобусаў у Мазыры няма. З прычыны невялікіх канцоў горада да вознікаў насельніцтва зварочваецца звычайна толькі тады, калі трэба прывезці доктара да хворага або калі трэба адвезці хворага ў бальніцу» [9, с. 17—19].

Паспрабуем з выкарыстаннем інфармацыі з прац П. Шпілеўскага, А. Крукоўскага, А. Бабра, У. Лякіна і іншых апісаць некаторыя, пераважна архаізаваныя, урбанонімы Мазыра, добра вядомыя ў мінулыя часы, некаторыя з іх у перспектыве магчыма аднавіць. «Так, напярэдадні вайны з Напалеонам (1812) павятовы Мазыр займаў толькі 10 % сучаснай яго тэрыторыі. Яго межамі былі бераг *Прыпяці* каля дома 114, па вуліцы *Савецкай* — дом 27, па вуліцы *Куйбышава* — дом 52, па вуліцы *Студэнцкай* — паўночная частка будынка ўніверсітэта — дом 23, па вуліцы *Саета* — магазін «*Еўраопт*», мастацкая школа — дом 41, па вуліцы *Калініна* — піўны бар «*Кімбараўка*», бераг Прыпяці насупраць дома 194 па вуліцы *Савецкай*». Выпасамі для жывёл і ворнымі землямі, дзе некалі мазыране сеялі жыта і іншыя сельскагаспадарчыя культуры, былі ўзвышшы «*Жучка*», «*Ксяндзоўка*», «*Папоўшчына*», «*Капітанская горка*», а ў наш час вуліцы *Інтэрнацыянальная, Л. Талстога, А. Чэхава, Курган Славы,* вуліцы *Рыжкова, Міру, Шашэйная, Пралетарская*, амаль уся тэрыторыя сучаснага парку культуры і адпачынку «*Перамога*» на пачатку XX стагоддзя была рачным дном, мелкаводным залівам Прыпяці, берагі якога былі *Рыбным рынкам*. Пераправа паромам з левага берага Прыпяці на правы была прыкладна за 200 метраў на ўсход ад сучаснага жалезабетоннага маста, насупраць магазіна «*Сапфір*». Пляжнага пясчанага вострава, які аддзяляўся ад Прыпяці пратокай *Мярлявіцай*, раней не было. Цэнтрам павятовага Мазыра былі гарадскі гандлёвы пляц, цяпер *плошча Леніна*, ад якога ў розныя бакі ў радыяльных напрамках разыходзіліся вуліцы *Свідоўка, Замкавая, Кіеўская, Слуцкая* (звярніце ўвагу: гэтыя назвы ў наш час не існуюць. — **В. Ш.**). У паўднёвай яе частцы знаходзіўся «*Дом гараднічага*» — сядзіба з трох будынкаў. У паўночнай частцы плошчы, што прымыкала да Прыпяці, у два рады размяшчаліся дваццаць дзве гандлёвыя лаўкі, а бераг ракі быў заняты гарадской прыстанню. Каля гары, на месцы, дзе знаходзяцца магазіны «*Мілавіца*», «*Вольга*», «*Венецыя*», былі раней гарадская ратуша, будынкі павятовага і ніжняга земскага судоў. На процілеглым баку пляца, каля падэшвы *Замкавай гары* — пажарныя склады і, магчыма, як мяркуе У. Лякін, паліцэйскі ўчастак, а таксама «*присутственные места*», дзе афармляліся самыя розныя афіцыйныя паперы, дакументы. На вуліцы *Замкавай* (цяпер *Камсамольская*), што на паўднёвы ўсход ад плошчы, знаходзілася павятовае вучылішча, а крыху вышэй, дзе зараз ваенкамат, быў парафіяльны драўляны касцёл, на процілеглым баку вуліцы, у сучасным будынку дзіцяча-юнацкай спартыўнай школы, размяшчалася павятовае казначэйства. Ніжэй быў будынак «*каменного кляштора и костёла Бернардинского*» (сучасны *Свята-Міхайлаўскі сабор*). Ад усходняга крыла гэтага храма вуліца паварочвала да ракі і заканчвалася ў *Расамохскім яры*. Ад яго (цяпер на гэтым месцы будынак гарадской паліклінікі) пачыналася вуліца *Кіеўская* (цяпер *Савецкая*). Побач — драўляная царква *Мікалая Чудатворца,* якая на той перыяд была пашкоджана пажарам, хаця і дзейнічала. На паўднёвы захад ад галоўнага пляца, а дакладней, ад дома гараднічага, размяшчаліся будынкі і пабудовы вуліцы *Свідоўка* (цяпер вуліца *Ленінская*), дзе пераважна сяліліся заможныя мазыране. Самай значнай цаглянай пабудовай на гэтай вуліцы быў Дом мазырскага падкаморыя, памешчыка *Антонія Кеневіча* (у наш час — адзін з карпусоў былой санаторна-лясной школы). Гэта вуліца заканчвалася *гарадскім астрогам* у раёне сучаснага кінатэатра «*Мір*» і, як піша У. Лякін, гэта адзінае месца ў Мазыры (гарадскі астрог. — **В. Ш.**), якое за мінулыя стагоддзі не памяняла ні свае функцыі, ні месцазнаходжанне. Побач знаходзіліся і казармы гарадской «*інвалідной каманды*». Дарэчы, *Мазырскі астрог* упамінаецца ў аповесці Я. Коласа «Дрыгва», у якім сядзелі *Саўка Мільгун* і *Цімох Будзік*.

Апрача гэтага, у названай кнізе У. Лякіна можна выявіць і іншыя самыя розныя апі-

санні ўрбанонімаў тагачаснага Мазыра (1812): *Ясная гара, Спаская гара, Міхайлава гара* (с.18), *Рамашоў роў* (цяпер вул. Г. Саета) царква *святога Мікалая Чудатворца* (каля Замкавай гары, саборная царква *святога Міхаіла Архангела)*, *вул. Кіеўская*, якая размяшчалася паралельна Прыпяці і працягвалася ад сучаснай *плошчы Леніна* да *плошчы М. Горкага*, *вул. Слуцкая*, якая пачыналася ад сучаснага гарадскога ўнівермага «*Белы лебедзь*» і працягвалася да *Прымаставой плошчы*, *вул. Жытомірская* (ад Дома быта «*Сузор'е*» да дома № 11 сучаснай вуліцы *М. Калініна,* ранейшая назва *Калінік),* дзве яўрэйскія школы (у прамежку паміж былой вуліцай *Слуцкай* і Прыпяццю, каля сучаснага рачнога вакзала). *Кіслякоўскі роў* або *Пятніцкі яр* — у раёне *Прымаставой плошчы*, у яе заходняй частцы, ад гэтага месца пачыналася вуліца *Пятніцкая*, якая атрымала назву ад пабудаванай у яе пачатку праваслаўнай прыхадской царквы *святой Параскавеі* [10, с.17]. Кніжны магазін *Бергмана* — на паўночным баку гарадской гандлёвай плошчы, дзе, як ужо адзначалася, у два рады размяшчаліся дваццаць дзве гандлёвыя лаўкі. Тагачасны Мазыр некалькі разоў выгараў ад частых пажараў, пераважна ад таго, што амаль усе яго будынкі былі драўлянымі, а забудова, асабліва прыватных дамоў, была надзвычай шчыльнай. Нават некаторыя сучасныя вуліцы Мазыра ў старой частцы горада ўяўляюць выразную спажыву для пажару. Для змяншэння страт ад сістэматычных пажараў тагачасныя ўлады горада спрабавалі стымуляваць каменнае будаўніцтва, таму Мінскае губернскае кіраўніцтва прымала пастановы адносна павятовага Мазыра, каб тыя, хто прыязджаў або прыплываў у Мазыр, дастаўлялі «*из других мест на судах, лодках и плотах, равно и проезжающих через город дикого камня или в случае недостатка деньгами*». Параўнаем у гэтым плане, што падобным чынам *Пётр I* узводзіў горад-крэпасць *Кранштат.* Але яшчэ некалькі дзясяткаў гадоў, як пісаў У. Лякін, горад заставаўся амаль поўнасцю драўляным, вуліцы былі незабрукаванымі і тапіліся ў гразі, што было тыповай адметнасцю амаль усіх тагачасных беларускіх мястэчак, гарадоў. Так, Я. Колас у апавяданні «*Так і трэба ашуканцу*» падае саркастычнае апісанне тыповага беларускага дарэвалюцыйнага мястэчка, на галоўнай вуліцы якога ў непралазнай гразі купаюцца ў летнюю спёку свінні. З горкай іроніяй пісьменнік гэты ўрбанонім назваў «*Неўскім праспектам*». Параўнайце, напрыклад, апісанне вуліц Мазыра ў пачатку XX стагоддзя ў працах І. Рухамоўскага, А. Крукоўскага, А. Бабра.

Даследчыкі Мазыра прасачылі асноўныя этапы станаўлення горада. Так, у 1795 годзе, г.зн. пасля далучэння беларускіх зямель да Расійскай імперыі, Мазыр быў павятовым цэнтрам, у 1800 годзе налічвалася 260 двароў і 1253 жыхары. Мяшчанам-хрысціянам належалі 157 дамоў (677 грамадзян), яўрэям — 84 дамы (541 чалавек), шляхце 19 (36 чалавек). У горадзе было тры муравsituation ныя і адзін драўляны манастыр, пяць драўляных праваслаўных цэркваў, дзве яўрэйскіх і адна хрысціянская школы. На пачатку 1878 года ў Мазыры ўжо жыло 7384 чалавекі, з іх 5457 праваслаўных, 1898 іўдзеяў, 446 каталікаў, 23 стараверы, 10 евангелістаў, было 25 мураваных і 1082 драўляныя дамы. Меліся друкарня і метэаралагічная станцыя. Штогод *6 жніўня* праводзіліся кірмашы. Гандлявалі жывёлай, збожжам, рыбай, смалой, дзёгцем, поташам, шкіпінарам. Багаты прыбытак даваў лес. Выпальваўся вугаль, з бяросты выганяўся дзёгаць, з сасновай і ёлкавай лучыны і пнёў — смала. У 1905 годзе ў Мазыры 12 300 жыхароў, з іх 9 800 мяшчан, 885 сялян, 315 купцоў, 250 шляхты. Яўрэйскае насельніцтва складала 7 300 чалавек. Таму ў горадзе дзейнічала некалькі дабрачынных і палітычных яўрэйскіх арганізацый. Самай уплывовай сярод іх быў *Бунд*, багата яўрэяў было і ў мазырскай арганізацыі *РСДРП*. Напярэдадні Першай сусветнай вайны ў Мазыры 11,4 тысячы жыхароў, 1 210 жылых будынкаў, 3 фабрыкі, 16 майстэрняў, 5 навучальных устаноў, земская бальніца, метэастанцыя, друкарня, 2 кнігарні [6, с. 8]. Цікавае і пераканальна вобразнае апісанне Мазыра можна выявіць не толькі ў нарысе П. Шпілеўскага «*Падарожжа па Палессі і Беларускім краі*» (1858 г), але і ў кнізе Ізраіля Рухамоўскага «*Моя жизнь и моя работа*», якая была

выдадзена ў Парыжы ў 1928 годзе. У красавіку 2015 года беларускае тэлебачанне дэманстравала фільм пра мазыраніна Ізраіля Рухамоўскага, які, стаўшы сусветна вядомым ювелірам, жыў у Парыжы (пачатак XX стагоддзя), але не забываў Мазыр — горад дзяцінства і маладосці. Падрабязнае апісанне П. Шпілеўскім гэтага рэгіёна, як прасочана даследчыкамі, уяўляецца вельмі тыповым для пісьменнікаў сярэдзіны XIX стагоддзя, якія бачылі Мазыршчыну своеасаблівым краем, адметным у рэгіянальных праявах. Нарыс прызначаўся для расійскага чытача, каб зацікавіць яго гэтым кутком славяншчыны. А таму ў творы, як пісаў П. Кошман, паўстаў не чарговы малюнак глухой правінцыі неахопнай Расійскай імперыі другой паловы XIX стагоддзя, а шырокая карціна тагачаснага Палесся, адметнага ўкладам свайго самабытнага жыцця і поўнага запамінальных старонак у мінулым [8, с. 47].

Мазыршчына на перыяд сярэдзіны XIX стагоддзя — насельніцтва гэтай часткі Палесся, яго прырода, навакольныя мястэчкі і вёскі, шырокая і паўнаводная рака Прыпяць, асабліва «*живописный, фантастический*» горад у садах на гарах і ў далінах — убачаная і таленавіта засведчаная пісьменнікам П. Шпілеўскім больш за 150 гадоў таму назад, уяўляецца чытачу нібыта намаляваной выдатным мастаком ва ўсёй велічы і паўнаце мастацкіх фарбаў.

П. Шпілеўскі тлумачыць значэнне слова *Мазыршчына*, называе старажытныя помнікі, што ўласцівыя гэтаму рэгіёну, перадае народныя паданні пра ўзнікненне паселішчаў, характарызуе асаблівасці палескіх рэк, азёр, падрабязна дае апісанне палескіх пушчаў, «*Князь-возера*» і іншых вадаёмаў. Так, *Мазыршчына,* паводле яго вызначэння, — гэта частка заходнерускага Палесся, што ахоплівае ўвесь Мазырскі павет Мінскай губерні і старадаўнія мястэчкі, што належаць гэтаму краю, частка якіх у старажытнасці была вядомая ўмацаванымі гарадкамі, адзначанымі ў гісторыі ўдзельных заходнерускіх княстваў, татарскіх наездаў і польскага ўладарства. Такія — *Тураў, Скрыгалаў, Давыд-Гарадок* і *Петрыкаў…* Уся прастора Мазырскай акругі ўсеяна шматлікімі курганамі, магільнымі насыпамі — помнікамі старажытнай аседласці, сведкамі розных палітычных сутыкненняў і ваенных пабоішчаў. Кожнаму магільнаму насыпу прымеркавана тая або іншая характарыстычная племянная назва, адсюль характарыстычныя назвы вёсак: *Стараселле, Зарэчча, Гайдамакі, Сямікосцішчы* (відаць, *Сямігосціччы* сучаснага Столінскага раёна. — **В. Ш.**), *Гарадзяцічна, Баяраўка, Князеўе, Рубель, Гарадок, Хаўтуркі, Забалацце, Пагастовішчы* (магчыма, *Пагост* сучаснага Жыткавіцкага раёна. — **В. Ш.**) і іншыя назвы. Апісанне Мазыра займае цэнтральнае месца ў гэтым творы. П. Шпілеўскі сваім нарысам далучыў Мазыр «*к числу самых красивых и опрятных городков западнорусского края*». На думку гэтага аўтара, «Мозырь возвращается в состав единоплеменной России и принимает характер прежнего чисто русского города, резко отделяющегося в Минской губернии от прочих её городов и только близко подходящего к *Пинску* и *Турову* по духу, характеру народа и даже местному костюму». Такая трактоўка Мазыра, і апісанне яго як «*чисто русского*» горада, як адзначана даследчыкамі гэтага твора, і яго проціпастаўленне па рэгіянальнай прыкмеце іншым мясцінам Беларусі ўспрымаецца многімі даволі суб'ектыўна. Выказванне добра адлюстроўвала палітычныя погляды П. Шпілеўскага, які разглядаў палешукоў і нават усіх беларусаў як своеасаблівае адгалінаванне вялікарускага народа, а гістарычныя перыяды літоўскага і польскага ўплываў на Беларусь ацэньваў цалкам негатыўна. Разам з тым супярэчлівасць аўтарскай пазіцыі ўсё ж не змяншае агульнай значнасці адлюстраванага на старонках пазнавальнага матэрыялу пра Мазыр і яго ваколіцы. Менавіта гэтая інфармацыя з'яўляецца самай каштоўнай у нарысе для сучаснага чытача, зацікаўленага гісторыяй і культурай Мазырскага Палесся [8. с. 49].

Некаторыя старонкі «*Мазыршчыны*» П. Шпілеўскага, што былі зноў апублікаваны ў часопісе «Нёман» у 1996 годзе, скарочаны з-за антысемітызму аўтара. Вядома, што Мазыр на той перыяд (1858 год) быў больш чым на палову яўрэйскім паселішчам. Паводле ўсерасійскага перапісу 1897 года

ў Мазыры пражывала 12 300 жыхароў, з іх 4 100 праваслаўныя, раскольнікаў — 70, католікаў — 620, пратэстантаў — больш за 20, яўрэяў — 7300. Крытыкуючы погляды і пазіцыю П. Шпілеўскага, даследчыца яго творчасці С. Кузняева пісала: «Сучаснаму беларускаму чытачу можа падацца непрымальным яго пункт гледжання на гісторыю Беларусі. Праваслаўны беларус, чалавек рускай культурнай арыентацыі, П. Шпілеўскі з часам усё больш выразна схіляўся да аднабаковай трактоўкі мінулага сваёй радзімы і ганьбаваў у ім усё, што было звязана з польскім, каталіцкім і пратэстанцкім уплывам, і гэта знайшло адлюстраванне ў «*Мазыршчыне*».

У вывучэнне Мазыршчыны значны ўклад унёс Адам Кіркор. Ён, напрыклад, вельмі маляўніча апісваў мазырскія кірмашы, якія праводзіліся 6 студзеня і 6 жніўня, і на якія прыязджалі купцы з Прусіі і Познані. У цэнтры Палесся — Мазыры — гандлявалі буйной рагатай жывёлаю, коньмі, птушкай і рознай дробнай жыўнасцю, збожжам, бульбай, лёнам, пянькою, салам, рыбаю і тлушчам, рамесніцкімі вырабамі, скурамі, лесам і прадуктамі яго здабычы. Карысталіся папулярнасцю сохі і іншыя гаспадарчыя прылады, якія мясцовыя сяляне выраблялі з жалезнай руды. У наступныя часы пра залежы жалезнай руды на Мазыршчыне пісалі Часлаў Пяткевіч і Аляксандр Крукоўскі. Мяшчане, як адзначаў А. Кіркор, займаюцца рыбалоўствам на Прыпяці і вырабам скур. Мазырскія скуры карыстаюцца вядомасцю і адрозніваюцца высокай якасцю, трываласцю. Рыначны гандаль у горадзе наладжваўся кожную пятніцу. Кірмашы праводзіліся вельмі ажыўлена, з удзелам усіх слаёў насельніцтва, якія жывуць даволі ізалявана, але маюць патрэбу ў культурным жыцці.

Даследчык справядліва адзначае, што сама прырода ўказала палешуку асноўныя заняткі і шляхі для пераадолення цяжкасцей. Хаты сялян курныя, але прасторныя, разам жыве вялікая сям'я, часта тут жа ўтрымліваецца і жывёла. Светапогляд палешукоў аўтар характарызуе як кансерватыўны, верны запаветам продкаў як у святах і абрадах, так і ў вядзенні гаспадаркі.

Даследчыкі ў наш час падлічылі, колькі вуліц у некаторых беларускіх гарадах, што важна для супастаўлення і параўнання. У тройку лідараў па іх колькасці, паводле звестак сэрвісу «*Яндэкс Карты*», увайшлі *Мінск, Магілёў* і *Віцебск*. У сталіцы налічваецца каля 1300 вуліц, праспектаў, плошчаў, тупікоў і завулкаў, у *Магілёве* іх каля 900, у *Віцебску* — 850. Самы кампактны з абласных цэнтраў *Гродна* — у ім 550 вуліц («Звязда» ад 12.02.2014, с.6). Усяго ў сучасным Мазыры 153 вуліцы і завулкі, з іх 69 — названы ў гонар пэўных гістарычных асоб. У 1920—1940 гады выразна намеціліся і ажыццявіліся працэсы ідэалагізацыі ўнутрыгарадскіх лінейных аб'ектаў Мазыра: замяніліся назвы вуліц, якія ўтрымлівалі пэўную сувязь з былым дзяржаўным ладам, рэлігіяй, з'явіліся *ўрбанонімы* ў гонар вядомых асоб, палітычных дзеячаў. У той час была мода называць вуліцы ў гонар жывых кіраўнікоў краіны, дзяржаўных дзеячаў, напрыклад, *І. Сталіна, Л. Троцкага, Л. Кагановіча, М. Горкага*.

Такім чынам, пераважная большасць сучасных афіцыйных назваў вуліц Мазыра ўзнікла ў гады Савецкай улады: у горадзе былі заменены шматлікія традыцыйныя ўсталяваныя ў лексіконе жыхароў беларускія ўрбанонімы, а таксама ўзнікла мноства нетрадыцыйных, не тыповых для Палесся тапанімічных назваў для абазначэння новых вуліц, плошчаў і іншых унутрыгарадскіх аб'ектаў. Асабліва адчувальным гэты працэс быў у пасляваенныя гады, калі Мазыр забудоўваўся новымі мікраараёнамі. У розныя часы ў яго межы ўвайшло некалькі хутароў, фальваркаў, вёсак (*Бабры, Салаўёўка, Целепуны, Баравікі, Свідоўка, Кімбараўка)*. Дарэчы тут адзначыць, што вакол Мазыра яшчэ ў 1920-я было каля чатырохсот хутароў, многія з якіх мелі назвы, утвораныя ад прозвішчаў іх заснавальнікаў: *Сузькі* — ад прозвішча *Сузько, Кунгеры* — ад прозвішча *Кунгер, Бабры, Бабраняты* — ад частага на Мазыршчыне прозвішча *Бобр*. У пасляваенны перыяд, 1960—1970-я, значныя часткі Мазыра аб'ядналі ў мікраараёны, назваўшы іх, напрыклад, *Усходнім, Маладзёжным*, праігнараваўшы неафіцыйныя назвы значных гарадскіх, старых і новых мясцін гора-

да. Аднак у пераважнай большасці ў мове мазыран традыцыйна захоўваюцца натуральныя мясцовыя ўрбанонімы, пра што сведчыць верш Генадзя Пашкова «*Легенда Прыпяці*»: *І Гэтак з Юркам Адзінцовым, / касцёр расклаўшы між дубоў, / гаворым пра калгас мясцовы, / пра луг, / пра Прыпяць, / пра Баброў. / Юрась сябе назваў — баброўнік, / бо нездарма ж у Мазыры / мікраraён яго вядомы / пад гучнай назваю — Бабры…* Пра гэта ж успамінаў і В. Вольскі у кнізе «*Палессе*»: «*Мінулі вёску Бабры. — У гэтай вёсцы кожны другі жыхар мае прозвішча Бабёр*» [5, с.172]. Дарэчы, на Палессі як вынік трансанімізацыі (пераход онімаў з аднаго класа ў другі) — прозвішчы жыхароў і назвы вёсак даволі часта супадаюць, як і ў названай вышэй вёсцы *Бабры*: прозвішча *Раеўскі* і вёска *Раеўскія, Акулінка* і вёска *Акулінка, Гурын* і вёска *Гурыны, Бібік* і вёска *Бібікі*.

Між іншым некаторыя забытыя назвы ўнутрыгарадскіх і прылеглых да горада аб’ектаў з’яўляюцца арыгінальнымі і непаўторнымі, у іх праяўляюцца і нацыянальная адметнасць, і роднасная сувязь з расійскімі і ўкраінскімі землямі. Вось прыклады ўнутрыгарадскіх (афіцыйных і неафіцыйных) назваў, якія бытавалі ў Мазыры яшчэ ў 1920-я: вуліцы *Слуцкая, Замкавая, Кіеўская, Жытомірская, Гімназічная, Пецярбургска-Кіеўскі гасцінец, Валынскі тракт, Кісляkоўскі роў,* або *Пятніцкі роў, Рамашоў роў, плошча Свабоды, Ксяндзоўка, Калінік, Спаска-Замкавая гара, Шайтан-гара, Ясная гара, Капітанская горка*, *Міхайлава гара, Мярлявіца, Жардзянка.* Некаторыя гэтыя назвы, відаць, неабходна вярнуць у сістэму сучасных урбанонімаў Мазыра.

Цікавым уяўляецца апісанне *Базарнай плошчы* ў Мазыры (сучасная плошча М. Горкага) на перыяд 1960-х у кнізе В. Вольскага «Палессе»: «*На Базарнай плошчы, насупраць старой гасцініцы, дзе я жыву, стаіць драўляны крыты рынак. Жанчыны ў белых фартухах, вышываных сінімі, зялёнымі, чырвонымі кветкамі, прадаюць мазыранам прывезенае з вёсак дабро — мяса і сала, кілбасы, яблыкі, грыбы, бульбу, цыбулю. Вакол плошчы — маленькія крамы і магазіны з прамтаварамі, побач з гасцініцай — лазня. Тут і аўтобусны вакзал, і стаянка легкавых машын. Насупраць — касы чынуначная і аэрапорта. Адным словам — усё пад рукою.*

*На плошчы заўсёды шумна і людна. Шмат пасажыраў з мяшкамі і клумкамі. Прыходзяць і адыходзяць дзясяткі аўтобусаў.*

*Я паглядзеў на карту ў памяшканні для пасажыраў. Яна ўся спярэшчана маршрутнымі лініямі. З якімі толькі пунктамі не звязаны Мазыр! Не толькі з усімі сваімі сельсаветамі і суседнімі раёнамі. На аўтобусе прамым рэйсам можна ехаць з Мазыра і ў Мінск, і ў Гомель, і ў Кіеў, не гаворачы пра Корасцень, Пінск, Салігорск, Светлагорск, Брэст, Бабруйск. На плошчы чакае адпраўкі заўсёды не менш пятнаццаці-дваццаці аўтобусаў. Нідзе я не бачыў столькі машын, як у Мазыры! Безліч гэтых машын, вялікіх і малых, развозяць людзей па далёкіх сёлах і вёсках, раскінутых сярод палескіх балот і пяскоў, паміж лясоў, азёр і рэчак. На карце вакзала адзначаны дзевяноста дзве аўтобусныя лініі. А з Мазырскага аэрапорта можна ляцець у Мінск, Гомель і Кіеў, а таксама ў сем раённых цэнтраў Палесся*» [5, с. 137—138]. Гэты фрагмент тагачаснага Мазыра добра знаёмы аўтару гэтай публікацыі.

У пасляваенныя гады *Мазыр* — абласны цэнтр, як піша А. Барсук, у 1952 годзе ў Мазыры налічвалася 38 вуліц, 9 завулкаў і *плошча Леніна*. Некаторыя ўрбанонімы да нашага часу назаўсёды зніклі з карты горада ці перайменаваны, з’явіліся новыя. Так, вуліцы *Карла Лібкнехта* і *Розы Люксембург* утварылі сучасную вуліцу *Савецкую* ад *Прымаставой* плошчы да вуліцы *Гогаля*. Да сярэдзіны 1950-х пабудаваны новыя вуліцы: *Экскаватарная, Прамысловая, Нова-Сацыялістычная, Высокая*. Павялічылася працягласць *Камуністычнай, Першамайскай, Інтэрнацыянальнай*. У раёне дзвюх апошніх з’явіліся новыя жылыя кварталы, цэлыя мікраraёны. У 1954 годзе пабудавана Набярэжная — ад рачной прыстані да маставой пераправы. Таксама ўзніклі 4 жалезабетонныя масты праз равы. У 1955 годзе пачалося будаўніцтва новага жалезабетоннага маста праз *Прыпяць*, буйнейшага па працягласці ў рэспубліцы — 20 апор і 18 пралётаў, гэта больш за кіламетр у даўжыню.

Краязнаўца А. Бобр у мясцовай газеце праз апісанне названай вышэй плошчы імя *Максіма Горкага* знаёміць з памятны-

мі мясцінамі і падзеямі, што адбываліся ў Мазыры ў мінулыя часы. Вуліца *Кіеўская Набярэжная*, якой ў наш час няма, прымыкала раней да *Плошчы М. Горкага* (ранейшая яе назва *Жытомірская*). Недалёка ад яе знаходзілася старэйшае прадпрыемства горада — *Мазырскі піўзавод*, які сваю гісторыю пачынаў з 1885 года, калі тагачасны мясцовы прадпрымальнік *Іваноў* наладзіў на першым паверсе свайго дома вытворчасць мясцовага пеннага напоя, які атрымаў за высокую якасць шырокую вядомасць. Менавіта Мазырскае піва стварыла славу Мазыру ў маштабах Расіі. Пры новым гаспадары гэтага завода — купцу другой гільдыі *Павіцкім,* у 1908 годзе быў пабудаваны асобны цагляны корпус піўзавода, які захаваўся да нашых дзён. Мазырскае піва — «*Мядовае піва*» ў той час атрымала шырокае прызнанне — у 1911 годзе на Усерасійскай выстаўцы ў Растове-на-Доне майстэрства мазырскіх піваввараў было адзначана залатым медалём. І з таго часу пастаўлялася да стала апошняга расійскага імператара Мікалая II. У савецкі перыяд маркі мазырскага піва «*Жыгулёўскае», «Бархатнае», «Кімбараўка*» і іншыя былі шырока вядомыя не толькі ў Беларусі. На жаль, у наш час піўная прадукцыя ў Мазыры не вырабляецца. На месцы кампрэсарнага цэха піўзовода стаяў дом, у якім на пачатку ХХ стагоддзя пражывала сям’я будучага Героя Савецкага Саюза *В. З. Харужай*, пра гэта сведчыць адпаведная мемарыяльная дошка. Праз дарогу знаходзіцца ўпраўленне Мазырскага тэхнічнага рачнога ўчастка, якое забяспечвае на працягу дзясяткаў гадоў устойлівую работу ўсіх рачных транспартных сродкаў на Прыпяці і яе прытоках. Недалёка ад гэтай традыцыйнай арганізацыі рачнікоў, каля стадыёна школы № 8 стаяў у канцы XIX — пачатку XX стагоддзя камбінаваны (двух- і аднапакаёвы) дом, у якім жыў *Давід Сімановіч* — сакратар сумна знакамітага ў дарэвалюцыйнай Расіі *Грыгорыя Распуціна*. Насупраць школы знаходзіўся адзіны ў пасляваенным Мазыры лазнепральны камбінат...

На плошчы М. Горкага захаваўся да нашых дзён яшчэ адзін унікальны будынак — крыты рынак, пабудаваны ў даваенны час і рэстаўраваны ў 1970-я. Новая перабудова яго праводзіцца і ў наш час. Ён з’яўляўся доўгі час своеасаблівай эмблемай і візітнай карткай Мазыра. На плошчы наладжваліся кірмашы, было мноства невялікіх лавак, дзе можна было набыць усё, ад разнастайных харчовых прадуктаў да адзежы і мэблі. У вершы «*Мазырскі кірмаш*» паэт Уладзімір Верамейчык, якога пры жыцці ўзнёсла называлі «*лірнікам Палесся», «рыцарам яе вялікасці Прыпяці», «адданым сынам Палесся*», прыводзіць вобразна-запамінальны малюнак палескага кірмашу ў сярэдзіне 1960-х на гэтай плошчы: «*Пахне сырадоем і цыбуляю, / Агуркамі з роснае грады. / Ліпай і калодкавымі вуллямі / Пахнуць наздраватыя мяды. / На бязмене з гіраю-цаглінаю / Важыць сала хітраваты дзед. / Сонна водзяць выгнутымі спінамі / Шчупакі ў калодзежнай вадзе... / Тут патэльні з жоўтаю яечняю. / Дудкі, капялюх на галаву. / У кашах лазовых рэжуць клешнямі / Ракі вірлавокія траву. / Вось каробак з маладымі вішнямі — / Слаўная лубовая сям’я. / Падмігне гандлярачка увішная — / І за банку плаціш утрая. / Дзед з Міхалак словамі таропкімі / Прапануе яблыкі з кулак, / А пахваліш жытнікі салодкія / То насыпле яблыкаў і так. / Тут люблю хадзіць, глядзець гадзінамі. / Слухаць гоман роднае зямлі / І такое ўчую тут часінамі, / Што нідзе не купіш за рублі*».

Плошча і прылеглыя завулкі прыцягвалі да сябе кінематаграфістаў, якія рабілі там здымкі вядомых у свой час мастацкіх фільмаў: «*Дзяўчынка шукае бацьку», «Капітан Ян», «Заўтра будзе позна», «Неспадзяванае каханне*». Паэты прысвячалі гэтаму люднаму месцу вершы. Да нашага часу на плошчы знаходзіцца трохпавярховы жылы дом арыгінальнай архітэктуры, у якім цяпер размешчаны Мазырскі райжылкамгас. Раней гэта была адзіная ў Мазыры гасцініца на 64 месцы. Недалёка размяшчалася міжгародняя аўтастанцыя, якая ў 1957 годзе абслугоўвала 31 лінію, у тым ліку кіеўскую і мінскую, а ў Мазыр вялі ўсе вялікія і малыя дарогі, бо ў горадзе быў адзіны на ўсё Усходняе Палессе мост. Зусім блізка ад плошчы знаходзіцца самы знакаміты на ўсім Палессі *Свята-Міхайлаўскі кафедральны сабор*. Хоць афіцыйнай датай яго стварэння лічыцца 1745 год, але пачатак яго гісторыі, як пераконваюць даследчыкі, можна аднесці роўна

на 100 гадоў раней. Вядома, што ў 1645 годзе адстаўны палкоўнік войска ВКЛ *Стэфан Лозка* падараваў частку ўзгорка насупраць *Мазырскага замка* манахам-бернардынам, для якіх пабудаваў невялікі драўляны манастыр. Дарэчы тут будзе адзначыць, што знакаміты Мазырскі род *Лозкаў* вядомы добрымі справамі ў іншых рэгіёнах ВКЛ. Так, І. Слюнькова ў артыкуле «*Праваслаўныя манастыры Беларусі*» (Полымя. 1995. — № 8) пісала, што «*Брацкі Богаяўленскі манастыр на Падоллі ў Кіеве быў заснаваны незадоўга да гэтага, у 1615 годзе, нейкаю Галышка, жонкаю маршалка Стэфана Лозкі з беларускага горада Мазыра. Яна падаравала манастыру дваровае месца з будынкам і плошчу ў Кіеве. Такім чынам, узорам для ўзвядзення Богаяўленскага сабора ў Магілёве найверагодней з'явіўся храм Богаяўлення ў Кіеве…»*, пабудаваны мазыранамі.

У 1654 годзе пачалася вайна Рэчы Паспалітай з Расіяй. У сувязі з гэтымі і іншымі падзеямі Мазыр як адзін з самых старажытных гарадоў Беларусі не можа засведчыць аб сваёй гісторыі помнікамі, старэйшымі за XVIII стагоддзе, бо ў другой палове XVII стагоддзя ён быў практычна сцёрты з твару зямлі, а нешматлікае насельніцтва амаль поўнасцю перабіта. Як сведчаць В. Чарнякоў і І. Асташкевіч, Мазыр быў зруйнаваны падчас «*прыпяцкага рэйду*» маскоўскага ваяводы *Валконскага*, войска якога спустошыла тады шматлікія паселішчы Палесся. «Пасля сур'ёзна абмяркоўвалася пытанне аб скасаванні такой вялікай тэрытарыяльнай адміністрацыйнай адзінкі, як *Мазырскі павет* Мінскага ваяводства».

У той час самым магутным шляхецкім родам на землях Мазыршчыны быў род *Аскеркаў.* Спачатку яны былі праваслаўнымі і вялі адкрытую барацьбу супраць апалячвання і каталіцкага духавенства, аднак паступова самі перайшлі ў каталіцтва. Прадстаўнікі гэтага роду займалі вышэйшыя дзяржаўныя пасады ў павеце, валодаючы велізарнымі маёнткамі на Мазырскім Палессі і часткова ў Мазыры. Такім чынам, усе вышэйшыя дзяржаўныя пасады ў Мазырскім павеце, хоць і лічыліся выбарнымі, на самай справе перадаваліся ў спадчыну ад аднаго *Аскеркі* да другога. Практычна пад іх кіраўніцтвам з канца XVII і ўсё XVIII стагоддзе ішло аднаўленне горада і павета. Прыкладна паміж 1745 і 1760 гадамі пяць братоў *Аскеркаў* на чале з маршалкам *Рафаілам Аскеркам* прынялі рашэнне аднавіць, але ў камені, той самы манастыр бернардынцаў, які калісьці пабудаваў *Стэфан Лозка.* Было вырашана, што храм манастыра павінен сімвалізаваць славу, магутнасць і багацце роду, а склепы храма стаць месцам сямейных пахаванняў. Фактычна гэты храм можна назваць сімвалам адроджанага з руінаў і попелу Мазыра («Звязда», 15.06.2011).

Колькі гадоў доўжылася будаўніцтва, цяпер ужо ніхто не ведае. Хутчэй за ўсё, як лічаць даследчыкі (В. Чарнякоў, І. Асташкевіч), храм быў асвечаны ў 60-х ці 70-х гадах XVIII стагоддзя. Манастырскі комплекс быў пабудаваны ў стылі позняга барока. Архітэктура сабора ўяўляе сабою так званую беларускую форму базілікавых храмаў эпохі барока. Галоўны фасад нагадвае трох'ярусную кампазіцыю з дзвюма вежамі-званіцамі па баках (яны з'явіліся ў сучасным выглядзе толькі ў другой палове XVIII стагоддзя), мае крывалінейныя абрысы, што надае будынку адмысловую пластычнасць, якая ўзмацняецца архітэктурнымі ўпрыгожваннямі, групамі пілястраў і тонкапрофільнымі карнізамі. У архітэктуры вежаў прасочваюцца элементы класіцызму.

У пабудаваным каталіцкім манастыры, як сведчаць даследчыкі, размясціліся ў той час бібліятэка і пачатковая школа, дзе навучалася прыкладна 70 хлопчыкаў, што было рэдкай з'явай на Палессі. Гэта быў адзін з багацейшых манастыроў. Ад сямейнага магільнага склепа Аскеркаў да нашага часу засталіся часткова пашкоджаныя ў савецкі час мармуровыя пліты.

27 сакавіка 1793 года быў апублікаваны ўказ аб далучэнні цэнтральнай часткі ВКЛ, у тым ліку і Мазырскага павета, да Расійскай імперыі. Адбыўся другі падзел Рэчы Паспалітай. З таго часу *Аскеркі* ўжо не прымалі ўдзел у адміністрацыйным жыцці горада. Для іх роду настаў час барацьбы. Яны трапілі ў разрад бунтароў, лічылі расійскую ўладу незаконнай. Супраць яе ў час паўстання пад кіраўніцтвам *Тадэвуша Касцюшкі* актыўна змагаліся браты *Антоній-Яўхім і Ян-Мікалай Аскеркі.* Вядома, што самы

апошні з іх роду, малодшы сын *Яна-Мікалая*, 17-гадовы *Дамінік Аскерка* пасля арышту быў залічаны ў ворагі Расійскай імперыі. Амніставаны толькі ў 1797 годзе, калі ў *Юравіцкім* манастыры пастрыгся ў манахі, пасля чаго пражыў яшчэ 65 гадоў, але, як вядома, на ім і прыпынілася багатая гісторыя роду мазырскіх *Аскеркаў.* У суседніх з Мазыром вёсках можна сустрэць жыхароў з такімі прозвішчамі, іх продкі, мабыць, былі прыгоннымі магнатаў Аскеркаў, напрыклад, іх даволі многа ў вёсцы *Конкавічы* Петрыкаўскага раёна.

Як каталіцкі гэты храм дзейнічаў да паўстання 1831 года. Пасля ліхалеццяў канца XVIII стагоддзя і далучэння Беларусі да Расійскай імперыі, нацыянальна-вызваленчых паўстанняў XIX стагоддзя бернардынскі манастыр у Мазыры быў ліквідаваны, а храм канфіскаваны, хоць мазырскія бернардынцы ў паўстанні і не ўдзельнічалі. У карпусах манастыра размяшчаліся розныя дзяржаўныя канторы і бальніца. На працягу трыццаці гадоў XIX стагоддзя сабор неаднаразова гарэў, прыйшоў у заняпад і пачаў руйнавацца. Яго хацелі нават разабраць. А потым было паўстанне пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага, падчас падаўлення якога асабістым распараджэннем цара *Аляксандра II* храм, які знаходзіўся ў вельмі непрыглядным стане, быў перададзены Праваслаўнай царкве.

Адбылося гэта ў 1864 годзе. А 5 верасня 1865 года ён быў асвечаны ў гонар святога *Архістратыга Міхаіла*. Здавалася, што храму наканавана бліскучая слава быць цэнтрам праваслаўя на землях паўднёва-ўсходняга Палесся. У 70 гады XIX стагоддзя яму быў нададзены статус *кафедральнага сабора.* Але ж наперадзе было XX стагоддзе і самыя чорныя старонкі ў гісторыі Мазырскага храма, які стаў у 1930-я месцам, дзе мучылі шматлікіх «*ворагаў народа*». У падвалах храма, ператвораных у турму, праводзіліся допыты, здзекі, катаванні тысяч бязвінных палешукоў. Па афіцыйных звестках, у гэтым старажытным храме, яго сутарэннях, падвалах і іншых змрочных будынках, Мазыра ў той перыяд было расстраляна 2922 чалавекі, пра што сведчыць і мемарыяльная дошка на сцяне сабора («Звязда», 15 чэрвеня 2011 года).

Другі самы значны мазырскі праваслаўны храм *Мікалая Чудатворца* (Нікольская царква), які быў адноўлены 19 гадоў таму, стаіць сёння на сваім месцы, нават на тым першым падмурку з «*булыжного камня, поверх коего уложен обожжённый хорошего достоинства кирпич*». У гістарычных дакументах пра гэты храм можна прачытаць, што знаходзіцца ён «*При главной Слуцкой улице у подошвы Спасской горы, что ведёт к базару, внизу по другую сторону горы Михайловского собора*», побач з Прыпяццю. Пры ім размяшчаліся часоўня і званіца. Храму хутка будзе два стагоддзі. І хоць быў ён у мінулым драўляным, але выглядаў даволі велічна і прывабна, бо яго перыядычна абнаўлялі, фарбавалі пераважна ў белы колер. *Святы Мікалай, Мікалай Угоднік, Скоры ў дапамозе, Чудатворац Мікалай* — так па-рознаму заўсёды ў народзе называлі гэтага, мабыць, самага даступнага для прыхаджан святога. Ён заступнік падарожнікаў, маракоў, рыбакоў, цесляроў, маленькіх дзяцей, гандляроў, тых, хто ўступае ў шлюб, ён шануецца праваслаўнымі і католікамі. Храм у мінулыя часы быў асабліва запатрабаваны, бо, як пісала пра яго гісторыю Т. Анісімава, вядомая ў Мазыры мастацтвазнаўца, любому мазыраніну, які выбіраўся ў дарогу, па добрай царкоўнай традыцыі патрабавалася зайсці ў храм, пакланіцца, памаліцца *святому Мікалаю*.

У 1892 годзе ад пажару былі вынішчаны значныя часткі Мазыра, але *Мікольскі храм,* будучы фактычна ў цэнтры пажару, ацалеў. У савецкі перыяд храм перажыў тое, што і іншыя тысячы падобных яму: былі разрабаваны яго асноўныя каштоўнасці, рэліквіі, іконы. На яго месцы быў будынак ДТСААФ, пабудова з выразнымі прыкметамі моднага ў той перыяд канструктывізму: асіметрычны аб'ём, галоўны фасад лесвічнай клеткі завяршаўся шатром. Як пішуць: «*здание представляло собой вид взведённого ружейного затвора*». У 1993 годзе будынак быў перададзены *Тураўскай епархіі* і рэканструяваны, у снежні 1995 года была адслужана першая літургія, а яшчэ праз год храм быў асвечаны архірэйскім чынам («Жыццё Палесся», 19.05.2012).

***Працяг будзе.***

Ліна БАГДАНАВА

# Палёт магчымасцей, намераў і пачуццяў

Апавяданне-кур'ёз



*Пакет выдыхнуў ужо абрыдлае паветра свабоды і прыгод ды ахвотна прыняў у сябе рачных насельнікаў: чым-чым, а акварыумам ён яшчэ не быў.*



*І ў радасці пераадолення сваіх «хаценняў» дзеля любімых — мамы і таты, дзяцей, каханых — нараджаецца шчасце.*

Невялікі поліэтыленавы пакет узлятаў пад аблокі ў парывах халоднага восеньскага ветру. Кружляючы стомленай птушкай, апускаўся амаль да зямлі. І зноў успырхваў уверх. Сплюшчваўся да стану папяровага аркуша. Складваўся ў дзіўныя канструкцыі — ад піраміды да гармоніка. Раздзімаўся, як паветраны шар. Пераварочваўся. Завісаў. Пагойдваўся маятнікам...

Не так даўно ён ляжаў у вялізнай гаспадарчай сумцы. Спадзяваўся на нешта паважана-прыемнае. Меў усе падставы паслужыць людзям. І неаднойчы. Але лёс зладзіў па-свойму. Гаспадыня, усмешлівая і словаахвотлівая Ганна Цімафееўна, прыпынілася ля перахода. Хацела засунуць ражок пакета глыбей у сумку, але раптам сустрэла прыяцельку і загаварылася. Захапіўшыся апісаннем апошніх падзей, Ганна Цімафееўна нязграбна ўзмахнула сумкай. Кастрычніцкі ветрык схапіўся за ражок пакета і пацягнуў яго за сабой. Спачатку па калючых, нядаўна падстрыжаных кустах уздоўж дарогі. Потым па запыленых падаконніках крам. Вывернуў навыварат. Зачапіў за святлафор. Надзьмуў.

— Ледзь не лопнуў! — выдыхнуў няшчасны і паляцеў далей.

Вецер вынес пакутніка на праспект і дараваў свабоду. Пакет адчуваў сябе то птушкай, то матыльком, то ветразем.

— Мама, паветраны змей! — завішчаў ад захаплення хлопчык гадоў пяці. — Купі мне такі! Хачу! Хачу! Хачу!

— Які ж гэта змей? Гэта глупства нейкае.

— Хачу глупства! Дагані!

— Непарадак, — пакачаў галавой дворнік, які толькі што скончыў прыбіраць. — Гэта глупства мне зараз усю карціну сапсуе. Вось я яго!

Але пакет узмахнуў раптоўна ўтваранымі крыламі. Вельмі яму трэба псаваць карціны!

— Я воблака! Я плыву над зямлёй у блакітныя далі!

— Леначка, глянь: сардэчка! — жаніх вінавата ўсміхнуўся фатографу і пацягнуў нявесту за сабой. — Вунь яно! Бачыш?

Немагчыма сімпатычная нявеста нарэшце ўбачыла прадмет свайго будучага захаплення. Сціпла хіхікнула.

— Якое ж гэта сардэчка, Лёшка? Гэта падушачка. На яе б пярсцёнак з дыяментам. Або завушнічкі…

* * *

На аўтобусным прыпынку кабета ў какетлівай шляпцы і з ядавіта-сінімі ценямі на павеках звярнулася да прасцячкі, што стаяла побач:

— Мала таго, што прыбіраюць цяпер абы-як, дык яшчэ і прыроду забруджваюць! Вы ведаеце, што поліэтылен у прыродзе практычна не раскладаецца? Даўно пара вярнуцца да экалагічна чыстых упаковак. Не, вы толькі паглядзіце, што робіцца! Ледзь на галаву не сядае!

Прасцячка хітнула галавой і працягнула руку з намерам выратаваць кабету ад сціхійнага бедства. Пакет зграбна ўхіліўся ад пасягальніцтва на асабістае жыццё і зрабіў віраж у бок дарогі. Рука, што намервалася здзейсніць подзвіг, прамахнулася і трапіла прама ў вока аб'екту ратавання, сцёршы слой штучнай перламутравай сіні.

Кабета войкнула і замахнулася ў адказ.

— Прабачце! — адскочыла ўбок прасцячка. — Я хацела дапамагчы…

— Бліннн… — асеклася кабета. Не даводзіць жа канфуз да кірмашовай разборкі.

І яна пераключылася на ліквідацыю наступстваў неасцярожнага выпаду. Выцягнула з сумачкі люстэрка, цені і занялася макіяжам.

— Прабачце… — даймала побач незадачлівая ратавальніца. — Я хацела як лепш…

* * *

— Як жа добра быць свабоднай… — сумная ўсмешка ўпрыгожыла вусны пацыенткі хірургічнага аддзялення цэнтральнай бальніцы. — Ляцела б сабе і ляцела, як гэты пакет. Куды? Ды хаця б да мамы ў вёску. А яшчэ лепш — у цёплыя краіны. Да мора і пальмаў. Гэй, сябрук, злятай туды замест мяне! Прывітанне перадай! Дакраніся да хвалі! Хоць чым-небудзь! Раскажы там: вось папраўлюся — і абавязкова прыеду! Слова!

Адрасат зачапіўся за галінку ля акна, выразна кіўнуў у адказ: маўляў, зробім! І, схапіўшы патрэбны паток паветра, рвануў на поўдзень.

* * *

— Вось бяда, — Ганна Цімафееўна нервова перабірала рэчы ў сумцы. — Ведала ж, што ў вас з упакоўкай праблемы. І ўзяла ж, дакладна памятаю, што ўзяла… Ды дзе ж гэта ён?!

— Мамаша, паварочвайцеся хутчэй! — захвалявалася чарга. — Усе спяшаюцца, а вы спектаклі ладзіце.

— Дык не ў сумку ж мне рыбіну класці! — агрызнулася Ганна Цімафееўна. — Мо хто падзеліцца пакетам? Я б прыплаціла. Два дні па карпа збіралася. І на табе. Выходзіць, дарэмна ішла?

— Думайце хутчэй! — злосна буркнула прадавачка. — Хочаце, я вам прадукт у фірменную «майку» пакладу.

— За такія грошы? Ды я ваш прадукт лепш у руках павалаку! — фыркнула Ганна Цімафееўна і зноў звярнулася да чаргі: — Няўжо ніхто не мае лішняга пакета?

Народ маўчаў, выбіраючы вачыма рыбу. Паўза зацягвалася.

— І што? — першай не вытрывала прадавец. — У рукі аддаваць?

Ганна Цімафееўна ледзь не плакала — адна справа хвост распушыць, а іншая — павесці гэтым хвастом у адзначаным накірунку.

— Ну… — яна амаль прызнала сваю паразу.

Не пашанцавала.

— Ну...

Бабулька ўзняла вочы ў неба.

Нешта халоднае і вельмі лёгкае дакранулася да шчакі. Ганна Цімафееўна ўздрыгнула і прыціснула далонь да твару. Пальцы намацалі нешта мяккае, пругкае і... патрэбнае. Ухапілі нечаканага раздражняльніка і паднеслі да вачэй. Тыя хваткім гаспадарлівым поглядам разглядзелі ўсё да драбязы: і заклееную скотчам дзірачку, і напалову адарваную этыкетку з размытым надпісам, і памер, і форму.

— Ды вось жа ён! — усклікнула Ганна Цімафееўна, працягваючы пакет. — І дзе быў, гарэза? Шукаеш цябе, шукаеш. А ведаеце што? Дайце мне да гэтага прыгажуна яшчэ парачку. Юшку звару і ў фользе запяку. Не бегаць жа на край свету дзеля аднаго карпа.

Пакет выдыхнуў ужо абрыдлае паветра свабоды і прыгод ды ахвотна прыняў у сябе рачных насельнікаў: чым-чым, а акварыумам ён яшчэ не быў.

Ганна Цімафееўна пералічыла рэшту, падзякавала прадаўцу і адышла.

— Ну, дзякуй Богу, — прамармытаў пакупнік, што стаяў побач. — Я ўжо думаў, да мяне чарга не дойдзе. Гэтыя бабкі...

— Дай Бог нам у іх гады самастойна па карпаў хадзіць, — дазволіла сабе не згадзіцца жанчына з авоськай.

— Падумаеш, пакет... — задумліва працягнула дыялог прадавец. — Дробязь, а з-за яе цэлая трагедыя разгулялася.

— Драма, — паправіў яе дзядок з барадой.

— Каму бяда, а каму шчасце, — глыбакадумна прасіпеў нехта з натоўпу.



*Іераманах АГАПІЙ (ГОЛУБ)*

# Сям'я, каханне, шчасце

*Іераманах Агапій (Голуб) нарадзіўся 29 ліпеня 1976 года ў Глуску Магілёўскай вобласці. Скончыў Мінскую духоўную семінарыю. З'яўляецца супрацоўнікам Духоўна-асветніцкага цэнтра пры Жыровіцкім манастыры. Пазаштатны супрацоўнік рэабілітацыйнага цэнтра для алка-нарказалежных «Анастасіс» (http://anastasis.by/). Аказвае пастарскую і кансультацыйную дапамогу сем'ям, што маюць праблемы псіхаактыўнай залежнасці. Удзельнічае ў рабоце форуму праваслаўных псіхолагаў (http://dusha-orthodox.ru/forum/index.php?act=idx).*



Адзін з найбольш цяжкіх для свяшчэнніка момантаў на споведзі — калі высвятляецца, што чалавек, не ўступіўшы ў шлюб, мае сексуальныя стасункі, а паняцце «распуста» амаль выветрылася з яго свядомасці. Затое сфарміравалася іншае паняцце — «грамадзянскі шлюб».

Увогуле, грамадзянскі шлюб — гэта шлюб, зарэгістраваны ў ЗАГСе (Запіс Актаў **Грамадзянскага** Стану). А з'ява, якую я апісваю, мае іншыя назвы — сужыццё (так гэта называлася ў савецкі час) і распуста. Коратка і зразумела. І ўся рамантыка адразу знікае. Напэўна, таму і спатрэбілася іншая назва — каб надаць сужыццю легітымнасці. Сумняваюся, што выкарыстанне паняцця «грамадзянскі шлюб» у дачыненні да сужыцця ўзнікла ў народзе. Як не ў народзе вырасла і паняцце «свабоднае каханне» ў дачыненні да сексуальных сувязяў, якія ні да чаго нікога не абавязваюць. Існуе такая з'ява — эўфемізм. Эмацыйна нейтральнае слоўка ці выраз, якія выкарыстоўваюцца там, дзе нельга прамовіць непрыстойнасць, выказацца груба і нетактоўна. Так сужыццё ператварылася ў сацыяльна прымальную з'яву, а «свабоднае («без штампаў») каханне» — нават у нешта рамантычнае: свабоднае, сапраўднае… Эўфемізмы выкарыстоўваюцца ў якасці аднаго з прыёмаў маніпулявання масавай свядомасцю. Гэтым займаюцца прафесіяналы. Гэта некаму трэба — падарваць значнасць сям'і, змяніць свядомасць грамадства, прымусіўшы прыняць распусту за норму. Каму — ужо няважна. Гэта ёсць і гэтаму трэба даць ацэнку. Евангелле судзіць свет. І мая ацэнка вынікае з хрысціянскага разумення чалавека і свету.

Што чалавек шукае ў такіх стасунках? Як правіла, тое самае, што і ў сям'і. Шмат хто, уступаючы ў такія стасункі, самым шчырым чынам планue з цягам часу стварыць з іх паўнавартасную сям'ю. А што чалавек шукае ў сям'і? Большасць адкажа: каханне і шчасце. Зараз і паспрабуем разабрацца, што за гэтымі словамі стаіць і да чаго могуць прывесці хутчэй «свабодныя» стасункі.

**Шчасце.** Калі пры правядзенні мною экскурсіі ці асвяшчэнні аўтамабіля прысутнічаюць дзеці 7—14 гадоў, я пытаюся ў іх: «Маму, тату любіце?» Адказ: «Так!» — «А за што?» Тут адказы могуць быць розныя. Смачна кормяць, дораць цацкі, «за тое, што любяць мяне» і іншыя. Некаторыя адказваюць: «Бо гэта мама і тата». «Прасеклі» ў пытанні падвох, разумеюць: «за што» любіць немагчыма. Калі «за што», то гэта ўжо не любоў. Для мяне апошні варыянт адказу — радасць. Пытаюся далей: «А як ваша любоў праяўляецца?» Ну як можна ў такім узросце праяўляць любоў да бацькоў? «У шчаку пацалаваць», «сказаць "я люблю вас"». Перадражніваю: «Я вас люблю — дайце даляраў». Смяюцца. Разумеюць: нешта не так. І тады нараджаецца іншы адказ: «Дапамагаць». Так, правільна, дапамагаць. Калі хочацца, а нельга, не хочацца, а трэба. Хочацца пайсці пагуляць — а трэба памыць посуд. Хочацца пагуляць за камп'ютарам — а трэба прапыласосіць падлогу. Бацькі, канешне, і самі могуць, але «я ведаю, што гэтым дапамагу ім». І ў радасці пераадолення сваіх «хаценняў» дзеля любімых — мамы і таты, дзяцей, каханых — нараджаецца шчасце. Су-часц-е. Частка цэлага. Такім чынам, шчасце і задавальненне не заўсёды супадаюць, а часам і не сумяшчаюцца наогул. Чалавек можа атрымаць задавальненне ад піва, але праз нейкі час можа зрабіцца алкаголікам — няшчасным. Можна атрымліваць задавальненне ад сексуальнай сувязі да шлюбу, то бок, распусты, але вельмі верагодна, што пазней давядзецца прайсці праз няшчасці — развод, хранічны недавер і скандалы. Задавальненне — гэта нешта заснаванае на знешнім сілкаванні, тое, да чаго прызвычайваешся, чаго можа стаць «мала», а патрабавацца больш. А шчасце — гэта тое, што выводзіць з замкнёнасці на сабе, тое, што дорыць сябе і найменш залежыць ад знешніх акалічнасцей. Бывае і задавальненне як праява шчасця. Напрыклад, рамантычная сямейная вячэра з кандэлябрамі, калі адключаны тэлефоны і сямейнікі глядзяць адно на аднаго, а не ў тэлевізар. Або сямейны паход — на прыроду ці ва ўтульную кавярню.



І блізкасць мужа і жонкі — праява шчасця, су-часц-я. Хіба можна дасягнуць яго па-за сямейнымі стасункамі? Толькі ў шлюбе, у гадах сумеснага жыцця праяўляюцца ўсе рысы характараў. Толькі ў шлюбе можна зведаць чалавека цалкам, ва ўсіх яго праявах, вартасцях і недахопах. Прычым, не толькі ў палавінцы можна адкрыць тое, што да шлюбу не заўважалася, але і ў сабе заўважыць столькі ўсяго такога, пра існаванне чаго нават і не падазравалася. Вось тут і патрэбна прысяга на вернасць — як гарантыя гатоўнасці прымаць чалавека такім, які ён ёсць, а не падладжваць пад сябе і чакаць перамены, і разам з тым, гарантыя гатоўнасці мяняцца самому — у імя кахання да гэтага чалавека. Калі гатовы — дай прысягу: перад самім гэтым чалавекам, перад яго і сваімі роднымі, перад грамадствам. Не роспіс «для птушачкі», не проста «штамп», а менавіта прысяга і пячатка, **увасабленне** вашай агульнай гатоўнасці да таго, што шляхоў назад няма, што паняцце «развод» у вашым лексіконе адсутнічае, што

гэты крок — «адзін раз на ўсё жыццё» (так называецца кніга Іллі Шугаева, якая стала бестселерам і якую трэба абавязкова прачытаць, асабліва школьнікам і студэнтам). І тады вы сапраўды можаце стаць шчаслівымі людзьмі. А шлях да шчасця — любоў, якую трэба будзе штодзённа выхоўваць, умацоўваць, сграваць пераадоленнем уласных звычак і стэрэатыпаў, ахвярнасцю, пастаноўкай у цэнтр не сябе, а іншага. У ідэале — Хрыста, які і будзе аб'яднальным Цэнтрам.

**Каханне.** Мне нярэдка даводзіцца чуць, што трэба навучыцца любіць саміх сябе. Успамінаецца пры гэтым і запаведзь «палюбі бліжняга як самога сябе» — як яго можна любіць пры адсутнасці любові да сябе? Толькі ўзнікае і такое пытанне: а што ёсць любоў да сябе? Што такое і дзе тое «я», якое трэба любіць, і як гэтая любоў павінна праяўляцца? Любоў да цела? Але гэта не я. І мы ведаем, што многія фізічныя радасці для нас шкодныя. Любоў да асалоды можа быць нелюбоўю да сябе. Дзе і хто гэтае «я»? Характар, звычкі, здольнасці, эмоцыі, воля, розум? Так, усё гэта «маё», але «я» да гэтага не зводзіцца. Усё пералічанае — праявы і ўвасабленні майго «я». «Я» — той, хто ўсім гэтым валодае. «Я» — гэта асоба. Таямніца, да якой можна дакрануцца, наяўнасць якой можна ўсвядоміць, але ўціснуць у межы фармулёвак і формул — нельга. Гэтаксама, як нельга выказаць мовай біялогіі або хіміі харaство расліны.

А хрысціянін яшчэ скажа, што «я» — гэта вобраз Божы. І менавіта яго можна любіць. Любіць вобраз Божы — гэта значыць берагчы яго, узрошчваць і набліжацца да Першавобразу, да Бога. А гэта дасягаецца праз прыпадабненне Яму, калі мы вучымся сваю волю ўзгадняць з Яго воляй. А воля Бога, з аднаго боку, адкрываецца нам праз голас сумлення, з другой, праз Яго Адкравенне, выказанае ў Свяшчэнным Пісанні, названым Бібліяй. Сумленне наша з-за нашай грэшнасці часта «прыспана», або голас яго занадта слабы, каб яго пачулі і правільна зразумелі. Затое запаведзі Божыя — дзесяць запаведзяў, дадзеныя праз Маісея, запаведзі Новага Запавету, перададзеныя апосталамі, — вельмі простыя і зразумелыя.



Будову чалавека можна ўявіць як круг з кропкай у цэнтры — асоба, «Я». Але кропка знаходзіцца ў цэнтры, таму знешне нябачная. Сам круг — гэта цела, адукацыя, характар, звычкі, адзенне, мова, міміка, паходка, іншае. Тое, што відаць, і паддаецца назіранням і вывучэнню. Любіць — значыць рабіцца адным цэлым з асобай іншага чалавека. І тады дзве акружнасці стануць адной. Як гэтага дасягнуць? Стаць у адзін круг. Мяняць **свой** характар, звычкі, стэрэатыпы дзеля блізкага чалавека. І тады два ядры апынуцца ў адным крузе. Акрамя «я» і «ты» будзе яшчэ і «мы». Як выраз і ўмацаванне такога адзінства з'явіцца блізкасць мужа і жонкі, паводле Пісання: «Будуць двое ў плоць адзіную». Як мяркуеце, такое магчыма па-за шлюбам? Адказ падаецца відавочным. Каханне — не толькі **дадзенае** (дадзенымі могуць быць таксама сяброўства, закаханасць, сексуальнае прыцягненне), колькі **зададзенае.** Да шлюбу можа быць толькі пачатак яго, а росквіт — з гадамі сумеснага жыцця, праз усё больш глыбокае разуменне і адкрыццё адно аднаго і пераадоленне сябе ў паўсядзённасці.






АДРАС РЭДАКЦЫІ
Юрыдычны адрас: 220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10а. info@zvyazda.minsk.by

Паштовы адрас: 220005, Мінск, пр. Незалежнасці, 39.
Тэл.: 284-85-24, 284-41-88, 288-20-72. maladost@zviazda.by

*ПАДПІСНЫЯ ІНДЭКСЫ:*

*00592 — індывідуальны льготны для настаўнікаў*

*74957 — індывідуальны*

*749572 — ведамасны*

*00731 — ведамасны льготны
для ўстаноў Міністэрства культуры
і Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь*

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі
№ 16 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь

Выдавец
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»
Дырэктар – галоўны рэдактар Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка: *С. І. СТАРАВЕРАВА*

Стыльрэдактар *А. А. САЛДАЦЕНКА*

Падпісана да друку 10.09.2015. Фармат 84×108 $^1/_{16}$. Папера газетная. Друк афсетны. Умоўн. друк. арк. 16,80.
Ул.-выд. арк. 15,57. Тыраж 1747 экз. Заказ
Кошт нумара ў розніцу 21 000 руб.

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «БудМедыяПраект».
ЛП № 02330/71 ад 23.01.2014, вул. В. Харужай, 13/61, 220123, Мінск